# *ПРА АЎТАРА*



Раткевіч Аляксандр Аляксандравіч (Алесь Раткевіч, краязнаўца, член Саюза Беларускіх пісьменнікаў) нарадзіўся 24 чэрвеняў 1957 годзе ўвёсцы Чарвякі (цяпер Сакалоўка) Хаценчыцкага сельсавета, што на Вілейшчыне. У 1972 годзе скончыў Крамянецкую васьмігодку. У гэтым жа годзе пастуціў у Вілейскае СПТВ-16. Скончыў яго ў 1974-м і адразу ўладкаваўся ў саўгас «Лукавец» трактарыстам. Пасля вайсковай службы вярнуўся ў свой саўгас, у якім адпрацаваў шафёрам да 1988 года. У гэтым жа годзе, пабраўшыся шлюбам, ужо з сям’ёй перабраўся ў Чысць Маладзечанскага раёна на новабудоўлю буйнапанэльнага домабудавання. Спачатку працаваў звычайным фармоўшчыкам. Пры ўводзе завода ў эксплуатацыю быў прызначаны майстрам змены фармовачнага цэха. Напрыканцы 90-х мінулага стагоддзя звольніўся па стане здароўя. Атрымаўшы 3-ю групу інваліднасці, працаваць вымушаны быў на больш лёгкіх работах. Але, каб не «скаржанець» ад таго, што мала працы, пачаў надаваць больш увагі і часу грамадскай дзейнасці. Двойчы абіраўся дэпутатам пассавета. Краязнаўствам зацікавіўся яшчэ з юнацтва. Добраахвотны арганізатар

і каардынатар практычных работ па рэстаўрацыі помнікаў, аднаўленні брацкіх магіл ахвяр мінулай вайны, усталяванні мемарыяльных дошак у вёсках Хаценчыцы з прозвішчамі загінуўшых у Другой сусветнай вайне, ушанаванні памяці вядомага свайго земляка СЫЧА ПЁТРЫ на яго малой Радзіме ў Лукаўцы (Батурыне). Суаўтар першага гістарычнага зборніка «ВІЛЕЙСКІ ПАВЕТ» (ваенная тэматыка). Пастаянны пазаштатны аўтар незалежнага выдання «РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА», у якой нататкі друкуюцца пад рубрыкай «НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ». Матэрыялы друкаваліся і ў іншых СМІ. У сакавіку 2018 года выдаў асабістую кнігу «НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ».

# АД АЎТАРА

У гэтай кнізе апісваецца гісторыя, невядомая шырокаму колу грамадства, Лагойшчыны і Вілейшчыны. Падзеі, якія адбываліся ў нашых мясцінах, ніколі не ўключаліся ў школьную праграму навучання. Не публікаваліся ў сродках масавай інфармацыі, таму што ўтрымліваюць не вельмі прыемныя гістарычныя звесткі, якія не адпавядаюць мінулай ды і сённяшняй дзяржаўнай ідэялогіі. Як бы там ні было, гісторыя заўжды застаецца гісторыяй, кожны намагаецца схаваць яе аб’ектыўнасць ў сваіх інтарэсах. Але дзеля будучыні нашых нашчадкаў, мы павінны па максімуму перадаць ім гістарычную спадчыну без фальсіфікацыі, бо яе аднабокасць заўжды прыводзіць да выраджэння любой народнасці як нацыі. Пад гэтым уплывам, на вялікі жаль, выраджаецца і нацыя беларуса. Ужо сёння мы добра адчуваем і заўважаем, як кладуцца на архіўныя паліцы, а то і ўвогуле сыходзяць у нябыт, нашы нацыянальныя традыцыі, культура, родная мова, якія замяняюцца ўсім замежным.

Аўтар гэтай кнігі намагаецца абнародаваць зусім невялічкую, галоўным чынам, трагічную частку вялікай гісторыі нашай Лагойшчыны і Вілейшчыны. Гэтыя дзве адміністрацыйныя адзінкі спрадвеку маюць агульны лёс. Яны кожны раз траплялі пад розныя пераўтварэнні, падзелы і аб’яднанні, разам пакутвалі ад шматлікіх захопніцкіх войнаў. У ёй згадваюцца падзеі, пачынаючы з XVI стагоддзя і заканчваючы пасляваенным часам Дру-

гой сусветнай вайны. У дадзеным творы выкарыстаны архіўныя звесткі з кніг «Памяць» Лагойскага, Вілейскага і Маладзечанскага раёнаў, «Латыгальскі летапіс» краязнаўцы з Вілейшчыны, сябра СПБ Плавінскага А. С. і з успамінаў «Война без прикрас и героических подвигов», былога партызанскага дыверсанта партызанскага атрада «Дзядзі Дзімы» (Давіда Кеймаха), Волкава Юрыя Сяргеевіча. А больш усяго ў кнізе нададзена ўвагі жывому нашаму архіву, непасрэдным сведкам тых трагічных часоў, іх успамінам. Гэтыя людзі прайшлі праз усе выпрабаванні рэпрэсій і ваеннага ліхалецця. Яны непасрэдна на сабе адчулі «дабрыню» і «пяшчоту» таго часу. У параўнанні з тымі, хто згінуў у сталінскіх лагерах і падчас фашысцкай акупацыі, гэтым людзям, з пакалечынымі душамі і знявечанымі сэрцамі, пашчасціла выжыць. Яны выжылі, каб распавясці нам пра свой боль і данесці нам праўду (часам горкую) пра мінулае. Пра што мы і даведаемся ніжэй.

Аўтар не мог пакінуць без увагі вельмі важны перыяд нашай гісторыі, які датычыцца не толькі нашых мясцін, але і ўсёй Краіны. Гэта час-загадка, пра які савецкая ідэялогія намагалася ўмоўчваць. Перыяд 1939–1941 гадоў у савецкай гісторыяграфіі займае мізэрнае месца з тлумачэннем у некалькі сказаў: «Вызваленчая місія» ды «Яднанне Заходняй Беларусі з Усходняй». І ніякіх больш падрабязнасцей. А на самой справе, за тым «яднаннем» схавана злачынства супраць чалавецтва.

23 жніўня 1939 года у Крамлі адбылася змова Гітлера і Сталіна па сумеснай акупацыі Польшчы. З той нагоды быў складзены і падпісаны гэтак званы «Пакт Молатава – Рыбентропа» з сакрэтным дапаўненнем да яго. Пасля чаго праз тыдзень (1 верасня) Гітлер распачаў акупацыю Польшчы з Захаду, а 17 верасня Сталін, парушыўшы *(Рижский мирный договор 1921)* з Усходу пайшоў на да-




памогу свайму саюзніку Гітлеру. А вынік усім вядомы, Польшча перастала існаваць як дзяржава і была падзелена паміж захопнікамі. Пасля чаго Гітлер застаўся задаволеным, што «саюзнік» Сталін дапамог яму адкрыць прамы шлях на Маскву, а для Сталіна здзейснілася дваццацігадовая мара, адпомсціць палякам за паражэнне Чырвонай Арміі пад камандаваннем Тухачэўскага пад Варшавай у 1920 годзе.

Пасля правядзення ў Брэсце саюзніцкага ваеннага парада перамогі над Польшчай, гітлераўская Германія засталася пры сваіх інтарэсах (нарашчванне ваеннай моцы), а сталінская Расея пры сваіх (галоўным чынам, спявала «Броня крепка»). А яшчэ займалася на аб’яднанай Беларусі прапагандысцкім падзелам насельніцтва на сваіх і чужых. Жыхароў Заходняй часткі, пачалі называць «палякам», а ўсходнікаў – «рускім». Вераспавяданне таксама падзялілі, каталікам вешалі ярлык «паляка», а праваслаўным – рускага. Такі падзел і недавер да насельніцта з боку саветаў, падчас вайны адгукнуўся негатыўнымі наступствамі, што і адлюстроўваецца ў гэтай кнізе. Думаецца, што калі б Сталін у 1939 годзе пераламаў бы ў сабе імперскія ам-

біцыі і астудзіў бы сваю кроў горца, адносна Польшчы, за паражэнне РСЧА пад Варшавай у далёкім 1920 годзе і падпісаў саюз не з фашысцкай Германіей, а з Польшчай і яе саюзніцай Францыяй, то Другая сусветная вайна не распачалася б. Такім саюзам гітлераўскую армію разграмілі бы ўшчэнт за тыдзень на яе тэрыторыі. І Савецкі Саюз не пазнаў бы вайны, не быў бы зруйнаваны, не былі б загубленыя дзясяткі мільёнаў чалавечых душ і столькі ж пакалечаных. І сёння СССР выглядаў бы мацнейшай краінай Свету. Але… Здарылася тое, што здарылася.

Аўтар выказвае вялікую падзяку ўсім тым жыхарам, якія сваімі ўспамінамі дапамаглі ў зборы інфармацыі і забяспечылі твор фотаздымкамі, адпаведнымі тэме. Гэта; Барысевіч Уладзімір Канстанцінавіч – 1928 г.н., Байкоў Іосіф Анкудзінавіч – 1935 г.н., Гілевіч Лідзія Іванаўна – 1936 г.н., Анцук Алена Антонаўна – 1936 г.н., Казлоўская Фаіна Аляксандраўна -1933 г.н., Ваўчок Любоў Пятроўна – 1935 г.н., Багданаў Анатоль Аляксандравіч – 1939 г.н., Карэлава Валянціна Іосіфаўна, Багданава Зінаіда Іосіфаўна – 1938 г.н., Данілевіч Зінаіда Аляксандраўна – 1939 г.н., Сенько Тамара Васільеўна –1933 г.н., Горбач Марыя Канстанцінаўна – 1934 г. н., Клачко Таісія Пятроўна – 1938 г.н., Сокал Марыя Аляксандраўна – 1947 г.н., Паныш Мікалай Мікалаевіч – 1950 г.н., Жыгланаў Леанід Барысавіч – 1961 г.н., Ваўчок Любоў Сяргееўна – 1956 г.н., Плавінскі Аляксандр Стэфанавіч, Волкаў Юрый Сяргеевіч.

# *ЛАГОЙШЧЫНА З ГЛЫБІНІ ВЯКОЎ*

Лагойшчына для мяне, як і Вілейшчына, вельмі блізкая і родная. Маёй малой радзімай лічыцца Вілейшчына, але карані мае па татавай лініі бяруць пачатак менавіта з Лагойшчыны. Дзядуля мой, Леон Радкевіч, да 1917 года жыў у вёсцы Сліжана Янушкаўскага сельсавета. А пасля ўзброенага ваеннага дзяржаўнага перавароту ў Расеі, калі на Лагойшчыне пачаліся сялянскія бунты з захопамі памешчыцкіх зямель і іх сядзіб, дзядуля сышоў на Вілейшчыну ўвёску Чарвякі (зараз Сакалоўка), дзе месціўся маёнтак пана Ігнася Бароўскага.Гэты маёнтак, як і Лукавецкі, яшчэ ў 16 ст. належыў роду Тышкевічаў. У той час яны валодалі 46сцю маёнткамі Мінскага і Вілейскага паветаў з цэнтральным маёнткам у Лагойску. Пасля кастрычніцкага перавароту ў Чарвяках было спакайней, ды і прытуліцца майму дзядулю было да каго, да маёй бабкі Паўліны Іванаўны Валовік, мясцовай удаве-швачкі. Яны пазнаёміліся незадоўга да рэвалюцыйных падзей на фэсце, які праводзіўся двойчы на год каля Батурынскай, некалі ўніяцкай, царквы.

Але пакуль распачаць свае нататкі з ўспамінаў старажылаў памежных вёсак Лагойшчыны і Вілейшчыны пра падзеі, якія тут адбываліся ў мінулым стагоддзі, я, скарыстаўшы вытрымкі з кніг «ПАМЯЦЬ»гэтых раёнаў, хачу паглыбіцца ў далёкае мінулае. Каб чытач меў больш-менш агульнае ўяўленне пра гісторыю нашага краю, якой не было ў школьных праграмах. Якімі шляхамі і цераз

якія выпрабаванні прыходзілася рухацца нашай краіне і нашым продкам, каб здабыць тое, што сёння маем. Якімі станоўчымі пераўтварэннямі і жыццёвымі дасягненнямі да лепшага на Лагойшчыне за апошнія некалькі стагоддзяў мы маглі пахваліцца? Але, на вялікі жаль, мала чым.Больш было негатыўнага, сумнага і трагічнага. А зараз больш падрабязна. Прааналізаваўшы апошнія 5 стагоддзяў, пачынаючы ад ВКЛ і канчаючы развалам СССР, вымалёўваецца вельмі сумная карціна.Пастаянныя спусташальныя войны і нашэсці, бясконцыя «вызваленчыя» місіі і падзелы прыводзілі да вынішчэння насельніцтва як нацыю, пераўтварыўшы фактычна ўсіх жыхароў у безабаронных зняволеных. Я ўжо не кажу пра стан нацыянальных традыцый і каштоўнасцей ды родную беларускую мову.

### *Дваццацігадовая спусташальная вайна*

Возьмем для прыкладу вайну 1563 года, распачатую Масковіей, супраць Вялікага Княства Літоўскага, у складзе якога была і наша Лагойшчына.Тая вайна зацягнулася амаль на два дзесяцігоддзі і фактычна зруйнавала ўсё, што толькі можна было зруйнаваць. Маскавіты заганялі ў сваё войска нашых мужыкоў, старых і нямоглых знішчалі, а жанчын з дзецьмі забіралі ў няволю, у расейскія губерніі. І толькі пасля заключэння ў 1569 годзе Люблінскай уніі з'явілася надзея на хутчэйшую ваенную развязку. Нягледзячы на тое, што ВКЛ пасля падпісання ўніі ўвайшло ў склад Рэчы Паспалітай, яно захавала ўласнае заканадаўства, войска, фінансавую і юрыдычную сістэмы.Агульнымі для ВКЛ і Польшчы былі толькі кароль і сейм.Унія дазволіла Рэчы Паспалітай паспяхова скончыць вайну з Масковіяй, якая цягнулася з 1563 па 1582 год.

Наступныя некалькі дзесяцігоддзяў на нашай Лагойшчыне былі часы эканамічных уздымаў, калі няўхільна расла колькасць насельніцтва. Адбудоўваліся зруйнаваныя амаль дваццацігадовай вайной паселішчы і з'яўляліся новыя. Але памешчыкі і шляхта, каб, як мага хутчэй, вярнуць сваё страчанае падчас вайны, не мірыліся паміж сабой. Паміж імі раз-пораз узнікалі міжусобныя войны, з мэтай авалодання іншымі землямі і маёнткамі. Яны шукалі розныя шляхі ўзбагачэння не толькі цераз суды, але іншы раз гвалтоўна захоплівалі суседскія маёнткі. Простых сялян тыя эканамічныя ўздымы мала цешылі. Бо вышэй згаданая шляхецкая міжусобіца, вельмі негатыўна адлюстроўвалася на жыццёвым стане людзей. «Паны біліся, а ў мужыкоў чубы трашчэлі», – гаворыць народная прыказка. Вось як апісваецца адзін з выпадкаў, які адбыўся ў той час у нашых мясцінах і які расказвае пра лёс шляхецкага маёнтка.

Апісанне было складзена напрыканцы 16 стагоддзя ў сувязі з перадачай Ядвізе Юр'еўне Насілоўскай маёнткаў яе першага мужа Рыгора Осціка, сярод якіх былі і Вяпраты. Сам Осцік у 1580 годзе быў абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе і пакараны смерцю. Яго ўладанні ў канцы таго ж года былі вернуты яго ўдаве, якая неўзабаве ўзяла другі шлюб з панам Янам Якубавічам Касмоўскім. У сакавіку 1582 года трокскі ваявода Стэфан Забаражскі, якому Осцік быў вінаваты 280 коп грошаў, гвалтоўна захапіў Вяпраты. Пасля вяртання маёнтка законным уласнікам, пану Касмоўскаму і яго жонцы, было складзена яго апісанне.У ім пералічана збожжа, якое было ў панскім двары: 5 бочак азімага жыта, 5 бочак яравога, 6 бочак ячмяню, 2 бочкі грэчкі, 1, 5 бочкі пшаніцы, 20 бочак аўса, 1 бочка гароху. У гумне было яшчэ 5 коп неабмалочанага жыта. Такім чынам, менавіта гэтыя культуры і прыкладна ў та-

кой прапорцыі высяваліся ў гаспадарцы.У клеці мелася 4 поўці (палавіна тушы, рассечанай уздоўж) свіннога мяса, 6 кумпякоў, 2 шматы сала.Статак налічваў 2 племянных кабыл (Свірэп), 3 жарабцоў, 3 дойных кароў, 2 ялавіц, 4 сёлятніх цялят і 3 гадавалых падцёлкаў, 8 авечак і 9 ягнят, 9 свінней, 8 гусей з гусаком, 4 качак і 2 качароў, 2 каплуноў, 2 пеўняў і 4 курыц.Падданымі Вяпрацкага маёнтка былі 12 баярскіх і 27 сялянскіх гаспадарак. Сялянскія землі былі па старому падзелены не на валокі, а на службы (іх налічвалася 9 і ¾). Акрамя таго пры двары меліся 2 гаспадаркі кунічнікаў, якія выплачвалі грашовы падатак – «куніцу» і 2 агароднікі.

У першай палове XVIIстагоддзя маёнтак Нястанавічы, які належыў князю Альбрэхту Пузыне, быў адсуджаны яго шваграм Мікалаем Есманам. Гэтай афёры паспрыяла жонка Пузыны Альбрэта, родная сястра Мікалая Есмана. Трохгадовыя судовыя цяжбы скончыліся пасля вышэйшага каралеўскага суда на карысць Мікалая Есмана.

Міжусобная барацьба памешчыкаў і шляхты была не толькі за зямлю і маёнткі, але і за прыгонных сялян. Яны фактычна не мелі ніякіх грамадзянскіх праў, і таму іх дабрабыт цалкам залежыў ад волі памешчыкаў. Па тагачаснаму закону прыгонныя сяляне лічыліся іх уласнасцю. Формы эксплуатацыі прыгонных у кожнага памешчыка альбо пана маглі быць рознымі. Таму сяляне ў пошуках лепшай долі нягледзячы на заканадаўчыя меры, якія забаранялі ім самастойна мяняць месца жыхарства, усё-такі рашаліся збягаць да іншых, больш заможных і свавольных перад законам уласнікаў.

Адным з такіх свавольнікаў быў уладальнік Лагойска Марцін Тышкевіч, з роду Тышкевічаў знакамітых у ВКЛ магнатаў. Сваіх сялян ён губляць не хацеў, а вось

чужымі не грэбаваў. Такое становішча пакідала прыгонным пэўную свабоду для манёўра: рэальна яны мелі добры шанц перайсці да іншага ўласніка. Таму, амаль у кожным маёнтку, было нямала так званых «прыхожых» або «захожых» сялян, якія атрымоўвалі зямлю і пазбаўленне ад павіннасцей («слабаду») на некалькі гадоў. Пасля чаго павінны былі ўжо працаваць на агульных умовах.

Напрыклад, селянін Іван Бакуновіч уласніка Рыгора Багданавіча Рагозы ўцёк з яго маёнтка Калодзезі і знайшоў прытулак на сумежных землях М. Тышкевіча ў сяле Сычавічы. Там яго хутка апазналі, аднак Тышкевіч не дазволіў Рагозе забраць свайго падданага. Беспаспяховымі былі намаганні і пана Яна Кішкі з маёнтка Хоўхла Ашмянскага паветавярнуць сваіх сялян, якія таксама знайшлі прытулак у Лагойскім маёнтку М. Тышкевіча. Сялян-уцекачоў М. Тышкевіч не аддаваў нават і па рашэнні судоў. За такія ўпартыя свавольствы Марціну Тышкевічу магла пагражаць баніцыя – выгнанне за межы ВКЛ. Але нічога падобнага адносна каго-небудзь у гісторыі не зафіксавана. Мабыць, ва ўладзе ВКЛ таксама, як і ў нашы дні, існавала свайго роду карупцыя.

Пасля нядоўгага зацішша ВКЛ зноў ускалыхнула вайна. На гэты раз украінскі гетман Багдан Хмяльніцкі, сабраўшы казацкае войска і змовіўшыся з маскоўскім царом Аляксеем Міхайлавічам, у 1654 годзе агульным фронтам выступілі супраць Вялікага Княства Літоўскага. Ужо ў 1655 годзе ўся тэрыторыя Лагойшчыны была занятая войскам маскоўскім і заставалася ў іх руках да 1660 года. Ваенныя



**Ян Тышкевіч**

дзеянні, выкліканыя імі эпідэміі і анархія прывялі да жудаснага спусташэння нашай краіны. Вайна мела самы разбуральны характар за ўвесь час існавання. Наша краіна тады панесла беззваротныя страты. У працэнтных суаадносінах яны былі ў некалькі разоў большыя, чым Беларусь страціла ў Другой сусветнай вайне мінулага стагоддзя.

Асабліва пакутавала ўсходняя частка Беларусі. У знішчаных маскавітамі гарадах і паселішчах заставалася толькі па 10%–40 насельніцтва. Аднызбылі забітыя маскавітамі, а другія сагнаны ў няволю. Усіх маладых і моцных мужыкоў прымусам мабілізоўвалі ў свaё войска. І на поўдні абставіны былі не з лепшых. Казацкае войска Хмяльніцкага таксама папоўнілася за лік сялянства ВКЛ. Адных мужыкоў зманам уцягвалі ў палкі казацкія, паабяцаўшы зямлю і волю, а іншых – пад прымусам. У выніку сабра-



лася дадатковае дваццацітысячнае войска пад камандаваннем Залатарова.

Дарэчы, у нашы дні новаспечаныя «Казакі Беларусі» намагаюцца ў нашай краіне «адрадзіць»быццам бы Беларускае казацтва. Лічаць, што менавіта ў тую вайну зарадзілася Беларускае казацтва, а яго заснавальнікам быў беларускі шляхціц Паклонскі. Так, Паклонскі, прысягнуўшы цару маскавітаў (менавіта так яны называліся) Аляксею Міхайлавічу, атрымаў ад яго загад сабраць конны полк з ліку сялян ВКЛ, што і было зроблена. Полк быў вельмі добра ўзброены маскавітамі, але не быў надзелены ніякімі асобнымі прывілеямі, каб мець статус казацкага. Пасля чаго Паклонскі, здрадзіўшы цару, усім палкавым складам перайшоў на бок ВКЛ. Полк паспяхова біў маскавітаў іхняй жа зброяй, што і прыблізіла перамогу над імі.

Пакуль ішла вайна, мірныя жыхары, застаўшыся без моцных мужыцкіх рук, не спраўляліся з зямлёй-карміліцай. Наступіў голад, а ўслед інфекцыйныя хваробы. Халера касіла ўсіх падрад і малых, і старых. Сяляне, разабраўшыся хто ёсць хто, масава пачалі сыходзіць з войска маскавітаў і казацкіх палкоў Залатарова ў партызаны, стаўшы на бок ВКЛ. Што і адыграла галоўную ролю ў перамозе над маскавітамі.

Каб быць больш дакладным у сказаным, хочацца прывесці некалькі параўнальных прыкладаў, якія даюць магчымасць уявіць агульны маштаб трагедыі ў той вайне. Калі да вайны ў маёнтку Ганевічы было 86 «дымоў» (сялянскіх двароў), то пасля вайны іх засталося толькі 11. У Трусавічах – да вайны 36 дымоў, пасля яе – 9. І такіх спусцелых маёнткаў на Лагойшчыне падчас вайны 1654–1660 гг. было вельмі многа. Наступствы гэтага заняпаду так і не былі пераадолены за 40 гадоў да канца стагоддзя.

У пачатку XVIII стагоддзя тэрыторыя Беларусі стала арэнай ваенных дзеянняў паміж Расеяй і Швецыяй у так званай Паўночнай вайне 1700–21 гг. Яна выклікала новыя эпідэміі і спусташэнні маёнткаў. Да сярэдзіны вайны ў 1711 годдзе ў тых самых Ганевічах заставалася ўжо толькі 6 сялянскіх двароў.

### *Пад Расейскім прыгонам*

У другой палове 18 ст. эканамічнае становішча на нашай Лагойшчыне палепшылася. Але пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 годзе паміж царскай Расеяй, Прусіяй і Аўстрыяй усходнюю частку Вялікага Княства Літоўскага імперская Расея далучыла да сябе, назваўшы іх заходнімі землямі вялікай Русі. Але гэтыя пераўтварэнні ў краіне не маглі прайсці бясследна.

Шляхта анэксаванага ВКЛ не змірылася і паўстала супраць акупантаў. Узначальваў паўстанцаў Тадэўш Касцюшка. Але ўсе намаганні паўстанцаў па адраджэнню Рэчы Паспалітай былі дарэмнымі. Раз'юшаная шляхецкай нязгодай, Кацярына II кінула на іх казацкія палкі, якія жорстка расправіліся са слабаўзброенымі ўдзельнікамі. Паўстанне хутка было задушана. Пасля гэтых падзеяў адбыўся трэці (і апошні) падзел Рэчы Паспалітай.


Тад. Касцюшка

*Расейская імператрыца напісала Указ аб тым, што захопленыя землі лічыць як Расейскімі заходнімі і называць іх Белай Руссю, а жыхароў яе – Белару-*

*самі. Той Указ утрымліваў яшчэ і тое, што Белую Русь патрэбна тэрмтінова запаланіць рускімі чыноўнікамі, рускімі папамі і рускімі настаўнікамі. Гэта для таго, каб насельніцтва гэтага краю забылася не толькі сваю мову, а увогуле хто яны такія і якой нацыі.* Яна адмяніла існуючую на той час уніяцкую царкву, перавёўшы парафіян у праваслаўія. Касцёлы




падвяргаліся ганенню. Ад таго часу пайшоў адлік двухсотгадовага панавання Расейскай імперыі ў нашай краіне. Кацярына ІІ шчэдра ўзнагароджавала сваіх генералаў. Акрамя вайсковых узнагарод, яны ў выглядзе падарунка атрымоўвалі цэлыя паветы з маёнткамі і прыгоннымі сялянамі.

Генерал Іван Няплюеў ад імператрыцы атрымаў у падарунак Вілейскі і частку Мінскага паветаў, у якой апынулася і Лагойшчына. Пад яго ўладанне трапіла і вялікая на той час вёска Крамянец, якая адносілася да мёнтка Лукавец Брыгіды Шумскай. Генерал Няплюеў вельмі жорстка ставіўся да прыгонных. Вось што піша ўраджэнец нашых мясцін, беларускі энтограф-аматар Адам Варлыга. У сваіх успамінах ён прыводзіць паданні пра тыя часы, якія ён чуў падчас свайго дзяцінства і юнацтва ў пачатку ХХ стагоддзя: «Паводле народных пераказаў, сяляне ўхіляліся ад прыгону. Ды іх і нялёгка было выганяць на прыгон, бо яны былі расселены маленькімі групамі па лясах і вялі свае гаспадаркі на расцяробах. (Слова «расця-




роб» іншы раз мы і сёння чуем, а вось значэнне яго, мала каму вядома. Гэта вораная зямля, якую калісьці раскарчавалі ад пнёў выпілаванага лесу і расцерабілі ад кустоўя. Адсюль і пайшло «расцяроб»). Таму расейскі абшарнік Няплюеў загадаў, каб сяляне з лесу перасяляліся ў вялікія вёскі, ды адвёў ім там сялібы для новабудоўляў.

Такім чынам, некалькі дзясяткаў сялянскіх сямейз Кораньскіх лясоў былі перамешчаныя ў маёнтак Лоўцавічы Вілейскага павета. А хто адмаўляўся перасяляцца, Няплюеў загадаў іхнія будынкі паліць, а будаваць новыя на старым месцы забараніў. У дадатак да ўсяго, Расея на Лагойшчыну прыйшла яшчэ і з вайскавой павіннасцю. Кожнага шостага беларуса ад 19 і да 36ці год, адрываючы ад сям'і, забіралі ў рэкруты на дваццаць гадоў. З іх дадому амаль ніхто не вяртаўся, з-за пастаянных войнаў, якія вяла Расейская імперыя то супраць адных, то супраць іншых. А як вынік, без мужыцкіх рук пакутвала народная гаспадарка.

Вайна 1812 года Расеі з Францыяй Лагойшчыне нанесла вялічэзную шкоду. Праз яе двойчы пракацілася ваенная навала:летам праз яе рухалася на Маскву французкая армія Напалеона, а ўзімку яна адступала праз нашыя мясціны, падганяемая рускай арміяй. І гэтая навала суправаждалася кожны раз руйнаваннем, марадзёрствам, гвалтам і забойствамі мірнага насельніцтва, і як бы горка гэта не гучала, але бяды больш было ад кутузаўскіх войскаў. Вось што згадвае ўсё той жа наш знакаміты зямляк Адам Варлыга: «Выпадак адбыўся ў сям'і яго ўласнага

прадзеда па лініі матулі, якому на той час было гадкоў пяць-шэсць. У хаце яго бацькі ў в. Чэрнева (зараз Старое Чэрнева) начавала 12 расейскіх салдат. Загадаўшы гаспадыні варыць ім вячэру, яны селі чысціць стрэльбы, а хлопчыку загадалі свяціць ім жменяй лучыны. Калі ж ён ім нечым не дагадзіў, то адзін салдат гэтыя распаленыя лучыны сыпануў хлапчуку за каўнер сарочкі. Ад апёкаў у яго на плячах засталіся глыбокія сляды да самой смерці. У той час у калысцы пачало плакаць немаўля, таксама хлопчык. Салдат абрэзаў вяроўкі ад калыскі і выкінуў яе з дзіцем на снег. Маці забрала люлькуды ўкапала ў хляве ў цёплы авечы гной. Абодва хлопчыкі, на шчасце, засталіся жывыя. »

А вось што агучваецца ў загадзе № 81, які быў выдадзены 25 лістапада 1812 года генерал-фельдмаршалам Галянішчавым-Кутузавым, які датычыўся казацкіх разбояў: *«За всеми неоднократными подтверждениями, встречаю я ежедневно сведения о грабежах, буйстве и насилии жителями края сего, казаками чинимых; имя Высочайшую волю на совершенное искоренение зла сего, я настоятельно требую, чтобы командующие козачьими полками и отрядами, где таковые состоят, не упускали из виду наказывать жестоко плетьми и за малейшие шалости влекущия непосредственно к всяким угнетениям поселян, за поступки же злонамеренные отдавать немедленно под суд и, конча оные в 24 часа, представ-*


М. Кутузаў

*ляць ко мне на рассмотрение».* Акрамя гэтага, як сведчаць матэрыялы камісіі па вызначэнні страт Барысаўскага павета ад вайны, створанай расейскім урадам у 1813 годзе, абодва разы праходжанне расейскіх і французкіх войскаў суправаджаліся яшчэ апусташальніцкімі рэквізіцыямі харчу, фуражу і коней. Напрыклад, на Лагойшчыне, у маёнтку Гаць, які належыў на той час князю Пузыне, са 188 коней засталося толькі 13, з 591 галавы буйной рагатай жывёлы – 151, з 608 авечак – 149. Расейскія войскі рэквізавалі 1 821 чвэрць хлеба, 47180 пудоў сена, 694 літраў гарэлкі. Французы ўзялі ў тым жа маёнтку 217 чвэрцяў хлеба, 1310 пудоў сена, 34 літры гарэлкі. У маёнтках Няплюева Мураваны Двор, Чырвоны Бор і Ганявічы французкія войскі рэквізіцыі не рабілі. Рускія ж узялі 3456 чвэрцяў хлеба, 20309 пудоў сена і 2 214 літраў гарэлкі. Ва ўладаннях Няплюева з 604 коней было страчана 219, з 1565 галоў жывёлы – 472, з 2166 авечак – 994. З-за недахопу насення пасля вайны не было высеяна 598 чвэрцяў хлеба. У маёнтку Кораньскай плябаніі расейскім войскам было рэквізавана 213 чвэрцяў хлеба, 1286 пудоў сена, 77 літраў гарэлкі. Французамі – 31 чвэрць хлеба, 96 пудоў сена і 7 літраў гарэлкі. Прыкладна такія ж страты былі і ў іншых маёнтках Лагойшчыны. Цікава, што расейскія рэквізіцыі былі ў некалькі разоў цяжэйшымі, чым французкія.

Акрамя гэтых страт, былі ж яшчэ і чалавечыя, якія чамусьці на кожнай вайне адыходзяць на другі план. Магчыма таму, што ў Расеі кожны раз на практыцы, у сваёй большасці, чалавек лічыўся звычайным гарматным мясам. Так і ў гэтай вайне, хтосьці з беларусаў ішоў добраахвотнікам у французскую Армію, а больш за ўсё было мабілізавана Кутузавым у царскае войска. З вайны вярнуліся дадому толькі лічаныя беларусы. Лагойшчына шмат дзесяцігод-

дзяў не магла дасягнуць ні прыбыткаў, ніпрыросту ва ўсіх галінах вытворчасці і дэмаграфіі.

Прыгоннае права штурхала насельніцтва на новыя крокі супраціў царскай уладзе. Паўстанне 1830–1831 гадоў Лагойшыну фактычна не закранула. Яно мела месца больш у паўночна-заходніх частках краіны. Але прыгнёт Расейскай імперыі быў моцныне толькі эканамічны, але і палітычны. Беларусь знішчалася як нацыя. І гэтаму сведчыць дакумент датаваны 1840 годам, у якім расійскі цар Мікалай I выдаў указ, які забараняў назву «Беларусь». Загадвалася называць беларускія землі «Северо-Западный край».

## *Шыбеніцы і цэрквы вешальніка–Мураўёва*

А вось у 1863 годзе, калі эканамічны крызіс прывёў да чарговага паўстання супраць царскага самадзяржаўя па ўсёй былой тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, Лагойшчына ў баку тых падзей не засталася. Паўстанне пад кіраўніцтвам беларускага шляхціца Кастуся Каліноўскага ахапіла ўсю Польшчу, Літву і Беларусь. Лагойшчына не была таму выключэннем. Асобныя атрады К. Каліноўскага базіраваліся ў паўночнай частцы раёна. Крывапралітныя сутыкненні паўстанцаў з казацкімі палкамі адбыліся каля Тараканаўкі Задор’еўскага сельсавета. Атрад паўстанцаў налічваў больш двухсот касі-


Каліноўскі К.

нераў. З абодвух бакоў было шмат забітых і параненых. Жорсткай сутычка была каля вёскі Харошае і іншых.

У гэтых баях прымаў непасрэдны ўдзел наш знакаміты зямляк, на той час уладальнік маёнтка ў Малых Бясядах Зыгмунт Чаховіч. Пасля падаўлення паўстання З. Д. Чаховіч быў арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання – расстрэлу. Аднак па просьбе ўплывовых асоб, кара была заменена 12-гадовай катаргай з адбыццём яе на сібірскіх Нерчынскіх рудніках. Пасля катаргі Чаховіч патаемна, бо было забаронена, вярнуўся на Радзіму і ў паўлегальным становішчы жыў у Бясядскім маёнтку. Тут ён стаў духоўным настаўнікам маладому Купалу. Акрамя Чаховіча, тысячы выбітных беларусаў-каліноўцаў былі сасланыя на катаргі, а сотні былі расстраляныя альбо павешаны па загаду ката беларускага народагенерал-губернатара Мураўёва-вешальніка. Расквітаўшыся з галоўнымі зачыншчыкамі паўстання, ён узяўся за ўсё насельніцтва Беларусі. Да колішніх Указаў Кацярыны ІІ і Мікалая І, накіраваных на знішчэнне Беларусі як краіны, а беларусаў як нацыі, ён дадаў сваю фармуліроўку: *«ТО ЧТО НЕ ДОДЕЛАЛ РУССКИЙ ШТЫК – ДОДЕЛАЕТ РУССКАЯ ШКОЛА!»* Павальнае закрыццё каталіцкіх святынь, касцёлаў і будаўніцтва расейскіх цэркваў, якія і сёння называюць «МУРАЎЁЎКАМІ», папулірызацыя праваслаўя, адкрыццё рускамоўных школ – усё гэта прынесла свае плады.


Мураў'ёў-вешальнік

Жорсткаць імперскай улады прыглушыла ў Беларусі народныя хваляванні на доў-

гія дзесяцігоддзі, ажно да пачатку 20 стагоддзя. Водгукі першай расейскай рэвалюцыі 1905 года дакаціліся да Лагойшчыны і не толькі. Хоць усе галоўныя рэвалюцыйныя падзеі адбываліся ў самой Расеі, паўстанцкія хваляванні ахапілі і Беларусь. Беларусы ў той час былі салідарныя з народнымі масамі царскай Расеі. Бо цар быў адзіны. Гэтаму сведчаць шматлікія дакументы: *«З данясення мінскага губернатара кіраўніку міністэрства ўнутраных спраў пра рэвалюцыйны рух у губерніі. ...15ноября вспыхнуло опять аграрное движение среди крестьян, выразившееся в массовых порубках леса в имении графа Иосифа Тышкевича, в котором приняли участие крестьяне нескольких деревень, вследствии чего в имении Логойск вновь пришлось выступить местному исправнику с полуэкскадроном драгун (казаков) и, хотя рубка леса приостановлена, но, по последним сведениям, движение среди крестьян разрослось и охватило всю Логойскую волость, особенно резко выразившись в порубке леса в имении Августово владельца Бржецкого. Положение осложняется тем обстоятельством, что управляющий имением графа Тышкевича Гацыский, не дожидаясь окончания дела, выехал из имения, не передав никому своих полномочий для ведения переговоров с крестьянами, между тем как все крестьяне Логойской волости выжидают окончания этого дела, дабы со своей стороны приступить к массовой рубке лесов окрестных помещиков; 25ноября исправник с земским начальником выехали вновь в имение Ганцевичи Юрьевской волости, где так же началась рубка помещичьего леса, оставив полуэкскадрон казаков в местечке Логойск, ввиду продолжающегося сильного брожения среди крестьян. Положение уезда нельзя не признать весьма серьёзным...»*

## *Казацкія нагайкі супраць беларусаў*

А ў суседнім, Маладзечанскім раёне, на Раёўскай кардоннай фабрыцы, рабочыя зладзілі нядзельную забастоўку. Калі павятовая ўлада і фабрыкант не пагадзіліся з патрабаваннямі забастовачнага камітэта, рабочыя паламалі станкі, гаспадара выгналі з маёнтка, а маёмасць разабралі. Пасля гэтага ўлады з Маладзечна прыслалі ў Раёўку сотню казакаў, якія зладзілі крывавую расправу над мірнымі забастоўшчыкамі. Сярод дарослага насельніцтва былі забітыя і шмат пакалечаных, у тым ліку жанчыны, старыя і нават дзеці. Раёўка і сёння памятае тую «крывавую нядзельку».

У мінулым стагоддзі мясцовая ўлада і жыхары гэтага мястэчка ўсталявалі на фабрычнай прахадной мемарыяльную дошку ў гонар сваім продкам, якія, не баючыся казацкіх нагаек, дабывалі сабе і нам волю ды лепшую долю. *«Рабочыя нашай фабрыкі і сяляне навакольных вёсак прымалі актыўны ўдзел у Першай рускай рэвалюцыі, 1905–1907 гг. 26 лістапада 1905 года яны паўсталі супраць прыгнёту царызма і ўладальніка фабрыкі. Прысланыя ўладай казакі ўчынілі жорсткую расправу. Памяць аб змагарах за народную справу не ўміруча.»*



**Казакі нагайкамі калечылі раёўцаў у 1905г.**

Вось з такімі радкамі была ўсталявана мемарыяльная дошка на будынку кардоннай фабрыкі «РАЁЎКА». Фабрыка, якая пры ўсіх уладах некалькі стагоддзяў не спыняла сваю вытворчасць па вырабу кардона. А сёння яна, на вялікі жаль, наогул страціла сваё існаванне як прадпрыемства і зусім не працуе. Ад яе засталіся толькі будынкі ды шыльда па ўшанаванні памяці нашых землякоў-рэвалюцыянераў 1905 года. Яна сёння захоўваецца ў Раёўскім школьным музеі.




Тое што датычыцца Першай сусветнай вайны, то яна таксама пакінула на Лагойшчыне значны негатыўны след. Акрамя прадуктовых спусташальных рэквізіцый, Лагойшчына ў чарговы раз была пазбаўлена мужчынскага насельніцтва. Бо ўсе мужыкі ваеннаабязанага ўзросту былі мабілізаваныя ў царскае войска. З вайны вярнуліся толькі лічаныя.

## *Водгукі ўзброенага пераварота*

Кастрычніцкі ўзброены бальшавіцкі пераварот у Расеі насельніцтва Лагойшчыны ўспрыняло з вялікай радасцю і верай ў лепшую будучыню. Прынятыя на 2-ім Усерасейскім з’ездзе Саветаў дэкрэты, у тым ліку і аб зямлі, атрымалі гарачую падтрымку сярод рабочых і сялян. У Дэкрэце аб зямлі сяляне ўбачылі здзяйсненне сваёй запаветнай мары. Згодна дакументу зямельныя камітэты былі перавабраныя, пры іх былі ўтвораны камісіі па ўліку ўсіх зямель: памешчачых, царкоўных, іншых угоддзяў, інвентару і раз-



меркавання іх сярод бяднейшых сялян. Але яны, не меўшы ніколі сваіх гаспадарак, раптам атрымаўшы такія падарункі ад новай улады, проста не ведалі як іх скарыстаць. Не хапала здольнасцей, а галоўнае, кемлівасці і руплівасці. Акрамя гэтага спрабаваць свае сілы ў самастойнасці сялянам замінаў яшчэ пастаянны пераход улады то да Кайзераўскай Германіі, то да Пільсудскай Польшчы.

На Лагойшчыне наступіў мір, стабілізаваліся палітычныя абставіны толькі пасля таго, як у сакавіку 1921 года ў Рызе быў падпісаны мірны дагавор паміж Польшчай і Савецкай Расеяй, згодна якога заходнебеларускія землі адышлі да Польшчы. Лагойшчына (большай сваёй часткай) апынулася ў прыгранічнай зоне на савецкім баку. Савецкая ўлада адразу заступіла ў свае правы. Зруйнаваная ўшчэнт народная гаспадарка патрабавала ад савецкай улады нейкіх рашучых і неардэнарных крокаў па аднаўленню і стабілізацыі эканомікі. На самым высокім узроўні было абвешчана аб пераходзе да «новай эканамічнай палітыкі» (НЭП). Вынікам яе рэалізацыі, у тым ліку і на Лагойшчыне, стаў хуткі рост арандаваных і прыватных прамысловых аб’ектаў, асабліва рамесніцкіх і саматужных майстэрняў. Каб ліквідаваць узнікшы таварны

голад і пашырыць тавараабарот паміж горадам і вёскай, савецкая ўлада накіравала сваю палітыку на падтрымку дробнай прыватнай вытворчасці.

У сельскай мясцовасці ўсіх сялян вызвалілі ад арэнднай платы на зямлю. І нават пачалі выдзяляць крэдыты для набыцця сельгасінвентару і цяглай сілы. А бедным гаспадаркам, былым батракам, якія ўпершыню атрымалі зямлю, дзяржавай выдзяляліся бязвыплатна насенне і мінеральныя ўгнаенні. Пасля такой значнай дзяржаўнай падтрымкіхутарскія гаспадаркі пачалі хутка развівацца. Асабліва тыя, хто набыў зямлю яшчэ ў былога памешчыка Чаховіча, былі вельмі працавітымі, руплівымі і дбайнымі гаспадарамі. Выкарыстаўшы крэдыт дзяржавы, браты Іосіф і Уладзімір Навіцкія, іх сусед Іосіф Цяўлоўскі набылі нават конныя малатарні. Іх прыкладу паследавалі і браты з хутара Харужанцы Мікалай і Уладзімір Барановічы. Браты Навіцкія на сваёй сядзібе пасадзілі вялікі сад і абсадзілі яго ліпамі. Ад такіх спрыяльных умоў у руплііўцаў гаспадарка падымалася на вачах, як цеста ў дзежцы. Хоць сем'і ў хутаран былі вялікія, але яны ўжо не маглі спраўляцца з работай, не хапала працоўных рук. На работу запрашалі іншых сялян, хто так і не асіліў гаспадарчую дзейнасць, прапанаваную савецкай уладай.

Аднак нядоўга працягвалася такое жыццё хутаран. Ужо ў канцы 20-х гадоў сялянства было падзелена на «кулакоў», «падкулачнікаў», «сераднякоў» і «батракоў». Кулакоў і падкулачнікаў бальшавікі пачалі лічыць варожым класам у адносінах да савецкай улады. Толькі беднякі і батракі (гультаі, лайдакі ды п'яніцы)лічыліся вернымі саюзнікамі рабочага класа. Ніхто з працавітых хутаранаў нават і ўявіць сабе не маглі, якую пагрозу хавала ў сабе такое раздзяленне сялянства, і што ўгатавала ім «народная» савецкая ўлада. Яны тады яшчэ не ведалі, што ад



**АКТЫЎ КАЛГАСА**

таго 1927 года пачне раскрывацца сапраўдны твар антынароднай бальшавіцкай улады. Якая неўзабаве распачне сваю злачынную дзейнасць, рэпрэсіі і генацыд супраць уласнага народа, ахвярамі якога стануць дзясяткі мільёнаў савецкіх грамадзян.

А пакуль што трагедыя набліжалася паступова. У гэтым жа 1927 годзе так званым «кулацкім» гаспадаркам пачалі даводзіць цвёрдыя заданні па здачы хлеба і іншых сельгаспрадуктаў. Ім былі павялічаны падаткі ў выглядзе індывідуальнага абкладання. «Кулакоў» пазбавілі выбарчых правоў, нават да іхніх дзяцей у школах быў іншы падыход. «Кулакам» і «падкулачнікам» было забаронена прыцягваць на сельгасработы сялянскую беднату. Многія сяляне-наёмнікі былі супраць гэтага, бо страчвалі адзіную працоўную магчымасць, каб пракарміць сям’ю. Каб як-небудзь выправіць становішча, саветы пачалі арганізоўваць пасялковыя калектыўныя гаспадаркі (калгасы), размаляваўшы ідэю стварэння калгасаў і іх перспектыву ў недалёкай будучыні толькі ў ружовым колеры. Вынік не прымусіў сябе доўга чакаць. Няўдалыя гаспадары, лайдакі і бяскрыўдная сялянская бедната ўсебакова падтры-

малі такое, на першы погляд, казачнае новаўтварэнне і, не супярэчачы, уступалі ў калгасы.

На Лагойшчыне да 1928 года іх было створана 7, у тым ліку камуна «Чырвоны кастрычнік». Гэтыя калектыўныя гаспадаркі не давалі станоўчых вынікаў, бо ўзначальваліся непрафесійнымі асобамі, якія былі далёкія ад зямлі. Пра прыбыткі патрэбна было толькі марыць, бо існаваў пастаянны недахоп насення, інвентару, угнаення. Дзяржаўнай падтрымкі ледзьве хапала на задавальненне самых элементарных патрэб саміх арцельшчыкаў. Выключэннем была калектыўная арцель у паселішчы Бабры тады яшчэ Калачэўскага сельсавета. Касцяк яе складаўся з роду стараавераў з Расеі, аседлых тут у другой палове 19 стагоддзя яшчэ пры Мураўёве-вешальніку. Да 1917 года гэта была моцная селянская гаспадарка, якая мела вялікі статак буйнарагатай жывёлы, свінарнік, шмат авечак і, безумоўна, птушку (у большасці былі качкі). Развядзенню іх спрыяла рэчка Вяпратка, якая працякала праз уладанні. У гаспадарцы меўся ўвесь сучасны на той час інвентар, пачынаючы ад конскай грабілкі і заканчваючы вялікім вядзяным млынам сумесна з лесапільняй. Рухавіком гэтых агрэгатаў служыла вадзяное кола, якое круціла Вяпратка. Млын і лесапільня выкарыстоўваліся не толькі для патрэб асабістай гаспадаркі, але аказвалі свае паслугі далёка за межамі.

З прыходам да ўлады бальшавікоў, якая дазволіла бедным і беззямельным сялянам паўсюдна рабаваць гаспадаркі і маёнткі памешчыкаў, маёмасць баброўскіх стараавераў мясцовыя жыхары не закранулі. У параўнанні з іншымі памешчыкамі, стараверы да сваіх сялян ставіліся без імперскай ганарлівасці і з вялікай павагай. Нараўне з усімі выходзілі на работу ці то ў поле, ці то ў лес. Асабістым прыкладам паказвалі выкананне той ці іншай пра-




цы. Жаночая палова разам з сялянкамі даіла і дагледала кароў. А кароўкі беззямельных сялян, у якіх не было сваіх гаспабудоў, зімавалі ў гаспадарскіх кароўніках, стаялі і харчаваліся разам з іхнімі. Такі жыццёвы падыход старавераў да сваіх работнікаў выклікаў ў сялян узаемную павагу да іх. Вось таму гаспадарка зберагласся ад руйнавання і працягвала працаваць на карысць усім. Толькі зараз яна стала належыць не аднаму гаспадару, а быццам бы народу, арцелі. На самой справе, яна фактычна адышла з маўклівай «добраахвотнай» згоды гаспадарапад дзяржаўную ўласнасць. Выбару не было:альбо з гаспадаркі рабі арцель і будзь яе старшынёй, альбо будзеш запісаны ў «кулакі» з выцякаючымі адсюль усімі наступствамі.

Пра гэтую арцель мне распавяляла карэнная жыхарка былога фальварка старавераў, паселішча Бабры (зараз вёска Бабры) Ваўчок (Ляшчынская) Любоў Пятроўна, 1935 г.н. А ёй пра гэта стала вядома ад свайго таты, Ляшчынскага Пятра Сцяпанавіча, які нарадзіўся ў 1896 годзе на хутары Цяцеркі, што недалёка ад Баброў. Яго бацькі і ён сам доўгі час працавалі ў гэтых старавераў да 1917 года і пасля яго. Працавалі і ў ператоранай з прыватнай гаспадаркі арцелі. Кіраваў якой былы гаспадар, пакуль саветы не далучылі арцель да арганізаванага ў суседніх Калачах калгаса імя Сталіна. На вялікі жаль, у Любові Пятроўны не захавалася ў памяці прозвішча тых, па-чалавечы добрых, старавераў-руплівцаў. У яе памяці засталося толькі прозвішча іх млынара Клачко Кузьмы, таму што гэты чалавек быў вельмі добра ўсім вядомы сваёй працавітасцю,

адказнасцю. Малоць зерне да яго везлі з усёй акругі, а калі ўдзень не паспяваў камусьці дамалоць, то, каб чалавеку не начаваць пад млынам, заставаўся працаваць і да глыбокай ночы.

Да гэтых мясцін і людзей мы яшчэ вернемся крыху пазней. А зараз працягнем разважанні з таго месца, з якога збочылі. Як ужо нам вядома, распачаты саветамі чарговы эксперымент эканамічных пераўтварэнняў, на гэты раз у выглядзе добраахвотна-прымусовай калектывізацыі за пару гадоў паказаў не толькі сваю неэфектыўнасць, але наватпоўную бяздарнасць яго прымянення ў развіцці эканомікі не толькі ў нашых мясцінах, але і па ўсёй краіне саветаў. Савецкае кіраўніцтва, адчуўшы сваё бяссілле, каб утрымаць уладу ў сваіх руках, пайшло на рашучыя і злачынныя крокі па выхаду з тупіковых абставін ва ўсіх сферах дзяржаўнай дзейнасці. Саветы ступілі на крывавы шлях супраць свайго народа, шлях страшэнных нечалавечых рэпрэсій!

# *КАЛГАСНАЯ ВАЛЮТА «ПРАЦАДЗЕНЬ» АЛЬБО ГУЛАГАЎСКАЯ ПАХЛЁБКА*

В**ось што** *(у скарочаным варыянце)* **распавядае ў сваіх нататках Д. Тамашэўскі, жыхар вёскі Харужанцы Янушкавічаскага сельсавета:** «Так у сакавіку 1929 года ў адну з начэй да «кулацкіх» хат пад'ехалі падводы ў суправаджэнні міліцыі і камісарыята ўнутраных спраў. Іх сем'ям было загадана хутка сабрацца для адпраўкі ў высылку. Дазвалялася браць усяго 200 кг. багажа. Цяжка ўявіць, як маглі перанесці такую трагедыю няшчасныя людзі?! Лёс шматлікіх з іх невядомы і дагэтуль. За тую жудасную ноч у Лугаўцах апусцелі хаты Івана Роткавіча, Паўла Федаровіча, Іосіфа Навіцкага, Уладзіміра Навіцкага, Іосіфа Цяўлоўскага. Такі ж лёс напаткаў Івана Барановіча з Харужанцаў, швагроў Янкі Купалы Івана Аблачымскага з Ляўшова, Юльяна Раманоўскага з Акопаў і іншых. У тую ж ноч былі высланы з хутара Карпілаўка два браты і маці



Лявіцкія (сваякі вядомага празаіка Ядвігіна Ш. ). Назаўтра ў доме І. Аблачынскага адбыўся сход, на якім было вырашана арганізаваць калгас «Чырвоны пагранічнік». Уся маёмасць высланых была звезеная ў цэнтр калгаса. У далейшым былі разабраныя і перавезеныя іх будынкі. Так пачалі знікаць хутары. І за іх кошт утвараць калгасы. Нават вышэйзгаданы царскі генерал Няплюеў прыхільней адносіўся да сваіх прыгонных сялян падчас высялення іх з хутароў у вёскі. Той толькі ў крайнім выпадку мог спаліць пабудову непаслухмянага хутараніна, не пашкодзіўшы яго маёмасць, а пра Сібір і размовы нават не было ніякай.

Трагедыя між тым працягвалася. У снежні 1932 года былі арыштаваны і высланы, праўда, без сем'яў Фадзей Аблачымскі, Станіслаў Сінькевіч, Пётр Аўласевіч, Зігфрыд Тамашэўскі, Іван Ваяводскі. Як стала вядома пасля рэабілітацыі «за антысавецкую прапаганду». Канчатковае знікненне хутароў у нашых мясцінах адбылося ў 1938 годзе, калі яны ўсе былі звезеныя ў адзін населены пункт – вёску Харужанцы. Шмат падзей адбылося на зямлі нашай у Лугаўцы, Рубяжы, Акопах. І ўсё ж памяць народная захавала згадкі аб мінулым. З'явіліся новыя ўрочышчы з назвамі па прозвішчах тых, хто жыў тут калісьці – Цяўлоўшчына, Тамашоўшчына і гэтак далей.

Вось такім злачынным шляхам, ратуючы свой бяздарны твар, савецкая ўлада за пару гадоў пазбавілася ад «шкодных» элементаў у развіцці калгасаў-«кулакоў». Пасля аб'яўлення чарговага «прагрэсіўнага» этапу развіцця народнай гаспадаркі савецкая ўлада абрала яго новы курс – калектывізацыю. Галоўным рухавіком чаго была прадугледжана канфіскацыя «раскулачванне» моцных сялянскіх гаспадарак, і за іх лік утвараць новыя калгасы. А як гэты працэс ажыццяўляўся, на практыцы нам ужо вядома.

Поспех савецкай улады ў гэтым накірунку атрымаўся непрадсказальным нават самім «рэфарматарам» эканаміч-

ных зменаў у раёне. Калі напрыканцы 1928 года ў Лагойскім раёне налічвалася толькі 2 саўгасы і 7 калгасаў, то ўжо да 01.01.1933 г. на тэрыторыі нашага раёна было створана 8 саўгасаў і 184 калгасы. На гэты раз тупіковы стан народнай гаспадаркі ў раёне і не толькі ўладай быў ліквідаваны разам з варожым «кулацкім» класам. Які, на іх думку, сваёй працавітасцю і эфектыўнасцю вядзення асабістай гаспадаркі моцна падрываў ідэялагічны аўтарытэт савецкай улады. Гэтыя дасягненні далі вельмі адмоўны вынік.

Калгасы, створаныя на «кулацкім» дабры, у хуткім часе ўсё канфіскаванае «праелі», а запушчаныя гаспадаркі апынуліся ў заняпадзе. Зямля, страціўшы працавітыя рукі, ужо не прыносіла, як раней, станоўчых вынікаў. Бо самых руплівых сялян-аднаасобнікаў, адабраўшы ў іх гадамі нажытае дабро і зямлю, расстрэльвалі як антысаветчыкаў, а іншых не толькі сем'ямі, а нават усім родам дэпартоўвалі ў Сібірскія таёжныя абшары. Прысуды выстаўлялі нават 80 гадовым старым і гадавалым немаўлятам. Вось адзін прыклад расправы савецкай сістэмы над ні ўчым не вінаватымі сялянамі.

**Милашевский Фёдор Михайлович**

*Родился в 1932 г., д. Мышицы Логойского уезда Минской губ.; белорус; иждивенец, Иждивенец.*

*Проживал: Минская обл., Логойскийр-н, д. Мышицы.*

*Приговорен: «тройка» 14 апреля 1933 г., обв.: 72, 22-120, 88 УК БССР-членсемьи.*

*Приговор: 3 года высылки, отбыв.: Севкрай. Реабилитирован 19 октября 1992 г. Прокуратура РБ Источник: Белорусский «Мемориал»*

Вынік такой гвалтоўнай перамогі ў барацьбе з «раскулачваннем», адкрытае рабаванне і зняволенне працоўнага люду не прымусіла сябе доўга чакаць. Бяздарная эканамічная палітыка савецкай улады, не толькі ў нашым

раёне, але і па ўсёй краіне саветаў, завяла ў заняпад народную гаспадарку. А ў дадатак яшчэ прыродныя катаклізмы, стварыўшы моцную засуху ў Паволжы, навогул прыблізілі эканамічны крызіс і голад па ўсёй краіне. Празмерная павальная прадразвёрстка, асабліва на Захадзе Украіны, прывяла да Барысаўскі раён і сам Барысаў быў ахоплены галоднымі страшэннага галадамору. Закрануў ён і нас таксама. У 1933–34 гг. вельмі галадалі і мёрлі з голаду больш за ўсё ў паўднёвых частках краіны. Нават у Пухавічскім раёне згаладаўшыя сяляне ў шматлікіх калгасах ад знясілення ўжо не ішлі на працу. Колькасць





памерлых тады з голаду трымаецца ў сакрэце па сённяшні дзень.

Суседні нам бунтамі. Сітуацыя неаднаразова выходзіла з-пад канролю. Мясцовая ўлада не здольна была знайсці хоць якое-небудзь выйсце з тупіковага становішча. Бо баяліся аб’ектыўна сфармуляваць даклад на «верх». А баяцца было чаго, бо галоўная прычына такой вялікамаштабнай галадоўкі была выклікана павальнай калектывізацыяй і прыпіскамі ў выкананні планаў па заготзерню. Да 1935 года ўлада сітуацыю так-сяк узяла пад кантроль. Але ў грамадстве склаўся стабільны недавер да яе. Сяляне так і не вылезлі з лапцяў, а, наадварот, лапцяносцаў павялічылася ў разы. Савецкай уладзе, каб захаваць свой твар, зноў патрэбна было, як вужаку, выкручвацца перад народам, перакладваючы сваю віну на гэты ж самы народ. Тых, хто выказваў сваё незадавальненне, саветы адкрыта нараклі «сабатажнікамі» і «антысаветчыкамі», абвясціўшы ім вайну як шкодным элементам, якія падрываюць давер улады.

Па СССР пакацілася эпідэмя пошуку «ворагаў» народа, якім прыпісвалася «антысавецкая прапаганда». Як вядома, у той час заходне-паўднёвая частка Лагойскага раёна была ў памежжы з Польшчай. Савецкая ўлада не магла не скарыстаць такую магчымасць для абялення сваёй няздатнасці. НКУС запрацаваў на поўную моц. Ён за малейшую падазронасць альбо данос любому грамадзяніну ляпіў вельмі зручны для іх ярлык«польскага шпіёна». У Лагойскім раёне пік рэпрэсій прыпаў на 1937–38 гг., калі адбываліся масавыя арышты і расстрэлы нявінных людзей. Падчас сталінскай злачыннай эпохі на Лагойшчыне было рэпрэсіравана тысячы грамадзян. Было нявінна асуджаных каля 2750 грамадзян з іх каля 1000 чалавек да ВМП. Усе яны пасля былі рэабілітаваныя але…

3



СЕКРЕТНЫЙ ДОПОЛНИТЕЛЬНЫЙ ПРОТОКОЛ.

При подписании договора о ненападении между Германией и Союзом Советских Социалистических Республик нижеподписавшиеся уполномоченные обоих сторон обсудили в строго конфиденциальном порядке вопрос о разграничении сфер обоюдных интересов в Восточной Европе. Это обсуждение привело к нижеследующему результату:

1. В случае территориально-политического переустройства областей, входящих в состав Прибалтийских государств (Финляндия, Эстония, Латвия, Литва), северная граница Литвы одновременно является границей сфер интересов Германии и СССР. При этом интересы Литвы по отношению Виленской области признаются обоими сторонами.

2. В случае территориально-политического переустройства областей, входящих в состав Польского Государства, граница сфер интересов Германии и СССР будет приблизительно проходить по линии рек Нарева, Вислы и Сана.

Вопрос, является ли в обоюдных интересах желательным сохранение независимого Польского Государства и каковы будут границы этого государства, может быть окончательно выяснен только в течение дальнейшего политического развития.

Во всяком случае, оба Правительства будут решать этот вопрос в порядке дружественного обоюдного согласия.

\- 2 -

3. Касательно юго-востока Европы с советской стороны подчеркивается интерес СССР к Бессарабии. С германской стороны заявляется о ее полной политической незаинтересованности в этих областях.

4. Этот протокол будет сохраняться обоими сторонами в строгом секрете.

По уполномочию Правительства СССР — Москва, 23 августа 1939 года.

За Правительство Германии:

Такое адбывалася не толькі ў нас, гэта сістэма існавала па ўсяму СССР. І толькі за кошт мільёнаў рэпрэсіраваных савецкіх грамадзян, якія гарбацілі ў ГУЛАГах за пахлёбку і за кошт калгаснікаў, якія працавалі ў «вольным» СОЦЛАГЕРЫ за калгасную валюту «працадзень», эканоміка ў саюзе крыху стабілізавалася, але не на столькі, каб замяніць лапці на чаравікі. Каб выправіць крытычнае эканамічнае становішча ў СССР, сталінцам патрэбна было шукаць нейкія іншыя, больш эфектыўныя захады. І яны іх убачылі…

### *Выйсце знайшлі ў сусветнай вайне*

Каб палепшыць становішча, уладзе патрэбна было тэрмінова прымаць нейкія крокі. І тут раптам высвятляецца, што выходзіць з тупіка ўжо не засталося з кім. Бо за два дзесяцігоддзі станаўлення савецкай улады, СССРаўская рэпрэсіўная машына знішчыла самы працавіты пласт на-

сельніцтва. Беззваротна пазбавіла краіну ад навукоўцаў, інтэлігенцыі, дзеячаў мастацтва і літаратуры. Армія засталася без прафесійнага камскладу. З пачатку 1939 года паўсяму саюзу расстрэльныя рэпрэсіі былі прыастаноўлены. Рэпрэсіраваныя кадравыя савецкія камандзіры і генералы (каго не паспелі расстраляць) былі вызваленыя з ГУЛАГу, ім былі вернуты званні, узнагароды і накіраваны на камандуючыя пасады ў РСЧА.

Чаму так здарылася і з якой мэтай непахісная сталінска-берыяўская прынцыповасць раптам пайшла на такі крок па вызваленню «ворагаў народа»? Хутчэй за ўсё тыран адчуў, што трон пад ім захістаўся, каб яго падмацаваць, ён вымушаны быў пайсці на змовы з кім угодна, хоць з д'яблам. Толькі вызваленне генералаў падняць эканоміку краіны не магло. У іх сілах было ўмацаванне боездольнасці арміі. А вось ужо моцная армія, за кошт захопу іншых дзяржаў з яе багаццем, магла паправіць эканамічны і палітычны стан сваёй краіны.

На маю думку, менавіта на гэта Сталінская вярхушка і разлічвала. Бо як не круці, як не вярці, усё паказвае на тое, што паміж Сталіным і Гітлерам была папярэдняя змова на сумесную акупацыю Польшчы. Што і адбылося ў верасні 1939 года. І хутчэй за ўсё паміж гэтых двух крывавых монстраў існавала змова не толькі па захопу Польшчы, але і іншых краін. Бо яны абодва былі палітычнанакіраваныя на шлях да ўсясветнага панавання. Толькі, як пазней стане вядомым, Гітлер перайграў свайго сябра-партнёра, і атрымалася тое, што атрымалася.

**23 жніўня 1939 года былі падпісаныя дамова паміж СССР і Нямеччынай («пакт Молатава-Рыбентропа») і сакрэтны пратакол, паводле якога Сталін і Гітлер яшчэ да пачатку вайны падзялілі тагачасную Польшчу. 1 верасня 1939 нямецкія войскі ўварваліся на тэ-**

**рыторыю Польшчы. Гэта дзень афіцыйна і лічыцца пачаткам Другой сусветнай вайны.**

Я лічу, што калі б Сталін перамог у сабе сквапнасць, злапамяцтва ды імперскія амбіцыі і заключыў мірнуюдамову не з фашысцкай Германіей, а з Польшчай, то ВАВ хутчэй за ўсё не адбылася б. СССР, Польшча ды яшчэ яе саюзніца Францыя лёгка разграмілі б Гітлера яшчэ ў тым самым 1939 годзе. Гэта маё меркаванне адносна той ЗМОВЫ. Да яе і да самой Другой сусветнай вайны мы яшчэ вернемся і будзем разважаць ніжэй, а зараз я хачу вярнуцца і працягнуць тэму мінулага па іншых мясцінах.

# *МАЁНТАК ВЯПРАТЫ*

Пра суседні з Харужанцамі маёнтак Вяпраты я ўжо згадваў вышэй, а зараз хачу працягнуць тэму адносна яго. Ужо, як вядома, маёнтак Вяпраты згадваецца ў XV стагоддзі і належыў ён знакамітаму магнату Альбрыхту Гаштольду. За ўвесь час свайго існавання ў маёнтку Вяпраты змянілася шмат гаспадароў. Гэта каралеўскі сакратар Ян Касмоўскі і яго жонка Ядвіга Насілоўская, Алехна Судзімонтавіч і Барабара Гальшанская, паны Пацы і Васіль Тышкевіч, Рыгор Осцік, Стэфан Збаражскі.

На пачатку XX стагоддзя маёнтак Вяпраты ўваходзіў у склад Хаценчыцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерніі. У 1905 годзе ён быў ва ўласнасці памешчыка Ляховіча. І гэта далёка не ўсе ўладары маёнтка Вяпраты, дакладныя і падрабязныя звесткі адсутнічаюць. Іфармацыю прыходзіцца чэрпаць, галоўным чынам, з народных пераказаў. Але што тут, у Вяпратах, у 1915 годзе пачаў працаваць цагельны завод, то гэта ўжо дакладна. Хоць не па афіцыйных звестках, гэта адбывалася пры апошнім уладары маёнтка Леоне Бароўскім. Толькі як да яго трапіў маёнтак Вяпраты, пакуль невядома.

У 1918 годзе пасля падзелу Беларусі Вяпраты апынуліся на савецкай тэрыторыі, Леон Бароўскі вымушаны быў пакінуць маёнтак і перабрацца ў сваю леснічоўку непадалёку ад Шчокаўшыны, што на Вілейшчыне. Гэтую гіпотэзу пацвярджае і Фадзеева (Кіслая) Яўгенія Мікалаеўна, 1932 г. Яна мае карані са Шчокаўшчыны і добра

памятае пані Марыю Бароўскую і яе сына. А самога пана Леона слабавата, таму што той мала сутыкаўся дома. Працуючы войтам ў Хаценчыцкай гміне, быў у частых раз'ездах. Таму ўсю гаспадарку вяла яго жонка, пані Марыя, цудоўнай, добрай душы кабета, па адукацыі медык. Ніколі і нікому не адмаўляла ў дапамозе. Таму жыхары і адносіліся з павагай да Бароўскіх.

Пасля ўцёкаў Бароўскіх з Вяпратаў у іх маёнтку адразу пачалі гаспадарыць саветы. Усё дабро Бароўскіх было раздадзена сялянству. Зямля, пабудовы панскага двара і на базе інфраструктуры ўсяго маёнтка, да якога належылі вадзяны млын з лесапільняй, а таксама сталярня, кравецкая майстэрня, кузня адышлі пад створаны там калгас.

У 1920 годзе ў самім маёнткуна першым паверсе арганізавалася школа, а на другім размяшчалася калгаснае кіраўніцтва, а пазней – сельсавет. Сама ж тэрыторыя фальварка вакол маёнтка пачала забудоўвацца жытлом. Будаваліся, галоўным чынам, прысланыя з савецкай Расеі камісары, кіраўнікі- бальшавікі і настаўнікі. У 1932 годзе ў школе вучылася 149 дзяцей з вёсак Панышы, Селішча


30гады. Былы маёнтак пана Леона Бароўскага ў Вяпратах. Жэгланаў Павел Васілевіч (з лева першы) настаўнікі школы

1-е, 2-е, Казлеўшчына, Дзяніскі, Барыскі, Мядзведкі, а таксама 14 вучняў з саміх Вяпрат. Дом першага вяпрацкага настаўніка Жэгланава Паўла Васільевіча захаваўся і па сённяшні дзень.

Павел Васільевіч, былы рэвалюцыйны камісар, актыўны ўдзельнік станаўлення савецкай улады, удзельнік грамадзянскай вайны і Другой сусветнай, быў узнагароджаны шматлікімі дзяржаўнымі ўзнагародаміяк ваеннымі, так і працоўнымі. Нашчадкі зберагаюць памяць, пакінутую дзядулем пра сябе. Яны з пяшчотай і любоўю ставяцца да атрыманага ў спадчыну дома, які напоўнены багатым гістарычным мінулым. І не толькі дом, пабудаваны рукамі легендарнага продка, але і тутэйшыя мясціны, і паветра прапітаны наскрозь гісторыяй з глыбіні вякоў. Навялікі жаль, вельмі мала захавалася архіўных звестак пра Вяпраты. А спытаць у каго ўжо не прадстаўляецца магчымым, бо старажылаў даваенных часоў (у каго яшчэ штосьці захавала памяць) жывымі засталіся толькі лічаныя. Таму ўсё прыходзіцца збіраць па кропельках з розных вытокаў.

Дык вось маёнтак Вяпраты з усімі гаспадарчымі пабудовамі быў узведзены ўжо прыкладна ў XIV–XV стагоддзі на беразе рэчкі Вяпратка, на самых яе вытоках, недалёка ад вёскі Вяпраты. Рэчка бярэ свой пачатак з ляснога ўзвышша, з трох моцных крыніц, якія выбіваюцца на паверхню зямлі непадалёку адна ад адной. Праз 350–400 метраў ад іх вытокаў у паўночным накірунку гэтыя тры ручаі, сышоўшыся ў адным месцы, утвараюць адзінае рэчышча рэчкі Вяпратка. Тут жа, літаральна праз лічаныя метры, калісьці не адно стагоддзе таму была пабудавана плаціна вышынёй каля пяці метраў. Яна ў вярхоўі вытокаў утварала першае вадасховішча, якое забяспечвала на левым беразе Вяпраткі ставы па развядзенню рыбы, у большас-


Паныш Мікалай Мікалаевіч
жыхар-канстудьтант з Вепрат

ці сваёй стронгі (спрыяла чыстая крынічная вада). А на правым беразе, на ўзвышшы, месціўся пяцігектарны фальварак маёнтка Вяпраты. Па перыметру было шмат розных гаспадарчых пабудоў, з вялікім двухпавярховым мураваным домам сядзібнага тыпу. Цікава тое, што ў фальварку ніколі не было ніадной студні. Усе яго жыхары спрадвеку забяспечвалі сябе пітной і для гаспадарчых патрэб вадой толькі з рэчкі Вяпратка. Бо вада ў ёй выключна чыстая, крынічная, з лячэбнымі ўласцівасцямі. Хутчэй за ўсё пагэтаму падчас апошняй вайны ў маёнткавым будынку знаходзіўся нямецкі санаторый, у якім праходзілі рэабілітацыю пасля шпіталю нямецкія вайскоўцы. Але ў 1942 годзе партызанам, нейкім чынам, удалося яго ўзарваць. Дом цалкам быў зруйнаваны.

На самым беразе стаяў млын сумесна з лесапільняй, рухавіком якіх было вадзяное кола, усталяванае на той плаціне. Цікава тое, што не толькі сам будынак гэтых агрэгатаў быў выключна з дрэва, але нават і ўсе перадатачныя механізмы былі драўлянымі, акрамя жалезных валоў і піл(больш метра ў дыяметры) для лесапільні ды да млына каменных жарнавоў. Гэтая вытворчасць згадваецца ажно ў 1582 годзе, калі Вяпратамі валодаў Ян Касмоўскі з жонкай Ядвігай Насілоўскай.

Як мне расказаў мясцовы жыхар, Паныш Мікалай Мікалаевіч 1950 г.н., ён добра памятае, што гэта цудатэхніка безадказна працавалаяшчэ нават у 60-х гадах мінулага стагоддзя, пакуль не распачалася меліярацыя балот, якая закранула і Вяпраты. Плаціну на рэчцы зруйна-

валі, гэтым самым пазбавілі забяспячэнне ставы вадой. Іх меліяратары хуценька распрацавалі пад калгасныя палеткі, якія сёння ўжо не прыносяць ніякай карысці. А замест вадзянога кола, вечнага рухавіка, лесапільню і млын пачалі круціць электраматоры, ток на якія падаваўся ад усталяванага на фальварку дызель-генератара. Дзесьці праз год услед за ставамі спыніліся і лесапільня з млынам, якія на працягу чатырох стагоддзяў прыносілі карысць шматлікім пакаленням. Даючы чалавеку самае галоўнае для жыцця – ХЛЕБ. Застаўшыся без прыгляду, пабудова і ўсё, што ў ёй мелася, пачало расцягвацца і руйнавацца мясцовымі жыхарамі. Такім чынам, знішчылася вялікая каштоўнасць гістарычнай спадчыны.

Але на гэтым руйнаванне фальварка не спынілася. Аднойчы ў адной з пабудоў знайшлі замураваны ў сцяне скарб з залатых і сярэбраных манет, што і падштурхула жыхароў на дадатковыя пошукі багацця. У хуткім часе тое, што не знішчыла апошняя вайна, зруйнавалі савецкія пяцігодкі і людская сквапнасць ды абыякавасць. Муры ўсіх пабудоў былі разваленыя жыхарамі настолькі, наколькі хапала ў іх моцы. Пасля яшчэ доўгі час камяні з тых развалін жыхары скарыстоўвалі на падмуркі да сваіх хат.

### *Казлеўшчына і яе жыхары*

Байкоў Іосіф Анкудзінавіч нарадзіўся 20 студзеня 1935 года ў вёсцы Казлеўшчына (Калачэўская) і ён выразна запомніў маёнтак Вяпраты яшчэ даваенных часоў. Памятае ўсе гаспадарчыя пабудовы, у якіх захоўвалася дабро калгаса «13 год РСЧА», у якім да польскай вайны 1939 года і пасля яе працаваў брыгадзірам яго тата, Анкудзін Мікалаевіч.

Неаднойчы разам з татам маленькі Юзюк быў і ў самім сядзібным доме, у якім месцілася калгасная кантора.

У ёй праводзіліся паўсядзённыя нарады калгаснага кіраўніцтва, у склад якога ўваходзіў і Анкудзін Мікалаевіч. У гэтым жа будынку знаходзіўся яшчэ сельсавет і школа, якая вельмі вабіла і пра якую вельмі марыў маленькі Юзюк. Толькі марам яго не было наканавана здзейсніцца: распачалася разбуральная вайна, якая зруйнавала не толькі той цудоўны будынак, але і Юзюковы мары. А яму так хацелася пагойсаць разам з усімі вучнямі на другі паверх школы па спіралевіднай дубовай лесвіцы. Бо ў параўнанні з іншымі пабудовамі ў наваколлі, гэты дом выглядаў царскім палацам.

Я папрасіў Іосіфа Анкудзінавіча больш падрабязна распавясці пра сваё далёкае мінулае, а таксама пра лёсы сваіх родных ды блізкіх, аднавяскоўцаў ды калгаснае будаўніцтва. «Ну, што можна расказаць, – успамінае мой субяседнік, – жылі як усе. Не сказаць, што добра, але ж не так ужо і дрэнна. З голаду, дзякуючы Богу, не пухлі, як некаторыя, але і з раскошы не шалелі. Адно што не было з чаго ды і не было калі, бо патрэбна было працаваць і моцна. Даваенны час памятаю не вельмі, а вось ваенны і пасляваенны – выразна. Так што пра жыццё ў 30-ых гадах мне вядома больш за ўсё ад сваёй матулі. Калі ў вас ёсць вера да мяне і маіх успамінаў і ўвогуле зацікаўленасць да лёсу простага смяротнага, то слухайце.» І ў мяне не ўзнікла ні кропелькі сумнення да гэтага чалавека, бо вельмі выразна было па ім відаць, што чалавек кажа шчыра і без ніякіх асабістых інтарэсаў.




Тата яго, Байкоў Анкудзін Мікалаевіч, нарадзіўся ў вёсцы Казлеўшчына (Калачэўская) ў 1909 г. н. у працавітай сялянскай сям'і. *Гістарычная даведка вёскі: Вёска згадва-*

*еццa як прыватная ўласнасць у XVIII стагоддзі ў Мінскім павеце і ваяводстве. У 1758 годзе быў толькі адзін двор. У XIX стагоддзі маёнтак у Вілейскім павеце Віленскай губерніі. У 1800 годзе вёска, 4 двары, 29 жыхароў, уласнасць Трэберта. У 1897 года, Казлеўшчына – застава на рацэ Вяпратка, 7 двароў, 57 жыхароў. У XX стагоддзі ў Хаценчыцкай воласці, Вілейскага павета, Віленскай губерніі. У 1905 годзе ў фальварку 17 жыхароў належыла Грыгаровічу, які меў 1164 дзесяціны зямлі, у аднайменным засценку 57 жыхароў, што валодалі 227 дзесяцінамі зямлі. У 1941 годзе 21 двор, 188 жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну 5 вайскоўцаў загінулі на фронце, 2 у партызанскай барацьбе. У вёсцы размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя Фрунзе, створаны ў студзені 1943 года, на базе асобных атрадаў «За Радзіму», імя Варашылава, «Камсамолец». Партызаны ў канцы чэрвеня 1944 года вызвалілі вёскі Ілля, Раёўка, Вязынь і ўтрымлівалі іх да прыходу Чырвонай Арміі.*

У той час Казлеўшчына адносілася да Хаценчыцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерніі і належыла памешчыку Грыгаровічу. Род стараевераў Байковых яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя пераехаў у нашы мясціны з Расеі, асеўшы назаўсёды на гэтых землях, на якіх у той час уладарыў царскі генерал Няплюеў. Гэтыя землі, а таксама ўсіх прыгонных сялян, якія на ёй абіталі (пра што я ўжо нагадваў), Няплюеў атрымаў у падарунак ад Расейскай імператрыцы Кацярыны II пасля III падзелу Рэчы Паспалітай.

Матуля Іосіфа Анкудзінавіча, Алена Канстанцінаўна, нарадзілася ў Барысках у 1915 годзе. *Гістарычная даведка вёскі: У XVIII ст. вядома ў Мінскім ваяводстве. У 1795 г. вёска, 10 двароў, 101 жыхар, уласнасць Трэберта. На пачатку XX ст. у Гайна-Слабодскай воласці Барысаўскага павета Мінскай губерніі. У 1905 г. вёска 197 жыхароў,*

*175 дзесяцін зямлі, сядзіба Барыскі, 8 жыхароў, 35 дзесяцін зямлі, сядзіба Барыскі, 6 жыхароў, абедзьве сядзібы належылі памешчыку Ваньковічу. З 20.08.1924 г. вёска ў Калачоўскім сельсавеце Лагойскага раёна Мінскай акругі з 20.08.1938 г. Мінскай вобласці. У 1941 г. 23 двары, 96 жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну гітлераўцы знішчылі 7 двароў, загубілі 20 жыхароў, 2 жыхароў вывезлі ў Германію, 3 вяскоўцы загінулі на фронце, 3 у партызанскай барацьбе.*

Дзявоцкае прозвішча Мурашка і яна з карэнных жыхароў-каталікоў. Барыскі ў той час належылі памешчыку Ваньковічу. У 1934 годзе звычайную калгасніцу Алену лёс звёў з Анкудзінам, калі той працаваў у мясцовым калгасе брыгадзірам. Вяселле не спраўлялі, бо пасля 17-га года ад іх паступова адвыкалі. Уся ўвага ўдзялялася працы. Светавымі днямі – на калгасных палетках ці на кароўніку, а ўвечары і па выхадных – на сваім прысядзібным кавалку зямлі. Калі з’явіўся на свет першанец, якога Юзюком наракл, Алена сядзела дома з немаўляцем. Анкудзіну было вельмі цяжка аднаму напрацаваць працадні на ўсю сям’ю, каб атрымаць увосень поўны гадавы «заробак»: скрыню (1 тону) бульбы і 4 пуды зернавога адсеву.

Той разлік за працу выглядае ўвогуле дзікунскім, у параўнанні з нашым часам, калі заробак атрымоўваем грашыма ды далярамі, як пры Польшчы – злотымі, два разы на месяц, а то кожны тыдзень і ўсё адно стогнем. А ў той час нават працадзённы натур-заробак плацілі толькі адзін раз у год і трывалі. У такіх умовах выжываць было вельмі складана. Не хапала самага неабходнага – харчавання. А на вопратку ды абутак ніхто нават і ўвагі не звяртаў. На плечы ёсць які лахман і добра. А на ногі з абуткам, можна сказаць, праблем не было. Галоўнае, каб былі анучы, сам «абутак» – лапці ўмеліплесці з самага маленства, а лыка (матэрыял для іх вырабу) хапала паўсюдна. «Гэта не зусім было бядой», – кажа Іосіф Анкудзінавіч.

## *Трызненне «польскімі шпіёнамі»*

Беды распачаліся з надыходам 1937 года. Да гэтага арыштоўваць «раскрадальнікаў народнага дабра» «чорны «крумкач» прыязджаў удзень, то ўжо ў 37-ым па «польскіх шпіёнаў» НКУС рабіла налёты па-бандыцку начной цемрай, калі ўсе калгаснікі спалі моцным сном. «Зладзеям» ТРОХ КАЛАСКОЎ прысуджалі 3–5 год сталінскіх лагераў у Сібірскіх абшарах, а «польскім шпіёнам» – ВМП! Расстрэл выконваўся літаральна праз дзень-два пасля прысуду. Тым самым пазбаўлялі асуджаных права на законны перагляд справы.

Трагічны лёс напаткаў і двух родных дзядзькоў Іосіфа Анкудзінавіча Мурашка Канстанціна Канстанцінавіча і Антона Канстанцінавіча 1907 г. н. Іх таксама як «польскіх шпіёнаў» у 1937 годзе цёмнай ночкай забраў «чорны крумкач» смерці. У той час родным не дайшлі чуткі, што іх Антося НКУС расстраляў ў Мінскіх Курапатах, а Косцю – у Віцебску. Пра іх лёс стала больш дакладна вядома толькі пасля рэабілітацыі. Але не на столькі, каб мелася магчымасць наведаць само месца расстрэлу ды пакласці кветкі на магілку нявінна загубленых родных.

### **Мурашко Антон Константинович**

*Родился в 1908 г., д. Бориски Логойского р-на Минской обл.; поляк; образование н/начальное; колхозник, Колхоз. Проживал: Минская обл. , Логойский р-н, д. Козловщина. Арестован в декабре 1937 г.*

*Приговорен: Комиссия НКВД СССР и Прокурора СССР 21 января 1938 г., обв. : 68 УК БССР – агент польской разведки.*

*Приговор: ВМН Расстрелян 20 февраля 1938 г. Место захоронения – Минск. Реабилитирован 27 июля 1959 г. Военный трибунал БВО*

## Мурашко Константин Константинович

*Родился в 1913 г., д. Бориски Логойского р-на Минской обл.; поляк; образование н/среднее; счетовод, Янушковского лесоучастка. Проживал: Минская обл., Логойский р-н, д. Козлевщина.*

*Арестован 19 ноября 1937 г.*

*Приговорен: Комиссия НКВД СССР и Прокурора СССР 14 декабря 1937 г., обв.: 64, 68, 70, 71, 76 – агент польской разведки, член ПОВ.*

*Приговор: ВМН. Расстрелян 4 января 1938 г. Место захоронения – Витебск. Реабилитирован 27 ноября 1958 г. Военный трибунал БВО*

*Источник: Белорусский «Мемориал»*

Тату, Іосіфа Анкудзінавіча як швагру «польскіх шпіёнаў», таксама вельмі доўгі час цягалі НКУСаўцы па сваіх кабінетах. Напрыканцы 38-га года пасля чарговага выклікудахаты вярнуўся толькі праз трое сутак. Гэта быў яго апошні візіт, Анкудзіна больш не чапалі. Неўзабаве наступіў 1939 год, па вёсках пракацілася хваля агітацыйных заклікаў: падаць руку дапамогі заходнім братамбеларусам. Іосіф Анкудзінавіч не памятае дакладна, тата яго пайшоў на польскую вайну добраахвотнікам ці па мабілізацыі. Але ні гэта галоўнае, а сам факт таго, што ён стаў удзельнікам «вызваленчай» місіі ў Заходняй Беларусі. Вайна тая хутка скончылася, і Анкудзін Мікалаевіч праз пару месяцаў вярнуўся дахаты на сваю брыгадзірскую пасаду.

Пасля далучэння Заходняй часткі Беларусі да СССР арышты, а тым больш расстрэлы вакол спыніліся, таму што знікла мяжа, а разам з ёй і «шпіёны». Узаемны гандаль з заходнікамі крыху палепшыў становішча. У суседнім Лукаўцы можна было абмяняць соль на вопратку, боты або чаравікі. Ужо не сорамна было пайсці ў царкву ці

касцёл. Сям'я Байковых была каталіцкага вераспавядання, таму з задавальненнем пачала хадзіць у Батурынскі касцёл. У які да 39-га года не было магчымасці патрапіць з-за савецка-польскай мяжы. А зараз, як яе не стала, усе парафіяне кожную службу наведвалі касцёл. Праўда, шкадуючы новы абутак, да Батурына ішлі ў лапцях, а перад касцёлам пераабуваліся ў чаравікі ці боты. А пасля службы зноў залазілі ў лапці. Толькі нядоўга цешыліся новымі жыццёвымі змяненнямі да лепшай долі.

## *Вайна*

1941 год прынёс гора ў кожную хату. Ужо ўдзень 22-га чэрвеня стала вядома, што распачалася вайна паміж Германіяй і СССР. Вяскоўцы назіралі ў небе самалёты з чорнымі крыжамі на крылах, якія дзясяткамі ляцелі дзесьці на ўсход. На наступны дзень была аб'яўлена мабілізацыя, і тата Іосіфа Анкудзінавіча, сабраўшы рэчавы мяшок і разам з усімі ваеннаабавязанымі вяскоўцамі (хто на машынах, а хто ў конскім абозе), рушыў на зборны пункт у раённы цэнтр Лагойск.

Іосіфу Анкудзінавічу добра запомніліся апошнія татавы словы. На развітанне ён, усміхнуўшыся, загадаў, каб дарэмна не хваляваліся і верылі ў хуткую сустрэчу. Што вайна будзе нядоўгай і пераможнай. Не такіх білі і гэтых паб'ём! Вось такім моцным духам і верай тата застаўся ў памяці малога Юзюка на ўсё жыццё. Бо з вайны Анкудзін Мікалаевіч так і не вярнуўся. Знік без звестак ва Усходняй Прусіі ў 1944 годзе. Пра гэта стане вядома толькі праз шмат год пасля вайны.

Хоць вайна толькі распачалася, яна ўжо на трэці дзень была чутна і ў Казлеўшчыне. Баявыя дзеянні вёску не закранулі. Гарматнае грамыханне ды кулямётныя чэргі

пракаціліся дзесьці з боку Радашковічаў і Іллі. На шосты дзень яшчэ можна было пачуць сыходзячыя на ўсход глухія выбухі вайны, а ўжо праз суткі быццам бы і нічога не здарылася, страх пачаў адыходзіць. Толькі невядомасць рэзала нервы:дзе нашы, дзе немцы? Вайна яшчэ ідзе ці скончылася? Пачало штосьці прасвятляцца, калі дахаты пачалі варочацца некаторыя мабілізаваныя мужыкі.

Вярнуўся дадому дзядзька Іосіфа Анкудзінавіча, васемнаццацігадовы родны татаў брат, Байкоў Ісай (Васіль). Ад яго і іншых і стала больш-менш вядома, што савецкія войскі адступаюць па ўсіх франтах і не ў стане ўтрымліваць ціск ворага, што шмат чырвонаармейцаў трапіла ў акружэнне, што многія мабілізаваныя мужыкі не паспелі дайсці да Мінска, бо нямецкі дэсант адрэзаў ім шлях да горада. А хто здолеў дабрацца да зборных пунктаў, то тыя пры пагрузцы ў эшалоны на Мінскім вакзале трапілі пад моцнае нямецкае бамбаванне. Кантроль сітуацыі камандзірамі быў страчаны, і людзі кожны сам выбіраў рашэнне. Шматлікія абралі шлях дахаты. Але аб гэтым мы пагаворым ніжэй, пасля далучэння да гэтага моманту іншых інфарматараў.

Маленькі Юзюк са сваёй матуляй таксама чакалі свайго тату і гаспадара, у надзеі, што той, як і іншыя, усё ж вернецца дадому. Толькі чаканні тыя былі дарэмнымі. Жыццё ў вёсцы і ў наваколлі быццам спынілася. Усіх хвалявала толькі адно пытанне:што будзе далей і якую пазіцыю займаць? Барацьбітоў з ворагам ці пакорлівасць перад усімі і прымаць усё ў тым выглядзе, у якім пападуць. Большасць абралі другі, самы складаны, таму што патрэбна было пастаянна жыць паміж кувалдам і накавальняй, каб зберагчы жыцці сваіх дзетак і старых.

Упершыню ў вёску немцы з паліцаямі наведаліся дзесьці ў пачатку ліпеня. У гэты раз патрабаванні былі не вельмі

нахабнымі. Загадалі несці ў цэнтр вёскі, галоўным чынам, яйкі, масла, малако, сала. А паліцэйскія налягалі больш на гарэлку, якая захоўвалася ў кожнай хаце, таму што пры калгасе служыла галоўнай разліковай адзінкай сярод сялян. Нейкі час было зацішша, а ўвосень у Гайне з'явіўся нямецкі гарнізон, няпрошаныя «госці» наладзілі ў Казлеўшчыну рэгулярныя рэйды па збору аброка. Забіралі не толькі прадукты харчавання, але і жыўнасць.

### *Загадкавыя «прыпісьнікі» і знакамітыя партызаны*

«А аднаго разу, – кажа Іосіф Анкудзінавіч, – мы чуць не расквіталіся з жыццямі. А здарылася вось што… Калі ўся сям'я штосьці рабіла на сваім падворку, па вясковай вуліцы прагульваліся нейкія двое незнаёмцаў. Калі яны толькі параўняліся з нашай хатай, у гэты момант нечакана ў канцы вуліцы з'явіліся немцы на матацыклах. Незнаёмцы, што было моцы даліся на ўцёкі кудысьці за нашу хату. Немцы, заўважыўшы ўцекачоў, адкрылі страшэнную страляніну. Кулі свісталі ў нас над галовамі, мы ўсе сіганулі ў хату і ляглі на падлогу, бо немцы стралялі і па вокнах. Праз нейкую хвіліну яны ўварваліся, застаўшы нас яшчэ ляжачымі. Вывелі ўсіх на падворак і, паставіўшы да сцяны хаты, праз перакладчыка пачалі дапытвацца, дзе мы схавалі партызанаў, якія ўцяклі на наш падворак? Ад страху ў нас аднялася і мова. Але матуля неяк здолела растлумачыць, што тыя незнаёмцы падаліся да кустоў, што насупраць суседа. А тым часам пакуль нас дапытвалі адны, іншыя немцы рабілі вобыск па вёсцы і знайшлі тых уцекачоў. Але, праверыўшы ў іх дакументы, адпусцілі». Незнаёмцы аказаліся нейкімі, як тады іх называлі, «прыпісьнікамі». Хто яны былі такія і якія пры-



вілеі мелі, што немцы іх не зачапілі, Іосіф Анкудзінавіч не ведае і па сённяшні дзень? А ў той дзень з-за тых «прыпісьнікоў» жыцці Байковых віселі на валасіне. Але, дзякуючы Богу, усё абышлося, усе засталіся жывымі. Толькі немцы забралі пяць курыц і парсючка. Але на гэту страту ўжо не звярнулі ўвагі, у параўнанні з тым, што маглі б згубіць жыцці.

Час ішоў, з'явіліся партызаны. Вёска стала партызанскай, у ёй стаяў штаб партызанскай брыгады імя Фрунзе. Немцы ўжо да нас баяліся сунуцца. Як толькі разведка паведаміць, што набліжаюцца немцы, партызаны папярэджвалі вяскоўцаў, каб тыя хуценька сыходзілі ў лес, а самі заставаліся абараняць вёску. На маё пытанне: як вялі сябе партызаны адносна насельніцтва, можа рабавалі альбо праяўлялі які гвалт? Іосіф Анкудзінавіч кажа, што не толькі сам ні разу нічога дрэннага не заўважаў за імі, і ад іншых не чуў ніякіх скаргаў. Наадварот, партызаны дапамагалі, чым маглі людзям, а людзі – ім. Стасункі былі вельмі добрыя. Жыхары партызанам пяклі хлеб, гарэлку гналі, бо без яе ніяк нельга было, мылі бялізну, лазні тапілі. А тыя, як пойдуць на ваеннае заданне да заходнікаў граміць які-небудзь гарнізон, абавязкова адтуль трафеяў прынясуцьці то боты, ці то вопратку якую. Нават і для жанчын што-небудзь жаночае дабывалі. Бывала, прыганялі скот: коней, кароў, коз. Коней не давалі, пакідалі сабе. Але як была патрэба ў конскай сіле(пасеяцца ці прыбрацца) ніколі не адмаўлялі. Не, як не кажы, а нашы партызаны былі вельмі добрыя, яны нас самі ніколі не крыўдзілі

і ад усялякай нечысці абаранялі, таму ў нас і вёскі засталіся няспаленымі. Магчыма яшчэ і тое, што ў нашай сям'і свой родны абаронца быў дзядзька Ісай, які вярнуўся з мабілізацыі, а пасля пайшоў у партызанскі адрад да «Дзядзі Дзімы». Яго дома і ў партызанах Васілём звалі. Вельмі быў вясёлым шалапаем і любімцам любых гурткоў. Пасля выканання быявых заданняў часцяком са сваімі сябрамі заходзіў у госціпапарыцца ўлазні і адпачыць.

Нельга не пагадзіцца з Іосіфам Анкудзінавічам, што вёскі, у якіх стаялі партызаны, немцы чамусьці цалкам не палілі, а толькі асобныя хаты, калі ім дакладна было вядома, што гэта ці іншая сям'я мае сувязь з партызанамі. Напрыклад, Казлеўшчына 21 дом, усе ўцалелі; У Калачах з 28 дамоў было спалена 2; Бабры з 18 быў спалены 1 падворак; Барыскі 23 дамы, было спалена 7; Вяпраты 18 дамоў, было спалена 2.

Пра дзядзьку Іосіфа Анкудзінавіча, Васіля Байкова, нагадвае ў сваёй кнізе ўспамінаў былы партызан-падрыўнік і сябар Васіля, Волкаў Юрый. Вось адзін з момантаў іх партызанскага жыцця: «*Захватив взрывчатку и всё остальное, мы раздобыли подводу (в основном, из-за меня) и отправились в район Бобров. Было начало лета, уже высоко поднялась рожь, стояли тёплые дни, и мы спокойно доехали до деревни Козлевщина. Один из нашей группы Василь Байков (Исай Николаевич – погиб после партизанской эпопеи в Восточной Пруссии), молодой парень лет восемнадцати был из этой деревни, где у него осталась мать и две сестры. Он очень волновался: живы ли они после блокады. Аминев и Кузяев Захар (Захар Алижанович), оба из татар, неразлучные друзья имели в этой деревне своих подружек. Все были весьма обрадованы тем, что деревня мало пострадала, и все живы и здоровы. Двое других из нашей группы Саша Сердюк и Степан По-*

*пов (Степан Андреевич) отправились к своим знакомым в соседние деревни.*

*Меня, не имеющего близких знакомых в этой деревне, Байков пригласил к себе, и я провёл приятный вечер в его семье, более коротко познакомившись с одной из его сестёр – Федорой.*

## У пошуках татавага следа

Так, у мінулым шмат загадак і разгадаць іх на ўсе 100% наўрад ці калі ўдасца. Ды і ці патрэбна ўжо капаць усё да дробязей? І што ў выпадку можна будзе атрымаць ад таго – карысць ці шкоду?! Скончылася вайна, а ў Юзюка радасці вялікай не было. Ён вельмі сумаваў па тату і ўсё дапытваў сваю матулю, калі ўжо ён вернецца? Алена Канстанцінаўна і сама ўсю вайну жыла надзеяй, што вось-вось адклікнецца яе Анкудзін, а ён усё маўчаў. І вось аднойчы не вытрымала і пайшла сама шукаць звесткі пра мужа. Звярнулася да тых, з кім ён адправіўся на вайну яшчэ ў самыя першыя ваенныя дні. Апытанкі прывялі яе да чалавека, які быццам бы з ім сустракаўся. «Жыў той чалавек ці то ў Янушкавічах, ці то ў Сліжане, па прозвішчу, здаецца, Цынкевіч, – няўпэўнена кажа Іосіф Анкудзінавіч. – Вось ён і расказаў матулі, як яны ў 41-ым мабілізаваныя з усёй акругі доўгай калонай ішлі на Мінск для адпраўкі на фронт. Распавёў, як немцы разбамбілі ўшчэнт вакзал у Мінску, ітыя, хто застаўся ў жывых, падзяліўшыся на зямляцкія групоўкі, рушылі дадому. Да-



Байкоў Анкудзін Мікалаевіч з жонкай Аленай Канстанцінаўнай (Мурашка).

біраліся некалькі тыдняў, туляючыся па лясах і балотах, бо вакол ва ўсю ўжо гаспадарылі немцы.

Рухацца вымушаны былі толькі ўвечары, калі пачынала шарэць да цемры ды на досвітку ў прыцемках. Астатні дзённы час сутак праводзілі ў небяспечным месцы. Доўгія летнія дні цягнуліся, як стагоддзі. І каб як-небудзь падагнаць час, кожны дзяліўся сваімі прадваеннымі ўспамінамі і, галоўным чынам, першых дзён вайны. У групоўцы Цынкевіча было чалавек 35 рознаўзроставых мужыкоў ды хлопцаўз розных навакольных Янушкавічам вёсак: Жабічаў, Дашак, Панышоў, Крамянца, Лоўцавічаў і Карпавічаў з суседняга тады Іллянскага раёна (зараз Вілейскі) і іншых. Кожны па-свойму распавядаў, як і з якім цяжкім каменем на сэрцы пакідаў сваю сям’ю на волю лёсу. Хваляванні ў кожнага былі індывідуальна розныя, бо мабілізацыя праводзілася паўсюль аднолькава, у вялікай спешцы і няўпэўненасці. Кагосьці папярэдзілі 23 чэрвеня з вечара, а кагосьці, увогуле, толькі назаўтра. Ганцы, разасланыя наперад па шляху руху калоны, давалі жыхарам на зборы некалькі хвілін і загадвалі ў пэўным месцы далучацца да ўсіх. Зараз ад тых калон засталіся толькі ўспаміны. Шмат хто загінуў на чыгуначным вакзале пад нямецкімі бомбамі. А тым, хто толькі зазірнуў смерці ў твар, зараз хацелася хутчэй дабрацца дадому ў надзеі застаць сваіх родных жывымі. Але іх мары абарваліся непадалёку ад Дзяніскаў, калі іх групоўка нечакана натыкнулася на нямецкі патруль.

Больш за дзясятак да зубоў узброеным нямецкім аўтаматчыкам бяззбройная група мужыкоў няздольна была даць адпор. Немцы, даведаўшыся хто такія, выдзелілі з групы 6 сталых мужыкоў, загадалі ім: «komnahaus». А ўсіх астатніх пагналі ў бок Гайны. З Гайны патрапілі ў Мінск, а з Мінска цягніком – на Гомель. З гомельска-

га лагера ўдалося збегчыразам з чалавекам не вельмі гаваркім, але кемлівым, сур'ёзным і смелым. Паўгода яны прабіваліся ўжо на ўсход, за лінію фронта. І толькі па выхадзе да сваіх Цынкевічу стала вядома з кім ён збег з гомельскага лагера. Напарнік аказаўся не толькі малодшым камандзірам-чырвонаармейцам, але нават і земляком. Толькі вось прозвішча яго не паспеў даведацца, іх расфарміравалі ў розныя падраздзяленні і больш яны не бачыліся. Толькі па апісанню Алены Канстанцінаўны тым маўчуном быў менавіта Анкудзін Мікалаевіч Байкоў, тата Іосіфа Анкудзінавіча.»

Але давайце вернемся крышку назад і больш падрабязна даведаемся, пра што разважалі героі гэтага апавядання падчас дзённых прывалаў, на шляху дадому з палаючага Мінскага вакзала. Паспрабуем з улікам расповядаў старажылаў уявіць сабе, як і што адбывалася ў самыя першыя дні вайны. Цынкевіч у сваіх успамінах нагадваў, што сярод іх групоўкі былі мабілізаваны і з недалёкіх ад іх Лоўцавічаў.

Я сам з гэтых мясцін, і ў маладосці нядрэнна ведаў удзельнікаў вайны. Бо кожны раз з вялікай зацікаўленасцю і захапленнем слухаў іх расповяды. Сёння вельмі шкадую, што не запісваў, не вёў дзённіка. Спадзяваўся на моцную памяць маладзёна, не задумываючыся над тым, што гады могуць сцёрці шмат чаго. Так яно і здарылася. Цяжка зараз згадаць імёны і прозвішчы людзей з кім гутарыў. Але хоць самыя галоўныя, якія складаюць асноўныя эпізоды з іх жыцця, у памяці ўсё ж захаваліся.

# ЛОЎЦАВІЧЫ




Пасля вандроўкі па Лагойшчыне, па былому далёкаму савецкаму замежжу, я накіраваўся таксама ўжо ў былыя ўсходнія польскія крэсы, на Вілейшчыну. З усходніх памежных Трусавічаў праз чатыры вярсты я зрабіў прыпынак ужо на другім баку колішняй савецка-польскай мяжы ў вёсцы Лоўцавічы, з надзеяй сустрэць хоць аднаго сталага яе жыхара з-за польскага часу народзінаў. Але, на вялікі жаль, гэтая вёска стабільна хуткімі тэмпамі, страчваючы апошніх сваіх карэнных жыхароў, падыходзіць да фінішу бесперспектыўнай.

Лоўцавічы ўжо неўзабаве скончаць сваё існаванне як вёска, пераўтварыўшыся ў паселішча лецішчаў. На вясковай вуліцы ўсё ж сустрэўз цыгаркамі ў зубах і на падпітку, на першы погляд, далёка пенсійнага ўзросту пару. Яны прадставілася карэннымі жыхарамі, Барыс і Марыя – муж і жонка. Я ў іх запытаў, ці вядома ім што-небудзь пра падзеі мінулай вайны і ці ёсць, акрамя іх, яшчэ ў вёсцы старажылы? Фармулёўка майго звароту ў гэтай пары выклікала гучны смех. Я запытаў: «А што такога смешнага вы заўважылі ў маім пытанні?» Спадар Барыс на мой зварот да іх з здзіўленнем адказаў мне пытаннем: «Чалавек, хіба вы не бачыце, хто перад вамі? Як мы можам памятаць пра вайну, калі мы далёка пасляваенныя ды і да пенсіі нам дажыць яшчэ патрэбна!»

Мне раптам стала крыху не па сабе, і я нейкі час ў разгубленнасці неведаў, як выправіцца ад сваёй «няўважлівасці» і «бесталенавітасці» вызначаць узрост чалавека на першы погляд. Але, доўга не думаючы, у сваё апраўданнея таксама адказаў пытаннем, якое першым прыйшло ў галаву, толькі дадаўшы папраўку да раней сказанага: «А ў люстэрка вы не заглядалікольні вам год? Я ўбачыўтое, што ўбачыў, бо на выгляд вам па год 80, а апынулася... Прабачце». Але мае субяседнікі не пакрыўдзіліся на маю ўзроставызначальную «памылковасць». А, наадварот, правялі мяне да падворка, які служыць лецішчам 84ох гадовай жыхаркі горада Мінска, але з тутэйшых, Горбач (Рак) Марыі Канстанцінаўны.

Нарадзілася Марыя Канстанцінаўна ў 1934 годзе яшчэ пры польскім панаванні ў гэтай жа вёсцы і ў гэтай жа хаце, пакінутай ёй у спадчыну ад бацькоў. І яна нядрэнна дапамагла мне ў адраджэнні гістарычнай памяці. Лоўцавічы-гэта яе бацькаўшчына, бо адсюль ідуць яе карані і карані яе продкаў. Хата будавалася ў сярэдзіне 20х гадоў мінулага стагоддзя. Яна адна з нешматлікіх у вёсцы, якая цудам уцалела падчас Другой сусветнай вайны. Немцы некалькі разоў бамбілі Лоўцавічы, але цалкам так і не разбілі. Бо разрыўныя бомбы немцы амаль не скідалі, больш запальныя. Польскі час не вельмі памятае. А вось савецкае вызваленне з-пад панскай Польшчы, ваеннае ліхалецце ды калектывізацыя ў памяці засталіся на ўсё жыццё.

Сям'я Ракаў, у параўнанні з аднавяскоўцамі, была невялікай. Гаспадар Канстанцін Сцяпанавіч, гаспадыня Вольга і двое дзетак, дачка Марыя і сын Аляксандр. Затое, зноў жа ў параўнанні з іншымі вяскоўцамі, Ракі былі самымі заможнымі, бо мелі 5 гектараў воранай зямлі, якая перайшла ў спадчыну ад дзеда, Рака Сцяпана. Для яе апрацоўкі ў гаспадарцы быў конь, уся збруя да яго і прычап-

ныя «механізмы» ад калёс да бараны. Мелася свая малатарня і зернячыстка, якую ў гэтых мясцінах чамусьці называлі «арфай». Гаспадарка таксама была не зусім слабая. Трымалі кароўку, авечак каля дзясятка, свінаматку ды парсюкоў з паўдзясятка, не лічачы ўжо курэй ды качак з індыкамі. Бо патрэбны былі грошы на вялікія падаткі ў польскую казну. Таму воўну прадавалі Чарвякоўскаму вальшчыку Спірыдовічу Аляксандру (Волісю) альбо вазілі жыдам у Ракаў. А сала з мясам закупляла для сваёй знакамітай кілбаснай хаценчыцкая пані Высоцкая.

Жылі не ў вялікай раскошы, але і не зусім дрэнна. Усе астатнія землі ў наваколлі, акрамя 100 гектарнага фальварка Веркаўлянскага пана Серлюкевіча, належылі роду Багдановічаў. На гэтай зямлі атрымоўвалі 25ці гектарныя надзелы асаднікі, былыя польскія жаўнеры. Іх фальваркі месціліся непадалёку ад саміх Лоўцавічаў. Гэта былі паны Клекут, Кашчэўскі, Шуба, Лаўрыновіч і іншыя, якіх Марыя Канстанцінаўна запомніла як нядрэнных гаспадароў і працадаўцаў. Паны самі працавалі і ў полі, і ў лесе кожны дзень ад першых петухоў і да самага змяркання, але іншы раз нанімалі на працу вясковых парабкаў, даючы ім магчымасць падзарабіць на існаванне. Бо вяскоўцы, галоўным чынам, былі амаль усе беззямельнымі. У аднаго толькі Веркаўлянскага пана Серлюкевіча гаспадарка штосьці дрэнна вялася. Таму ён у 20х гадах прадаў сваю зямлю Сенько Феадосію (з Алёхнавічаў) і Казакевічу Яну (з Івонцавічаў).

### *З нецярпеннем чакалі справядлівай улады*

Набліжаўся 1939 год. Уся вёска з нецярпеннем чакала прыходу чырвонага войска і новай «справядлівай» улады, пра якую так шмат і прыгожа распавядалі савецкія лазутчыкі. А вось польскім асаднікам было на душы цяжка і боязна ад такіх надыходзячых змен. Бо яны добра разу-

мелі і ведалі, што такое бальшавізм. За некалькі дзён да 17 верасня 1939 года ўсе этнічныя палякі разам з польскімі памежнікамі сышлі дзесьці на Захад, пакінуўшы ўсё што было імі нажыта тут за 15 год іх аседлівасці. Вось і наступіў нарэшце для вяскоўцаў-заходнікаў доўгачаканы дзень вызвалення ад польскага прыгнёту, пра які яны пасля не адзін раз пашкадуюць. Сыход паноў для вясковага сялянства спачатку было сапраўдным святам узбагацення за лік іншых, бо ўсе адразу кінуліся рабаваць панскія фальваркі. Расцягвалі ўсё, што толькі магчыма было пацягнуць, не цураліся нічым. А ўжо на наступны дзень прыйшлі саветы. Таго, хто з беднаты за польскім часам нічога не меў, новая ўлада ўзнагародзіла каровай, каму парася перапала, з ліку экспрапрыіраваных у больш заможных сялян. Беззямельных надзялілі па 0,8 га зямлі.

Чакаў гэтага дня і Рак Канстанцін з вялікай надзеяй на лягчэйшае жыццё. Але, як кажуць у народзе, усё пазнаецца ў параўнанні. Спадзяванне на меншае падаткаабкладанне, на адраджэнне роднай мовы знікла адразу ж па прыходу саветаў. Усе надзеі цалкам развaліліся, як картачны дамок, пасля таго як бальшавікі сваёй прадразверсткай пазбавілі іх каня, чатырох парсюкоў і шмат збожжа, пакінуўшы толькі семяннoе зерне. Гаспадарка пачала сыходзіць на не. Ужо праз паўгода замест абяцанага бальшавікамі савецкага раю, насельніцтва атрымала поўнае разачараванне ва ў новай уладзе. Разачараванне атрымала не толькі заможнае сялянства, якое пачало падвяргацца ганенню з боку саветаў і іх прыстасаванцаў, але і вясковая бедната. Людзям было да болю крыўдна не па сваёй волі аддаваць сваю жыўнасцьды паліты потам вырашчаны ўраджай.

Акрамя паўсямеснай прадразвёрсткі, распачаліся вышукі «польскіх шпіёнаў» сярод сялян. Адразу ж у полі зроку НКУС трапілі сем'і Грынкевіча Кузьмы і Бохана Аляксандра. За польскім часам яны, як і Рак Сцяпан, утрымлівалі нядрэнныя гаспадаркі. Але ў 37ым, паддаўшыся шпіёнскай бальшавіцкай прапагандзе, яны падаліся ў савецкую «справядлівую» рабоча-сялянскую краіну за лепшай доляй. Хоць савецка-польская мяжа і пралягала непадалёку, за Лоўцавічамі, усяго ў паўтары вярсты на ўсход, пра іх лёс з-за мяжы не было ніякіх звестак доўгія тры гады. Усё прасвятлілася ўлетку 40га, як у Лоўцавічы ў гэтыя сем'і завіталі НКУСаўцы са спісам сем'яў «ворагаў народа» польскіх «шпіёнаў». Чэкісты зачыталі Грынкевічам і Боханам вытрымкі з прыгавораў на іх сямейных гаспадароў і загадалі падрыхтавацца да дэпартацыі на Поўнач Расеі. Вось гэтыя вытрымкі:

**ГРЫНКЕВІЧ Кузьма Адамавіч,** *1910 г. н. в. Лоўцавічы. Арыштаваны 24.08.1937 г. Асуджаны як агент Польскай разведкі 17.12.1937 г. Прыгавор-вышэйшая мера пакарання. Расстраляны 27.12.1937 г. у г. Мінску. Рэабілітаваны 18.05.1959 г.*

**БОХАН Аляксандр Міхайлавіч,** *1915 г. н. в. Лоўцавічы. Арыштаваны 07.07.1937 г., асуджаны як агент Польскай разведкі 10.10.1937 г. Прыгавор-вышэйшая мера пакарання. Расстраляны 29.11.1937 г. у г. Мінску. Рэабілітаваны 12.01.1995.*

Лёс вось гэтых сваіх аднавяскоўцаў мог раздзяліць і Рак Сцяпан, каб тады ў 37ым пагадзіўся разам з імі ісці за мяжу ў пошуках савецкага «раю». Пасля распачатых арыштаў не толькі ў памежных вёсках, але і ў далейшых, у насельніцтва да сфармаванага ўжо раней разчараванння да савецкай улады, дадаўся яшчэ і паўсядзённы страх

перад ёй. Страх у пастаянным чаканні магчымага начнога гулу чорнага варанка каля свайго падворка і грукату ў дзверы асабістаў у малінавых фуражках. «Ворагам народа» мог апынуцца ў той час любы, на каго кіўне прыспасабленец у сваім даносе. А такія меліся ў кожнай вёсцы. Грынкевічаў і Боханаў так і не паспелі дэпартаваць, бо наступіў 41 год, які прынёс чарговыя іспыты сялянству.

### *Мабілізацыя*

На наступны дзень пасля пачатку вайны, з самай раніцы 23 чэрвеня, у Лоўцавічах з'явіўся савецкі ваенны. Ён паведаміў, што распачалася савецка-нямецкая вайна. У сувязі з гэтым яму даручана ўладай аб'явіць усеагульную мабілізацыю. Па гэтаму ён загадвае дарослым мужыкам хутка збірацца, бо 24 га, пасля поўдня, усе павінны прыбыць на зборны пункт у Карпавічы. Дзявацца не было куды, і мужыкі пачалі рыхтавацца на сустрэчу са смерцю не па сваёй волі. Так, спрадвеку кожныя чарговыя «вызваленцы», якія няволілі нашых продкаў, выкарыстоўвалі іхяк гарматнае мяса то ў казакі, то ў рэкруты, то ў жаўнеры, то ў белыя ды чырвоныя, а зараз у савецкае войска.

Назаўтра, калі мужыкі пачалі ўсядацца на падводы, каб рушыць да месца прызначэння, з боку Карпавіч паказаліся машыны і падводы з людзьмі, сярод якіх былі і ваенныя. Калона, якая пад'ехала да Лоўцавіч, не прыпыняючыся, працягнула свой рух у накірунку былой савецка-польскай мяжы, на Жабічы. Убачыўшы групу мужыкоў з рэчавымі мяшкамі за плячыма, ваенны (са зборнага пункту на калёсах) прама на хаду загадаў ім далучацца да калоны. Праз тыдзень, калі ў Лоўцавічах ужо гаспадарылі немцы, мабілізаваныя вяскоўцы амаль усе вярнуліся дадому. А чаму..? Абставіны для іх скла́ліся так, што

калі іх калона дабралася ў Мінск на чыгуначны вакзал, то адразу з марша распачалася адгрузка па вагонах мабілізаваных мінчукоў і вяскоўцаў, якія сабраліся тут.

Станцыя была забітая паравозамі і вагонамі. Паміж ваеннымі ішла размова, што эшалоны павінны былі накіравацца кудысьці пад Смаленск. Калі адгрузка была ў самым разгары, і некаторыя цягнікі ўжо пачалі адыходзіць у зададзеным накірунку, раптам на станцыю наляцелі нямецкія самалёты. Усё вакол заграхатала, запалыхала, зямля захадзіла хадуном! У паветра, як мячыкі, пачалі ўзлятаць вагоны-цяплушкі з людзьмі і ваеннай тэхнікай! Крык і енк параненых даводзіў да бяспамяцтва. З вагонаў людзі разбягаліся ва ўсе бакі, як мага далей ад станцыі-пекла. А бомбы сыпаліся ўсё і сыпаліся, забіраючы тысячы жыццяў.

Бамбаванне сваё немцы падмацоўвалі яшчэ і кулямётнымі чэргамі. Зрасходаваўшы ўвесь свой боезапас, фашысты беспакарана зляцелі. Пасля фашысцкага налёту ўся станцыя выглядала яквогненнае поле, а чыгуначныя пуці быццам бы хтосьці ўзвярнуў вялічэзным плугам. Уся тэрыторыя станцыі за нейкіх 20 хвілін ператварылася ў палыхаючую вялізную звалку перакуленых паравозаў



з вагонамі і параскіданымі скурожанымі чыгуначнымі рэльсамі ды шпаламі.

Прайшло ладня часу, пакуль з’явіліся першыя санітары, каб дапамагчы параненым. Услед пачалі збірацца людзі, якія засталіся ў жывых з разбітых эшалонаў. У ваенных спачатку была спроба распачаць ліквідацыю наступстваў бамбавання. Але аднекуль прыйшоў загад: усіх, хто ўцалеў, пастроілі і маршам адправілі ў бок Барысава. Не паспелі выйсці з Мінска, як зноў на пешую доўгую калону наляцелі фашысцкія самалёты. Зноў пасыпаліся бомбы і кулямётныя чэргі на няўзброеных мабілізаваных мужыкоў.

Лоўцавічскія мужыкі намагаліся трымацца адзін аднаго. Ім пашчасціла на станцыі застацца амаль што ўсім у жывых, бо да бамбавання не паспелі пагрузіцца ў вагоны. І ў калоне ішлі таксама згуртаваўшыся. Падчас чарговага нямецкага налёту ўжо на пешую калону, нашы вяскоўцы першымі рванулі да нейкага будынку. І там перасядзелі бамбаванне. Пасля яго вырашылі не вылазіць на паверхню, бо ўбачылі ўсцеленую забітымі людзьмі вуліцу, па якой толькі што маршыравала калона. Усе зразумелі, калі зноў вернуцца назад, то толькі на сваю пагібель. Перасядзеўшы ў нейкім падвале да вечара, вяскоўцы ўзялі накірунак дадому. Дабіраліся лесам, каб менш трапляць на вочы савецкім ваенным, якія адступалі. А за Паперняй, на дарогах, ужо з’явіліся немецкія танкі і калоны аўтамототэхнікі з вайскоўцамі. Сваіх невялікіх змучаных ваенных груповак ужо не баяліся, бо ім было не да нас. І мы, і яны, хаваючыся ад немцаў, рухаліся кожны ў сваім накірунку, яны на – Усход, а мы – на Захад. Рухаючыся дадомуляснымі сцяжынкамі, сустрэлі такіх, як самі, гаротнікаў, землякоў з Вяпрат і Казлеўшчыны. Дадому дабраліся ў пачатку ліпеня, калі вайна ўжо грамыхала дзесьці далёка на Усходзе.

Успамінае пра вайну Марыя Канстанцінаўна з неахвотай і з вялікім хваляваннем. Таму я яе і не намагаўся напружваць. Жанчына распавяла толькі пра тое, што ў яе дзіцячую памяць урэзалася на ўсё жыццё. Пра даваенны час і пачатак вайны памятае толькі ўрыўкамі і ведае пра той перыяд, у большасці сваёй, толькі па расказах маці. «Тату, – кажа старая, – як саветы ўсіх вяскоўцаў мабілізоўвалі, тоне закранулі, бо выйшаў з ваеннаабавязаных.»

### *Хоць страціў руку, але дом выратаваў*

А вось як у сярдзіне вайны тату яе асколак ад нямецкай бомбы руку скалечыў, запомнілася вельмі добра. Перад вачыма і сёння яшчэ стаіць постаць таты з акрываўленай рукой, якаявісела на адной скуры. Гэта было для маленькай Марылькіжудасным відовішчам. Тата, сцёкшы крывёй, ужо пачынаў губляць прытомнасць. Але маці з суседкай не разгубіліся, каб спыніць кроў, яны перацiснулі вяроўкай і перавязалі чым маглі яго параненую руку, тым самым і выратавалі тату жыццё.

У вёсцы стаялі партызаны і сярод іх быў доктар-хірург Гладкі Аляксандр (Шуркам клікалі). Агледзеўшы рану, ён катэгарычна настоіў на ампутацыі рукі, дадаўшы, што аперацыю прыйдзецца рабіць на жывую, бо няма ніякай замарозкі. Калі не хоча страціць жыццё, павінен цярпець. Пасля ампутацыі, рана вельмі марудна гаілася. Як казаў доктар, гэта з-за таго, што асколак ад запальнай бомбы ўтрымліваў хімічныя рэчывы. Для лячэння выкарыстоўвалі, галоўным чынам, народныя сродкі, бо медыцынскія прэпараты не дапамагалі. Але паціху-паціху тата неяк акрыяў.

У 44ым савецкая армія прагнала фашыстаў. Мужыкоў, якія ў пачатку вайны вярнуліся з разбамбаванага Мінска

дахаты, ды падросшую за час вайны моладзь мабілізавалі зноў у савецкае войска. На гэты раз вяскоўцы, лічы, што без вайсковай падрыхтоўкі ўжо трапілі на фронт ды на самыя складаныя ўчасткі, пад Леяпай ды Кенігсберг. Шмат хто з іх там жа і згінуў альбо прапаў без вестак. Пасля перамогі дахаты вярнуліся нямногія.

Наступілі мірныя дні. Усе ўзяліся за адраджэнне страчаных падворкаў і гаспадаркі падчас ваеннага ліхалецця. У Лоўцавічах засталіся ўцалелымі толькі лічаныя хаты. Таму, амаль што ўсім, прыйшлося адбудоўвацца наноў. Вялікі дом Марыі Канстанцінаўны, пабудаваны яшчэ за польскім часам яе татам, Канстацінам Сцяпанавічам, уцалеў коштам яго рукі. Атрымаў ён тое раненне якраз, ратуючы дом ад запальных фашысцкіх бомбаў. Незадоўга пасля перамогі Канстанцін Сцяпанавіч памёр. Сказалася раненне.

Сям'я, страціўшы ўсю жыўнасць, зямлю і самога гаспадара, хочаш-нехочаш, а вымушана была падацца ў калгас, каб працаваць за калгасную «валюту»-працадні, бо яны давалі палёгку ў падаткаабкладанні. А яшчэ Сям'я Рака Сцяпанады і ўсе калгаснікі маглі пакарыстацца паслугамі сваіх жа ўласных коней, якіх савецкая ўлада ў іх экспрапрыіравала разам з «лішняй» зямлёй, пакінуўшы ўсім роўныя надзелы толькі 60 сотак. Працаваць даводзілася не пакладаючы рук з самага ранку і да змяркання на калгасных палетках за працадні. А на сваю гаспадарку часу не хапала, за якую яшчэ і немалыя падаткі патрэбна было плаціць. Пажыўшы колькі год пры калгаснай «вольніцы», сяляне не адзін раз параўноўвалі яе з давызваленчым жыццём і з настальгіяй успаміналі паноў Клекута з Кашчэўскім, ды Шубу з Лаўрыновічам. Але каб выжыць і не патрапіць у няміласць старшыні (а гэта быў бог мясцовы) вымушаны былі маўчаць і працаваць.

Марыя Канстанцінаўна, скончыўшы Карпавіцкую сямігодку, пабралася шлюбам з аднавяскоўцам Горбачам. І адразу з’ехалі на працу ў Літву. Пражыўшы 12 гадоў у Літве, вярнуліся на Радзіму і ўладкаваліся на трактарны завод, на якім адпрацавалі ўсё жыццё да самай пенсіі. Пасля смерці мужа Марыя Канстанцінаўна пакінула мінскую кватэру дзецям і ўнукам, а сама перабралася ў Лоўцавічы, у бацькоўскую хату, у якой мы і сустрэліся. З мужам яны выхавалі і выправілі ў людзі траіх дзетак, якія падарылі ім многа ўнукаў і праўнукаў.

Як толькі я не ўгаворваў Марыю Кастанцінаўну сфатаграфавацца для будучай маёй кнігі, яна наадрэз адмовілася, спасылаючыся на сваю звычайную асобу і што яе жыццёвы лёс нічым знакавым не адрозніваецца ад іншых людзей яе веку. Не, шаноўная Марыя Канстанцінаўна, Ваша сціпласць і Вашжыццёвы лёс заслугоўвае ўвагі, спагады і вялікай павагі. Не давядзі Божа каму-небудзь прайсці праз такія выпрабаванні і пакуты, якія закранулі Вас і Вашых родных. На развітанне Марыя Канстанцінаўна параіла мне наведаць яе аднавяскоўку Анцук (Бутрык) Аліну Антонаўну 1936 года нараджэння. Што я з вялікім задавальненнем і зрабіў.

### *Лунініц Дубаў*

Аліна Антонаўна сама з суседняй вёскі Будзькі, а ў Лоўцавічы перабралася пасля смерці мужа 10 год таму. Аб гэтым паклапаціліся дзеці і ўнукі, прадаўшы ў апусцелай вёсцы бацькоўскую хату і купіўшы ёй другую ў больш «цывілізацыйных» Лоўцавічах. Бабулька апынулася не вельмі гаваркая. На пытанні адказвала больш: «А каму гэта патрэбна, каго гэта хвалюе, была малой не памятаю».


Анцук (Бутрык) Аліна

Я цудоўна разумеў і бачыў па субяседніцы, што ёй не толькі няма ахвоты адказваць, але яшчэ і боязна. Мне нават цяжка ўявіць, праз што ёй прыйшлося прайсці і якіх страхаў нацярпецца, калі нават праз 80 год той страх не адышоў у мінулае. Але паціху мне ўдалося неяк увайсці ў давер да старой і крыху яе разгаварыць. І яна распавяла пра самыя жудасныя і незабыўныя моманты свайго жыцця.

Яна распачала з успамінаў пра свайго тату, Бутрыка Антона Фадзеевіча. Нарадзіўся ён у тых самых Будзьках. З іх пайшоў у Маладзечна на службу жаўнерам у Войска Польскае. Пасля службы ў 1933 годзе ажаніўся з цудоўнай і працавітай дзяўчынай са Старынак Маскалевіч Кацярынай Емельянаўнай 1903 года нараджэння. А калі распачалася вайна Сталіна з Гітлерам, у першыя дні быў мабілізаваны на фронт, але ён іх абагнаў, і Антон Фадзеевіч разам з іншымі землякамі вымушаны быў ў хуткім часе вярнуцца назад дадому. Але дома доўга не затрымаўся. Дзесьці праз месяц на вёску наляцелі немцы і ўсіх, працаздольную моладзь і мужыкоў, у тым ліку і тату Аліны Антонаўны забралі ў Германію на работу.

Антон Фадзеевіч усю вайну адпрацаваў у нямецкіх шахтах па дабычы вуглю. Пры кожным спуску ў падзямел-

ле маліў Бога, каб той дапамог яму вярнуцца на паверхню. Бо згінуць на вялізнай глыбіні вельмі баяўся. І Бог чуў яго малітвы, праз чатыры гады Антон Фадзеевіч, схуднелы і змардаваны, вярнуўся жывым у свае Будзькі. А пакуль ён катаржнічаў у германскіх варожых шахтах, яго сям'я ў Будзьках трывала здзекі і пакуты ад сваіх мясцовых «абаронцаў». «Вёску днём наведвалі немцы і паліцаі і выграбалі ўсё, што заўважаць, а партызаны, якія стаялі ў Манылах, уначы праводзілі харчнарыхтоўкі», – кажа Аліна Антонаўна.

Вельмі ўпёкся адзін з іх, якога звалі Дубаў. Гад быў самы адпеты. Доўгі час кожны адвячорак прыходзіў у хату, патрабаваў гарэлку і, пагражаючы аўтаматам, усё дапытваўся: «Дзе партызаны?» Маці яму адказвала: «Ты ж сам партызан, а ў нас дапытваешся, дзе яны? Адкуль жа нам можа быць вядома пра іх?» І гэтак працягвалася да той пары, пакуль да нашай цёткі, якая жыла разам з намі, не прыжаніўся партызан з тых самых Маныл Іван Шытаў. Вельмі добры і спагадлівы чалавек, які абараняў нас да самага вызвалення. З паяўленнем у нашай сям'і Івана Шытава, не толькі той Дубаў, але і іншыя да хаты больш не падыходзілі. У адрозненні ад іншых вяскоўцаў, у нас захаваліся нават дзве каровы. Як мне стала вядома з кнігі «Латыгальскі летапіс» майго земляка і краязнаўцы Плавінскага А. С., той манылаўскі Дубаў, не інакш як партызан з сумнавядомай партызанскай брыгады «Штурмавая». Якая ваявала не толькі з фашыстамі, але і з мірным насельніцтвам.

Вось дакументальны факт адносна Дубава: «*В ночь на 20 декабря 1943 года на мельницу, принадлежащую отряду «За Советскую Белоруссию» бригады имени Фрунзе в местечке Хотенчицы, приехали партизаны отряда имени Жукова бригады «Штурмовая» во главе со старшиной*

*роты Фёдором Дубовым и комендантом деревни Ловцевичи. Все члены отряда были сильно пьяные. Вооруженные четырьмя пулеметами, они окружили мельницу. Причиной подобного «наезда» послужил отказ мельника за несколько часов до этого случая провести помол зерна луницам вне очереди. Ворвавшись на мельницу, те стали хулиганить, затем сняли пасс (передаточный ремень, без которого остановилась работа мельницы) и уехали.*

*Вооруженный ночной грабеж, совершенный партизанами на мельнице, по меркам того времени являлся «преступлением, граничащим с вылазкой классово враждебных элементов, стремящихся скомпрометировать партизан, поссорить их между собой, вызвать недовольство населения к партизанам, что безусловно выгодно врагу».*

*В очередной раз, 26 декабря 1943 года, полковник Жукович предупредил комбрига Лунина, что «за все чинимые Вами безобразия, мародерства, неправильные взаимоотношения с населением, Вы лично понесете ответственность», и предложил «пасс немедленно возвратить на мельницу. Принять меры к грабителям и впредь не допускать подобных явлений [45]».*

«Пасля вайны гэты Дубаў ажаніўся з мясцовай жанчынай і з’ехаў у Мінск», – кажа Аліна Антонаўна. Але неяк пры сустрэчы з яе маці, Кацярынай Емельянаўнай, Дубаў выказаў ёй сваё шкадаванне не ў тым, што здзяйсняў супраць сям’і Бутрыка падчас вайны, а ў тым што не пастраляў іх. А што яму, афіцыйнаму партызану, тады можна было адказаць? А нічога!


Бутрык Антон і Кацярына

Антон Фадзеевіч больш года адыходзіў ад фашысцкага лагеру. У Вязыні адвучыўся на трактарыста і працаваў у Карпавічах. Пасля ўспамінаў пра яго, мне стала зразумелым адкуль так добра знаёма прозвішча БУТРЫК. Таму што ў 70-ых гадах мінулага стагоддзя, мы часцяком сустракаліся на працоўным фронце. Я таксама па маладосці працаваў у суседнім Лукаўцы. Мы з зацікаўленасцю слухалі аповяды Антона Фадзеевіча, высокага, моцнага і сур'ёзнага чалавека. Ён расказваў пра свой складаны і трагічны лёс, пра лагерныя пакуты, пра суматошную і неэфектыўную мабілізацыю ў РСЧА ў пачатку вайны, пра што я ўжо агучваў вышэй.

Пакідаючы Лоўцавічы, я ўзяў накірунак на Карпавічы. Але праехаўшы вярсты са дзве, я заўважыў указальнік «ВЕРКАЎЛЯНЫ». Мяне штосьці стрымала і я вырашыў завітаць да падворкаў гэтай маленькай вёсачкі.

# ВЕРКАЎЛЯНЫ

Паселішча Веркаўляны нельга назваць вёскай, але і да хутарскога статусу аднесці яго таксама немагчыма. Гэта адміністрацыйная адзінка як для вёскі-малая, а як для хутара – вялікая, бо налічвае зараз, як у першым выпадку- толькі, а ў другім – ажно чатыры падворкі. Знаходзіцца яно, як ехаць з Карпавіч на Лоўцавічы, акурат паміж дзвюмя невялікімі вёсачкамі Шашокамі і Бацюжына. Як сама назва, так і само паселішча вельмі прываблівае сваёй загадкавасцю. Размешчаны Веркаўляны наўзвышшы, крыху воддаль, ад жвіровай дарогі. Вакол паселішча спрадвеку і не так даўно, пару дзясяткаў гадоў, палеткі засяваліся збажыной, саджалася бульба, ды хваляваліся марской сінявой ільняныя пасевы. Зараз на іх гаспадарыць матухна-прырода, засяваючы ўраджайныя палі дзікай расліннасцю. Яшчэ ад дарогі, з першага позірку на фон паселішча, нейкая невядомая сіла прымушае думкамі пагружацца ў мінулае. Алея векавых ліп і таполяў, скручаны за шматлікія дзесяцігоддзі старадаўні сад, журавель, які цудам захаваўся ў доле, каля ручая. Здаецца, што нават само паветра тут наскрозь прапітана гісторыяй. Усё ўбачанае прымушае з хваляваннем біцца сэрцу, а думкам, якія закручваюцца з рэактыўнай хуткасцю ў галаве, вярнуцца ў далёкае мінулае.



Я ішоў да першага добраўпарадкаванага падворка без усялякай надзеі атрымаць хоць якія-небудзь звесткі пра мінулае. Упэўненнасці не было, але невядомая сіла ўсё адно цягнула мяне да тых векавых ліп і таполяў. Яны то адназначна памятаюць усё, якія і з якога накірунку праз іх галіны дзьмулі вятры, у тым ліку варожыя ды палітычныя. Каб дрэвы ўмелі размаўляць, колькі б яны нам расказалі?

Позірк і думкі з алеі я перавёў на падворак, на якім у тым старадаўнім, але дагледжаным і яшчэ пладаносным садзе стаіць з паўсотні пчаліных карнікоў, воддаль садовая тэхніка, іншамаркі сярэдняга класу, гуляючая дзетвара і дапенсійнага ўзросту гаспадары нагадвалі, што гэта звычайнае лецішча гаражанаў і што мае намаганні абернуцца мне марнай тратай часу. Але надзея памірае апошняй, і я аптымістычна рушыў наперад да сваёй мэты, да гаспадароў лецішча. Тое, што яны мне паведамілі, для мяне было не тое што вялікай нечаканасцю, а вельмі прыемнай і каштоўнай знаходкай. Высветлілася, што гэта іх бацькоўскі дом, і ў цяперашні момант тут пражывае сама гаспадыня, Сенько Тамара Васільеўна 1933 г. н. Для мяне, як для краязнаўцы, гэта навіна была вялікім гістарычным скарбам! Гэты выпадак цалкам адпавядае пагаворцы: «СВЕТ ЦЕСНЫ». А чаму так? Даведаемся крыху пазней, распачаўшы ўсё па парадку.

Дык вось... Я звярнуўся да Тамары Васільеўны з просьбай расказаць па магчымасці ўсё, што ёй вядома, усё што захавала яе памяць пра мінулае. Нягледзячы на ўзрост Тамара Васільеўна адчувае сябе ў добрым стане і без усялякіх абмежаванняў пагадзілася распавясці не толькі пра свой лёс і родных, але згадаць і пра іншых каго ведала, з кім сябравала і кавалак хлеба дзяліла ў цяжкія і жудасныя часіны.

## *Куляшы з Куляшоў*

Нарадзілася Сенько (дзявоцкае Кулеш) Тамара Васільеўна ў 1933 годзе пры Польшчы за 7 вёрст ад Веркаўлянаў, на другі бок Карпавічаў, у вёсцы Куляшы. Назву вёска хутчэй за ўсё атрымала ад прозвішчаў яе жыхароў Куляшоў, якіх было ў вёсцы пераважная колькасць. Сям'я Тамары Васільеўны была шматдзетнай, але і самай заможнай сярод сялянства. Яе дзед Якаў Кулеш са сваім братам Адамам у XIX стагоддзі ў Куляшах валодалі сумеснай спадчынай 20цю гектарным кавалкам зямлі (у тым ліку 2 гектарамі лесу). Адама не вельмі цягнула да зямлі. Таму ён у 1917 годзе пасля ўзброенага перавароту ў Расеі, прадаўшы сваю долю зямлі брату Якаву, з сям'ёй з'ехаў за «лёгкім» хлебам дзесьці на поўнач ужо бальшавіцкай Расеі. Пасля чаго сувязь з ім абарвалася назаўжды. З удвая павялічанай гаспадаркайстарому Якаву было ўжо не пад сілу спраўляцца, і таму ён перадаў усю зямлю свайму адзінаму сыну Васілю. У Якава былі яшчэ і дзве дачкі, Сцепаніда і Настасся, але ў той час зямля ў спадчыну перадавалася толькі мужчынскай палове. У Васіля сям'я разрасталася і да 1933 года бацькі мелі васьмярых дзетак. Гэта: Марыя – 1907 г. н., Александра – 1910 г. н., Алена – 1912 г. н., Мікалай – 1915 г. н., Канстанцін – 1919 г. н., Клаўдзея – 1923 г. н., Соф'я – 1925 г. н. і Тамара – 1933 г. н.



СЕНЬКО(КУЛЕШ) ТАМАРА ВАСІЛЕЎНА

Тата, Васіль Якаўлевіч – 1882 г. н. , быў фізічна вельмі моцным працавітым, кемлівым і руплівым гаспадаром.

У сям'і лежабокаў не было. Галавой сям'і ўсё размяркоўваласятак, каб кожны займаўся менавіта тым, у чым меў большыя здольнасці. Пагэтаму і гаспадарка ніколі не была ў заняпадзе. Але каб апрацаваць 20 гектараў зямлі, адных працавітых рук і руплівасці было недастаткова. Таму ў гаспадарцы мелася трайная конская цяга, а да яе і ўсе неабходныя прылады. Апошнім часам Васіль набыў у Вільні нават конскую касілку, жняярку ды малатарню. Каб пракарміць такую вялікую сям'ю, патрэбна было мець і вялікую гаспадарку. Жыўнасці трымалі нямала: тры каровы, цёлкі, парсюкі, авечкі і, безумоўна ж, куры з гусямі ды індыкі ў дадатак. Куляшы ўмелі не толькі працаваць, але і адпачываць таксама, бо былі набожнымі. Сам Васіль пастаянна знаходзіў час, каб папрыслужваць у Хаценчыцкай царкве, у якой часта ладзілі розныя фэсты, куды з'язджаліся вернікі з усёй акругі. Падобных урачыстасцей не мінала і знакамітая далёка за межамі свайго наваколля сям'я цесляроў з Пляшчан Карповіча Сямёна.

Неяк аднойчы ў Хаценчыцах на фэсце Сямён Карповіч заўважыў вельмі прыгожую маладзіцу, якая спявала ў царкоўным хоры. Ён пацікавіўся у свайго сябра Васіля з Куляшоў: «Хто яна такая і з чыіх будзе?» Васіль з усмешкай спытаў: «А што ты так цікавішся, стары хрыч, на маладых пацягнулаці што? А той у адказ: «Ды не балбачы пустога! Яна мне як нявестка прыглянулася. Спявае вельмі цудоўна, думецца, што і да працы не менш здольная». А Васіль



**ЦАРКВА, ХАЦЕНЧЫЦЫ**

і кажа: «Дык гэта ж мая дачушка старэйшая, Марылечка. «А колькі ж іх у цябе?» – Сямён пытае. «Не хвалюйся, – кажа той, – на ўсіх жаніхоў пляшчанскіх хопіць!» Сямён і заяўляе: «Ну калі такі выбар вялікі, праз тыдзень сватоў чакай. Каб дочкі твае ў дзеўках не заседзіліся, Івана свайго сватаць прывязу. Гэта, канешне, калі згодзен прыняць гасцей, каб параднііцца? «Ну, а чаму б і не? Прыязджайце!» – адказаў Васіль.

Васіль з Сямёнам даўно сябравалі. Аб'ядноўвала іх працавітасць ды сябар агульны, пасаломшчык Хаценчыцкай царквы Сцяпан Ляшкевіч. Ляшкевіч быў асобай неардэнарнай, з вялікай дабрынёй душэўнай і чулым сэрцам да ўсіх прыхажан. Як я ўжо казаў вышэй, Васіль прыслужваў у царкве, а Сямён дапамагаў ёй па цяслярнай справе.

Як і было дамоўлена, праз тыдзень Сямён Карповіч прывёз свайго сына Івана ў сваты да дачкі Куляша Васіля, Марылькі. Сватаўство распачалося і мела працяг згодна ўсіх нацыянальных і мясцовых традыцый. Але калі дайшла справа да агледзінаў, то на выбар маладому замест адной, маці завяла ў святліцу ажно трох прыбраных сваіх дачок, якія ўжо былі на выданні. Для сватоў такі паварот сватаўства быў вялікай прыемнай нечаканасцю. У гасцей, уражаных трайной прыгажосцю, ад разгубленасці разбягаліся вочы, бо ўсе маладзіцы не саступалі адна другой. Але выбар усёж прыпаў на Марыю. Пасля вяселля Марыя, забраўшы свой пасаг, пераехала ў Пляшчаны да Івана.

Вось так з вялікай радасцю і надзеяй на лепшую будучыню ў 1927 годзе параднііліся дзве працавітыя сялянскія сям'і, з Куляшоў-Куляша Васіля, і з Пляшчан-Карповіча Сямёна. Маладыя абзаводзіліся дзеткамі. Аляксандр знайшоўся ў 1928ым, Зінаіда ў 1929ым, Яўгенія ў 1934ым. З двухбаковай дапамогай пабудаваліся, абзавяліся гаспадаркай. Іван з Марыяй былі вельмі ўдзячныя бацькам за

дапамогу і таксама іх ніколі не цураліся. Калі бацькам патрэбна было ў чым-небудзь падсабіць, маладыя свае справы кідалі на пасля і ішлі на дапамогу сваім родным. Жылі без сямейных спрэчак, у моцным узаемным каханні паміж сабой, марылі і спадзяваліся на лепшую будучыню сваю і сваіх нашчадкаў. Але верасень 1939 года ўнёс свае карэктыроўкі, першыя негатыўныя іспыты ў іх асабістае жыццё і жыццё ўсёй Заходняй Беларусі.

Па законах новай савецкай народнай улады, калі ў кагосьці з сялян было 10га зямлі, то тыя лічыліся КУЛАКАМІ (ворагамі народа) і падлягалі раскулачванню. А ў бацькі Марыі, Васіля Куляша, было 20га. Таму ён падпадаў пад першачарговае раскулачванне, а ўся сям'я пад дэпартацыю ў Сібір. Але Бог Куляшоў, мабыць, абярагаў ад раскулачвання, хоць і чакалі амаль два гады кожную ночку «чорнага крумкача». Магчыма дапамагло яшчэ і тое, што брат Тамары Васільеўны Канстанцін у 1940 годзе пайшоў добраахвотнікам служыць у Чырвоную Армію. Бо за ўвесь даваенны час, акрамя экспрэпрыяцыі двух кароў і абкладаннем вялізнымі падаткамі ў выглядзе харчразвёрсткі, ніякіх патрабаванняў да сям'і саветы не прад'яўлялі. Уся 20 гектарная зямля, хоць і не была ўжо ва ўласнасці Куляшоў, але заставалася ў поўным іх карыстанні.

### *Вайна згуртавала*

Распачатая вайна з немцамі прынесла самыя страшныя іспыты для ўсіх без выключэння. Настаў такі час, што жах было жыць, а яшчэ большы быў жах памерці. Бо кожны не так пра сябе, як больш пра сваіх дзетак ды родных хваляваўся, перажываючы, што без яго яны згінуць. Вайна паставіла ўсіх у адно роўнае становішча, якое прымусіла людзей згуртавацца, каб выжыць. Але ўсё ад-

но ніхто не мог прадбачыць, што яго чакае не тое што заўтра, а нават праз хвіліну-другую.

Адразу пасля пачатку вайны ў Хаценчыцах немцы пачалі ствараць ваенны гарнізон. Для будоўлі яго ўмацаванняў немцы скарыстоўвалі савецкіх ваенапалонных, якіх часова да адпраўкі ўтрымлівалі ў недабудаваным Хаценчыцкім касцёле. Туды таксама з навакольных вёсак зганялі і мужыкоў. Івана Карповіча як ужо адзінага ў акрузе цесляра-спецыяліста, бо бацькі яго, Сямёна Карповіча, не стала яшчэ ў 39ым годзе, першым забралі на будоўлю дзотаў, матэрыял для якіх немцы загадалі скарыстоўваць з недабудаванага касцёла. Савецкіх ваеннапалонных, утрыманцаў з яго, камандзіраў і камуністаў (11 чалавек) фашысты расстралялі дзесьці пад Мардасамі, а радавых рассялілі ў бліжэйшых вёсках. Старэйшым і адказным за будоўлюбыў прызначаны Карповіч-малодшы Іван. Гэта супрацьвольнае прызначэнне для Івана і яго жонкі Марыі праз паўтара года скончыцца вельмі трагічна.

Пасля пабудовы дзотаў і 25 метровага падземнага пераходу, які звязваў адзін дзот з кулямётнай кропкай, уста-



ляванай на царкоўнай званіцы, сялян адпусцілі па дамах. А ваеннапалонных чырвонаармейцаў немцы ўжо мелі намер адправіць у Раёўку на перавалку. Але ўмяшаўся ў гэта пасаломшчык Сцяпан Ляшкевіч, былы афіцэр царскай арміі, які цудоўна валодаў нямецкай мовай і таму быў прызначаны немцамі перакладчыкам. Ляшкевіч, нейкім чынам, угаварыў нямецкае камандаванне не адпраўляць палонных у лагер, а пакінуць тут ў зоне гарнізона. Матывацыя была такая: недахоп працаўнікоў у вёсках, што можа негатыўна сказацца на ўборку ўраджаю, а значыць і на збожжанарыхтоўку для нямецкай арміі. Немцы прынялі прапанову да ведама, і ў хуткім часе прыйшоў загад «прыпісаць» палонных у вёсках з кожнадзённай адметкай у камендатуры. Гэта ў пасаломшчыка Хаценчыцкай царквы Сцяпана Ляшкевіча быў першы дабрачынны ўчынак па выратаванню савецкіх людзей ад лагера. Але ў адначассе гэты ўчынак, на вялікі жаль, меў трагічны працяг. Бо адзін з выратаваных полонных чырвонаармейцаў за сваё вызваленне Ляшкевічу аддзячыў чорнай падзякай, стаўшы забойцам сям'і яго лепшых сяброў, не выключэнне, што і самога Ляшкевіча Сцяпана.

Прозвішча забойцы Белік Іван, 26 гадовы былы радавы чырвонаармеец. Родам з Алтайскага краю, адукацыя ніжэйшая, у палон здаўся ў пачатку восені 41га. Хаценчыцкай камендатурай быў «прыпісаны» ў вёсцы Заельнікі да Грынкевіча Івана. Вясной 1942 года з іншымі «прыпіснымі» ваенапалонны місышлі ў лес і ўліліся ў сумнавядомы партызанскі атрад «Штурм» Барыса Луніна. З цягам часу гэты атрад разросся да брыгады «Штурмавая», якая хоць і ваявала нядрэнна з фашыстамі, але наскрозь была прапітаная анархізмам. Пачынаючы з яе камандзіра Луніна Барыса і заканчваючы радавым партызанам, у брыгадзе квітнела пастаяннае п'янства, раз-

бэшчанасць, рабаванні, гвалт жанчын і дзяўчат, незаконныя і беспадстаўныя забойствы мірнага насельніцтва, у тым ліку малалетніх дзетак і нават немаўлят, вымушала людзей пакідаць свае хаты і шукаць паратунку ў сваіх родных бліжэй да нямецкіх гарнізонаў. У падкантрольных Лунінцамі вёсках заставаліся толькі лічаныя жыхары, якім не было да каго падацца.

### *Факты сведчаць*

Вілейскі краязнаўца ПЛАВІНСКІ Аляксандр у сваёй кнізе «ЛАТЫГАЛЬСКІ ЛЕТАПІС» прыводзіць шмат архіўна-дакументальных фактаў пра «геройскія» ўчынкі партызанскай брыгады «Штурмавая», здзейсненыя імі на Вілейшчыне. Частку якіх зараз і працытую: *«Для охраны населения и проведения хозяйственных заготовок, «наведения революционного порядка в районе и изжития творящегося произвола со стороны отдельных партизан, для лучших взаимоотношений между населением и партизанами» постановлениями РК КП(б)Б с лета 1943 года в приказном порядке стали закреплять за партизанскими отрядами и бригадами территории бывших сельсоветов*[36]*. Однако подобные постановления не всегда беспрекословно выполнялись партизанами.*




*Об этом указывалось в приказе, адресованном командиру и комиссару бригады «Штурмовая»: «...Партизанами Вашей бригады производятся заготовки продуктов и фуража в деревнях Ильянского района. К тому же*

*имеют место случаи грубого отношения к крестьянам. Данная практика отнюдь не отвечает интересам партизанского движения и нарушает постановление ЦК КП(б)Б от 14 августа 1943 года, запрещающее насильственно проводить заготовку продуктов и фуража у крестьян.*

*Приказываю: прекратить проводить какие бы то не было заготовки в Ильянском районе без ведома и разрешения Ильянского РК КП(б)Б и командования бригады, дислоцирующейся в данном районе и несущей ответственность за хозяйственно-политическое состояние[37]».*

*Но столь строгий и категорический запрет был проигнорирован в очередной раз, как и предыдущие распоряжения. И сделано это было не единожды. В материалах расследования, проведенного начальником особого отдела партизанской бригады имени Фрунзе во всех подробностях описан вопиющий эпизод взаимоотношения партизан отряда имени Жукова бригады «Штурмовая» с местными крестьянами: «В воскресенье вечером 10-го октября 1943 года в деревне Ледвени к гражданину Владыко Павлу Алексеевичу зашел в дом в нетрезвом виде бывший комендант имения Заборье партизан отряда им. Жукова Цветков Николай, который обратился к гражданину Владыко: «Я тебе давал овес!?» Владыко ответил: «Да, спасибо!» «Так что же твой сын, бежавший из полиции, ушел в другой партизанский отряд!?» И после этих слов начал избивать гражданина Владыко плетью, вырезанной из покрышки автомашины. После чего достал из-за пояса немецкую гранату и продолжил свою зверскую пытку над гражданином Владыко, пытаясь ударять его по груди. Владыко П. стал защищаться от ударов рукой и плечом. Тогда Цветков ударил его гранатой по левому уху, последний потерял равновесие*

*и упал. В это время в квартиру зашел другой партизан того же отряда и обратился к Цветкову: «Зачем ты избиваешь старика?» Цветков достал наган поставил ему в лоб и сказал: «Если не будешь делать так, как я, то сейчас пущу тебе пулю в лоб!» И после этой сцены они уже вдвоем начали избивать ногами лежавшего на полу гражданина Владыко, который от этой пытки потерял всякое сознание.*

*При моем прибытии на место побоища установлено: кровать, стенки, пол и одежда гражданина Владыко были залиты кровью, у самого гражданина Владыко имеются на груди кровоподтеки, а на лице и голове засохшие пятна крови, на что прилагаю медицинское свидетельство.*

*Цветков Николай озверел до такой степени, что не мог уже успокоиться от бешенной бандитской истерики, в которую впал. Бросил свою первую жертву, выбежал на улицу и стал искать себе новые жертвы. Ему везет. Попался под руку Владыко Иосиф Семенович, которого он один раз ударил плетью по голове и наградил ударом кулака по лицу. Бросил эту жертву, нашел себе следующую. Он встретил гражданина той же деревни Курец Николая Григорьевича, которого ударил рукояткой нагана по голове, эту сцену видели гр-н деревни Ледвени Михаленок Иосиф и гр-ка деревни Карповичи Гребенок Мария*[38].

*В рапорте начальника разведки бригады имени Фрунзе Румянцев писал, что гражданину Владыко Павлу (1894 г. р. ) – отцу бригадного разведчика Владыко Сашки – необходимо оказать первую помощь, тяжелые у него раны на голове... Деревня вся разбежалась кто куда, страшно боятся Лунинцев (так, по имени командира бригады, называли бойцов бригады «Штурмовая»). Тов. Трацевский, прошу в просьбе не отказать, в деревне Ледвени творятся мерзости и непорядки*[39]*».*

*На основании распоряжения ЦК КП(б)Б и штаба партизанского движения Вилейского обкома КП(б)Б было отдано приказание определить другое место дислокации отряда подполковника Руденко в Ильянском районе, в деревне Ловцевичи. Командиру бригады имени Фрунзе, секретарю РК КП(б)Б поручали открепить все деревни Ильянского района от бригады «Штурмовая» и закрепить их за отрядами, действующими в данном районе. Постановлением Ильянского РК КП(б)Б от 24 ноября 1943 года ряд деревень Ильянского района, которые были закреплены за бригадой «Штурмовая», передали отряду имени Котовского ввиду того, что указанный отряд переведен в Вилейскую область[40]. Подполковник Руденко полностью отвечал за все мероприятия, проводившиеся по этим деревням, и постановку политмассовой работы среди населения[41].*

*Но и это решение не возымело действия. Луницы, как и другие партизаны, продолжали игнорировать указания партии и областного командования.*

*Поскольку большинство партизанских отрядов Вилейской области на ранних этапах их формирования состояло из пришлого населения Восточной Беларуси и спецгрупп, перешедших линию фронта, то ЦК КП(б)Б обращал особое внимание на вопросы налаживания правильного взаимоотношения с местным населением. Но некоторые партизанские отряды производили заготовку продуктов «административным путем, грубо нарушая указания партии и правительства». Выявлялись факты неправильного отношения отдельных партизан к населению, мародерства, пьянства, избиения крестьян, хулиганства и воровства.*

*Таких примеров немало: «13 ноября 1943 года в д. Выгор забрали весь скот – более 40 голов[42].*

*16 ноября 1943 года партизаны из бригады «Штурмовая» в количестве 4 человек под командованием старшего Распутина Михаила, будучи на мельнице в Хотенчицах заехали в д. Загорани, где в первом доме покушали и пошли по другим домам с требованием: давай масло, сметану и самогон. Зайдя в дом к гражданину Дик Ивану Ануфриевичу, Распутин подошел к хозяйке и, угрожая автоматом, требовал масла и сметаны. Хозяйка ответила, что масла нет и накормила всех четверых жаренным мясом кролика. Поев мясо, Распутин обругал хозяйку, бросил в нее тарелку с костями и разбил хозяйке лицо до крови.*

*6 декабря 1943 года группа партизан из отряда Котовского (бригады Народных Мстителей) налетела в д. Залесье, Соколий Угол и начала забирать у погорельцев последних коров. Несмотря на просьбы крестьян о том, что они и так пострадали от фашистских варваров, остались без крова, никакие просьбы не остановили зарвавшихся мародеров, они набрасывались как звери на народ и избивали их прикладами.*

*11 декабря 1943 года партизаны под руководством старшины 2-й роты отряда Захарова бригады «Штурмовая» в д. Понятичи насильно забрали у крестьян последних коров. Когда в 2-х км от деревни одна корова оборвала повод и ушла, партизаны открыли огонь и пристрелили ее, бросив на дороге.*

*Партизаны 1-ой роты того же отряда в д. Бережек насильно забрали последних коров у крестьян. При изъятии коров издевались над крестьянами, затыкали соломой рты и избивали.*

*С 15 на 16 декабря 1943 года группа партизан из отряда Котовского (бригада Народных Мстителей) ворвалась в д. Владыки, из-под замка взяла у гражданина Панковича овцу, когда хозяин вышел на шум, его хотели застрелить...»*

## *Забойствы і катаванні*

У працяг спасылак спадара Плавінскага Тамара Васільеўна дадае свае ўспаміны, напоўненыя трагізмам, і якія маюць непасрэдныя дачыненні да «Штурмавой». Калі пасля чарговай блакады яны ўсёй сям'ёй вярталіся ў Куляшы са сваіх схованак з зачарнянскага ляснога масіву «Калюгі», то разам з імівярталася і сям'я Марыі, старэйшай сястры спадарыні Тамары Васільеўны.

У Хаценчыцах Марыя са сваім мужам Іванам папрасілі дзеда Васіля дазволіць сваім дзеткам Аляксандру, Зінаідзе і Яўгеніі з тыдзень пажыць у іх. Спаслаўшыся на моцную занятасць, Марыя з Іванам, мабыць, ужо прадчувалі штосьці нядобрае, бо на развітанне моцна абнялі і пацалавалі сваіх дзетак, наказаўшы, каб тыя слухаліся бабулю з дзядулем. Іван напаследак звярнуўся да цесця, дзеда Васіля, з паведамленнем, каб той на ўсякі выпадак ведаў, дзе закапана іх дабро. Пасля чаго сям'я Куляшоў рушыла на Куляшы, а Іван з Марыяй, азірнуўшыся некалькі разоў услед сваім родным, падаліся на Пляшчаны. Больш іх жывымі родныя не ўбачылі, бо на наступны дзень Іван з Марыяй прынялі лютую смерць ад паплеч-



нікаў асабіста партызанскай брыгады «Штурмавая» Беліка Івана. Сам ён не рашыўся прымаць непасрэдны ўдзел у расправе гэтай сям'і, таму што яна яго неаднаразова карміла, апранала ды абагравала. Мабыць, у той час быў цвярозы і нейкая маленечкая кропелька сумленнасці стрымала крывавага ката ад удзелу ў забойстве нявінных. Забойцы, каб даведацца ў Карповічаў, дзе яны хаваюць сваё дабро, вельмі моцна іх катавалі. У Івана былі пазрываныя спазногці на нагах, а ў Марыі павырываныя валасы на галаве. Пра іх забойства родныя даведаліся толькі праз тыдзень. Івана і Марыю хавалі патаемна, таму што забойцы забараняялі хаваць тых, каго лічылі «здраднікамі»!

Падобнае практыкавалася ў фашыстаў, яны таксама забараняялі здымаць павешаных партызанаў да тае пары, пакуль тыя не пачыналі ствараць бяспеку акружаючым. Пасля пахаванняў дзед Васіль, забраўшы ўнукаў і дабро, не знойдзенае забойцамі ў адной яме, паехалі ў Куляшы падалей ад страшэннага месца.

У Куляшы партызаны наведваліся радзей, затое немцы і паліцаі не давалі расслабляцца. Прыходзілася хавацца ад немцаў і паліцаяў у лесе, а ад партызан-лунінцаў – у полі. Немцы баяліся лесу, а партызаны – адкрытай мясцовасці. «Неяк аднаго ранку, – кажа Тамара Васільеўна, – тата выявіў, што адна са схованак з дабром абрабаваная. Міхаіл, старэйшы брат Тамары Васільеўны, каля абрабаванай ямы заўважыў конскі след злодзеяў. Не адкладваючы, на сваю бядуадразу рушыў па свежых слядах. Сляды давялі да Дубавога і там ужо згубіліся, бо былі наўмысна здратаваныя. Але гэта Міхаілу не перашко-



дзіла здагадацца, хто рабаўнікі іхняга дабра. Усё паказвала на Лунінцаў альбо іх памагатых, якія не былі для ўсіх сакрэтам. Міхаіл, канешне, не стрымаў эмоцый і выказаў прылюдна ўсё, што думаў пра гэта здарэнне. Расплата за выказанае Міхаілам незадавальненне на адрас партызан-лунінцаў не прымусіла сябе доўга чакаць.

Неўзабаве неяк апоўначы Куляшова шматдзетнае сямейства падняў на ногі моцны грукат у дзверы з катэгарычным патрабаваннем адчыніць, інакш хата будзе ўзарваная. Тата, Васіль Якаўлевіч, вымушаны быў падпарадкавацца начным візітоўцам. Праз парог перавалілі-ся трое ўзброеных вярзілаў на добрым падпітку. Начныя няпрошаныя «госці» сходу збілі з ног Міхаіла і ўсе разам пачалі катаваць, адзін – шомпалам, а двое-нагамі. І ўсё гэта адбывалася на вачах усяго безабароннага сямейства. Білі і дапытваліся, чаго Міхаіл выслежваў партызанаў? Той адказаў, што ён не партызанаў выслежваў, а шукаў рабаўнікоў іх дабра. Ад такога адказу каты яшчэ больш азвярэлі. Маці, Дар’я Сцяпанаўна, паспрабавала абараніць сына ад тых вырадкаў, але адзін з іх, даўшы доўгую чаргу ў столь з аўтамата, а пасля кулаком у твар, збіўшы старую з ног, загадаў усім замаўчаць. Па азвярэлых тварах катаў можна было меркаваць, што іх ужо нічога і ніхто не спыніць. Садысты катавалі Міхаіла да тае пары, пакуль той не страціў прытомнасць. Пасля чаго тыя звярывыцягнулі нерухомае акрываўленае цела сваёй ахвяры на вуліцу, забараніўшы родным да яго нават падыходзіць. Дзесьці праз паўгадзіну пасля сыходу тых бандытаўтата Тамары Васільеўны заўважыў, што Міхаіл паказаў прыкметы жыцця. Яго занеслі ў хату, каб адагрэць ды абмыць ад крыві. Міхаіл быў моцна пакалечаны, і выратаваць яго можна было толькі ў лякарні ажно ў Вілейцы. Паехаць туды было вялікай рызыкай, бо нямецкія патрулі маглі

расстраляць. Але выбару не было. Неабходна было ратаваць Міхаіла. Тата хуценька пайшоў запрагаць каня, каб завезці паміраючага сына да доктара.

Тамара Васільеўна дакладна не ведае як, але Васілю Якаўлевічу, нейкім чынам, удалося адвезці Міхаіла ў Вілейку, у бальніцу, і вярнуцца дадому. Быццам бы паспрыяла тое, што вёска Куляшы ў немцаў не стаяла на ўліку як партызанская. Здарылася гэта якраз перад апошняй блакадай. Калі яна пачалася, усе жыхары Куляшоў і іншых вёсак, як звычайна, зноў сышлі ў «Калюгі» свае лясныя схованкі за Зачарную. Не ведаючы таго, што пра іх ужо вядома фашыстам, бо зачарнянскія паліцэйскія(паўвёскі служыла ў немцаў) пастараліся данесці.

Перасядзеўшы некалькі дзён у лесе, жыхары пачалі заўважаць, што блакада пайшла дзесьці на ўсход, бо страляніна з кожным днём слабела і нарэшце зусім заціхла. Добраахвотная людская разведка вярнулася ў настроі, далажыўшы ўсім, што партызаны сышлі на Палік, а ў дагонку за імі і немцы. І што на дарогах, і ў вёсках – усё ціха. Толькі ў спаленай Зачарнай дзе-нідзедымяцца галавешкі. Людзі, уздыхнуўшы з палёгкай, быццам па камандзе падхапілі свае паходныя шклункі і пачалі выбірацца з лясных нетраў. Калі выйшлі на зачарнянскае поле, усіх ахапіў страх ад убачанага.

### *Замест хат, белыя камяны і доўгая дарога з няволі*

На тым месцы, дзе тыдзень таму стаяла вёска Зачарная, замест хат тырчэлі толькі белыя камяны. Да былой вёскі заставалася прайсці метраў трыста. Увесь натоўп, у некалькі соцен жыхароў з прылеглых вёсак, моўчкі, у глыбокім задуменні рушыў да яе. Калі ішлі па ўчарнеўшай вясковай вуліцы, удыхаючы паветра, напоўненае пале-

ным смуродам, не заўважылі, адкуль з’явіліся немцы. Яны нібыта з-пад зямлі нечакана вылезлі з усіх бакоў.

Паліцэйскія і немцы шчыльна акружылі ўсіх людзей. Шукалі зброю і ў адначассе раздзялілі на дзве групы: нямоглых старых і маленькіх дзетак асобна, а падлеткаў, моладзь і працаздольных – асобна. Перабраўшы ўсіх, другую пастроілі і пагналі ў бок Хаценчыцаў. А старым з маленькімі дзеткамі сказалі, што праз паўгадзіны могуць разыходзіцца па сваіх вёсках і што іх больш ніхто не зачэпіць.

«Непадалёку ад Хаценчыц, на хутары Пасечным, нас усіх загналі ў вялікі ток, – кажа Тамара Васільеўна, – усе ўжо думалі, што наступіў канец жыццю, што хутчэй за ўсё будуць паліць жыўцом. Час ішоў у страшэнным чаканні. Бліжэй да вечара дзверы адчыніліся і паліцаі загадалі першым дзесяці хлопцам выйсці. Праз некалькі хвілін гэтыя хлопцы вярнуліся ў ток з ахапкамі саломы, гэта яны паўтарылі некалькі разоў. Людзі ўявілі нядобрае, падняўся гвалт і енк. Пасыпаліся праклёны ў бок немцаў і паліцэйскіх. Паліцэйскія, пачуўшы такое, загадалі людзям замаўчаць і ўкладацца на начоўку на той самай занесенай саломе. Крыху супакоіўшыся, кожны пры сваіх разважаннях, чакаў наступнага дня ў дагадках, што ён прынясе: жыццё ці смерць у пакутах?

Раніцай стала вядома пра лёс зняволеных. Высветлілася, што ў Зачарнай яны былі адабраныя для адпраўкі на працу ў Германію. Усю калону накіравалі ў Раёўку. Адтуль грузавікамі перавезлі на чыгуначную станцыю ў Краснае. А з Краснага цягніком прама ў канцлагер на польскай тэрыторыі «Аўшніц». З вёскі Куляшы ў гэты лагер трапіла чалавек дваццаць. У тым ліку і Тамара Васільеўна з сёстрамі Клаўдзіяй і Сафіяй. А таксама пляменнікі, дзеці загінуўшай сястры Марыі – Александр, Зінаіда


Шостак Яўгенія і Раковіч Зінаіда (Карповічы).

і Яўгенія. Стрыечныя сёстры 12 гадовая Кулеш Васеліна і 22 гадовая Барбара.

У гэтым лагеры немцы праводзілі разгорнутую медкамісію зняволеных. Правяралі нават зубы і страўнік. А пасля праверкі стану здароўя, зноў жа сарціравалі на групы, для далейшай адпраўкі да прызначанага месца. Кулеш Барбара апынулася цяжарнай, таму яе і іншых, хто не прайшоў камісію, немцы адправілі цягнікам назад у Маладзечна. А сястру Сафію, якая прайшла нейкую дадатковую камісію з іншымі дзяўчатамі, немцы забралі кашаварамі на нямецкі фронт, які стаяў ужо пад Гродна. Але не даехаўшы да фронта некалькі вёрст, на аўтамабіль, на якім немцы везлі іх да месца франтавой «службы» кашаварамі, наляцелі савецкія самалёты. Дзяўчаты гэты налёт скарысталі вельмі ўдала. Яны збеглі ў лес, схаваўшыся ў ім ад немцаў. А на наступны дзень Чырвоная Армія пайшла ў наступленне і дзяўчаты, такім чынам, апынуліся ўжо на вызваленай тэрыторыі. Тамару Васільеўну з сястрой Клаўдзіяй і пляменнікамі, немцы перавезлі ў канцлагер у глыбіню Германіі пад Дрэздэн ў «Вольфан-гарадок». Не хоча ўспамінацьбылы вязень фашысцкіх лагераў, як ім прыходзілася выжываць там. Год нечалавечай цяж-

кай працыў голадзе і холадзе не давала ніякай надзеі на вызваленне і на жыццё.


Карповіч Аляксандр

Вызвалялі зняволеных з канцлагера амерыканцы, якія з самых першых дзён забяспечылі ўсіх поўным рацыёнам харчавання і больш-менш жыллёвымі ўмовамі, а яшчэ прапаноўвалі месца жыхарства ў любой краіне свету. Абяцалі адправіць усіх жадаючых туды, куды ім самім даспадобы. Шмат хто са зняволеных пажадалі не варочацца ў СССР, з'язджалі, галоўным чынам, у Амерыку.

Тамара Васільеўна і пляменнікі не сталі мяняць сваю Радзіму на іншую і цалкам адмовіліся ад амерыканскай прапановы. Аб чым пасля ўжо і шкадавалі, але было позна. Савецкае камандаванне, у адрозненні ад амерыканцаў, не вельмі спяшаліся адпраўляць з Нямеччыны на Радзіму сваіх зняволеных суайчыннікаў. Да восені жылі ў гэтым Вольфан-гарадку ў пакінутых немцамі дамах. Харчаваліся як дзе прыйдзецца, даводзілася і красці, бо голад не цётка. Вярнуліся дадому ў Куляшы толькі ўвосень.

А дома ўсіх чакалі новыя пасляваенныя іспыты. Брат Міхаіл падчас вызвалення Вілейкі ў 44ым яшчэ знаходзіўся ў Вілейскай бальніцы і цудам застаўся ў жывых, але не надоўга. У 45ым увосені памёр, катаванні лунінцаў зрабілі сваю чорную справу. Праз год, у 1946ым памёр тата, Васіль Якаўлевіч. А яшчэ праз год у 1947ым, ад сухотаў сышла ў свет іншы сястра Клаўдзія.

Брат Канстанцін, прайшоўшы праз усю вайну, з 41га і да самага пераможнага 45га, вярнуўшыся з фронту са шматлікімі ўзнагародамі, у 46ым годзе быў прымусова адпраўлены савецкай уладай на раку Волгу ў рыбалавецкую

арцель. А Аляксандра, сына загінуўшай сястры Марыі, які вярнуўся з фашысцкага лагера, таксама ў 46ым накіравалі ў Карэлію на лесанарыхтоўкі. Такім чынам, хто захаваўся ў вайну, страціліся ў мірны пасляваенны час.

Вялікая сям’я Куляшоў засталася цалкам без мужыцкай сілы, без коней і каровы. Былі толькі слабенькія дзявоцкія рукі і рукі з пакручанымі ад шматгадовай сялянскай працы пальцамі гаспадыні Дар’і Сцяпанаўны. Адна толькі напаткала радасць, знайшалася кароўка, якая прапала яшчэ пасля апошняй блакады, калі ўсе жыхары Куляшоў былі захоплены фашыстамі. Адбылося гэта выпадкова ў Лугавых. Новы яе «гаспадар» без ніякіх адмоў адразу ж вярнуў карову Дар’і Сцяпанаўне, паведаміўшы, што яна сама прыблукала ў іх вёску праз тыдзень пасля блакады. Чыя яна, ніхто не ведаў.

У 47ым саветы, арганізаваўшы калгас, пазбавілі ўсіх сялян зямлі, пакінуўшы толькі па 60 сотак. Распачалася павальная калектывізацыя:каго ўгаворамі, а каго запужваннем. Пагражаючы дэпартацыяй усім тым, хто прыпадаў пад раскулачванне, і тыя хто быў вывезены немцамі ў Германію. Прыходзілася шукаць магчымасці, каб напісаць пацвярджаючыя паперы, што не былі ў лагерах. «Працавалі, падаткі былі страшэннымі», – кажа Тамара Васільеўна. Акрамя калгаснай працы патрэбна было здаваць аброк у калгас, а гэта масла 20 кг альбо 400 літраў малака, мяса таксама кіль 30–40 і яшчэ шмат усяго. Хто не спраўляўся здаць гэты падатак, ім пагражала нават дэпартацыя. Прыходзілася выкручвацца ўсім, як хто мог.

Пасля смерці Сталіна вярнуліся дадому з Волгі брат Канстанцін і пляменнік Аляксандр – з Карэліі, які ў 1958 годзе ўсё ж быў прызнаны малалетнім вязнем фашысцкіх лагераў. Але статус гэты яму так і не ўдалося

скарыстаць, ён у хуткім часе памёр ад сухотаў. Лагернае жыццё і лесапавал добра паспрыялі гэтаму. А Тамара Васільеўна і іншыя вяскоўцы вязнямі фашысцкіх лагераў былі прызнаныя толькі ў 90х гадах мінулага стагоддзя, праз 50 год пасля перамогі.

### *Аб'яднаў аднолькавы лёс і ажаніў*

У 1955 годзе на вечарынцы ў Карпавічах Тамара Васільеўна сустрэлася ўжо са сталым хлопцам, старэйшым за яе на дзесяць год. Але не гледзячы на гэта, яны ў тым жа годзе ажаніліся. Аб'яднала іх не толькі маладосць, але яшчэ і аднолькавыя лёсы. У якіх было вельмі шмат чаго агульнага і ў большасці сваёй-трагічнага. Абодва былі з працавітых і заможных сялянскіх сем'яў. У якіх «вызваленчая» савецкая ўлада адабрала ўсё: дабро, гаспадарку і нерухомасць, якое нажывалася потам і крывёй, пераходзячы з пакалення ў пакаленне ў спадчыну нашчадкам. У абодвух гінулі родныя як падчас «вызваленчай» місіі, так і ў гады фашысцкай акупацыі.

Абраннікам Тамары Васільеўны стаў хлопец з былога 160 гектарнага фальварка пана Серлюкевіча, Сенько Аляксандр Пятровіч. Фальварак гэты ў пачатку мінулага стагоддзя перайшоў ва ўласнасць дзеду Аляксандра Пятровіча, Сенько Ігнату з Корсакаў, што каля Алёхнавіч і Казакевічу Ціхану і яго сыну Яну з Івонцавічаў.

Род Сеньковых ідзе з корсакаўскіх заможных сялян. Ігнат яшчэ маладым пры падтрымцы бацькоў узяў у арэнду 10 гектараў


СЕНЬКО АЛЯКСАНДР З ЖОНКАЙ МАРЫЯЙ (КУЛЕШ)

зямлі ў Алёхнавічах, каб зарабіць грошы на будучую ўласную гаспадарку. Працавітасць і кемлівасць за 4 гады дала станоўчыя вынікі. Атрымаўшы нядрэнныя грошы ў жывёлагадоўлі, ён цалкам разлічыўся па ўсіх рахунках. А за астатнія, удваіх з Казакевічам Янам, адкупілі земліў пана Серлюкевіча і Даманскага. Дакументы афармілі ў роўных долях, па 80га кожнаму. З таго часуда адзінага сядзібнага дома на фальваркудадаўся другі. А само месцановыя гаспадары з двухбаковай згоды пачалі называць у гонар жонкі Ігната Веркі – Веркаўлянамі. Вось гэтак узнікла новая адміністрацыйная адзінка.

Запушчаная былымі гаспадарамі сядзіба, дзякуючы працавітым рукам новых яе ўласнікаў, пачала мацнець і ўпэўнена падымацца на ногі. Разам з гаспадаркай павялічвалася і мацнела сям'я Ігната. На свет з'явіліся сыны Феадось, Пётра, Мікалай і дачка Пелагея. Жывучы ў паўсядзённых клопатах, час ляцеў хутка. Ігнат не агледзеўся, як дзеці павырасталі і, панаходзіўшы сабе жонак, пачалі будаваць свае сямейныя гнёзды.

Пасля смерці Ігната кіраўніцтва сямейнай гаспадаркай узваліў на сябе як старэйшы ў родзе Феадось. Пётра моцна хварэў, і ў сярэдзіне трыццатых гадоў яшчэ маладым памёр, пакінуўшы траіх дзяцей на жонку Агату. Але Хаценчыцкая царква, у асобе пасаломшчыка Сцяпана Ляшкевіча, узяла дзяцей Агаты пад сваю апеку. Жанчыне прыходзілася працаваць разам з усімі на немаленькай агульна-ўласнай гаспадарцы, якая на пачатку 1939 года мела кароўнік з 16ці кароў дойнага статку, 8цёлак, цялят, быка, авечак каля трох дзясяткаў, свінарнік са свінаматкай і, канешне ж, усялякую птушку. Для апрацоўкі зямлі меліся тры пары коней з усімі прыладамі, свая жняярка, малатарня, зернечыстка «арфа». Вялізны, у некалькі гектараў сад, частка якога захавалася да сённяшняга дня.

У ім стаяла сотні паўтары пчаліных карнікоў. Сёння іх там маецца некалькі дзясяткаў. Прапраўнукі Ігната Сенько, Леанід і Мікалай, працягваюць радавыя дынастыі, тым самым ушаноўваюць памяць пра сваіх продках.

Як бачым, гаспадарка ў Сенькоў да 1939 года была вельмі моцнай. Ды й суседзі-кампаньёны Казакевічы ім мала ў чым уступалі. Гэтыя гаспадаркі былі аднымі з галоўных пастаўшчыкоў малака ў Хаценчыцкую мельчарню і мяса ў знакамітую кілбасную пані Высоцкай. Воўну вазілі ў Ракаў. Мясцовыя палеткі былі вельмі прыгодныя для вырошчвання ільну, якім засявалася значная іх частка. Безумоўна, сваіх працоўных рук не хапала, таму вымушаны былі наймаць працаўнікоў. А жадаючых папрацаваць у Сенькоў ды Казакевічаў было шмат. Людзей вабіў добры заробак і паважлівыя адносіны з боку гаспадароў.

Наступіў 1939 год. Ужо ўлетку было зразумела, што вайна непазбежна. Бо ўжо па-нахабнаму актывізаваліся савецкія лазутчыкі-агітатары за падтрымку бальшавіцкай «вызваленчай» місіі. Якая пазбавіць заходнікаў ад польскага прыгнёту, а ў замен прынясе раўнапраўе і веру ў светлую будучыню камунізма. І патрэбна прызнацца ў тым, што сярод беззямельных лайдакоў і п’яніц ім удавалася знаходзіць немалую падтрымку. Што і дапамагло саветам пасля іх уварвання ў Заходнюю Беларусь, аператыўна(па даносах) выяўляць вялізную колькасць «ВОРАГАЎ НАРОДА».

Польскія паны і асаднікі масава пачалі з’язджаць у Польшчу, пакідаючы свае маёнткі. Бо распрадавацца ўжо не было калі, ды і жадаючых набыць іх маёмасць не было таксама. Усе намагаліся дабро і нерухомасць хоць якім чынам перавесці ў золата і каштоўнасці. Сенько і Казакевіч не вельмі хвалявалісяз разліку на тое, што яны ўсё ж беларусы-заходнікі, а не палякі-акупанты.

## *Не хваляваліся
і ў гэтым моцна памыляліся*

І яшчэ па сваёй наіўнасці паверылі ў тлумачэнні бальшавіцкіх агітатараў, што мясцовым сялянам-асобнікам нічога не пагражае. Усе з рознымі хваляваннямі чакалі немінуючых лёсавырашальных перамен.

Першага верасня 1939 года гітлераўская Германія абрушыла ўсю моц сваёй арміі на Польшчу. Нямецкая авіяцыя распачала руйнавацьпольскія гарады з паветра, а наземнае войска, змятаючы ўсё на сваім шляху, упэўнена набліжалася да Варшавы. Непадрыхтаванае польскае войска амаль без супраціву здавала пазіцыі. Для ўмацавання яго польская ўлада тэрмінова распачала мабілізацыю ваеннаабавязанага насельніцтва ўсходніх крэсаў. Пад мабілізацыю трапіў і Міхаіл Сенько, і быў накіраваны кудысьці на Заходні фронт з немцамі. Але 17 верасня саветы пад прыкрыццём, быццам бы «вызваленчай» місіі, па-бандыцку ўдарылі Войску польскаму ў спіну. Чым вельмі добра падсабілі фашыстам. Палякі адбіваліся на два фронта, але сілы былі непараўнальна слабыя, каб вытрымаць агрэсію двух крывавых монстраў.


Генерал Уладзіслаў Андэрс

29 верасня Войска польскае было разбіта ўшчэнт. Сотні тысяч польскіх жаўнераў (сярод якіх было шмат беларусаў) загінула, а хто астаўся ў жывых трапілі ў палон. Хто да фашыстаў, а хто апынуўся ў савецкіх лагерах. А палон-

ных (27 тысяч) афіцэраў Войска польскага былі знішчаны, галоўным чынам, у Смаленскай Катыні. Сенько Міхаіл быў таксама захоплены ў савецкі палон і адпраўлены ў ГУЛАГ .

У 1941ым распачалася вайна і паміж саюзнікамі, Гітлерам і Сталіным. Міхаіл з савецкага лагера патрапіў у Армію Андэрса, у складзе якой і прайшоў праз усю вайну. Прымаў удзел у баях пад знакамітым італьянскім Монтэ-Касіна, пасля вайны застаўся ў Англіі. Дамоў не вярнуўся, бо цудоўна ведаў, што яго тут чакалі зноў савецкія суды і лагеры.

Старэйшага яго брата Феадосія таксама напаткаў падобны лёс, толькі па-свойму трагічны. Калі пасля 17 верасня 1939 года заступіла ў свае правы савецкая ўлада, жыццё сялян не толькі ў Веркаўлянах, але і ў ваколіцах рэзка змянілася. Для адных прыход саветаў быў доўгачаканай і радаснай падзеяй і то ненадоўга, а для іншых, як для Сенькоў і Казакевічаўчас разачараванняў, смутку і трагізму.

Увосень і ўзімку бальшавікі іх не чапалі, рабілі толькі перапіску гаспадаркі. Але праблема ўзнікла ў збыце дабра, малака, мяса. Кілбасная пані Высоцкай спынілася, згубіўшы працаздольнасць, мельчарня таксама працавала, але з перапынкамі ў разліках. Малако пачалі перапрацоўваць у масла і тварог дома і вазіць разам з мясам на кірмашыў Радашковічы, Маладзечна, Ракаў. Падобны збыт вялікай колькасці прадукцыі без напрацоўкі стабільнага рынку збыта не прыносіў прыбытку. Таму прыйшлося адмаўляцца ад наёмных працаўнікоў і скарачаць гаспадарку. Бліжэй да вясны беззямельныя сяляне пачалі звяртацца да мясцовай новай улады са скаргамі на заможных сялян, што тыя адмаўляюць ім у працы. Саветы не маглі не скарыстаць такі момант у сваіх інтарэсах

і таму адразу ж расцанілі такія выпадкі, як кулацкі сабатаж супраць савецкай улады. Разборкі ўлады з «кулакамі», на карысць беднаты і, канешне, на сваю, не прымусілі сябе доўга чакаць.

Ужо ўвесну 1940 года савецкая ўлада наклала вета на зямлю і гаспадаркі Веркаўлянцаў, заможных сялян з Лоўцавіч і на іншых. Жыўнасць амаль уся была экспрапрэіравана. Частку кароў з веркаўлянскіх прыватных кароўнікаў перадалі бедным лайдакам, а астатніх вывезлі ў калгасы за былую савецка-польскую мяжу, на ўсход. Наколькі былі дакладнымі звесткі невядома. Але існавала меркаванне, што кароўкі Сенькоў і Казакевічаў былі перагнаны ў Бабры, што на Лагойшчыне, у арганізаваны там калгас прыезджымі з Расеі стараверамі.

Акрамя таго, што гаспадаркі Сенько і Казакевіча былі цалкам зруйнаваныя, іх гаспадароў саветы абклалі вялічэзнымі падаткамі. Адпрацаваць савецкі аброк не хапала чалавечай моцы. Апошняя надзея на вяртанне з савецкага палону дадому Міхаіла знікла пад восень 1940 года. Ад яго прыйшоў ліст напісаны з дарогі ў ГУЛАГ, у якім ён паведамляў, што яго асудзілі на 8 год, за шпіёнскую дзейнасць на карысць польскай разведкі. Гэты ліст ад яго пасля мабілізацыі быў другім і апошнім на доўгія гады. Першы ён даслаў яшчэ з Лідскага лагера ваенапалонных у лістападзе 1939 г. І як кажуць у народзе: «Адна бяда не ходзіць, яна за сабой іншыя водзіць!»

Неяк у сярэдзіне восені, надвячоркам, у Веркаўляны прыехалі оперупаўнаважаныя НКУС і арыштавалі апошняга дарослага мужыка ў гаспадарцы Феадосія Сенько. Феадось быў таксама асуджаны да 10ці гадоў лагераў, як раскулачанага «кулака» не выплаціўшага падаткі. Як яго склаўся лагерны лёс і як ён вырваўся на волю, Тамары Васільеўне невядома. І сам Феадось не меў вялікіх маг-

чымасцяў распавядаць усе падрабязнасці. Вядома толькі, што, як распачалася вайна паміж Гітлерам і Сталіным, ён як былы жаўнер тэрміновай службы ў Войску польскім з лагера трапіў у Армію генерала Андэрса. Там сустрэўся з братам Міхаілам і разам праваявалі ў складзе гэтай арміі на розных франтах да пераможнага 1945 года. Пасля дэмабілізацыіна Радзіму вярнуцца не рызыкнулі. Міхаіл застаўся ў Англіі, а Феадось з'ехаў у Амерыку, у якой і пражыў усё сваё доўгае жыццё, не забываючы сваіх родных. Пры любой магчымасці дасылаў шмат падарункаў і грошы таксама.

Пасля арышту Феадосія галавой сямейства стала будучая свякроў Тамары Васільеўны Агата, жонка памерлага Пётры. Апякунства Агатавай сям'і пасаломшчыкам Хаценчыцкай царквы Сцяпанам Ляшкевічам з прыходам бальшавікоў значна аслабела. Бо царква пачала страчваць сваіх прыхаджан. Гэтаму адчувальна паспрыяла бальшавіцкая ідэялогія, якая прапагандавала ганебнае стаўленне да святынь і веруючых. Зіму так-сяк пражылі без наездаў НКУСаўцаў. Але радавацца доўга не прыйшлося. У пачатку вясны ўсіх веркаўлянцаў папярэдзілі,



каб рыхтаваліся да перасялення ў Паўночную частку СССР. Сенько і Казакевічы гэта паведамленне ўспрынялі не інакш як дзікунскім сном! Гэта навіна хутка разляцелася па наваколлі. Сярод іх знаёмых адны ставіліся са спагадай, а іншыя зларадНічалі. Даходзіла нават і да кашчунства і звышнахабнасці.

Аднойчы, пачуўшы пра дэпартацыю нашых герояў апавядання, да іх прыйшоў з суседняй вёскі адзін такі нахабнік і пытаецца ў Агаты: «Слухай, Агатка, мне сельсавет дазволіў забраць у цябе адну кароўку. Якую б ты мне параіла, каб малака больш мець і з большай тлустасцю?» Агата ледзь стрымалася ад пачутага. Але хутка, знайшоўшыся, адказала: «Пачакай, даражэнькі Ігнаська, толькі што адну якраз падаіла ды самую тлустую, быццам бы ведала, што ты завітаеш. Пачакай, зараз малачко паспрабаваць прынясу. «І пайшла ў кароўнік. А там, начэрпаўшы паўдайніцы жыжы з-пад каровы, хуценька вярнулася назад да «экспрапрыятара». І нічога не кажучы знянацку тую дайніцу з жыжой адзела нахабніку на галаву. Ігнаська, пасмакаваўшы «малачка», хуценька збег з падворка, каб не атрымаць яшчэ і па баках ад ужо падросшых Агаціных хлопцаў. З тае пары да яго мянушка «жыжа ед» на ўсё яго жыццё прыляпілася. Пагэтаму вяскоўцы смяяліся з яго яшчэ доўгі час пасля вайны.

Кожны дзень праходзіў у трывозе і чаканні невядомага наступнага дня. Скончыўся красавік, а іх ніхто не чапае і не прыязджае. Розныя думкі разрывалі галовы. А можа дэпартацыю адмяніліды забыліся паведаміць? Наступіў май месяц, час сяўбы, а зямля не кранутая ні ў Агаты, ні ў Казакевічаў. Сялянскія душы баляць, рукі без працы ажно выкручвае. У адных і другіх думкі галовы не пакідаюць: што рабіць? Сабраліся разам, параіліся і вырашылі. Што будзе, тое й будзе! Коні ёсць, зер-

не ёсць – будзем сеяць! Не нам дык людзям застанецца! І не памыліліся.

Так пад кожна дзённым страхам дажылі да 22га чэрвеня, калі распачалася вайна фашыстаў з саветамі. Для веркаўлянцаў з аднога боку гэты дзень быў радасны як вызваленчы ад дэпартацыі, а з другога страшны і жудасны перад распачатай невядомай вайной.

## *Невядомая вайна*

Вайну сям’я Агаты, у адрозненні ад суседзяў, перажыла без страты родных, бо самі хаваліся ў лесе. А вось хата згарэла, калі немцы зладзілі расправу над Казакевічам Ціханам і ягонай сям’ёй. Хтосьці данёс немцам, што мужык яго ўнучкі Анюты, Жук Васіль з Карпавіч, знаходзіцца ў партызанах, што і паслужыла падставай для расправы над Казакевічамі.

Васіль сышоў у партызаны ўзімку 42га і адразу знік. Не ўдавалася даведацца пра яго лёс нават ад тых партызанаў-лунінцаў, з якімі ён сышоў у лес. Іх атрад стаяў неда-




Жук Сяргей каля капліčкі свайго прадзеда,Казакевіча Ціхана,прабабкі Сцефаніды і іх сына Паўла.

лёка ў лесе за Лоўцавічамі, пад Манылямі, і таму яны былі частымі «гасцямі» ў фальварку. Іх нахабнасць, нямецкая пагроза, а яшчэ загадкавае забойства старэйшага сына гаспадара фальварка Івана, прымусіла ягоную жонку Марыльку збягаць з Веркаўлянаў. Івана хтосьці забіў пад Раёўкай, на мосце праз Шчарку, калі той ішоў абмяняць харчы на соль. Пасля гэтага Марылька са старэйшай дачкой Анютай (з жонкай зніклага Васіля) і малодшай дачкой на выданні Ірынай сышла да сваіх бацькоў у Мясату, бо туды партызаны не дабіраліся. Хаваліся ўжо толькі ад паліцаяў ды немцаў, каб не патрапіць на катаргу ў Германію. І сышлі яны з фальварка вельмі своечасова, мабыць, ім лёсам было наканавана выжыць, таму што вясной 1943 года, застаўшыхся ў Веркаўлянах іх родных Казакевіча Ціхана 1857 г. н., ягоную жонку Стэпку 1860 г. н. і хваравітага сына Паўлюка, наляцеўшая зондэркаманда, жыўцом спаліла ў іх жа хаце. Праз некалькі дзён, як блакада скончылася, у фальварку ўсё сціхла, родная дачка Ціхана Марыя і знаёмыя Казакевічаў, сабраўшы якія толькі змаглі рэшткі загінуўшых у драўляныя начоўкі, пахавалі іх там жа, на месцы гібелі. Пасля вайны ўсталявалі на іх магілцы каплічку, якая нам сёння нагадвае пра тую веркаўлянскую трагедыю.

Гэтая каплічка зараз даглядаецца ўнучкай Казакевіча Ціхана Марыяй Аляксандраўнай іяго прапраўнукамі Жук Васіліем і Сяргеем, якія пражываюць зараз там, працягваючы існаванне Веркаўлян як адміністрацыйнай адзінкі на Вілейшчыне, а яшчэ прапраўнучкай Вольгай з Мінска, якаяпабудавала тут жа сабе лецішча.

На вялікі жаль, кніга «ПАМЯЦЬ» не ўтрымлівае ніякіх звестак пра гэтых трагічна загінуўшых жыхароў Вілейшчыны з фальварка ВЕРКАЎЛЯНЫ. Гэта:

1) Казакевіч Ціхан Іванавіч 1857 г. н.

2) Казакевіч Стэпа 1860 г. н.

3) Казакевіч Іван Янавіч 1900 г. н.

4) Казакевіч Павел Янавіч 190? г. н.

5) Жук Васілі 1920 г. н.

(Дадзеныя па годзе нараджэння не зусім дакладныя).

Затое памяць людская непатухае. Яна перадаецца з пакалення ў пакаленне, ад дзяцей да ўнукаў, праўнукаў.



**Стэфаніда**

## *Марыіна шчасце і пакуты*

Марыя Аляксандраўна Сокал (Бекіш), унучка Ціхана Казакевіча, хоць і нарадзілася ўжо пасля вайны ў 1947 годзе, але распавяла мне вельмі шмат чаго цікавага пра свой род. У яе захавалася шмат дакументаў, у тым ліку на зямлю, грашовыя польскія аблігацыі, пашпарты, метрыкі і безліч фотаздымкаў яе родных, стрыечных і знаёмых яшчэ даваеннага запольскага часу.

Маці Марыі Аляксандраўны, Марыя Ціханаўна Бекіш (Казакевіч) нарадзілася ў 1910 годзе ў Івонцавічах Маладзечанскага раёна ў беднай сялянскай сям’і. Але пасля кастрычніцкага бальшавіцкага ваеннага дзяржаўнага перавароту ў Расеі яе тата, Ціхан Івананавіч Казакевіч, ужо ў сталым узросце са сваім старэйшым сынам Янам з’ехалі на заробкі ў Амерыку. У той час гэта была добрая магчымасць зарабіць грошы. Вярнуўшыся праз чатыры гады не з пустымі кішэнямі, Каза-



**Сокал(Казакевіч) Марыя(унучка Ціхана)**

кевічы разам з Сенько набылі ва ўласнасць землі Даманскага і Серлюкевіча. Пра што ўжо распавядалася вышэй.

Маладой дзяўчыне Марыі прыходзілася працаваць нараўне з дарослымі, таму што патрэбна было апрацоўваць каля 80 гектараў палеткаў. Для гэтага гаспадарка мела ўсё сваё, пачынаючы ад коней і заканчваючы апошняй навінкай тэхнікі на той час, не адстаючы ад сваіх кампаньёнаў-суседзяў. Не хапала толькі працоўных рук. Вымушаны былі карыстацца наёмнай сілай беззямельных сялян, якія ніколі не адмаўляліся ад нядрэннага падзаробку. Бо Казакевічы, акрамя платы злотымі, кожны раз абавязкова давалі сняданак і абед сялянам. Падыходзіў на падзаробкі да Казакевічаў і малады хлопец з суседніх Лоўцавічаў, Бекіш Ляксандра. Бекішы былі беззямельнымі і таму Ляксандра быў ужо пастаянным наймітам у Казакевічаў. Ён аказаўся аднагодкам дачкі гаспадара, Марыі. Таму, працуючы разам, у іх завязаліся яшчэ і сяброўскія адносіны.

Аднойчы здарылася вялікая бяда з шаснаццацігадовай Марыяй. Аднаго разу, у спякотны чэрвеньскі дзень, Марыя баранавала бульбу. Раптам у нейкі момант ці то ад сляпнёў, ці то ад пчол коні знараваліся і Марыя трапіла пад бароны. Беднай дзяўчыне барана пакалечыла нагу і руку. Доўгі час прыйшлося залечваць раны. З цягам часу раны зацягнуліся, але рука і нага ў Марыі дзейнічалі ўжо дрэнна. Пра працу на гаспадарцы ўжо не магло ісці ніякай размовы.


Ціхан

У той час пры Карпавіцкай кравецкай майстэрні адкрыўся вучэбны клас па навучанню моладзі адпаведнай прафесіі. У гэту ўстанову Ціхан Казакевіч і накіраваў сваю дачку Марыю. Праз пэўны час, атрымаўшы веды і атэстат краўчыхі, Марыя засталася працаваць у гэтай майстэрні. Марыя з Ляксандрам бачыліся рэдка і толькі мімаходам,

калі той прыходзіў у фальварак на працу. Не адзін год знаёмства ў кожнага з іх у душы паспявала штосьці большае чым звычайнае сяброўства.


Бекіш Іван,Грынкевіч і Бекіш Александр.

Стары Ціхан пільнаназіраў за маладымі, але не мог дазволіць ім мець паміж сабой больш цесныя стасункі, нягледзячы нават на працавітасць і мужчынскую самастойнасць Ляксандры. Хлопец таксама разумеў, што яго статус галечы не пасуе да заможнага падворка Казакевічаў. І каб набыць хоць якое-небудзь прыстойнае месца ў грамадстве, ён паспрабаваў выправіць становішча, паступіўшы на вайсковую памежную службу Войска польскага. Ды і ездзіць кудысьці далёка на службу не было патрэбы, бо савецка-польская мяжа пралягала якраз паўтары вярсты ад Лоўцавічаў. У 1936 годзе Ляксандра меў чын ужо капрала і быў на добрым рахунку ў свайго камандавання. Стары Казакевіч перастаў чыніць дачцэ перашкоды на сустрэчы з элегантным жаўнерам Ляксандрам. Ды і Марыя хоць прыгажосць сваю не згубіла, але гады патрабавалі ўжо абзаводзіцца сваёй сям’ёй.

У 1937 годзе закаханыя згулялі вяселле, і Марыя пераехала жыць у Лоўцавічы, у пабудаваны Ляксандрам новы дом. Жалаванне памежнікі атрымоўвалі добрае, якое давала магчымасць не толькі пражыць і пабудавацца, але і ў скарбонку адкласці. Таму разам з ім з Лоўцавічаў шмат хто з вяскоўцаў таксама служылі памежнікамі, у тым ліку і стрыечныя браты Ляксандры.

Маладыя былі на сёмым небе ад шчасця, бо ўжо былі цалкам упэўненыя, што іх ужо ніхто не раз'яднае. Марыя займалася сваёй кравецкай справай, а Ляксандра хадзіў на службу па ахове дзяржаўнай мяжы. У гэтым жа годзе на мяжы стала неспакойна, пачасціліся выпадкі яе парушэння з савецкага боку. Мелі месца і правакацыйныя дзеянні савецкіх памежнікаў.

Мяжа парушалася, галоўным чынам, перабежчыкамі з памежных вёсак. Перабягалі звычайныя сяляне і нават цэлымі сем'ямі, шукаючы на польскай тэрыторыі паратунку ад бальшавіцкіх арыштаў. Бо 37-ы быў пікам сталінскіх рэпрэсій па ўсяму СССР. Але пад выглядам калгаснікаў перабягалі і бальшавіцкія лазутчыкі з падвешанымі языкамі. Яны вельмі красамоўна агітавалі насельніцтва на барацьбу супраць польскай улады і яго панавання на беларускай зямлі. І што ў хуткім часе савецкая ўлада прынясе братам-заходнікам вызваленне ад польскага зняволення і ўсіх надзеліць бязвыплатнай зямлёй і надзейнай абаронай ад любога агрэсара.

Ляксандра чамусьці больш паверыў сталінскім агітатарам, а не сялянам-перабежчыкам. І больш таго, сам запэўніў свайго цесця Казакевіча Ціхана ў правільным курсе бальшавіцкай партыі і светлай будучыні камунізма. А сам Ляксандра, скарыстаўшы сваю службу памежніка, стаў патаемным сувязным-агентам на карысць НКУС. Ён арганізоўваў пераходы для бальшавіцкіх шпіёнаў і сам асабіста насіў за мяжу сакрэтныя ваенныя звесткі. Расчараванне ў сваіх дзеяннях прыйдзе пазней, калі наступіць час параўнання бальшавіцкіх абяцанак з рэальным жыццём. А тады ў 1939-м пасля радаснай сямейнай падзеі ў сувязі з паяўленнем першанца Аляксея, Ляксандра

чакаў яшчэ адну фантастычна цудоўную – прыход новай шмат чаго абяцанай савецкай улады. Як толькі 1верасня 1939 года фашысцкая Германія напала на Польшчу, польская ўлада распачала паўсямесную мабілізацыю мужчын ў жаўнеры Войска польскае. Патрапіў пад мабілізацыю і маладзейшы брат Ляксандра, Бекіш Пётра Віктаравіч, 1913 г. н. Ён і іншыя мабілізаваныя з ходу тэрмінова, разам з часткай мясцовых памежнікаў былі накіраваны кудысьці прама на фронт. На мяжы засталася невялікая колькасць польскіх памежнікаў.

Ляксандру стала вядома, што 16 верасня будуць здымацца на фронт і астатнія ахоўнікі мяжы. Каб не трапіць у перадыслакацыю, ён доўга не думаючы, сышоў са стражніцы ў лес да мяжы і, схаваўшыся пад вываратнем, амаль двое сутак пад ёй чакаў прыходу савецкіх вайскоўцаў. З іх прыходам Ляксандра, скінуўшы форму жаўнера, быў залічаны ў вайсковую частку РСЧА, у складзе якой з баямі вызваляў ад польскай улады Заходнюю Беларусь.

Пад Ашмянамі, страляючы ў бок польскіх вайскоўцаў, у Ляксандры былі і такія думкі: «А раптам дзесьці там яго брат Пётра? Які таксама магчыма цэліцца ў яго бок?!» Але Пётры там не было, бо ён тады ўжо ляжаў паранены ў палявым шпіталі пад Баранавічамі. Ляксандра страляў па кімсьці іншым, а той іншы страляў па ім. Над галавой ціўкалі кулі, вылі снарады. Адзін з іх разарваўся зусім блізка, амаль пад нагамі. Ляксандру завaліла моцна зямлёй. Памятае толькі, што быў моцна заціснуты. Ад невыноснага болю ўсяго цела і галавы, цал-



Бекіш(Казакевіч)М.Ц.

кам аглухшы, прасіў вайскоўцаў ратаваць альбо дастрэліць. Апамятаўся толькі праз некалькі дзён у шпіталі ажно пад Уралам. Гаварыць не мог, глухата не праходзіла, рукі трасліся так, што кубак з гарбатай утрымаць не мог, а не то што напісаць што-небудзь на паперы. Амаль паўтара года праляжаў у шпіталі. Выпісалі з поўнай камісоўкай толькі тады, як пачаў крыху чуць і размаўляць. Дахаты вярнуўся перад самай вайной, калі яго ўжо ніхто жывым і не чакаў.

Брат Пётра паранены ў лёгкае і, патрапіўшы ў нямецкі палон, таксама вярнуўся, але толькі раней. Ён і паведаміў Ляксандру, што Марыя, пасля яго сыходу з «вызваленчай» бальшавіцкай місіяй, адразу сышла ў Веркаўляны, у фальварак да бацькоў. Там яе з сынам і знайшоў Ляксандра. Паслухаўшы родных і ўбачыўшы ў якім стане апынулася ўся цясцёва гаспадарка, Ляксандра гатоў быў грызці сабе локці за сваю злачынную памылку двухгадовай даўніны, калі фанатычна паверыў бальшавіцкай хлусні пра жыццёвы «рай» пры калгасе.

### *Непрызнаныя ветэраны*

Неўзабаве наступіла вайна, якая прынесла новыя іспыты, выпрабаванні і новыя трагедыі, пра якія ўжо, галоўным чынам, апісвалася раней. Ляксандру з Марыяй і іх сям'ю падчас вайны мінула смерць, хоць і былі на валасінцы ад яе. Калі палілі бацькоў і брата Марыі, ім пашчасціла не апынуцца сярод іх, бо якраз у той дзень яна з сынам была ў Лоўцавічах у свекрыві. Хутчэй за ўсё па даносу немцы шукалі іх, але ў доме засталі толькі Ляксандру. Яго ўжо вывелі да хлява на расстрэл, але брат Пётра, які ндрэнна размаўляў па-нямецку, здолеў немцаў запэўніць, што яны не маюць ніякаіх сувязей з партызанамі. Немцы не сталі Ляксандру страляць, але хату яго і ўсю ў ёй маёмасць спалілі ўшчэнт. Пагарэлі таксама ўсе дакументы,

у тым ліку і пра агентурную сувязь з НКУС падчас службы польскім памежнікам, раненне і моцную кантузію падчас баявой «вызваленчай» місіі ў Заходняй Беларусіі, у якой прымаў самы непасрэдны ўдзел. Аляксандр Віктаравіч да канца свайго жыцця так і не дамогся іх аднаўлення, захаваўшы за сабой статус ветэрана вайны, але не прызнаны савецкай уладай. Непрызнаным ветэранам Другой сусветнай вайны застаўся і яго брат, Бекіш Пётра Віктаравіч, які ўжо ў верасні 1939 года ў форме жаўнера Войска польскага задоўга да пачатку ВАВ напоўніцу адчуў на сабе, што такое фашызм.


**Бекішы,Ал-др і Іван**

Пасля вайны веркаўлянцы, якія засталіся ў жывых, вярнуліся ў свае фальваракі, на сваю зямлю. Але ўся іх зямля, коні, тэхніка і ўсё, што належыла ім, адышло пад калгас, як і яе былыя гаспадары. Працавалі, як і ўсе сяляне, за калгасную «валюту»-працадзень. Каб апрацаваць выдзеленыя для іcнавання сям'і 60 сотак зямлі, патрэбна было ісці на паклон да старшыні, каб той дазволіў пакарыстацца адабраным уладай сваім жа канём. А калі сабраліся адбудаваць наноў спаленыя фашыстамі дамы і каб скарыстаць матэрыял з уцалелых на водшыбе сваіх свіранаў, старшыня загадаў іх выкупляць ў калгасе. А на пытанне: «А як гэта так? Ён жа наш!» А той у адказ: «А вось так! Зямля зараз калгасная? Калгасная! Значыць і ўсё, што на ёй знаходзіцца таксама належыць калгасу. У тым ліку і вы самі, а не то што нейкія там свіраны. А што ж вы думалі, шаноўныя..? Гэта вам не пры Польшчы вароты кілбасамі завязваць! Гэта калгас, даражэнькія, калгас!»

# *АД ВЕРКАЎЛЯНАЎ І ДА ДАШАК*

Пасля наведвання Веркаўлянаў я вымушаны быў зноў вяртацца на Лагойшчыну, бо туды мяне вялі сляды забойцаў-лунінцаў. Хачу толькі нагадаць шаноўным чытачам, што Веркаўляны-гэта хутар на Вілейшчыне і былая сядзіба пана Серлюкевіча, якую ён у пачатку ХХ стагоддзя прадаў Сенько Ігнату з Корсакаў (што каля Алёхнавіч) і Казакевічу Яну з Ашмяншчыны.

Самая сталая жыхарка гэтага паселішча, Сенько Тамара Васільеўна, як я ўжо казаў раней, распавяла мне вельмі многа цікавых жыццёвых момантаў з яе далёкага мінулага. Пра тое, як савецкая Расея ў 1939 годзе, захапіўшы Польскія Усходнія Крэсы, брала ўладу ў свае рукі на яе



**Журавель,напамін мінулага**

тэрыторыі. Як экспрапрыіравала ў заможных сялян кароў, авечак і іншую жыўнасць на карысць калгасаў на савецкай тэрыторыі. Таму я рушыў за былую савецка-польскую мяжу ў пошуках звестак даўно мінулых дзён.

Памежныя вёскі Лагойшчыны сёння, амаль што, нічым не адрозніваюцца ад тых, што на Вілейшчыне. Хаты ўздоўж вуліц, галоўным чынам, маюць прыстойны выгляд, таму што пабудаваныя альбо перарobленыя па розных праектах і з сучасных матэрыялаў. Будуюцца і асабнякі, але гэтыя ўжо, як правіла, узводзяцца дзесьці воддаль ад галоўнай шчыльнай забудовы і прыціскаюцца яны да якога-небудзь вадаёма альбо старадаўняга гістарычнага паркавага ансамбля з векавымі ліпамі, таполямі ці дубамі. Да прыкладуяк у Трусавіцкай паркавай зоне са штучным вадасховішчам, утвораным у даўнія часы на рэчышчы ляснога ручая. Усё гэта знаходзіцца пад Дзяржаўнай аховай і рэшткі Трусавіцкага сядзібнага маёнтка, і парк, уякім зараз будуюцца сучасныя нейчыя прыватныя палацы?!

Амаль усе вясковыя пабудовы тут выкарыстоўваюцца прыезджымі пад лецішча. Мясцовых жыхароў, а тым больш сталага ўзросту, знайсці вельмі складана. У Трусавічах я сустрэў Багданава Анатоля Аляксандравіча 1939 г. н. Спадар Анатоль карэнны жыхар Трусавічаў. Вайну памятае толькі ўрыўкамі і ведае пра яе, галоўным чынам, толькі па расказах сваёй матулі ды ад старэйшых сваіх аднавяскоўцаў. Калі распачалася вайна Анатолю Аляксандравічу было толькі два годы. Яго тату і ўсіх ваеннаабавязаных вяскоўцаў мабілізавалі ў савецкае войска на другі дзень вайны. Але дзесьці праз тыдзень большая частка мужыкоў вярнулася дахаты. Казалі, што калі яны рухаліся ў Лагойскім накірунку, то ужо недалёка ад гэтага райцэнтра іх калону разбамбілі нямецкія самалёты.



**Багланаў Анатоль Александравіч**

Шмат было загінуўшых, сярод якіх і ўсе камандзіры суправаджэння калоны. Калі налёт скончыўся, рэшткі мабілізаваных мужыкоў раздзяліліся на дзве групы. Адны пайшлі да зборнага пунктаў палаючы Лагойск, а другія, не бачачы сэнсу на рух уперад, вярнуліся дадому. Тата, спадара Анатоля не вярнуўся. Усю вайну цэлых тры гады, жывучы пад фашысцкай акупацыяй, сям'я жыла ў чаканні і надзеі, што іх тата і муж дзесьці жывы і хутка прыйдзе, каб вызваліць іх ад ворагаў і бандытаў. А ён усё не ішоў і не ішоў.

Наступіла лета 1944 года. Дзесьці з Усходу ўсё бліжэй і бліжэй даносілася кананада вайны. Разам з фронтам прыбліжаўся і дзень вызвалення і магчымая сустрэча з татам. Вось ужо ў бок Радашковічаў пацягнуліся калоны адступаючых немцаў. А ўслед за імі ваенная тэхніка савецкай арміі і пяхоты. Доўгачаканы дзень вызвалення падарункам прыйшоў у Трусавічы, а тата так і не вярнуўся.

Наступіў жнівень, час жніва, а прыбіраць няма каму, бо ў вёсцы засталіся толькі жанчыны, старыя ды дзетвара. Апошніх мужыкоў, якія яшчэ засталіся ў вёсцы пасля сумнавядомых трыццатых і ваеннага ліхалецця, забралі на фронт.

16 гадовых юнакоў адных мабілізоўвалі на размініраванне мін і розных выбуховак, а другіх як добра знаёмых з мясцовасцю папрызначалі праваднікамі да вайсковых спецатрадаў, для прачосвання лесу па выяўленню і знішчэнню блукаючых астаткаў нямецкіх фарміраванняў і паліцаяў.

Анатолю Аляксандравічу добра і на ўсё жыццё запомніўся вельмі яскравы адзін эпізод з яго жыцця, які адбыўся ўвосені 1944 года, калі адбылася ўжо неспадзяваная сустрэча са сваім татам. Караценькай, нібыта сон, але яна адбылася на самой справе. Тата спадара Анатоля пасля чарговага ранення вяртаўся ў сваю часць дзесьці ў Прыбалтыцы. З дазволу камандавання ён заглянуў на двое сутак дадому. Для шасцігадовага Толіка гэта сустрэча з татам была першай і апошняй. Напрыканцы зімы 1945 года сям’я атрымала пахаванку, у якой згадвалася, што Багданаў Аляксандр Флоравіч (тата Анатоля) загінуў смерцю храбрых ва Усходняй Прусіі ў баях за горад Кёнегсберг. Гэта паведамленне перакрэсліла ўсе надзеі. Будаваць далейшае жыццё прыходзілася ўжо толькі сваімі сіламі ва ўмовах бязбацькаўшчыны.

Вайна з фашыстамі скончылася. А на змену ей распачалася «бітва» на калгасных палетках, цешыла толькі адно, што гэта «бітва» адбывалася без чалавечых ахвяр. Але не абыходзілася і без іх. Сялянето тут, то там узрываліся на мінах і ўцалелых снарадахяшчэ доўгі час пасля вайны. Пасляваенны калгасны перыяд Анатоль Аляксандравіч памятае ўжо вельмі добра. Толькі яму ўспамінаць той, непа-чалавечы цяжкі час вельмі непрыемна і балюча. Бязбацькаўшчына, голад, холад, лапці з лыка на нагах, праца на калгасных палеткахад першых петухоў і да змяркання ды нарыхтоўка дрэва ў лесе, два пуды адсеву зернявога і скрыня бульбы на год за калгасныя працадні, а ў дадатак яшчэ падаткі. «Хочаш жыві, хочаш вешайся», – кажа Анатоль Аляксандравіч.




Да нашай размовы далучыліся гаспадыня, жонка спадара Анатоля, Зінаіда Іосіфаўна Багданава (Віткоўская) 1938 г. н. і яе родная старэйшая сястра Валянціна Іосіфаўна Карэлава (Віткоўская) 1932 г. н. Так выпала, што якраз падчас майго візіту ў Трусавічы, яна гасцявала ў сваёй сястры спадарыні Зінаіды.

Нарадзіліся яны на хутары Хлявішча непадалёку ад Жабічаў, у бок Манылаў. Пасля вайны хутар страціў сваё існаванне. А вось сама назва гэтай яшчэ даваеннай адміністрацыйнай адзінкі захавалася ў памяці мясцовых жыхароў да нашых дзён. Толькі мала каму вядома, адкуль пайшла гэтая назва. Пра ўзнікненне хутара Зінаідзе Іосіфаўне і Валянціне Іосіфаўне распавядалі іх матуля і дзядзька Антон, родны брат іх таты Іосіфа, расстралянага бальшавікамі перад самым нараджэннем Зінаіды Іосіфаўны.

У пачатку XX стагоддзя яшчэ да бальшавіцкага кастрычніцкага перавароту ў царскай расейскай імперыі Жабічамі і наваколлем валодалі нашчадкі вядомага непасрэднага ўдзельніка паўстання 1863 года, найбліжэйшага паплечніка Кастуся Каліноўскага, Чаховіча Зыгмунта Бярнардавіча. На той час ён валодаў маёнкам у Малых Бясядах.

Каб быць больш дакладным, лічу мэтазгодным прадставіць кароткую гістарычную даведку адносна Жабічаў. *ЖАБІЧЫ. Паводле рэвізіі 1795 г. вёска, 8 двароў, 59 жыхароў, уласнасць памешчыка Стральбіцкага. У 1806 годзе ў вёсцы заснавана гута, у 1842 г. выпускаліся шкляныя вырабы на суму 240 рублёў, якія збываліся на месцы*

*і ў межах губерніі. На пачатку XX стагоддзя, вёска ў Хаценчыцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерніі. У 1905 годзе гэту назву мелі населеныя пункты: вёска, 119 жыхароў, 163 дзесяціны зямлі;сядзіба Чаховіча, 178 жыхароў, 20 дзесяцін зямлі, тут размяшчалася гута; сядзіба Жабічы (або Старая Гута), 50 жыхароў, уласнасць Чаховіча;засценак Жабічы (або Рубеж), 17 жыхароў, 4, 5 дзесяціны зямлі, тут размяшчаўся дзягцярны завод, таксама ўласнасць Чаховіча. У 1020 годзе ў вёсцы адчынена школа, якая размяшчалася ў наёмнай сялянскай хаце, навучанне вялося на беларускай мове. У 1924 годзе ў школе вучылася 187 дзяцей з Жабічаў і 5 з навакольных вёсак. З 20.08.1924 года, вёска ў Бясядаўскім сельскім савеце Лагойскага раёна Мінскай акругі, з 20.02.1938 года Мінскай вобласці. Меліся смалакурны і скіпінарны заводы, сталярная майстэрня, у засценку размяшчаліся кравецкая і шавецкая майстэрні. У 1941 годзе 33 двары, 153 жыхары. У Вялікую Айчынную вайну гітлераўцы знішчылі 20 двароў, 3 жыхары загінулі на фронце, 2 вяскоўцы ў партызанскай барацьбе.*

З расповядаў старажылаў у дадатак да афіцыйнай статыстыкі памешчык Чаховіч меў шмат зямель і хлявоў (кароўнікаў) з буйнарагатай жывёлай, якія будаваліся воддаль ад паселішчаў. А яшчэ Чаховіч меў багата пчальнікоў. Непадалёку ад хлявоў ды пчальнікоў будаваліся хаткі-халупы для батракоў, якія даглядалі гэтыя гаспадаркі. Гэтак утвараліся хутары, якім і надаваліся адпаведныя народныя назвы: Бычны, Першы пасечны, Другі пасечны, Захаркаў хутар і гэтак далей. На адным з іх, які наракլі Хлявішчам і батрачыла сям'я Віткоўскага Станіслава, дзеда нашых гераінь, спадарынь Зінаіды і Валянціны.

У дзеда было пяцёра дзетак: дачка Авыліна – 1900 г. н. і чацвёра сыноў: Іосіф – 1901 г. н., Антон

(Антось) – 1905 г. н., Павел (Павэлак) – 1906 г. н., Браніслаў – 1910 г. н. У 1914 годзе дзеда Станіслава, мабілізавалі ў царскае войска і адправілі на германскі фронт, з якога так ён і не вярнуўся. Пасля заключэння Брэсцкай мірнай дамовы, Заходняя частка Беларусі адышла пад Кайзераўскую Германію, а Усходняя – да савецкай Расеі. Пасля чаго ў Жабічы прыйшлі да ўлады бальшавікі. Дзякуючы ленінскаму загаду, кажуць сёстры, зямля памешчыкаў былападзелена паміж ужо былымі батракамі і іншым беззямельным насельніцтвам. Гаспадаркі памешчыкаў новай уладай таксама былі экспрапрыіраваны, частка пайшла на патрэбы рэўкома, частка на камуны і частка была раздзелена паміж сялян. Атрымала і сям’я дзеда Станіслава ад савецкай улады каня і кароўку. Прайшоў час і саветы пачалі арганізоўваць калгасы, не даўшы сялянам, як след, насмакавацца аднаасобнасцю. Пры тым кожны павінен быў дабраахвотна-прымусова вярнуць коніка і ўсе прылады да ягоў арганізаваны ў Жабічах калгас «НА ВАРЦЕ». І кожнаму селяніну хочаш-не хочаш, а ў калгас пішы заяву. Першымі ўступілі тыя, хто так і не здолеў самастойна весці асабістую гаспадарку.

Браты Віткоўскія за 10 год аднаасобніцтва ўжо нядрэнна стаўшы на ногі таксама вымушаны былі ісці ў калгас, не пісаўшы заявы, бо былі цалкам неадукаваныя. Да гэтага часу пабудавацца не паспелі і туліліся ўсе разам у старэнькай дзедаўскай хатцы-халупе, бэлькі ў якой трымаліся ўжо толькі на падпорках. Калі ў 1931 годзе Іосіф прывёў у хацёнку сабе жонку Мар’ю, бабуля разам з дзядзькам Антонам перасяліліся ў калгасны дом. Калгас яго пабудаваў у Жабічах менавіта для бабулі-інваліда, якая атрымала працоўнае калецтва ў калгасе.

Дзядзька Антон працаваў у калгасе і быў даглядчыкам бабулі. У Іосіфа і Мар’і дзеткі нараджаліся адно

за адным. Першай на свет у 1932 годзе з'явілася Валя, за ёй – у 1934ым Рэнька, у 1936ым – Яніна. А Зінаіда з'явілася ў 1938ым годзе, калі яе тата, просты і неадукаваны калгасны конюх Іосіф, ужо быў арыштаваны НКУСаўцамі як польскі шпіён. Разам з ім у адзін дзень быў арыштаваны і яго малодшы брат Браніслаў. А таксама яшчэ і іх сябар, калгасны каваль, Бычкоўскі Пётра Іванавіч – 1899 г. н.

### *Каса сталінскага тэрора*

Валянціна Іосіфаўна вельмі добра памятае той дзень, як па тату прыехалі трое ў «будзёнаўках» і загадалі яму хуценька збірацца. «Каб нас супакоіць, – кажа Валянціна Іосіфаўна, – тата напаследак сказаў: «МАЯ ДУША ЧАСНАКУ НЕ ЕЛА, ТАМУ Й ВАНЯЦЬ НЕ БУДЗЕ! БАЛЬШАВІКІ НЕ ДУРНІ – РАЗБЯРУЦЦА!» Ну і «разабраліся»! Вось як склаўся іх лёс пасля арышту:




**Віткоўскі Іосіф Станіслававіч у засценках НКВД.**

### Витковский Бронислав Станиславович

*Родился в 1910 г., д. Жабичи Логойского р-на Минской обл.; поляк; неграмотный; колхозник, Колхоз «На варте». Проживал: Минская обл., Логойский р-н, д. Жабичи.*

*Арестован 12 февраля 1938 г.*

*Приговорен: Комиссия НКВД СССР и Прокурора СССР 25 марта 1938 г., обв.: 68, 76 УК БССР – агент польских разведорганов, член к/р орг.*

*Приговор: ВМН Расстрелян 20 апреля 1938 г. Место захоронения – Борисов. Реабилитирован 13 ноября 1958 г. Военный трибунал БВО*

## Витковский Иосиф Станиславович

*Родился в д. Жабичи Логойского р-на Минской обл.; белорус; неграмотный; колхозник, Колхоз «На варте». Проживал: Минская обл., Логойский р-н, д. Жабичи.*

*Арестован 12 февраля 1938 г.*

*Приговорен: Комиссия НКВД СССР и Прокурора СССР 25 марта 1938 г., обв.: 68, 69, 76 УК БССР – агент польских разведорганов, член к/р орг.*

*Приговор: ВМН Расстрелян 20 апреля 1938 г. Место захоронения – Минск. Реабилитирован 13 ноября 1958 г. Военный трибунал БВО*

## Бычковский Петр Иванович

*Родился в 1899 г., д. Дашки Логойского р-на Минской обл.; белорус; образование н/начальное; кузнец, Колхоз «На варте». Проживал: Минская обл., Логойский р-н, д. Трусовичи.*

*Арестован 15 декабря 1937 г.*

*Приговорен: Комиссия НКВД СССР и Прокурора СССР 15 февраля 1938 г., обв.: 68, 69 УК БССР – агент польской разведки.*

*Приговор: ВМН Расстрелян 10 марта 1938 г. Место захоронения – Борисов. Реабилитирован 13 ноября 1958 г. Военный трибунал БВО*

*Источник: Белорусский «Мемориал»*



**Віткоўскі Антон Станіслававіч**

«Дзядзьку Антона не арыштавалі, магчыма за тое, што ён даглядаў сваю маці-калеку, нашу бабулю», – кажа Валянціна Іосіфаўна. Страціўшы кармільца, сям'я Іосіфа апынулася на мяжы галоднай смерці. А ў дадатак да гэтага ярлык-сям'я

«ворага народа» надаў ім статус адшэльнікаў. Але тады, у 37ым–38ым гадах, у такім становішчы як Віткоўскія, апынуліся амаль усе жыхары Жабічаў. Вось яны, ахвяры бальшавіцкага тэрора і гэта далёка не ўвесь спіс:

***ЗМЯЕЎСКІ Мікалай Сігізмундавіч,*** *1898 г. н., в. Жабічы Лагойскага раёна. Калгаснік калгаса «На варце», жыў у в. Жабічы. Арыштаваны 18.09.1837 г., асуджаны на 10 гадоў зняволення ў ППЛ Валгабуда. Вызвалены ў 1943 годзе. Рэабілітаваны 29.03.1958 года.*

***Войтус Никита Максимович*** *1896/00/00 д. Жабичи Логойского р-на Минской обл. белорус к-зник к-з «На варте» Минская обл. Логойский р-н п. Ульяново 1937/12/03 1938/02/15 агент польской разведки 68 УК БССР 1938/03/10 1958/11/13*

***Войтус Иосиф Максимович*** *1899/00/00 д. Жабичи Логойского р-на Минской обл. белорус к-зник к-з «На варте» Минская обл. Логойский р-н д. Жабичи 1937/12/03 1938/02/15 член польской к/р шпионской орг. 68, 76 УК БССР 1938/03/10 1958/11/13*

***Войтус Иван Максимович*** *1891/00/00 д. Жабичи Логойского р-на Минской обл. белорус к-зник к-з «На варте» Минская обл. Логойский р-н п. Ульяновка 1937/12/15 1938/02/15 агент польских разведорганов, вред-во 68, 71 УК БССР 1938/03/10 1958/11/13*

***Войтус Владимир*** *Леонтьевич 1904/00/00 д. Жабичи* ЛОГОЙСКОГО *р-на Минской обл. белорус шофер Белгостранс г. Минск 1937/11/19 1938/01/08 член к/р шпионск. – диверс. орг. , шпионаж в пользу Польши 68а, 71, 76 УК БССР 1938/02/01 1958/09/25*

***Войтус Адам Леонтьевич*** *1897/00/00 д. Жабичи Логойского р-на Минской обл. белорус шофер Минский трамвайный парк г. Минск 1937/11/00 1938/01/08 член к/р шпионск. – диверс. орг. , шпионаж в пользу Польши 66, 68а, 71, 76 УК БССР 1938/02/01 1958/09/25*

***Войтус Петр Максимович*** *1911/00/00 д. Жабичи Логойского р-на Минской обл. белорус шофер-стажер Минский трамвайный парк г. Минск 1937/10/00 1938/01/08 член к/р шпионск. – диверс. орг. , шпионаж в пользу Польши 68а, 71, 76 УК БССР 1938/02/01 1958/09/25*

***НОВІК Іван Фёдаравіч.*** *1909 г. н. Жабічы ар. 10.02.1940 г. Асуд. 09.07.1940 г. пр. 8 год. Рэб. 12.12.1989 г.*

Амаль усе яны былі расстраляныя ў Мінску, але пасля смерці крывавых катаў Сталіна і Берыя былі рэабілітаваныя. Толькі вось дакладнае месца іх расстрэлу па сённяшні дзень яшчэ чамусьці трымаецца ў сакрэце. што пазбаўляе родных магчымасці наведаць магілкі нявінна загінуўшых сваіх продкаў, каб ушанаваць іх памяць.

Дзеці і ўнукі Віткоўскага Іосіфа Станіслававіча, расстралянага ў 1938 годзе НКУСаўцамі, доўгі час намагаліся адшукаць яго дакладнае месца пахавання, але ўсё дарэмна. Падрабязныя дакументы, дакладныя матэрыялы і схемы пагостаў, частка з якіх была бальшавікамі знішчана, а частка вывезена ў архівы Масквы і Падольска. Адно толькі што ўдалося высветліць дакладна, гэта месца расстрэлу-Мінск урочышча КУРАПАТЫ.




У 2008 годзе да 70ай гадавіны расстрэлу Віткоўскага Іосіфа Станіслававіча яго дочкі, унукі і праўнукі на народным мемарыяле «КУРАПАТЫ», сярод сотняў усталяваных ужо там крыжоў, паставілі свой, радавы па нявінна расстралянымі Іосіфу і яго брату Бра-

ніславу Віткоўскім. На трохметровым жалезным крыжы нашчадкі замацавалі інфармацыйную мемарыяльную шыльду. І зараз кожны год яны наведваюць урочышча, каб аддаць даніну памяці па нявінназабітых родных.

Пасля арышту Іосіфа і Браніслава дзядзька Антон узяў апеку над братавай сям'ёй. Дапамагаў усім чым мог. Настойваў, каб Мар'я з дзецьмі перабіралася з хутара да яго ў Жабічы, таму што чакаць Іосіфа не было ўжо ніякага сэнсу. Ні адзін раз даходзілі чуткі, што іх расстраляў НКУС у Мінску. Але Мар'я жыла надзеяй да апошняга. Ды й не ішла да дзядзькі Антона яшчэ і таму, каб яго не падстаўляць. Толькі тады, як распачалася вайна з фашыстамі, Мар'я пакінула хатку, якая пахілілася набок, і перайшла ў дзядзькаву ў якасці гаспадыні.

У самыя першыя дні вайны дзядзькоў Антона і Паўла мабілізавалі ў савецкае войска. Але ў хуткім часе, праз некалькі дзён, яны вярнулісядадому. Казалі, што не паспелі дайсці да Мінска, бо немцы перарэзалі ім шлях. Але домадзядзька Антось доўга не затрымаўся, пакінуўшы Мар'і як гаспадыні і жонцы, ключ ад хаты сышоў у партызаны. І толькі зрэдчасу наведваў іх.

### *Падчас вайны пастаянна хацелася есці*

Пра вайну ў памяці Зінаіды Іосіфаўны, як і ў яе мужа, мала што захавалася, бо была маленькай. Запомніліся моманты толькі апошняга ваеннага года, якія наводзілі жах на шасцігадовую дзяўчынку. Памятае, што пастаянна хацелася есці, а не было чаго. Вясной рады былі і шайморам (бліны з перазімаваўшай на полі мерзлай бульбы), а летні паўсядзённы рацыён – гэта шчаўе, маладая крапіва ды лясныя дары. Скрынка малачка і кавалачак хлеба на палову з мякінай былі як прысмакі. І гэта не гледзячы




на тое, што ў хаце частымі гасцямі былі партызаны.

Неяк у пачатку лета Валянціна Іосіфаўна са сваімі вясковымі сяброўкамі пайшла па маліны на лесадзялянку, пад Манылы. Калі ўвайшлі ў лес, то раптам заўважылі чалавека, які вісеў на вяроўках высока на дрэве і не варушыўся. Спужаўшыся, дзеці пабеглі назад, у Жабічы, і расказалі дарослым пра гэты выпадак. Баба Мар'я ведала, як звязацца з партызанамі, бо да яе як да траўніцы, яны прыходзілі часцяком лячыцца.

Так і на гэты раз яна чакала з гадзіны на гадзіну партызан, яны павіны былі прывезці на перавязку свайго параненага палкоўніка Іванова, пакрайней меры, яны яго так называлі. Але так яно, ці не-не галоўнае. Як Баба Мар'я і казала, неўзабаве да хаты пад'ехалі партызаны са сваім параненым палкоўнікам Івановым. Старая ім распавяла пра чалавека на дрэве. Тыя адразу ж накіраваліся ва ўказанае месца, прыхапіўшы Валянціну Іосіфаўну з сабой як праважатую.

Чалавек на дрэве быў без прытомнасці, але жывы. Партызаны яго асцярожна спусцілі на зямлю і прынеслі да бабы Мар'і з надзеяй, што яна яго апрытомніць. Пакуль жанчына ажыўляла незнаёмца, партызаны вывучалі прыналежнасці, якія былі пры ім. Праз нейкі час малады чалавек ачуняў і пачаў размаўляць ды яшчэ на беларускай мове.

Пасля доўгіх і падрабязных допытаў высветлілася, што гэты 18 гадовы юнак, радыст з Масквы, закінуты самалётам савецкага камандавання для выканання асобага задання. Але ў час дэсантавання яго парашут зачапіўся за

верхавіну дрэва. Стукнуўшыся аб дрэва ад вельмі моцнага рыўка ў заблытаных стропах, радыст страціў прытомнасць. Правісеў ён, сціснуты вяроўкамі, гадзін дванаццаць. «І каб не мы, – кажа Валянціна Іосіфаўна, – то наўрад парашутыст выжыў бы. Ён усім вельмі дзякаваў і нам, дзецям, што знайшлі яго, і матулі маёй, Мар'і, што выхадзіла, і партызанам за ўвагу, аб'ектыўнасць і давер да яго асобы.» Але партызаны яго папярэдзілі, што тут далёка не ўсё так проста, як яму гаварылі ў Маскве. І што ён патрапіў менавіта да іх, а не да «махноўцаў», яго вялікае шчасце. На пытанне: «А хто яны, «махноўцы?» Адказалі коратка: «Пажывеш – даведаешся.»

Уладзімір Баркоўскі, так звалі таго радыста, прайшоў усю вайну, вярнуўся жывым у родны свой Мінск. І доўгія гады пасля вайны, пакуль дазваляла здароўе, кожны год з вялікай удзячнасцю наведваў сваіх ратавальнікаў. Жабічы для яго сталі другой Радзімай.

Сын Валянціны Іосіфаўны Віктар 1953 г. н. цудоўна памятае, як кожны год прыязджаў Уладзімір Баркоўскі да іх у госці. Былы партызанскі радыст вадзіў нас ў грыбы і ягады па партызанскіх мясцінах і абавязкова ўспамінаў, як тут праходзіла яго ваеннае партызанскае ліхалецце. І вельмі шкадаваў, што не ўдалося яму даказаць у ваенкаматах, што ўся сям'я Віткоўскіх, ад малога да вялікага, партызаніла. Тое, што ўсю вайну Марыя Мікалаеўна, рызыкуючы ўсім сямействам, не толькі даглядала раненых партызанаў, але і пякла ім хлеб у сваім доме ў печы. Як гэты працэс адбываўся, Валянціна Іосіфаўна распавяла мне больш падрабязна.

Партызаны прыносілі муку пад поўны разлік. Патрэбна было разлічваць так, каб колькасць спечанага хлеба адпавядала колькасці мукі, а інакш маглі б быць вялікія непрыемнасці. Усё гэта рабілася патаемна нават ад су-



КАРЭЛАВЫ
ВІКТАР, ВАСІЛІ КУЗЬМІЧ, ВАЛЕРЫ

седзяў. Пагэтаму прыносіў муку і забіраў спечаны хлеб кожны раз новы незнаёмы чалавек. Паролем служыла чырвоная стужачка, прышытая гаспадыняй Мар’яй, на хахлу рэчмяшка, з якім ён прыходзіў.

«Аднойчы, – кажа Валянціна Іосіфаўна, – на наш падворак і да суседкі Марылькі наехала кагорта немцаў з вобыскамі. Не выключэнне, што хтосьці ўсё ж данёс у паліцыю за нашу сувязь з партызанамі. Але Бог, мабыць, нас абярог, бо на той дзень у хаце не знайшлі ніякіх падазронасцяў у выпечцы хлеба. Печ была халоднай, лішкаў мукі не было, а хлеба тым больш. Знайшлі толькі шэсць мяшкоў зерня, якое хавалі на пасеў у сенцах пад падлогай. Немец загадаў загружаць іх на воз, але адзін з паліцэйскіх уступіўся і пачаў прасіць яго пакінуць хоць колькі дзецям, каб не згінулі. Той у адказ моцна штосьці загергетаў, але пагадзіўся і загадаў вярнуць два мяшкі назад сям’і.

А вось суседцы Марыльцы менш пашчасціла. Як пасля высветлілася, Марылька таксама пякла хлеб партызанам і сама ім насіла. Немцам пра гэта стала вядома, калі яны пры вобыску ў хаце Марылькі знайшлі доказы таму. Хату спалілі, а яе саму завочна прыгаварылі да смерці. Жанчыне, мабыць, было наканавана яшчэ жыць, бо яна своечасова сышла з дому, якраз перад самым прыездам немцаў. Калі машына з немцамі рухалася ўжо па жабічаўскай вуліцы, Валянціна Іосіфаўна бачыла, як Марыль-

ка ўжо ў канцы гумна з кашолкай за плячыма шпарка падалася да лесу.

Не паспелі адысці ад адных страхаў, як праз некалькі дзён на парозе з'явіліся другія ў вобразе суседкі Змяеўскай Ніны і яе кавалера-«паліцая», гэтак яго называлі ва ўсёй акрузе», – успамінае Валянціна Іосіфаўна. Яна была старэйшай за Зінаіду і добра памятае той выпадак. Уварваўшыся ў хату, яны з ходу абодва накінуліся на маці Мар'ю і пачалі яе лупцаваць. І невядома чым бы ўсё скончылася, каб не другі сусед Шэйбак Уладзімір, які прыбег на крыкі і енк Мар'і. Ён адбіў бедную безабаронную жанчыну ад «паліцая», добра яго адмяцеліўшы. А падставай той бойкі паслужыла тое, што быццам бы Мар'я скасіла сенакос Змяеўскіх. Як пазней высветлілася, Мар'я ўвогуле не мела ніякага дачынення да іх сенакоса. Кавалер-«паліцай» Змяеўскай Ніны быў асобай злапамятнай і не збіраўся дараваць Шэйбаку Уладзіміру яго рашучасць і расправу над ім. Неяк неўзабаве гэты «паліцай» са сваім дружком ужо ўзброеныя наведалі Жабічы і адразу ж накіраваліся да дома Шэйбака Уладзіміра, калі той якраз поркаўся ў сваім падворку, дабудоўваў хляўчук.

### *Забойцы Шэйбака*

«Нічога не кажучы, бандзюганы некалькі разоў стрэлілі ва Уладзіміра і пакрочылі ў канец вёскі да нашай хаты, – кажа Валянціна Іосіфаўна. – Але, на наша шчасце, у тую хвіліну нас дома не было. Суседзі распавядалі, што патаптаўшыся каля дома з паўгадзіны, тыя забойцы сышлі. А на зваротным шляху, праходзячы каля хаты сваёй ахвяры Шэйбака, тыя каты заўважылі, што Уладзімір не загінуў, а толькі паранены. Бандзюганы, неважкаючыся, дастрэлілі Шэйбака Уладзіміра і сышлі сваёй дарогай.

Дзесьці з год жылі пад страхам, пастаянна хаваючыся ад гэтых забойцаў. Да тае пары, пакуль чуткі не дайшлі да дзядзькі Антона пра нашы беды і гора сялян у навакольных вёсках, дзе «гаспадарылі» тыя каты. Дзядзька на той час партызаніў у атрадзе Варашылава, партызанскай брыгады імя Фрунзе, якая дыслацыравалася на Вілейшчыне, у лесе, непадалёку ад Навасёлак, а штаб яе, на той час, быў у Казлеўшчыне калачэўскай. Дзядзька Антон адпрасіўся ў камандавання, каб наведаць сваіх родных і вырашыць узнікшыя ў іх праблемы. Але камандзір атрада Захараў, мабыць, здагадваўся, які «паліцай» там дазваляе сабе такую вольніцу. Таму дзядзьку Антона аднаго ў дарогу не рызыкнуў адпускаць і загадаў яму прыхапіць для страхоўкі каго-небудзь са сваіх надзейных сяброў, каб жыўцом захапіць таго нелюдзя і прывесці ў атрад.

У Жабічы дзядзька Антон прыйшоў са сваім лепшым сябрам, партызанам-падрыўніком Капыловым Васілём (загінуў пры падрыве маста). Выслухаўшы ўважліва сваіх родных, дзядзька Антон са сваім сябрам Васілём былі вельмі ўзрушаны ад пачутага і адразу вырашылі жывым не браць! Прыкончыць на месцы і канцы ў ваду. І, не марудзячы часу, адразу накіраваліся да Змяеўскіх, у якіх, па словах Мар’і, якраз павінен быць той самы «паліцэйскі». Ішлі, хаваючыся, каб не напудзіць бандзюганаў. Заняўшы самы зручны варыянт для расправы, пачалі чакаць. І як толькі прышарэла, з хаты выйшлі двое ўзброеных мужыкоў і накіраваліся прама на засаду. У дзядзькі Антона і яго сябра імгненна было прынята рашэнне захапіць спачатку іх жыўцом. Гэтак і зрабілі. Напад знянацку даў стопрацэнтны эфект. Збіўшы з ног і абяззброіўшы бандзюганаў, дзядзька Антон і Васіль дубасілі іх чым толькі маглі. Такім чынам, сарваўшы злосць, партызаны ўжо сабраліся

прывесці прыгавор да выканання, калі на шум павыбягалі з хат Змяеўскія і іх суседзі. І ў гэты момант высветлілася тое, што гэтыя асобы, вядомыя ўсім вяскоўцам як паліцэйскія, на самой справе партызаны і пры тым далёка не радавога складу.

Адзін з іх апынуўся начальнікам Асобага аддзелу НКУС, партызанскай брыгады «Штурмавая» Белікам Іванам Мікітавічам 1915 г. н. Другі – камандзірам партызанскага атрада гэтай жа брыгады Гламоздзіным. Гэтае паведамленне прывяло да рэзкага павароту запланаванага. Пра расстрэл гэтых «паліцэйскіх» ужо і думаць не маглі. Дзядзька Антон з сябрам Васілём Капыловым, звязаўшы тых партызанаў-катаў, загадалі Змяеўскай Ніне запрагаць каня, каб адвезці затрыманых Беліка і Гламоздзіна ў сваю брыгаду для ўдакладнення асоб і далейшых разбораў у рамках партызанскіх законаў. Змяеўская падпарадкавалася загаду і вывела каня са стойла на вуліцу да калёс. Убачыўшы каня, дзядзька Антон ажно ўскрыкнуў ад уражання, бо пазнаў у ім прапаўшага два месяцы таму жарабка, на якім ездзіў яго брыгадны камісар. На пытанне, адкуль ён тут апынуўся? Белік прызнаўся, што ўкраў яго ў камісара і падарыў сваёй каханцы. Пасля разборак у Змяеўсіх дзядзька Антон дадому заскочыў толькі развітацца і без усялякіх тлумачэнняў сышоў. Спаслаўшыся толькі на тое, што арыштавалі вялікіх «паліцэйскіх» чыноў і іх патрэбна тэрмінова даставіць у штаб партызанскай брыгады.

Той інцындэнт у двары Змяеўскіх заставаўся сакрэтам на доўгія гады. Нават пасля вайны дзядзька Антось умоўчваў пра здарэнне з вялікімі «паліцэйскімі» чынамі. Таму што яны на самой справе апынуліся тымі асобамі, якімі прадставіліся ў Жабічах. Пасля нядоўгай бяседы за зачыненымі дзвярыма «Варашылаўцы» іх адразу ж адпусцілі,

вярнуўшы ім зброю, а каня законнаму гаспадару, камісару фрунзенцаў.

Зінаіда Іосіфаўна і Валянціна Іосіфаўна нават сёння адмаўляюцца верыць у тое, што тыя бандыты былі партызанамі і тым больш камандзірамі. Таму што сапраўдныя партызаны іх шкадавалі і дапамагалі ў цяжкую хвіліну. А тыя былі ўжо калі не паліцэйскімі, то ў лепшым выпадку самазванцамі-партызанамі. Бо жанчыны пасля вайны на свае вочы бачылі, як падчас фэсту ў Манылах той «паліцай» Белік, разлічваючы на тое, што яго ніхто не прызнае, з трыбуны пачаў выхваляцца, як ён ваяваў з фашыстамі. Але яго шмат хто пазнаў, і каб не міліцыя, то наўрад ці выйшаў бы ён адтуль жывым. Настолькі людзі былі ў злосці. Куды ён знік тады, ніхто не заўважыў.

Праз нейкі час на чарговы фэст, прысвечаны Дню Перамогі, прыехала толькі яго жонка Змяеўская Ніна. Яна прылюдна прасіла прабачэння за злачынствы здзейсненыя падчас вайны яе мужам, тым самым «паліцаям» Белікам, што ён за іх атрымаў ужо пакаранне. Пасля чаго Змяеўская запрасіла ўсіх да шыкоўна накрытага ею памінальнага стала. Але ад яго ўсе адмовіліся, калі не лічыць двух-трох п’янтосаў. Не пайшлі таму, што ўсёй акрузе было вядома, што яна таксама падчас вайны падштурхоўвала Беліка на злачынствы з карыслівых для сябе намераў. Што і прымусіла яе адразу пасля вызвалення з’ехаць з Жабічаў у Мінск. І ўжо там афіцыйна выйсці замуж за Беліка. Ён тады хадзіў у немаленькіх начальніках пры заводзе «ІНТЭГРАЛ». Яму ў гэтым падсабіў і праявіў клопат яго сябар, былы партызанскі камандзір брыгады «ШТУРМАВАЯ» герой СССР Лунін Барыс, які на той час быў намеснікам міністра аўтамабільнага транспарту Беларускай ССР.

А вось лёс дзядзькі Антона складаны і вельмі цяжкі. У ліпені 1944га ён, брат Павел і сястра Авыліна, прама з партызанаў былі мабілізаваныя ў рэгулярнае савецкае войска. Дзядзька Антонпрайшоў Прыбалтыку, Усходнюю Прусію. Пад Берлінам быў вельмі моцна паранены асколкамі міны. Каля года праляжаў у ваенным шпіталі. Пры выпісцы быў цалкам камісаваны з рэгулярнага войска па раненні. Вярнуўшыся ў свае родныя Жабічы, існі працаваць у калгас не дазваляла здароўе, перабітая рука целяпалася, як вяроўка, ды і жадання не было за працадні працаваць. Раны гаіліся марудна, бо лячыўся толькі народнымі сродкамі, медыцынскія прэпараты ўвогуле адсутнічалі. Але ж патрэбна было працаваць, бо сям'я немаленькая была. Акрамя братавых чатырох дачок, Мар'я нарадзіла ў 44ым яшчэ агульнанажытую дачку Ганначку. Антон амаль чатыры гады хадзіў па вёсках у якасці пастуха. За адбытыя радоўкі, людзі плацілі хто чым мог, і ён браў усё, што давалі, хто дабро, хто якую вопратку ці абутак, а бывала нават і грошы. Як толькі больш-менш ачуняў, у 1950 годзе ўладкаваўся ў ляспрамгас, а пасля ў аўтапрамбуд, дзе і адпрацаваў доўгія гады.

Валянціна Іосіфаўна ў 1951 годзе выйшла замуж за франтавіка-ордэнаносца чырвонафлотца Карэлава Васілія Казіміравіча. А пазнаёміліся яны пасля вайны, калі Васіль, працуючы шафёрам у ляспрамгасе, вазіў лес з Жабічаў у лесаперапрацоўчыя арганізацыі.

Аднойчы, выехаўшы з лесу, Васіль спыніўся каля крайняй хаты Віткоўскіх, каб вады папіць, а насустрач яму выйшла маладзіца. Убачыўшы такую прыгажуню, Васіль і забыўся чаго астанавіўся. Дзяўчына, заўважыўшы разгубленнасць марачка, усміхнуўшыся запытала: «Ну

што, служывы, разгубіўся, быццам бы перад табой эсмінец нямецкі паявіўся?» А той у адказ: «Ой не, красуня, я перад ворагам якраз не прагінаўся, а перад табой не ўстаяў і здаўся!»

Праз нейкі час, Васіль пасадзіў сваю абранніцу у свой «студэбекер» і звёз назаўсёды на сваю малую радзіму па Магілёўскаму напрамку ў мястэчка Прывольнае. У якім па сённяшні дзень Валянціна Іосіфаўна і пражывае ў пяшчотным акружэнні сваіх родных дзетак-пенсіянераў, шматлікіх унукаў і праўнукаў. Толькі не хапае Васілія Казіміравіча, які, на вялікі жаль, у 1999 годзе сышоў у свет іншы. А Зінаіда Іосіфаўна выйшла замуж у 1960 годзе ў суседнія Трусавічы за Анатоля Аляксандравіча Багданава, дзе па сённяшні дзень разам і пражываюць.

Развітаўшыся з Багданавымі, я па іх рэкамендацыі з Трусавіч падаўся ў сумнавядомыя Жабічы ў пошуках непасрэдных сведкаў мінулага ваеннага ліхалецця, якія падказалі б мне, як натрапіць на далейшы след злачынцы.

Каб быць упэўненым у праўдзівасці сказанага Анатолем Аляксандравічам, я вырашыў зрабіць прыпынак і зазірнуць на рэшткі старадаўняга Трусавіцкага маёнтка і паркавага ансамблю. Так, Анатоль Аляксандравіч меў



Парэшткі маёнтка ў Трусавічах

рацыю. Тое, што астанкі маёнтка і парк маюць статус як каштоўнасць гістарычнай спадчыны, якая ахоўваецца дзяржавай, пацвярджае шыльда. Але, мяркуючы па разгорнутай тут будоўлі асабнякоў, гэтая шыльда не складае ніякіх перашкод новаспечаным «панам» і «памешчыкам». Тое, што не знішчыў час і войны, хуткімі тэмпамі руйнуе чалавечая чэрствасць і злачынная абыякавасць да гістарычнай спадчыны. Вельмі шкада, але гэта ўжо да іншай тэмы, тэмы сённяшняга дня.

У Жабічы я прыехаў у гадзіны дзве апоўдні. Крыху воддаль, справа ад дарогі, бачны апусцелы колішні калгасны аўтатрактарны падворак. Злева двух-чатырох кватэрнікі, пакуль яшчэ пад дахам, але без вокнаў і дзвярэй. І на вуліцы ніводнага чалавека! Заварачваю налева, на вуліцу старой вясковай забудовы ў спадзяванні знайсці тут карэнных жыхароў сталага ўзросту. Еду ціхенька, пільна прыглядаючыся ў падворкі, каб не прамінуць сваё шчасце. Але ўсё дарэмна. Хаткі стаяць, галоўным чынам, з замкамі на дзвярах, трапляюцца і без дзвярэй, зарослыя бур’яном. Так я заехаў ажно ў самы канец вёскі, якая, мабыць, як і стагоддзе тамупадпірае лес.

Я спыніўся каля самай крайняй хаткі, якая хутчэй за ўсё і належыла Віткоўскім. За ёй ў самым канцы вуліцы пясчаная дарога пераходзіць ўжо ў лясную сцяжынку, якая нехаця навеяла згадкамі пра мінулае. Пракруціўшы ў памяці расповяды Зінаіды Іосіфаўны і Валянціны Іосіфаўны, я паспрабаваў ўявіць сабе ўжо тут на месцы, моманты з іх жыцця, апаленага рэпрэсіямі і вайной. Так... Зама-



лёвачка атрымалася жудаснай, такое ў самым страшным сне не можа прысніцца! У мяне нават у галаве не ўкладваецца і ніяк не магу зразумець, як можна падобнае, на самойсправе, чалавеку вытрымаць?! Гэта ж наколькі БЕЛАРУСУ патрэбна быць трывалым і моцным, каб, прайшоўшы праз такія несправядлівыя, нечалавечыя пакуты, не тое што выжыць, але яшчэ змагацца з ворагам і перамагчы яго?! Гэта не проста народ – гэта НАРОД-ГЕРОЙ!

Вось яна, лясная сцяжынка, па якой хутчэй за ўсё ў мінулую вайну ў Жабічы ў розны час сутак наведваліся differentнастыя лясныя «госці» за правіянтам, гарэлкай ды задушэўнай уцехай. А яшчэ і такія, як Белік, каб учыніць якія-небудзь злачынствы супраць безабароннага мірнага вясковага насельніцтва. Раней, да вайны з Гітлерам, па гэтай сцяжынцы праз вярсты тры, можна было патрапіць у Панышы, каля якіх да 1939 года пралягала савецка-польская мяжа. Гэтае недалёкае памежнае суседства ў 30х гадах мінулага стагоддзя апустошыла Жабічы амаль што ад усяго насельніцтва.

Савецкая «шпіёнская» ліхарадка з гэтай вёскі забрала дзясяткі нявінных чалавечых жыццяў. Пра лёс некаторых з іх я ўжо згадваў вышэй. А іх сем’і былі дэпартаваныя ў сібірскія лагерныя абшары. Прастаяўшы ў задуменні нейкі час, я ўжо без усялякай надзеі знайсці жывую душу, рушыў назад на бальшак. Але ўжо на выездзе на галоўную вуліцу, на самым апошнім вясковым падворку мне ўсё ж сустрэлася жанчына ў гадах. Спадарыня Ірына, хоць і не карэнная жыхарка Жабічаў, але падказала мне, што ў суседніх Дашках жыве даваенная жыхарка гэтай вёскі Данілевіч (Шэйбак) Зінаіда Аляксандраўна 1939 г. н.

## *Дашкі. Крывавыя сляды лунінцаў–забойцаў*

Падзякаваўшы жанчыну за інфармацыю, я на радасцях і, не марудзячы часу, хуценька падаўся на ўказаны адрас.

Зінаіда Аляксандраўна сустрэла мяне ветліва, але з асцярогай. Вымушаны быў паказаць пасведчанне сябра СБП, што і прыдало ёй поўны давер да маёй асобы. Даведаўшыся пра мэту майго візіту, зразумела, што на маё пытанне двума сказамі ёй не абмежавацца, таму з ахвотай і задавальненнем запрасіла ў хату.

Зінаіда Аляксандраўна таксама, як і яе зямлячка Зінаіда Іосіфаўна, адразу ж папрасіла прабачэння, што пры яе памяці падзеі толькі пасляваенных гадоў, галоўным чынам, жыццё пры калгасе. Але паабяцала расказаць ўсё, што ёй прыходзілася шматразова чуць ад сваёй матулі, Адэлі Мікалаеўны (Вашкевіч) 1912 г. н. і таты, Аляксандра Іванавіча Шэйбак 1910 г. н., а таксама ад іншых старэйшых знаёмых. Таму і запомніла ўсё да дробязей. І што цікава, мне ўдалося ад яе пачуць пра падзеі, якія адбываліся ў трагічным мінулым у яе Жабічах, то гэта былі амаль 100% копіі расповядаў яе зямлячак, Валянціны і Зінаіды Віткоўскіх. Толькі сваімі словамі і з дапаўненнямі, якія датычыліся менавіта яе сям'і. А таксама пра трагедыю ў Дашках з удзелам Беліка, пра якую Валянціна і Зінаіда не ведалі. З яе і хочацца распачаць размову.


Данілевіч (Шайбак) Зінаіда Аляксандраўна

Пра масавае забойства ў Дашках мірных жыхароў партызанам Белікам спадарыні Зінаідзе распавядаў яе муж, які памятаў добра вайну, бо быў старэйшы. А здарылася ўсё нечакана

і негадана. Беліку хтосьці данёс, што жыхар Дашак Гірлятовіч Зыгмусь распаўсюджвае чуткі па наваколлю, што партызан Белік ніякі не партызан, а пераапрануты паліцай, які ходзіць па вёсках, гвалціць жанчын, дзяўчат і расстрэльвае цэлыя сем'і. І пры тым усім хваліцца, што ён самы вялікі начальнік над партызанамі ва ўсёй акрузе.

Як толькі гэтыя чуткі дайшлі да Беліка, ён не прымусіў сябе доўга чакаць. Прыхапіўшы з сабой некалькі сваіх прыхільнікаў, сярод белага дня заваліўся ў хату да Гірлятовічаў і з кулямёта расстраляў усіх, хто там знаходзіўся. Гаспадыню Аляксандру і чацвёра яе дзетак: Ядзьку – 1937 г. н., Фроську – 1938 г. н., Янку – 1939 г. н. і Міколку – 1942 г. н. У хаце разам пражывалі яшчэ зусім чужыя людзі, уцякачкі з-пад Валожына, Рулькевіч Агаф'я і Амільяновіч Серафіма. Іх таксама каты расстралялі. Дома на тую хвіліну не апынулася самога гаспадара, Зыгмуся і сястры гаспадыні Аляксандры-Таццяны. Так сталася, калі Белік знішчаў яе родных, Таццяна ў тую хаіліну даіла ў полі карову, і Бог яе мілаваў, адвёўшы ад яе смерць. (Пасля вайны яна выступіць у судзе сведкай супраць тых забойцаў). А вось Зыгмусю, мабыць, лёсам было наканавана ўсё адно згінуць, хутчэй за ўсё, ад рук таго партызанскага бандыта Беліка. Калі Зыгмусь вярнуўся дахаты і ўбачыў крывавую расправу над яго сям'ёй ногі падкасіліся. Ён зваліўся на зямлю і праваліўся ў істэрычнае забыццё. Ён біўся то галавой, то рукамі аб зямлю, то ірваў на сабе адзенне, раз-пораз прыгаворваючы: «НЕДАРУЮ, НЕДАРУЮ, НЕДАРУЮ!» Праз два дні яго знайшлі вяскоўцы забітым у паўвярсце ад вёскі, у накірунку на Жабічы. Казалі, што ў той дзень у Жабічах у сваёй



каханкі Змяеўскай Ніны куціў той самы забойца Белік. Усё сходзілася да таго, што гэта справа яго рукпрыбраць Гірлятовіча Зыгмуся як сведку і пагражальніка яму.

Думаецца, што чытачу хацелася б ведаць, хто ж ён такі, на самой справе, быў той Белік Іван і за што, за якія геройствы атрымоўваў баявыя дзяржаўныя ўзнагароды, у тым ліку, як Лунін, нават зорку героя СССР? Кароценькія даведкі з біяграфій яго і камандзіра Луніна Барыса з картатэкі ваеннага трыбунала: «*ЛУНИН, будучи рядовым 17 мотострелкового полка, в 1941 году попал в плен к немцам и был помещен в лагерь военнопленных Масюковщина Минской области, где вскоре вступил в лагерную полицию. В марте 1942 года ЛУНИН вместе с другими военнопленными совершил побег из лагеря, ушел в Рудненский лес и присоединился к действовавшим там партизанам капитана Советской Армии Асташёнок. В последующем ЛУНИН отделился с группой в 15 человек от Асташенок и ушел в Заславский район Минской области, где организовал самостоятельный партизанский отряд, впоследствии переросший в партизанскую бригаду «Штурмовая». ЛУНИН, организовывая партизанский отряд, выдал себя за кандидата коммунистической партии и офицера Советской Армии в звании младшего политрука. ЛУНИН, участвуя в боях с немцами, проявил себя смелым боевым руководителем партизан, но, став командиром, окружил себя людьми, выслуживавшимися перед ним. ЛУНИН первое время противился организации партийно-политической работы среди партизан, не терпел возражений и советов и боялся разделять с кем-либо свою славу и положение командира. ЛУНИН злоупотреблял спиртными напитками, сожительствовал со многими партизанками и, отличаясь властолюбием, с неугодными ему лицами, особенно присланными*

*из-за линии фронта, жестоко расправлялся. Послушным исполнителем таких его дел являлся присоединившийся к ЛУНИНУ в апреле 1942 года, также бежавший из немецкого плена рядовой телеграфно-строительной роты БЕЛИК. Он назвался работником органов НКВД и был вскоре назначен ЛУНИНЫМ вначале уполномоченным, а потом и начальником Особого отдела партизанского отряда и бригады и именовал себя лейтенантом госбезопасности. ЛУНИН отдавал БЕЛИКУ незаконные приказы о расстрелах и убийствах неугодных ему лиц и попустительствовал БЕЛИКУ как своему подчиненному, а последний, в свою очередь, самостоятельно незаконно расстреливал и убивал советских людей. С целью оправдания и сокрытия таких расстрелов и убийств ЛУНИН совместно с БЕЛИКОМ фальсифицировали следственные и другие материалы о якобы причастности расстрелянных лиц к вражеской агентуре. Эти действия ЛУНИНА и БЕЛИКА вызывали возмущение партизан и местного населения и наносили вред партизанскому движению в Белоруссии.»*

А як на самой справе ваявала гэта брыгада? Калі меркаваць па расповядах партызанаў брыгады імя Фрунзе, якіх лунінцы таксама шмат разоў падстаўлялі перад насельніцтвам. А самае галоўнае, калі аналізаваць баявыя данясенні ў стаўку аб сваёй партызанскай дзейнасці саміх лунінцаў, то ў іх відавочныя прыпіскі на сваю карысць.

### *Ордэны ды зорка героя за хлусню і забойствы*

Не будзем у чарговы раз узгадваць успаміны сведкаў, а возьмем толькі некаторыя вытрымкі з баявых данясенняў камандавання брыгады «Штурмавой», якая дыслакавалася ў Манылах (Заслаўскі раён)

*БАЯВОЕ ДАНЯСЕННЕ КАМАНДАВАННЯ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА «ЗА АЙЧЫНУ» ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «ШТУРМАВАЯ» АБ РАЗГРОМЕ ВАРОЖАГА ГАРНІЗОНА Ў РАЁННЫМ ЦЭНТРЫ ЛАГОЙСК. 30 снежня 1943 г. 22 декабря 1942 года при совместном участии партизанских отрядов командира товарища Лунина, ком. тов. Захарова и ком. тов. Горянова произведена боевая операция на районное фашистткое гнездо – г. Логойск. При налёте убиты 11 немецких солдат и офицеров, 1 жандарм, 27 полицейских, остальные разбежались. Разбиты и сожжены здания комендатуры, раённойуправы, аптеки, почты, финотдела, госбанка и ряд магазинов. Взяты все дела районной управы, а также ценные и денежныя бумаги госбанка. Сожжены и уничтожены продовольственный склад(55тыс. т. зерна) и 1 фуражный склад (70тыс. т. сена). Разогнаны и частично убиты старшины волостей Логойского района, которые вели сопротивление при занятии города.*

*Взято: 2 винтовки, 1 наган, 10 тон соли, 10 повозак с лошадьми, около 4 кг, предназначенного к отправке в Берлин, много папирос и табаку. Уничтожены: 20 лошадей, 3 автомашины, 3 т сахару, 280тыс. папирос и табаку, более 200 пар немецкой обуви и много других вещей. Уничтожены 3 семьи полицейских. Порвана телефонная и телеграфная связь Логойск – Минск, Логойск – Плещеницы, на расстоянии 600 м.*

*Операцией руководили: Лунин, Захаров, Горянов.*

*Командир отряда «За Отечество» Захаров.*

*Комиссар Мартынов.*

*Начальник штаба Мелков.*

*Манильский лес.*



Министерство Обороны Союза ССР

**ВОЙСКОВАЯ ЧАСТЬ № 38729**

13 февраля 1958 г.

№ 82416

Исп. вх. 56/ж

СЕКРЕТНО
экз. № 1

38

ЗАМЕСТИТЕЛЮ НАЧАЛЬНИКА ОТДЕЛА ПО ПЕРСОНАЛЬНОМУ УЧЕТУ ПОТЕРЬ СЕРЖАНТОВ И СОЛДАТ СОВЕТСКОЙ АРМИИ

ПОЛКОВНИКУ тов. КОЗЬМИНУ

На Ваш № 8050 от 25.01.58 г.

Сообщаю, что 18.04.42 нами была переброшена в район г. Минска разведгруппа, возглавляемая младшим сержантом БАРСУКОВСКИМ Леонидом Александровичем, с задачей разведки войск противника в Минске и его окрестностях.

В декабре 1942 г. в связи с создавшейся в Минске обстановкой, во избежание ареста и провала, БАРСУКОВСКИЙ Л.А. и другие разведчики были вынуждены уйти в лес в партизанский отряд "Димы", где 14.01.43 г. расстреляны командиром партизанской бригады "Штурмовая" Луниным и начальником отдела бригады БЕЛИКОМ как агенты Гестапо, о чем тогда же было сообщено нам.

В настоящее время Главной Военной прокуратурой установлено /письмо № 3с – 45915-55 от 4.09.57 г./, что БАРСУКОВСКИЙ Л.С. и другие расстрелянные с ним разведчики, являлись патриотами родины и честно выполняли данное им задание.

За необоснованный и незаконный расстрел группы разведчиков Лунин и Белик 22.07.57 г. Военным трибуналом осуждены.

На основании вышеизложенного, нами принимаются необходимые меры, вытекающие из реабилитации погибших разведчиков, по восстановлению материальных и иных прав их родственникам.

НАЧАЛЬНИК УПРАВЛЕНИЯ В/Ч 38729
ГЕНЕРАЛ-МАЙОР /СМОЛИКОВ/

т. Семинову
17.2.58 г.

Доложено
Восстановить на учет погибшим 14.1.43 г. мл. сержант
(исполнено – ... )
21.2.58 г.

Цікавыя, вельмі цікавыя лічбы прыведзены ў данясенні. Каб я не ведаў райцэнтр Лагойск, то магчыма і прамаўчаў бы, але горад падчас вайны быў невялічкім правінцыяльным мястэчкам, размешчаным на моцна гарыстым ландшафце. Да яго, як і сёння, не падыходзілі ніякія чыгуначныя лініі, а тым больш паветраныя. І тут раптам з ваенных данясенняў лунінцаў высвятляецца, што ў мястэчцы было вялізарнае накапленне зерня, ажно 55 тыс. т! Гэта 916 сучасных шасцідзесяцітоных чыгуначных вагонаў альбо чыгуначны састаў даўжынёй у 12 кіламетраў!

Адразу ж паўстае пытанне: які сэнс фашыстам патрэбна было нарыхтоўваць такую вялікую колькасць зерня ў глухім і бездарожным мястэчку? Альбо нарыхтоўка таго самага сена 70 тыс. т! Гэта зноў жа для вывазкі з Лагойска таго сена, фашыстам спатрэбілася б 100 000 вазоў з конскіх спарак! Караван расцягнуўся б ад Лагойска і далёка за Маскву! Далей паведамляецца, што пры налёце было забіта чатыры дзясяткі немцаў і паліцэйскіх, а апошнім удалося збегчы. Таксама паўстае пытанне: чаму пры такой вялікай колькасці забітых ворагаў, трафейнай зброі сабралі толькі 2 вінтоўкі і наган??? І цікава таксама тое, што было менавіта знішчана 200!!! пар нямецкага абутку, а не забрана сабе і не раздадзена насельніцтву?!

Вось чарговая справаздача аб баявой дзейнасці партызанскай брыгады «Штурмавая» ад 13. 11. 43 года: *«Бригада в составе партизанских отрядов «Штурм», им. Фрунзе, «Грозный», роты отряда «За Отечество» и взвода отряда им. Пономаренко выступили на защиту деревень и мирного населения от уничтожения и огробления наседавшей вражеской карательной экспедиции в 1000 гитлеровцев, вооружённых 6 орудиями, 6 минomётами, автоматоми и винтовками. В результате завязавшегося боя каратели были разбиты и обращены в бегство. Убито*

*67 и ранено 117 гитлеровцев. Захвачено 20 винтовок, несколько гранат, противогазы, личное оружие, более 3000 патронов, 4 лошади и другие трафеи. Операцией руководило камандование штаба бригады. «*

*Начальник штаба партизанскай бригады «Штурм» лейтенант Фогель. Красносельская дача.»*

І ў гэтым данясенні, як бачым, мяркуючы па дабытай колькасці трафейнай зброі, колькасць забітых і параненых павялічылі ў разы! Вось такім хлуслівым і злачынным шляхам лунінцы дабывалі сабе славу, медалі, ордэны ды зоркі герояў. І толькі па гэтых прыпісках яны цалкам заслугоўваюць пазбаўлення ўсіх узнагарод.

Зінаіда Аляксандраўна кажа, што Беліка і Луніна судзілі пасля вайны, галоўным чынам, не за забойствы імі мірных жыхароў, старых, непоўнагадовых і немаўлят ды за гвалтаванне жанчын, а за незаконны расстрэл савецкіх разведчыкаў, прысланых з Масквы. І тое што яны атрымалі па сем год зняволення ды пазбавіліся ўсіх узнагарод, для тых забойцаў вельмі мяккае пакаранне. Бо яны і палловы не адсядзелі, вызваліліся. Вось такая горкая праўда савецкіх судоў адносна нявінна загінуўшых вяскоўцаў.

## *Мёд злізаўся, а конь жа застаўся!*

Зінаіда Аляксандраўна карэнная жыхарка Жабічаў. Да вайны яе тата, Аляксандр Іванавіч, працаваў у калгасе «На варте» разам з Віткоўскім Антонам. Добра ведаў і яго братоў Іосіфа і Бронюся, якіх у 1938ым годзе бальшавіцкі начны «чорны крумкач» звёс з родных Жабічаў беззваротна. Да вайны Аляксандр Іванавіч у калгасе працаваў пчаляром. Дома таксама меў асабісты пчальнічок, які даваў хоць невялікі, але прыбытак да сямейнага бюджэту. Калі распачалася вайна, то яго не мабілізавалі па стану здароўя.

І падчас вайны ў партызаны таксама не пайшоў, але снабжаў іх правіянтам, рызыкуючы перад немцамі ўсёй сям'ёй. Страх авалодваў пры сустрэчы і з аднымі, і з другімі.

Былі і вясёлыя моманты ваеннага ліхалецця. «Аднаго разу, – кажа Зінаіда Аляксандраўна, – партызаны прывялі тату канька, зусім дохленькага, узамен на мёд. Нехацеў ён мяняцца, таму што конь той ужо і літра мёду не каштаваў: скура ды косці. Але не рызыкнуў адмаўляцца ад «бартару», бо мог і мёд страціць, і канька не атрымаць. Памяняўшы канька на два вядры мёду і «замачыўшы» бартар, партызаны сышлі. За паўтара-два асенніх месяцы канёк той ачуняў, хоць у плуг запрагай. Але куды там, зямлю ўжо ўкавала ды першы сняжок зямельку прыцерушыў. Аляксандр Іванавіч ужо не шкадаваў, што абмяняўся, бо ўжо ўбачыў у каньку нядрэннага дадатковагапамочніка на вясну. Толькі радасцю той нядоўга цешыўся.

Неяк аднойчы да яго зноў завіталі тыя партызаны на вячэру. Выпіўшы пакілішку, разгаварыліся, і адзін з насмешкай пытаецца: «Ну як, гойсаеш на каньку нашым, мабыць, па ўсёй воласці?» А тата без усялякай задняй думкі вазьмі ды пахваліся: «Канешне, я яго выхадзіў, адкарміў, вы і не пазнаеце канька свайго!» «Ды ну?! Не можа быць! Пакажы!» Тата з гонарам і на сваю бяду вазьмі ды павядзі «гасцей» у канюшню, каб паказаць вынік сваіх гаспадарскіх здольнасцей. Адчыніў дзверы… Партызаны вачам сваім не паверылі, што іх дахадзяга не то што выжыў, але і яшчэ такім скакуном стаў выглядаць. «Ну што ж тут можна сказаць?» – кажа адзін з іх. – Адным словам, малайцом Ляксандра, Радзіма пра цябе не забудзецца! Давай, запрагай яго ў сані, зараз праверым, як ён на ходу?!» Тата пачаў пярэчыць: «Як так? Гэта ж мой, вы яго мне на мёд абмянялі!» А тыя ў адказ: «Мёд.., а што той мёд? Мёд злізаўся, а конь то застаўся!» І каб хацеў

што ім сказаць, то дзе ж ты скажаш. Пачнеш пярэчыць, бяды не абярэшся. Вось так і атрымалася. За тое, што партызанам каня выхадзіў, два вядры мёду ім аддаў ды сані яшчэ ў прыдачу! Пасля вайны тата зноў пайшоў працаваць у калгас, але ўжо не пчаляром, а будаўнікам. Пілавалі лес на будоўлю розных калгасных пабудоў. Неяк аднойчы калгасны старшыня адправіў сялян, у тым ліку і тату, -працягвае размову Зінаіда Аляксандраўна, – разбіраць былыя партызанскія зямлянкі на матэрыял. Каля адной з іх сяляне наткнуліся на міну, пакінутую партызанамі. Дваіх забіла на месцы, а тату моцна параніла. Яго адвезлі ў Заслаўе ў бальніцу, у якой ён праз чатыры дні і памёр».

Сям'я асірацела. На матуліных руках засталіся дзве дачкі Ядзя – 1937 г. н. , Зінка – 1939 г. н. і сын Мікалай – 1942 г. н. Калгасная праца выматывала на не ўсіх: і старых, і малых. У дзесяць год Зінаіда Аляксандраўна нараўне з дарослымі вязала снапы пасля жняяркі і ставіла іх у мэндлікі. Параненыя аб іржышча да крыві ногіўвечары пасля дзённай працы ледзь даносіла дадому. Дзеці клаліся спаць, а дарослым патрэбна было яшчэ папрацаваць на таку. Обмалаціць зернеды пералапаціць раней абмалочанае, каб не «гарэла». Заробак налічваўся працаднямі. Разлік быў напрыканцы года. Сяляне атрымоўвалі ад пудада трох зерня, як казалі з «вуха». Гэта адсеў ад фуражнага напалову з мякінай ды яшчэ скрыню бульбы (1 тону). Вось гэтакі быў гадавы калгасны «заробак». А з гэтага «заробка» яшчэ патрэбна было падатак заплаціць малаком, маслам, мясам!

Зінаіда Аляксандраўна сёння нават сама сабе не верыць, што прайшла праз усё вышэй сказанае. Кажа: «Іншы раз думаецца, а можа гэта быў жудасны сон?» «Не, даражэнькая Зінаіда Аляксандраўна, не сон!» – кажу ёй. – Гэта такім шляхам у СССР будавалася светлая будучыня камунізму, якая і прывяла ўсіх нас да ценявога капіталізму.»

# *БАБРЫ І БАБРОЎ ХУТАР*

Калісьці і кімсьці было вельмі дакладна заўважана, што Беларусь шматпакутная краіна. І гэта, на мой погляд, яшчэ нават мякка сказана. Бо яна і яе народ за ўвесь час свайго існавання амаль што пастаянна жылі ў стане ваенных дзеянняў і розных родаў станаўленняў і пераўтварэнняў. Не існуе ніводнай вёсачкі і хутарка ды самага глухога куточка, якія б не падвяргаліся тым альбо іншым іспытам і пакутам. Вось і вёска Бабры Янушкаўскага сельсавета яе таксама не мінула навала трагічнага мінулага. Пакуль распачаць успаміны карэннай жыхаркі гэтай вёсачкі, Ваўчок (Ляшчынскай) Любові Пятроўны – 1934 г. н., хачу прапанаваць невялічкую гістарычную даведку вёскі Бабры.

*Вёска Бабры ў XVIII стагоддзі ўваходзіла ў склад Мінскага ваяводства. У 1799 годзе было 15 двароў, 108 жыхароў, меліся завод металічных вырабаў, вадзяны млын. Асноўную частку жыхароў складалі стараверы-асаднікі з Расеі. Вёска належыла памешчыку Кузьме Дулічу. У 1885 годзе, засценак у Гайна-Слабодскай воласці Мінскай губерніі. Побач размяшчаўся маёнтак Бабры. Меўся вадзяны млын з лесапільняй. У 1909 годзе мелася толькі 6 двароў*



*і 47 жыхароў. У 1917 годзе налічвалася 1 двор і 32 жыхары. А на аднаіменным хутары (на Вяпратцы каля млына) было 7 двароў і 32 жыхары. З 20.08.1924 года вёска ў Калачоўскім сельсавеце Лагойскага раёна Мінскай акругі. З 20.081938 года ў Мінскай вобласці. У вёсцы працаваў вадзяны млын сумесна з лесапільняй, кузня, ваўначоска. У 1941 годзе 18 двароў, 75 жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну гітлераўцы спалілі адзін двор, загубілі 6 жыхароў, 2 вяскоўцаў вывезлі ў Германію, 3 загінулі на фронце.*

А зараз, як мага падрабязней, усё, што засталося ў памяці Любові Пятроўны і што яна пачула ад сваіх бацькоў. Матуля яе, Ляшчынская (Равяка) Марыя Мацвееўна 1905 г. н. з вёскі Саўдзеневічы. Было б зусім няправільным абысці ўвагай гістарычны лёс гэтай вёскі, бо сама яна заслугоўвае гэтага, а яе жыхары вялікай павагі за мужнасць і стойкасць перад рэпрэсіямі і пакутніцтвам у час Вялікай Айчыннай вайны.

*Саўдзеневічы згадваюцца яшчэ ў XVI стагоддзі як маёнтак шляхецкай уласнасці. У 1582 годзе ўласнасць Зямяніна Івана Ляўковіча і яго жонкі Т. Ц. Шыраеўскай. Паводле рэвізіі 1816 года, у вёсцы налічвалася 125 душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў Валодзькавічаў, якія здавалі яе ў арэнду памешчыку І. Кудзіновічу. У 1844–47 гг. Саўдзеневічы мелі 4 маёнткі, якія належылі розным уладальнікам: Гіжыцкаму, Жаброўскаму, Забелу і Макавецкаму. У 1870 тут ужо значацца памешчыкі Ф. Федароўскі, Ю. Брэнерт,*



**Ваўчок (Ляшчынская) Любоў Пятроўна**

*К. Калясніцкі і К. Гіжыцкі. У вёсцы меліся вадзяны млын, хлебазапасная крама, праваслаўная царква Янушкаўскага прыхода. На пачатку Ххстагоддзя ў складзе Гайна-Слабодскай валасці, Барысаўскага павета, Мінскай губерніі ў 1909 годзе ў Саўдзеневічах маецца 37 двароў з 266жыхарамі. А ў Саўдзеневічах-238 двароў і 251 жыхар. З 20.08.1924 года вёска ў Янушкавіцкім сельсавеце Лагойскага раёна Мінскай акругі. У 1938 годзе быў створаны калгас «Беларусь». Працавала сталярная майстэрня.*

Але не толькі майстэрня працавала, дзейнічала яшчэ і сталінская рэпрэсіўная машына, якая пераламала лёсы шматлікім вяскоўцам. У тым ліку і стрыечнаму брату Марыі Мацвееўны, Равяку Кандрату Іванавічу. Які ў 1938 годзе быў асуджаны да 10 гадоў ГУЛАГа. Быў вызвалены ў 1957-м годзе. І ў гэтым жа годзе рэабілітаваны.

*Перад самай вайной з Германіяй у Саўдзеневічах налічвалася 70 двароў, у якіх пражывала 350 жыхароў. Нямецкая акупацыя для вёскі і яе жыхароў абярнулася поўнай трагедыяй. Акупанты спалілі 55 двароў, загубілі 140 жыхароў, 200 жыхароў вывезлі ў Германію, 17 вяскоўцаў загінула на фронце, 10 у партызанскай барацьбе.*

Пасля вайны вёска адраджалася за лік прыезджых і тых, хто вярнуўся з Германскіх лагераў. Вось такі трагічны лёс Саўдзеневічаў. Невядома як бы склалася жыццё ў Марыі Мацвееўны, калі б яна напрыканцы 20-х гадоў не выйшла замуж на хутар Цяцеркі заЛяшчынскага Пятра



Ляшчынскі Пётр С.

Сцяпанавіча 1896 г. н. На той час ён працаваў у суседніх Бабрах кавалём у кузні старавераў, заможных сялян-аднаасобнікаў. Якія, у адрозненні ад іншых, наёмным працавітым сялянам плацілі добрую капейку. У 1931-ым у Калачах арганізаваўся калгас імя Сталіна. Да яго вымушаны былі «добраахвотна» далучыцца і сяляне-аднаасобнікі з Баброў.

## *Шпаркім ходам у светлую будучыню*

Такім шляхам Пётра Сцяпанавіч стаў калгаснікам. Размаляванае бальшавіцкімі камісарамі жыццё сялян пры калгасным ладзе адразу ж пасля яго стварэння абярнулася аднакаляровым і змрочным. Уведзеная дагэтуль нікому невядомая адзінка разліку за працу-«працадзень» (так называлася калгасная «валюта»), стала зразумелай усім сялянам праз год пасля стварэння калгасу, калі настаў час выплаты «заробку». А ён быў такім, калі чалавек у калгасе выпрацоўваў гадавую норму «працадней» (а гэта не кожнаму удавалася, бо такая магчымасць да-



**Трактар калгасны,а з задзі воз кулацкі**

лёка не ўсім была дасягальнай), то за гэта ён атрымоўваў скрыню (1 тону) бульбы і два пуды (32 кг.) зернеадсеву. Пасля чаго сялянам стала зразумелым, што, уступіўшы ў калгас, яны пераўтварыліся ў звычайных энтузіястаў, «добраахвотна» ахвяраваўшы саміх сябе савецкай уладзе. Калі ў памешчыка раней селянін-батрак за працу атрымоўваў грошы і нават злотыя, то меў магчымасць купіць сабе ды дзецям хоць якую-небудзь вопратку і іншую неабходнасць. А зараз гэтая магчымасць у адначассе знікла на невызначаны час. Але як запэўнівалі сялян савецкія прапагандысты, што грошы ў СССР у хуткім часе ўвогуле не будуць мець аніякай каштоўнасці. Таму што неўзабаве наступіць светлая будучыня камунізму, да якой зараз шпаркім крокам рухаецца савецкая ўлада.

Хтосьці з калгаснікаў паверыў, а хтосьці цалкам зразумеў, што моцна і беззваротна ўляпаўся ў пажыццёвае бязглуздае добраахвотнае зняволенне. А той хто адкрыта сваю зразумеласць выказваў, вельмі дорага за тое паплаціліся. Астатнія, больш маўклівыя, каб было што апрануць, узімкуціхенька пралі ніткі і ўслед ткалі палатно. Вясной гэтае палатно вымачвалі, адбельвалі, а пасля фарбавалі толькі ў чорны колер з дапамогай мачавічніка. Гэта такая трава, у настоі якой замочвалі ўжо адбеленае палатно. Праз некалькі дзён яно набывала чорны, як жучок, натуральны колер, які не вымываўся і не выгараў. Усё было саматканым. Коўдры шыліся таксама з саматканых посцілак, называлі іх дзяругамі. Былі яны вельмі цяжкімі, але спаць пад імі было цёпла. На ногі плялі лапці, бо купіць якія-небудзь чаравікі ці боты для селяніна-калгасніка было вельмі вялікай раскошай.

## *Вайна, а савецкая ўлада як скрозь зямлю правалілася*

Успамінае Любоў Пятроўна як у 1941-ым, на другі дзень вайны, улічваючы маланканоснае наступленне нямецкіх войскаў, якое не дазваляла эвакуацыю нават стратэгічных аб'ектаў, калгасны актыў загадаў калгаснікам разбіраць назад сваю былую маёмасць, якая была ў іх забрана пры арганізацыі калгаса (аддавалася толькі на захоўванне на час вайны). Раздаваліся каровы, авечкі, зерне са складоў і іншае. Распачалася тэрміновая мабілізацыя ў РСЧА.

Пётра Сцяпанавіч таксама з усімі ваеннаабавязанымі быў мабілізаваны і на падводах адпраўлены ў Лагойск на прызыўны пункт, а адтуль адразу ж у Мінск на чыгуначны вакзал для адпраўкі пад Смаленск на фарміраванне ў палкі. Але яго каманду напаткаў трагічны лёс. Яна трапіла пад жудаснае нямецкае бамбаванне. Мінскі чыгуначны вакзал фактычна быў знішчаны падчас фашысцкага авіяналёту. Ад іх каманды ў жывых засталіся толькі лічаныя навабранцы. Застаўшыся без старэйшых і апынуўшыся ў шокавым стане ад перажытага і ўбачанага аб чым мы больш падрабязна пагаворым пазней), Пётра Сцяпанавіч разам з чатырма землякамі рушылі, як мага далей ад таго жудаснага пекла, узяўшы накірунак дадому. Выйшаўшы з Мінска ў раёне Курапатаў, ім пашчасціла, бо яны натыкнуліся на конскую падводу, па ўсяму бачна альбо збегшую, альбо кінутую гаспадарамі. Коні спакойна пасвіліся каля лесу сярод кустоўя, а лейцы былі заблытаныя ў калёсы.

Пётра Сцяпанавіч спрытна, па-гаспадарску, уадзін момант, разабраўшыся з конскім «рулявым механізмам», прапанаваў сваім сябрам скарыстаць транспарт у асабістых мэтах. Гэтак і зрабілі. Упяцярых, усеўшыся на пад-

ваду, рушылі ў бок Лагойска. Па цэнтральнай дарозе не рызыкнулі ехаць, таму што яна была забіта савецкімі вайскоўцамі, якія адступалі. Мужыкі абралі маршрут бездарожны, добра ім вядомыя палявыя і лясныя сцяжынкі (конскія). І праз чатыры гадзіны ўсе жывыя і без перашкод дабраліся ў свае мясціны. Развітаўшыся непадалёкуад Дашкаў, бо іх шляхі разыходзіліся: адны былі з Панышоў, другія з Трусавічаў і іншых вёсак, а наш Пётра Сцяпанавіч рушыў з коньмі ў свае Бабры. Непрадбачная сутрэча для яго родных і ўсіх вяскоўцаў была вялікай радасцю, таму што для сям'і ён быў пяшчотны бацька, шчыры і любячы муж, гаспадар-руплівец і карміліца. А для вяскоўцаў быў незамянімым, не проста толькі цудоўным кавалём, майстрам сваёй справы, але ўвогуле сапраўдным Кулібіным. У яго лексіконе не існавала такога слова «немагчыма». У яго залатых руках любы кавалак жалеза ажываў ці гэта была звычайная падкова, ці гадзіннік – усё адно.

Пасля вяртання Пётры Сцяпанавіча, у вяскоўцаў з'явілася нейкая надзея на жыццё, дагэтуль замерлае, пасля таго як сельсавет апусцеў і калгаснае праўленне распалася. Прыказка: «Усё вакол калгаснае, усё вакол маё!» –



ЧАРГОВЫЯ "ВЫЗВАЛЕНЦЫ"

была, на самой справе, рэльнасцю. Бо не стала раптам ні старшынь сельсавета ды калгаса, ні агранома, ні сакратара з камуністамі!Усе яны як скрозь зямлю праваліліся, зніклі разам са сваімі сем’ямі. Быццам бы ўлады савецкай і не існавала. Толькі забывацца пра яе сялянам-«сталінцам», не давалі ўспаміны пра рэпрэсаваных ды расстраляных НКУСаўцамі іх родных. Але зараз патрэбна было рыхтавацца да сустрэчы новай нямецкай улады. Нікому не было вядома: хто яна і што яна прынясе людзям, спакой ці беды?

Дзесьці праз тыдзень пасля таго, як распачалася вайна, упершыню прыехалі на матацыклах немцы ў суседнія з Бабрамі Калачы. Да будынку былога сельсавета па загаду немцаў сабралася шмат жыхароў з Калачоў, Казлеўшчыны, Баброў і з хутара Бабры. Нямецкі афіцэр праз перакладчыка аб’явіў, што на гэтыя землі прыйшла новая «вызваленчая» нямецкая ўлада, каб вызваліць беларускі народ ад бальшавізму. Таму ўсе павінны падпарадкоўвацца нямецкаму парадку і спакойна працаваць на карысць вялікай Германіі. А каб забяспечыць сабе спакойнае жыццё, сяляне ў сваіх вёсках павінны самі сабе выбраць солтыса (старасту). Чалавека на іх погляд шчырага, працавітага і справядлівага, якому цалкам давяраюць. Такія меліся ў кожнай вёсцы, але паступаць на такую пасаду, каб служыць ворагу, яны і блізка не пагаджаліся. Немцы жыхарам далі час на самавызначэнне, папярэдзіўшы, што ў выпадку нязгоды яны самі прызначаць таго, хто ім спадабаецца.

Час ішоў, пачалося жніво. А солтыс так і не быў абраны, ды й немцы больш у Бабры не заглядалі. Хаця гарнізон і камендатура была зусім не далёка, у Янушкавічах ды ў Лагазе. Былыя калгаснікі самастойна падзялілі паміж сабой калгасныя палеткі і прыбралі з палёў зерне

ды бульбу. Гэтую «самастойнасць» немцы не пакінулі без увагі, таму што ў сярэдзіне верасня распачалі па вёсках хлебанарыхтоўкі. Даехалі і да Бброў. Пра сабраны ўраджай і ў якой колькасці ім было добра вядома. Агентура, відаць, у іх была наладжана добра. Сяляне, папярэджаныя ў адказнасці за абдурванне новай улады, вымушаны былі здаваць немцам аброк. Пры ад’ездзе немцы нагадалі вяскоўцам наконт абрання солтыса, зрабіўшы гэта апошнім загадам.

Вырашыць гэта пытанне дапамаглі, на той час яшчэ незнаёмыя нейкія прыблуды, прыбіўшыся ў Бабры. Былі яны апрануты ў вайсковую савецкую форму, моцна замусоленую і рваную. Разнаёміўшыся, высветлілася, што гэта савецкія чырвона армейцы-акружэнцы. «Вяскоўцы дапамаглі акружэнцам набыць прыстойны чалавечы выгляд, – кажа Любоў Пятроўна. – Тата яе, Пётра Сцяпанавіч, напаліў добра лазню, каб усе госці адмыліся, а жанчыны тым часам заняліся абмундзіраваннем. Да вечара ўся партызанская група, як яны сябе называлі, мела выгляд запраўскіх кавалераў.» Пасля вячэры да хаты Ляшчынскага Пётры сабралася ўся вёска на сход па абранні солтыса. На сходзе прысутнічала і ўся група акружэнцаў, у колькасці адзінаццаці чалавек. Адразу ўзяў слова камандзір гэтай групы. Ён прадставіўся Варанянскім Васіліем Трафімавічам, маёрам Чырвонай Арміі. Ён распавёў, як пад Маладзечнам трапіліў нямецкае акружэнне і як з яго вырваліся. І што зараз партызаняць у гэтых мясцінах і сыходзіць адсюль не збіраюцца. А для эфектыўнай барацьбы з ворагам ім патрэбны свае людзі-сувязныя ў кожнай вёсцы, у тым ліку і ў Бабрах.

Варанянскі паабяцаў абараняць вяскоўцаў, але ў гэтым павінны прымаць удзел і самі жыхары. І каб немцы не прызначылі солтысам свайго вернага ім служку, неабходна

скарыстаць магчымасць і абраць свайго шчырага і чэснага чалавека, якому можна давяраць. Па просьбе вясковага схода прыняць пасады солтысаў пагадзіліся Ляшчынскі Пётра Сцяпанавіч і Юрковіч Пётра Іванавіч. На развітанне партызаны загадалі новаабраным солтысам падтрымліваць з імі сувязь праз баброўскага млынара-хутараніна Клачко Кузьму. А калі раптам здарыцца штосьці непрадбачанае, то іх можна будзе адшукаць у Руднянскіх лясах. Толькі пра гэту сувязь, акрамя іх дваіх, ніхто не павінен быў ведаць, нават самыя блізкія людзі. Пры чарговым наездзе немцы зацвердзілі абраных асоб солтысамі, і пакінулі ім вялізны спіс патрабаванняў, якія павінны жыхарамі выконвацца безадмоўна. А гэта і грамадскі парадак, і падаткі, і асабліва даклады пры паяўленні ў вёсцы чужынцаў.

### *Партызанскія аб'яднанні*

Прайшоў нейкі час, і ў вёску завіталі тры незнаёмцы. Яны паказалі солтысам нямецкія аўссвайсы, якія дазвалялі ім вольнае перамяшчэнне па Янушкаўскаму гарнізону для пошуку працы з жытлом. У вёсцы знайшлося ім і месца для пражывання, і праца. Але солтысы, Ляшчынскі з Юрковічам, каб увайсці ў большы давер да немцаў вырашылі з'ездзіць у гарнізон і далажыць пра чужынцаў і атрымаць падрабязныя аб іх звесткі. І не памыліліся ў сваім намеры.

Камендант нават пахваліў солтысаў за пільнасць і растлумачыў, што гэта палонныя, былыя радавыя савецкія вайскоўцы, і што ім часова дазваляецца ў межах гарнізона жыць і працаваць вольна. У пачатку вайны, за лета і восень, у варожы палон патрапіла тры мільёны савецкіх салдат і афіцэраў. Нямецкія лагеры не разлічвалі на

такую вялізную колькасць палонных, для якіх тэрмінова патрэбны былі дадатковыя баракі, а самае галоўнае, харчаванне. Таму фашысты радавы склад палонных пакідалі ў гарнізонах і адпраўлялі на вольныя хлябы альбо за выкуп іх забіралі дадому родныя.

Такіх «вольных» палонных насельніцтва празвала прыпісьнікамі. Вось і ў Бабрах прыжыліся тыя трое. На першы погляд, хлопцы як хлопцы, якіх напаткаў непрыемны лёс, калі патрапілі ў палон і згодна сталінскага загада № 270 яны аўтаматычна пачалі лічыцца «здраднікамі» Радзімы. Але як бы там не было, вяскоўцы ім усё адно не давяралі да пары да часу. Да пачатку 1942 года немцы ў вёску заязджалі рэдка, моцна не лютавалі. Пазабіраюць, што вяскоўцы ім «ахвяруюць» ды з'едуць да сябе ў гарнізон. А плацілі людзі ім па мінімуму, бо солтысы падавалі дадзеныя магчымасцей сялянскіх гаспадарак зусім мізэрнымі і стратнымі.

Зацішша скончылася пасля таго, як дробныя партызанскія групоўкі пачалі аб'ядноўвацца ў поўнавартасныя ваенныя адзінкі, атрады і нават брыгады, і па-сур'ёзнаму пачалі калашмаціць ворага. Дзесьці ў лютым партызанская група маёра Варанянскага аб'ядналася з партызанскай групоўкай мінскіх чыгуначнікаў пад камандаваннем А. С. Марозава. Атрад атрымаў назву «Мсцівец» (Дзядзі Васі), камандзірам быў абраны Варанянскі Васілій. Адразу ж пасля аб'яднання, атрад «Дзядзі Васі» знішчыў гарнізон у Янушкавічах, пасля ў Лагазе. Гэтай жа зімойу Лагойскі раён быў дысантаваны разведвальна-дыверсійны атрад з Масквы, камандзірам якога


Варанянскі Васілі

быў прызначаны Кеймах Дзмітрый. Атрад так і называўся «Дзядзі Дзімы». Размясціўся ён у лясным густым масіве, непадалёку ад Баброў.

Партызаны гэтага атрада сталі пастаяннымі гасцямі і нават кватарантамі гэтай вёскі, за што яна і атрымала статус партызанскай. Жыхары партызанам дапамагалі чым толькі маглі, абшывалі, абувалі, воўну часалі, пралі ды вязалісвэдары, рукавіцы і шкарпэткі цёплыя. Лазні пастаянна для ўсіх ладзілі. Частымі гасцямі былі партызаны (галоўным чынам камандзіры) нават з брыгады «Штурмавой» (сумнавядомыя камбрыг Лунін Барыс і яго асабіст Белік Іван).

Партызаны ніколі не крыўдзілі вяскоўцаў, а, наадварот, пасля якіх-небудзь удалых аперацый, разгрома нямецкага гарнізона або багатага панскага маёнтка на былой польскай тэрыторыі абавязкова прыносілі жанчынам падарункі: рознакаляровыя спадніцы, сукенкі, бялізну споднюю ды розныя пачастункі, шакалад ды батоны белыя. Усё гэта для мясцовых жыхароў было навінкай, бо нічога падобнага яны да вайны не бачылі і не спрабавалі. А яшчэ адтуль ад заходнікаў прыганялі статкі авечак і кароў. Там жа пастаянна разжываліся коньмі і ўсім тым, што да іх прыкладалася. Бо ў Лагойскім раёне, каб штосьці раздабыць, партызанам патрэбна было абысці шмат вёсак і мястэчкаў, і то падобныя пошукі, як правіла, не былі ўдалымі. Таму што на Лагойшчыне да вайны сяляне галадалі і ледзь зводзілі канцы з канцамі, жылі толькі аднымі надзеямі на светлую будучыню камунізму, у чым запэўнівала бальшавіцкая ідэалогія. Так што браць у жыхароў апошняе ў месцы сваёй дыслакацыі партызаны не рызыкавалі, каб не згубіць давер сярод насельніцтва.

### *Воўк паблізу сваёй бярлогі авечак не крадзе*

Жылі, прытрымліваючыся старадаўняй прыказкі: «Воўк паблізу сваёй бярлогі авечак не крадзе.» Пра што і згадвае ў сваёй кнізе *«Война без прикрас и героических подвигов»* былы партызан-дыверсант «дзімавец», *Волкаў Юрый Сяргеевіч*: «*С продовольствием было сложно. Брать его в соседних деревнях – рубить сук, на котором сидишь. Поэтому приходилось производить эти операции, как можно дальше от «базы» – местонахождения отряда и как можно ближе к немецким гарнизонам, т. е. под Молодечно, Ильей, Красным, Радошковичами и др. Неприятное это было занятие брать у крестьян муку, крупу, картошку, ещё хуже – корову, забивать свинью, хотя последнюю скотину, как правило, никогда не брали. Всё это расходовалось очень бережно, так как доставалось с трудом и большой опасностью. Сколько ребят погибло на этих «продуктовых» операциях! Нарывались на засады, отстреливались от погони, так как взять и доставить на базу корову откуда-нибудь из околицы Красного или другого местечка, где стоит немецкий гарнизон или постерунок полиции, считалось шиком.*

*Но уже когда немцы и полицаи устраивали прочёсывание партизанских районов, собрав побольше сил или используя фронтовые части, расквартированные на отдых в данном районе, то у населения могли вычистить иногда всё, что оно не успело унести и увести в лес. Поэтому в деревнях партизанских районов и скота, и лошадей было мало, жили бедно, часто партизаны приводили из разгромленных имений, из подместечковых деревень скот и лошадей и раздавали их в своих деревнях с условием, что могут в любое время забрать. Занимались этим коменданты деревень, назначенные или из местных жите-*

*лей или из партизан. Не обходилось и без злоупотребления и жалоб.»*

Такая пазіцыя «дзімаўцаў» неаднаразова апраўдвала сябе. Мясцовыя жыхары іх паважалі і ўзаемна дапамагалі усім, чым маглі. Толькі аднаго яны не ведалі, што іх партызаны на былой польскай тэрыторыі дабывалі правізію і скот у такіх жа самых як і яны, звычайных бедных сялян. Пра што і згадвае былы партызан Волкаў: *«Пересекли мощёную булыжником дорогу, которую все уважительно называли «шоссе» и, наконец, достигли длиннющей, не расселённой на хутора деревни Путники. Последовала команда «пробомбить» деревню, т. е. запастись съестным, так как дальше долго никуда заходить не будем. Разбуженные нашим приходом собаки заливались лаем, а жители делились с нами нехитрыми продуктами деревенского производства, недостатка в которых тогда ещё не ощущалось. Чаще всего это был хлеб, сало, иногда масло и самодельный сыр из творога. Кое-кто успел наспех перекусить или выпить стакан молока у гостеприимных хозяев. Увы! Далеко не все были так гостеприимны.»*

На Вілейшчыне панскія маёнткі і гаспадаркі заможных сялян былі «разбамбаваныя» і разрабаваныя яшчэ ў 1939 годзе, а іх гаспадары адны былі расстраляныя, а другія сасланыя ў Сібір «вызваленчай» савецкай уладай. Толькі прыведзеныя архіўныя дадзеныя ў кнізе «ЛАТЫГАЛЬСКІ ЛЕТАПІС» краязнаўцы А. С. Плавінскагасведчаць пра зусім іншае стаўленне асобных партызан да сялян, пра якіх вышэй згадана ў расповядах Ю. С. Волкава. Вось што пішацца ў дакладных запісках «Фрунзенцаў»: *«Незаконные действия отдельных партизанских групп вызвали массовое недовольство у крестьян Ильянского района. Поток докладных записок о бесчинствах и мародерстве продолжал пополнять пап-*

*ки особого отдела. В ночь на 11 декабря 1943 года группа под командованием И. Чигидаева из бригады «Димы» (отряд Саливорстова) в деревне Понятичи забрала у крестьян 17 коров. Все бойцы были пьяными. Заходя в дома, они ставили хозяину условие: отдавай корову, «а не хотишь корову отдавать – отдавай водку». У одной жительницы деревни, которая была связной партизанского отряда, забрали корову. Женщину несколько раз ударили прикладом, а затем выбили окно в ее доме.*

*Иногда мародерство партизан на чужой территории сталкивалось с «законными» хозяевами деревень. Так, с 11 по 12 декабря 1943 года в деревне Тригузи находились партизаны из бригады «Димы» под командованием Ключникова. Комиссар отряда имени Буденного в докладной записке цель их пребывания там охарактеризовал предельно ясно: «занимаются исключительно мародерством». Они забирали у крестьян последний скот. Были случаи, когда этих животных здесь же перепродавали другим селянам за водку.*

*Когда в Тригузи прибыли партизаны отряда имени Буденного на заготовку продуктов, то все димовцы уже были пьяными. Последние заявили, что это их деревня, оказали вооруженное сопротивление. В Тригузях началась перестрелка между партизанами. В дальнейшем ошарашенный подобным поведением димовцев комиссар отряда Буденного 15 декабря обратился за правдой к полковнику Жуковичу: «Наше командование нас сюда направило и предупредило нас о том, что данный район нашего отряда, а здесь находятся новые хозяева, которые совершенно мешают работать. Крестьяне прямо заявляют о том, что нет никакой возможности жить: забирают последний скот, страшат расстрелом. Просим дать нам письменную установку о данном деле».*[44]

## *Выпілі, закусілі, а на дэсэрт боты ў гасцей адабралі*

А некаторыя моманты партызанскага жыцця спадар Ю. С. Волкаў згадвае з нейкім быццам бы нават гонарам за кемлівасць партызан, напрыклад, як вось у гэтым: *«В одной из деревень уже поздно ночью нарвались мы на... свадьбу («вясэле» по-белорусски). И даже в такое трагическое время на Беларуси продолжали играть свадьбы!*

*Наше появление вызвало замешательство: все с опаской поглядывали на наше автоматическое оружие (пять автоматов!). Срочно освободили места за столом, мы, даже не присаживаясь, подняли только «келишки» с мутноватой жидкостью за счастье жениха и невесты, затем наполнили ещё раз и заставили всех выпить «За Родину, за Сталина! За нашу победу!» После этого, закинув автоматы за спину, участвовали в танцах, как могли, танцуя, болтали с панёнками, а сами высматривали... сапоги на молодых и пожилых гостях. Обувь всегда была самым слабым звеном в нашей экипировке. Из Москвы её почти не присылали, а если и присылали несколько пар, то они расходились по начальству. Нам же приходилось доставать её путём «обмена» наших разбитых опорок,*



*на сапоги у местных жителей. Но в сорок третьем уже никто из них сапог не носил: либо партизаны забрали, либо они были далеко запрятаны до лучших времён.*

*А тут сразу столько добротных модных по западным вкусам, начищенных до блеска таких желанных «бутов». Правда, не очень-то мы любили эти «модные» с узким голенищем сапоги, из которых приходилось выдирать заднюю стойку, не позволяющую сминаться голенищу в «гармошку», так привычную в наших сапогах. Как известно, «гармошка» позволяет использовать сапог даже для раздувания самовара; к сожалению, в Западной Белоруссии об этом способе никто не имел понятия, так как там не было и самоваров.*

*Для «обмена» вызывали облюбованные сапоги, то есть их хозяина, во двор, где и производили «обмен» по возможности без шума, действуя методами «убеждений», что нам сапоги нужнее, а наши они могут починить и пользоваться ими до конца войны.*

*Всем ли удалось тогда найти подходящие «буты», я уже не помню, но устраиваясь на дневку в не так отдалённых от места свадьбы хуторах, сразу же пришлось искать «шевца» (сапожника) для приведения сапог к «рассейскому знаменателю». Уже вскоре все на хуторах знали, что произошло на свадьбе, а самое главное – дошёл слух, что среди «разутых» на свадьбе оказалось двое полицаев, которым пришлось понести не только материальный ущерб – лишиться сапог, но потерпеть и моральный урон – пить вместе со всеми «за Родину, за Сталина».*

У наступным выпадку распавядаецца пра зман і ашуканства селяніна:*«Приехав в Манилы – «столицу» отряда Лунина, Михеев начал с того, что «нарисовал» сапоги одному хозяину, славившемуся «обдиралой» партизан. Дело было так. После того как мы, остановились в деревне,*

*пообедали у знакомых подъехали к его хате, и Михеев предложил ему свои сапоги за пару бутылок самогону. Тот согласился, но сообразив, что тут что-то не совсем чисто, спросил:*

*– А як же товарыщ партизан будет без бутов?*

*– А у меня есть в запасе, – ответил Михеев и кивнул на кучку сена в розвальнях на которой мы перед этим сидели. Под сеном действительно что-то лежало из наших вещей, но отнюдь не сапоги. Хозяин ещё раз с недоверием посмотрел на нас, а затем на его сапоги. Обошёл вокруг Михеева, разглядывая предмет купли–продажи на чужих ногах. Тот же специально показал ему и каблуки и подошвы. Сапоги были добротные. Я с интересом наблюдал эту сцену, не представляя, чем она закончится.*

*Хозяин зашёл в хату и вынес солидную бутыль мутноватой жидкости. Михеев с видом знатока откупорил бутыль понюхал, крякнул и сказал:*

*– Ну, добре, – и стал упрятывать бутыль в сено на розвальнях, а мне шепнул: – Садись, бери лейцы (вожжи)!*

*Хозяин всё ждал сапоги, а Михеев старательно устанавливал бутыль, обложил её со всех сторон сеном, чтобы не перевернулась. Я схватил вожжи и сел со своей стороны саней.*

*Наконец, хозяин в какой-то нерешительности взмолился:*

*– А сапоги?*

*– Ах, сапоги, – небрежно заметил Михеев. Быстро достав из кармана кусок мела, видимо, заранее припасённый для этого, он шагнул к двери хаты, быстро начертил на ней один сапог, рядом побольше размером – другой и добавил:*

*– Вот тебе сапоги, носи на здоровье; когда этот износится, – указал на меньший – от этого отрежешь, – указал на больший – и добавишь к этому.*

*С этими словами он быстро сел на другую сторону саней, крикнул на лошадь; та с места взяла по свежевыпавшему снегу. Через минуту мы были далеко. Я не мог сдержать себя, чтобы не расхохотаться.* «Безумоўна, чаму б моцным, узброеным асобам не пасмяяцца і не парадавацца сваім здольнасцям у ашуканстве простага і слабога селяніна.

Аднойчы давер паміж партызанамі і жыхарамі Баброў быў часова страчаны. А здарылася вось што… Атрад «Дзядзі Дзімы»цалкам быў раскватараваны па вёсцы Бабры і па аднайменнаму хутару, у якім знаходзіўся вадзяны млын. Камандаванне атрада чакала самалёт з Масквы з вельмі важным грузам. Пра яго прылёт было вядома не толькі партызанам, але і вяскоўцам. У прызначаны дзень і час «хантбаты»(чамусьці так называлася падраздзяленне паветранай службы) падрыхтавалі за Бабрамі месца для пасадкі самалёта. Калі пачулі гул, запалілі ўмоўныя вогнішчы. Толькі замест пасадкі, ён, развярнуўшыся, пачаў бамбаваць аэрадром. Пакуль нямецкі самалёт рабіў разварот, «хантбатаўцы» аператыўна затушылі агні, чым і выратавалі вёску, яе жыхароў і кватарантаў-партызан.

### *Праверка на здрадніцтва*

Бомбы зваліліся далёка за межамі вёскі, у лесе. Пазней адну з іх, якая уцалела, партызаны скарысталі ў дыверсіі на чыгунцы, узарваўшы нямецкі цягнік іхняй жа бомбай. Выпадак з бамбаваннем стварыў недавер партызанскага камандавання да вяскоўцаў, хоць тыя і кляліся ў тым, што здраднікаў сярод жыхароў не можа быць. Але партызаны сышлі з вёскі на сваю лясную базу, якая знаходзілася, як я ўжо нагадваў, у глухім лясным масіве недалёка ад хутара Бабры, амаль на беразе невялікай рэчкі Вяпратка.

Амаль услед пасля сыходу партызан, у Бабры наведаліся немцы і паліцаі. Паліцаі сагналі ўсіх жыхароў да хаты Юрковічаў і пад пагрозай знішчэння ўсёй вёскі патрабавалі паведаміць: да каго прыходзілі партызаны і куды яны сышлі?Але ўсе вяскоўцы, быццам бы згаварыўшыся, амаль у адзін голас адказвалі адно і тое ж, што ні да каго чужынцы не прыходзілі, і ніхто не валодае інфармацыяй, дзе ёсць партызаны. Хаця ўсім цудоўнабыло вядома, хто з партызанаў у каго кватараваў. Ведалі, што млынар Клачко Кузьма мала таго, што партызанскі хлебапёк, але ў дадатак яшчэ і шчыры камуніст, які ў самыя першыя дні вайны не збег разам з партыйцамі ад немцаў, а застаўся з вяскоўцамі раздзяляць беды вайны. Усе маўчалі.

Не дасягнуўшы станоўчых вынікаў, паліцаі арыштавалі солтысаў Ваўчка Пётру Сцяпанавіча, Юрковіча Пётру Іванавіча, вяскоўца Луцкага Прохара Кліменцьевіча і аднаго з «прыпісьнікоў», а астатніх распусцілі па хатах. Вёска пачала жыць пад страхам у чаканні невядомага заўтрашняга дня. На працягу двух тыдняў вёску ніхто не наведваў ні немцы, ні партызаны. Не было ніякіх навін і пра лёс арыштаваных. На трэцім тыдні пасля налёту і арыштаў, калі сем'і арыштаваных у думках пахавалі ўжо сваіх родных, яны моцна збітыя і чуць жывыя, падтрымліваючы адзін аднаго, вярнуліся ў вёску. Не вярнуўся толькі «прыпісьнік», прозвішча якога, на вялікі жаль, сцёрлася ў людской памяці і ў Любові Пятроўны таксама.

Як ёй стала вядома ад свайго таты, што пасля арышту паліцаі з немцамі адвязлі іх у суседні Лукавец, у былы маёнтак пана Бароўскага. Там іх трымалі ў падвальным зернясховішчы цэлых два тыдні, амаль без вады і харчавання. Кожны дзень па некалькі разоў па аднаму забіралі на допыты, пры якіх пастаянна катавалі і лупцавалі шомпалам па ўсёй задняй частцы цела, патрабуючы звесткі


ПАРЭШТКІ МАЁНТКА БАРОЎСКІХ У ЛУКАЎЦЫ

пра партызан. Допыты ладзілі паліцаі, немцы зазіралі толькі зрэдчасу. Перашапнуўшыся паміж сабой, немцы сыходзілі, а паліцаі працягвалі катаванні. Невядома чым бы скончылася для іх маўчанне, каб не «прыпісьнік». Неяк пасля чарговага допыту ён заявіў сваім сябрам-сукамернікам, што ён ужо больш не можа трываць здзекі і што ён вырашыў лепш загінуць, чым так пакутаваць. А галоўнае, што яны так усіх даканаюць, толькі гінуць усім для фашыстаў будзе вельмі затлуста. І таму калі ён на чарговым допыце заявіць, што завядзе немцаў да партызанаў, то тыя магчыма апошніх адпусцяць дадому, да дзяцей. Казаў, што ён сталы бабыль і губляць яму, акрамя свайго і так ужо вісячага на валасіне жыцця, больш няма чаго. Калі згіне, то хоць ад пакут пазбавіцца. Так, як сказаў, так і зрабіў. З чарговых допытаў «прыпісьнік» ужо не вярнуўся, і як ён казаў, так яно і здарылася. На радасць Ваўчка, Юрковіча і Луцкага паліцаі, на самой справе, іх моцна закатаваных, вызвалілі.

Вось гэты эпізод з арыштам мяне вельмі зацікавіў і прывёў да сумнення. Справа ў тым, што нямецкі гарнізон стаяў у Хаценчыцах, а не ў Лукаўцы. Туды немцы

неведваліся толькі час ад часу. Са старажылаў ніхто не прыпамінае, каб у маёнтку немцы мелі нейкае пастаяннае месцазнаходжанне. Толькі аднойчы ў 1944 годзе пры адступленні германскіх войск некалькі дзён на тэрыторыі маёнтка (да таго часу сядзібны дом быў ужо спалены) жылі ў палявых шапіках немцы-франтавікі. У сувязі з гэтым узнікае пытанне. А можа гэта быў арышт не немцамі, а партызанамі на праверку трываласці? Бо пасля вяртання вяскоўцаў з «нямецкага»палону, у вёску вярнуліся і партызаны. Казалі, што вылічылі здрадніка ў самім атрадзе.

Пасля, у хуткім часе, у атрад разам з ваенным грузам прыляцела група разведчыкаў для выканання асобага задання цэнтра. Сярод іх была маладая і вельмі прыгожая дзяўчына, Таццяна Клімантовіч. Заданне тое для Масквы мела вельмі вялікае значэнне, і таму трымалася яно ў вялікім сакрэце. Пагэтаму для яго выканання былі падабраныя самыя надзейныя і добра правераныя жыхары Баброў. Таню засялілі ў хату Юрковічаў пад выглядам радні. Пазнаёміўшыся са сваімі памочнікамі і сувязнымі, Таня распачала пастаянныя вандроўкі на Мінск. Суправаджала яе амаль кожны раз родная цёця маёй субяседніцы Любові Пятроўны, Ляшчынская Соф'я Сцяпанаўна.

### *Тэракт супраць гаўляйтэра Кубэ*

Соня за Таццяну была старэйшай толькі на гады чатыры-пяць, і таму яны хутка знайшлі агульную мову. Соня вазіла Таню ў Мінск на спецвазках: зімой – у палазах, а ўлетку – у дышле. Тата Любові Пятроўны змайстраваў сакрэтныя і надзейныя схованкі. Каб да іх дабрацца, напрыклад, у санках, патрэбна было адкручваць жалезную акоўку палазоў, а да такога ні немцы, ні паліцаі не маглі і дадумацца. Нават Соня не ведала пра тыя сакрэты, бо

партызаны і падпольшчыкі ў Мінску палазы «зараджалі» і «разраджалі» пры яе адсутнасці.

Часта прыходзілася сутыкацца з патрулямі, але кожны раз кемлівыя дзяўчаты знаходзілі выйсце, іншы раз прыходзілася аддаваць нават увесь абменны тавар, які для канспірацыі кожны раз вазілі з сабой.

Аднойчы дзяўчатам было загадана ехаць у Мінск з начоўкаў, што на гэтыя суткі яны паступаюць у распараджэнне падпольшчыкаў, а з падрабязнасцямі задання іх азнаёмяць на месцы. Дзяўчаты, як звычайна, выправіліся па добра ўжо знаёмаму маршруту не толькі ім, але нават і каньку, які шпарка і ўпэўнена трусіў па дарозе на Мінск. Толькі ў вёсцы Сліжана патрэбна было прыхапіць яшчэ адну падобную ім «гандлярку». Забраўшы ў Сліжане калегу, Марыю Осіпаву з «таварам», далей ехалі больш моўчкі. Соня прызналася Тані, што ёй на душы вельмі моташна, што апанавалі нейкія незразумелыя хваляванні і нават страх. Таня супакоіла і запэўніла сяброўку ў тым, што стан яе такі проста ад нярвовага перагруза і недасыпання. Пасля чаго Соня крыху супакоілася. А хваляванні на самой справе былі недарэмнымі, бо было з-за чаго хвалявацца, і дзявоцкае сэрца не памылялася. Таму што, акрамя паперак, захаваных у вазку, у Марыінай кашолцы, пад брусніцамі, ляжалі магнітныя англійскія міны з кіслотнымі дэтанатарамі. Марыя перад Мінскам адлучылася і пайшла сваім шляхам, а Соня з Таняй- сваім, да горада дабраліся без праблемаў, праверак амаль што не было. Таня занялася сваімі справамі, а Соня выконвала загады падпольшчыкаў, возячы па гораду і за горад то адных, то іншых незнаёмых людзей. А бліжэй да вечара Соню затрымаў паліцэйскі патруль і адвёз яе для высвятлення асобы ў свой пастарунак. А так як начальства ўжо раз’ехалася, бо было позна, паліцэйскія пакінулі Соню да




раніцы, пакуль прыйдзе начальнік паліцыі. А на ранку стала вядома, што партызаны ўзарвалі беларускага гаўляйтэра Вільгельма Кубэ.

У сувязі з тэрактам затрыманую Соню перадалі ў СД для допытаў. Яе некалькі дзён падвяргалі невыносным катаванням: заганялі іголкі пад пазногці, ставілі босымі нагамі на распаленае жалеза ды распаленым дротам секлі па спіне… Але Соня не сказала ні слова, што яна мае сувязь з партызанамі. А больш ёй і на самой справе нічога не было вядома. Не ведала таго, што яна таксама непасрэдная ўдзельніца тэракта па знішчэнню ката беларускага народа. Не ведала таксама, што васемнаццацігадовая Таццяна Клімантовіч – гэта Таццяна Баўэр, дачка вядомага венгерскага камуніста Іштвана Баўэра, эмігрыраванага ў СССР і доўгі час пражыўшага ў Маскве. Таццяна скончыла маскоўскую школу і ўжо вучылася ва ўніверсітэце. Калі пачалася вайна, адразу добраахвотніцай пайшла на фронт. Але яе ў хуткім часе адклікалі з фронта і накіравалі ў спецшколу разведчыкаў, пасля якой Таццяна ў групе з іншымі і была закінута на Лагойшчыну для падпольнай работы ў Мінску. А яшчэ Соня не ведала і нават не ўяўляла сабе, што калі пашчасціць раптам ёй, нейкім чынам, вырвацца з гестапаўскіх засценкаў, то яе ўжо сярод сваіх могуць чакаць новыя трагічна-несправядлівыя іспыты. Пра ўсё гэта Соні стане вядома пазней, калі пасля нечалавечых катаванняў яе ўсё ж такі фашысты выпусцілі на волю.

Ледзь жывая, збітая на чорную галавешку і амаль што без ног, Соня з людской дапамогай так-сяк дабралася ў свае Бабры, але ў родную хату не трапіла, бо яе надчэквалі двое партызанаў «Дзядзі Дзімы». Знямоглай Соні

не дазволілі нават павітацца з роднымі і адразу, пасадзіўшы яе на воз, павезлі на партызанскую базу, але ўжо на іншую, пра якую дзяўчыне не было вядома. Як ёй распавялі яе канваіры, месца дыслакацыі атрад змяніў адразу ж пасля яе арышту. Таму што былі ўпэўнены ў тым, што фашысты асіляць «развязаць» язык Соні і яна выдасць атрад. Але дзяўчына вытрымала ўсе пакуты і не здрадзіла, не выдала партызан, тым самым захавала сваё жыццё і жыццё сваіх родных. У атрадзе ў Соніну мужнасць не хацелі верыць. Ёй ладзілі жорсткія допыты і праверкі. Раны пасля фашысцкіх катаванняў і не без дапамогі партызанскіх асабістаў гнаіліся і дрэнна зажывалі.

### *Адным – узнагароды, а іншым – допыты*

Дзесьці праз тыдзень, больш-менш упэўніўшыся ў шчырасці дзяўчыны, Соню партызаны адпусцілі і нават самі адвезлі дахаты. Бо яна ўжо з распачатай гангрэны на нозе ступаць зусім не магла. На гэтым партызанская дзейнасць скончылася. Соня доўгі час была прыкаваная да ложка. Падчас блакады яе на насілках родныя неслі ў забалочаны Мышанскі лясны масіў. Ужо ніхто не верыў, што Соня вытрымае і пераможа смяротныя раны. Але мужная дзяўчына выжыла, хоць і засталася кульгавай калекай на ўсё жыццё.

Пасля вайны непрызнаная партызанка, непасрэдная ўдзельніца дыверсійнай аперацыі па знішчэнні гаўляйтэра Кубэ, сем разоў ездзіла ў Маскву дамагацца прызнання яе як ўдзельніцы падпольнай і партызанскай барацьбы супраць фашыстаў, але ўсё дарэмна. Адзінае, што ўдалося дасягнуць Соф'і Сцяпанаўне, то толькі як звычайнаму грамадзяніну прызначэнне пенсіі па калецтву падчас вайны. Вось так пра сваю цёцю мне распавяла Любоў Пятроўна.




А вось як апісвае партызанскую дзейнасць у сваіх успамінах партызан-падрыўнік атрада «Дзядзі Дзімы», Волкаў Юрый Сяргеевіч. Пра падрыхтоўку і правядзенне самой аперацыі па знішчэнню Кубэ, ён згадвае, галоўным чынам, тое самае, што і сведкі тых часоў, але толькі сваімі вачыма: *«Мария Борисовна Осипова (подпольная кличка «Чёрная») – руководитель конспиративной группы в Минске, выполнявшей задания командования нашего отряда, вышла на Елену Григорьевну Мазаник. Она работала горничной в особняке, который занимал Кубе с семьёй, и выполняла всевозможную чёрную работу в доме. Мазаник наотрез отказалась разговаривать с Осиповой, боясь элементарной провокации. Дело в том, что перед этим к ней уже обращалась с подобным предложением Троян Надежда Викторовна из отряда «Буря». Последняя даже предлагала ей деньги и это обстоятельство насторожило и испугало Елену Мазаник. Подобные провокации были излюбленным приёмом гестапо.*

*И всё-таки Осиповой удалось уговорить Елену, а чтобы она убедилась, что с ней ведут переговоры именно партизаны, предложила отправить её сестру Валентину Шуцкую в сопровождении Осиповой в расположение нашей базы. Шуцкая встретилась там с Фёдоровым и другими командирами. Сестра подтвердила, что Осипова представляет отряд, имеющий прямую связь с Москвой, только тогда Мазаник согласилась выполнить это смертельно опасное задание: уничтожить взбесившегося зверя в собственной берлоге. И вот в ночь с 21-го на 22-е сентября 1943 года ничего не подозревавший палач белорусского народа был уничтожен взрывом мины, под-*

*ложенной отважной подпольщицей. Взрыв произошёл в 2 часа по московскому времени, или в полночь по берлинскому.»*

Далей Волкаў Ю. С. піша, што пасля гэтай падзеі, вяртаючыся з чарговай дыверсіі на чыгунцы, на партызанскіх пастах іх папярэдзілі, што над атрадам «Дзядзі Дзімы» навісла пагроза і таму ён тэрмінова змяніў месца дыслакацыі: *«все находятся в другом участке леса и живут в шалашах. Нас это немного удивило: почему нужно было менять землянки на шалаши? Ведь уже наступила осень, и хотя было ещё тепло, но частые дожди давали о себе знать. А водонепроницаемых шалашей ещё никто не научился делать...*

*Когда мы нашли, наконец, новую стоянку нашего отряда, первое, что бросилось нам в глаза – это обилие совершенно незнакомых людей. То были вывезенные из Минска лица, так или иначе связанные с покушением на гауляйтера, или с перемещением семьи Мазаник из Минска в наш Руднянский лес. К великому сожалению, не все люди, участвовавшие в этой операции (даже весьма косвенно), сумели скрыться. И немецкая служба безопасности арестовала многих участников операции, которые даже не знали, кого, куда и почему они помогали перевозить. Почти все они были замучены в застенках СД и гестапо.*

*Мне запомнились, конечно, основные герои этой истории – Елена Григорьевна Мазаник и Мария Борисовна Осипова. С ними была в отряде сестра Мазаник – Шуцкая и её детишки…»* Шкада, канешне, што Волкаў Ю. С. не «запомніў»шматлікіх мясцовых патрыётаў, якія прымалі ўдзел у гэтай (і не толькі)ваеннай аперацыі. Ім былі заўважаныя толькі асобныя, прысланыя з Масквы. Яны атрымалі і зоркі герояў і ордэны з медалямі, а такія, як Соф’я Сцяпанаўна ды яе брат, тата Любові Пятроўны,

Пётр Сцяпанавіч Ляшчынскія не атрымалі не толькі заслужаныя ўзнагароды, але нават статуса партызанаў.

Хаця Пётр Сцяпанавіч, як нам ужо вядома, быў вельмі актыўным партызанскім памагатым. Акрамя выканання абавязкаў вясковага солтыса, прызначаным партызанамі на іх карысць і адначасова дагаджэння немцам, ён выконваў шмат іншых загадаў атрада. Як першакласны каваль, меў здольнасці не толькі коней партызанам падкоўваць, але і адрамантаваць самую складаную зброю.

### *Майстра з залатымі рукамі*

Яшчэ вось адзін урывачык з успамінаў Волкава, які датычыцца менавіта Пятра Ляшчынскага: «*Когда наша группа разместилась в одной из хат, Хатагов первым делом отправил меня в соседнюю деревню подковать лошадей в имевшейся там кузнице.*

*Здесь мне посчастливилось познакомиться с одним интересным человеком – кузнецом, мастером своего дела. Он не возражал подковать лошадей, но сказал, что ни подков, ни ухналей (гвозди, которыми прибиваются подковы к копытам) у него давно нет, и нужно будет всё это изготовить из старья. Предложил мне покачать меха горна, а сам извлёк откуда-то половинки изношенных подков, бросил их в огонь, раскалил докрасна и мастерски начал их сваривать между собой простыми ударами молота. Я качал меха и иногда поддерживал ему куски раскалённого железа клещами. Наконец, он сотворил из бросовых остатков подков необходимые нам четыре пары.*

*Но когда он принялся за изготовление ухналей, у меня рот раскрылся от удивления и восторга. Ничем не накаляя проволоку, из которой он делал эти гвозди, быстро*

*и сильно бил по ней молотком, расплющивая и вытягивая её в виде длинной остроконечной пирамидки. Она под ударами молотка на моих глазах раскалялась докрасна, вытягивалась, принимала нужную форму; ещё один удар зубилом, и готовый гвоздь летел с наковальни. За каких-нибудь пятнадцать минут он наделал их достаточно, чтобы подковать моих лошадей. Это была работа артиста в своём деле!*

*Впоследствии мне рассказывали, что он, приглядевшись как устроен автомат ППШ (ему часто приходилось чинить оружие партизан), ухитрился сделать почти такой же, используя кусок ствола от винтовки и обрезок трубы, и... ушёл в партизаны. Получился ли из него хороший боец – мне неизвестно, но, что округа лишилась замечательного мастера – кузнеца, было очевидно.»*

Так, Пётра Сцяпанавіч быў цудоўным партызанскім майстрам. Пасля вызвалення Беларусі ад фашыстаў 5 ліпеня 1944 года яго мабілізавалі ў савецкую армію. А як былога ўжо франтавіка Фінскай вайны адразу ж без перападрыхтоўкі накіравалі прама ў пяхоту Другога Беларускага фронта. У складзе якога ён вызваляў Літву, прымаў удзел на самых складаных участках фронта ва Усходняй Прусіі. 2 лютага 1945 года пры ўзяцці Кёнігсберга быў моцна паранены ў спіну. Амаль паўгода праляжаў у ваенным шпіталі. На прыканцы лета 45га быў дэмабілізаваны па раненню і з атрыманымі ўзнагародамі ордэнам Вялікай Айчыннай вайны I ступені ды медалём за баявыя заслугі пры ўзяцці Кёнігсберга Пётра Сцяпанавіч вярнуўся ў свае Бабры жывым, але моцна пакалечаным. Доўгі час лячыўся, працуючы брыгадзірам у сваім калгасе імя Сталіна. А як крыху ачуняў, ад брыгадзірства адрокся і вярнуўся да сваёй любімай кавальскай справы нягледзячы на сваю інваліднасць. Бо патрэбна было карміць дзетакды сястрэ

Соф'і дапамагаць, якая так і не адышла ад катаванняў пры арыштах падчас вайны.

Кавалём хоць і было цяжка працаваць, але была магчымасць падхалтурыць, у адрозненні ад брыгадзіра, якога маглі за любую памылку звінаваціць ва злоўжыванні і асудзіць на зняволенне ў сталінскія лагеры. Калгасная праца выглядала больш на вольнае зняволенне. Бо ў ім за працу, як і да вайны грошы не плацілі, у ведамасці пазначалі толькі колькасць працадней, каб напрыканцы каляндарнага года разлічыць калгаснікаў, як звычайна 2 пуды зернеадыходаў і бульбы іншы раз і менш абяцанай скрыні (1 тоны).

Баброўцы, у тым ліку і Любоў Пятроўна, імкнуліся хадзіць на працу на Вілейшчыну, у суседні Лукавец, дзе быў утвораны саўгас. У параўнанні на той чассаўгас «Лукавец» быў моцнай гаспадаркай, бо ў ёй яшчэ ад польскага часу захавалася шмат чаго для вытворчасці сельгаспрадукцыі – гэта панскія кароўнікі, вялікія цяпліцы для вырошчавання агуркоў і памідораў, ветравы млын і іншае, уцалелае падчас вайны. Згарэўшы быў толькі сядзібны дом былога маёнтка паноў Бароўскіх. А галоўнае ў Лукаўцы захавалася сама методыка і арганізацыя вядзення сельскай гаспадаркі. Людская працавітасць значна падымала ўзровень жыцця саміх сялян і заўжды давала станоўчыя вынікі ва ўсёй гаспадарцы. У саўгасе за працу кожны месяц выплачваўся заробак грашыма, і гэта вабіла людзей з навакольных вёсак. Ды й кожны дзень была магчымасць нейкі агурок ці памідорыну стырыць, а гэта дома было вялічэзным ласункам. А яшчэ ў Лукавецкую краму рэгулярна завозіўся хлеб, пра што на Янушкаўшчыне маглі толькі марыць.

Пасляваенная галадуха была страшнейшай, чым падчас вайны. Галоўным рацыёнам былі «шайморы» (бліны з перамерзлай паўгнілой бульбы), якія выклікалі моцныя

кішэчныя хваробы. Напрыканцы саракавых ад галадухі памерла сястра Любові Пятроўны, Ганна, а ў 1951-ым у знясіленага брата Якава астанавілася сэрца.

Любоў Пятроўна ў 1955 годзе выйшла замуж за прысланага ў калгас агранома, Ваўчка Уладзіміра Трафімавіча 1928 г. н. За 60-ці гадовае сумеснае жыццё выхавалі двух сыноў Валянціна, Міхаіла і дачку Галіну. Атрымалі шмат дзяржаўных узнагарод, ганаровых грамат, у тым ліку і Вярхоўнага савету за працоўныя дасягненні.

Тата Любові Пятроўны, Пётра Сцяпанавіч, таксама хоць і быў інвалідам вайны Ігр. , але не адставаў ад маладых. Працаваў на поўніцу ажно да 75-ці гадовага ўзросту. За такі доўгі працоўны шлях да яго баявых узнагарод дабавілася шмат працоўных. У 1989 годзе на 93 годзе жыцця Пётра Сцяпанавіч адышоў у свет іншы, так і не атрымаўшы як інвалід вайны заслужанага яму «Запарожца», які дастаўся іншаму. Не атрымаў ён і статуса партызана атрада «Дзядзі Дзімы», якому ўсю вайну служыў у якасці вясковага солтыса і ледзь не загінуў на фашысцкіх допытах з катаваннямі па падазрэнню ў сувязі з партызанамі.

Але не толькі Ляшчынскія былі не пазначаны і не адзначаны як паўнавартасныя партызаны атрада «Дзядзі Дзімы». Застаўся без увагі і партызанскі млынар і хлебапёк з Баброва хутара, Клачко Кузьма Рыгоравіч.

### *Млынар–хлебапёк Клачко Кузьма*

Хачу больш падрабязна распавясці пра гэтага неардэнарнага працавітага, кемлівага чалавека і шчырага камуніста. Менавіта толькі на такіх камуністах, як Кузьма Рыгоравіч, трымалася савецкая ўлада. Падрабязнасці пра лёс гэтага чалавека я даведаўся ад яго нявесткі, Клачко (Цывілька) Таісіі Пятроўны 1938 года нараджэння. Карэн-




най жыхаркі вёскі Чарвякі (зараз Сакалоўка) Хаценчыцкага сельсавета Вілейскага раёна. А ёй у сваю чаргу неаднаразова расказвалі і сам свёкар і свякруха, Клачко (Ханкевіч) Марыя Антонаўна 1906 г. н.

Нарадзіўся Клачко Кузьма Рыгоравіч у 1906 годзе на Лепельшчыне ў беднай сялянскай беззямельнай сям'і. Як казаў сам Кузьма Рыгоравіч: «Я не памятаю свайго дзяцінства і не таму што склероз, а таму што яго ў мяне ўвогуле не было, бо была толькі праца.» Кузьма Рыгоравіч быў яшчэ немаўлятам, калі памёр яго тата. Маці з досвітку да цемры цяжка батрачыла на барскіх палетках. А маленькі Кузьма з іншымі сялянскімі дзеткамі пасвіў гусей у гэтага ж барына, ад якога часцяком перападала дубцом па таму месцу адкуль ногі растуць. У васьмігадовым узросце гусіная кар'ера ў Кузьмы скончылася. Таму што ад барына (прозвішча якога, на вялікі жаль, не захавалася ў памяці Таісіі Пятроўны) атрымаў «павышэнне» па працы. Быў прызначаны на «пасаду» памочніка млынара, у абавязкі якога ўваходзіла прыборка памяшканняў, рамонт(штопка) мяшкоў і шмат іншых пасільных абавязкаў.

Праз год раптоўная смерць матулі маленькага Кузьму зрабіла круглай сіратой. Родных нікога не было, каб падтрымаць маленькага хлапчука. Нейкі час са спачуваннем дапамагалі вясковыя сяляне, але ў кожнага з іх на першым месцы заўжды былі клопаты пра сваіх дзетках. Барына мала цікавіла праблема сялян і іх нашчадкаў, але да Кузьмы, як выключэнне, ён аднёсся неяк больш уважліва. Магчыма, улічыў яго працавітасць і паслухмянасць. Трымаць Кузьму пры сваім двары не меў патрэбы. І калі

ў чарговы раз да барына прыехаў яго сябар з Барысаўскага павета, таксама моцны землеўладальнік з маёнка Ганявічы, князь Ігнат Пузына, барын спытаў князя, ці ёсць ў таго жаданне набыць сабе перспектыўнага млынара толькі круглага сірату? Праслухаўшы падрабязную характырыстыку хлапчука, князь не адмовіў сябру ў просьбе і забраў Кузьму ў свой маёнтак . У саміх Ганявічах пры двары Кузьма доўга не затрымаўся. Князь хлапчука на далейшую «службу» адправіў да свайго ляснічага Ханкевіча Антона ў вёску Цна. У той час яна налічвала дзясяткі два двароў.

Ханкевіч жыў крыху воддаль ад вёскі, на беразе невялічкай рэчачкі, на якой стаяў яго ўласны млын. Вось на гэтым млыне ў ляснічага Кузьма і затрымаўся на доўгія гады. Ханкевіч з самага пачатку пачаў ставіцца да Кузьмы са спагадай і паразуменнем. Адносіны былі як да члена сям'і і нават пасля бальшавіцкага кастрычніцкага ўзброенага дзяржаўнага перавароту ў Расеі, Ханкевіч не змяніў сваіх адносінаў да Кузьмы. Ханкевіч і пры бальшавіках працягваў працаваць лесніком і аднаасобнікам на сваіх пяцігектарных палетках. І, падрастаючы, Кузьма станавіўся ў гаспадарцы ўжо надзейным і шчырым памагатым, якому можна было давяраць усё як роднаму сыну.

У сям'і Ханкевіча было тры прыгажуні дачкі (пагодкі), а вось сынамі яго Бог чамусьці абдзяліў. Таму і адносіны хутчэй за ўсё да Кузьмы ў Ханкевіча былі як да сына. Ішлі гады і ўжо напрыканцы дваццатых гадоў Кузьма выглядаў статным і прывабным кавалерам. І здарылася так, што Кузьма закахаўся ў старэйшую дачку Ханкевіча, Марыю, сваю аднагодку. А чаму абраў ён менавіта Марыю, якая з дзяцінства мела рухавую праблему з рукамі, засталося для ўсіх загадкай. Хаця мог бы ажаніцца з любой з малодшых дачок, якія не супраць былі бы звязаць жыццёвы лёс

з высокім і моцным мужчынам. Але выбар ён зрабіў на Марыі, і Ханкевіч не стаў пярэчыць дачцэ, якая сама захацела пайсці замуж за былога батрака. Ды й раздумываць не было калі, бо наступалі неспакойныя гадзіны.

Савецкая ўлада распачала барацьбу з НЭПаўцамі і «кулакамі». Павыходзіўшы замуж, усе тры дачкі Ханкевіча з'ехалі з бацькоўскай хаты, каб у выпадку чаго не патрапіць пад дэпартацыю, якая ў той час была масавай. У 1930-ым з'ехалі і Марыя з Кузьмой на Лагойшчыну ў Свідна Падонкаўскага сельсавета. Вёска Свідна была немаленькай, з нядрэннай на той час інфраструктурай. У ёй налічвалася 64 падворкі і больш за 300жыхароў. У вёсцы мелася пачатковая беларускамоўная школа, працавала сукнавальня, майстэрня па пашыву кажухоў, працавала кузня і вадзяны млын. Маладыя ўладкаваліся на працу ў толькі што арганізаваны калгас «Прасвет». Кузьма-млынаром, а Марыя- вартаўнікам на тым жа млыне. Тут жа ў Свідна ў 1932 годзе ў іх на свет з'явіўся Валодзька, у 1934 – Мікола, у 1936 – Валянцін, у 1938 – Галіна. Усе гэтыя гады жыць прыйшлося ў бараку і на працадні. Усе сямейныя цяжкасці Кузьма выносіў толькі на сабе. Вымушаны быў выконваць, акрамя сваіх мужыцкіх абавязкаў, амаль што ўсе і жаночыя. Таму што бедная Марыя з-за хваробы рук нават дзіцятка патрымаць на руках не магла, а не то што выканаць якую работу. Цяжка нават уявіць, што чалавек можа здолець нагамі вымыць кашулю ці бялізну альбо перабраць бульбу ці падкінуць дроў у грубку. А Марыя магла гэта, і шмат чаго яшчэ іншага.

Жыццёвыя цяжкасці падштурхоўвалі Кузьму і Марыю на пошукі лепшай долі. І калі ў 1939 годзе саветы далучылі заходнюю частку Беларусі да СССР і пачалі накіроўваць добра ахвотнікаў-камуністаў на дапамогу вызваленым з-пад польскага ярма сваім братам-заходнікам наладжаваць там

новае жыццё з поглядам у светлую будучыню камунізму, то Кузьма з Марыяй вырашылі скарыстаць такую магчымасць. Саветы фактычна грамадзянам прадстаўлі такую магчымасць, але, улічваючы тамашнюю палітычную нестабільнасць, пераезд за былую мяжу дазваляўся пакуль што толькі камуністам і членам іх сямей.

Наслухаўшыся за паслярэвалюцыйны час савецкай прапаганды, Кузьма даўно ўжо быў маральна падрыхтаваны да ўступлення ў камуністычныя рады. У душы ён даўно ўжо быў камуністам і свята верыў у тую светлую будучыню. Кузьма ўжо цвёрда вырашыў, што час яго наступіў. Ён падаў заяву на ўступленне ў КПБ. Праз пэўны час, атрымаўшы партбілет, Кузьма са ўсёй сям'ёй рушыў са Свідна ў бок савецка-польскай мяжы ў спадзяванні пераадолець яе без усялякіх перашкод. Дабраўшыся да Калачэй, да стражніцы савецкіх памежнікаў, высветлілася, што мяжа практычна пакуль што не адчынена. І перабрацца на былы польскі бок не дапамог нават і партбілет. Адваротнай дарогі ўжо не было, і Кузьма звярнуўся да старшыні мясцовага калгаса імя Сталіна па працаўладкаванню і па жыллю. Даведаўшыся, што Кузьма млынар яшчэ з мікалаеўскіх часоў, старшыня быў вельмі рады такой знаходцы. Бо якраз у той момант стаялі два млыны без млынароў (іх пасадзілі за шпіянаж на карысць Польшчы), адзін-у Калачах, другі-на Бабровым хутары.

### *Камандзіроўка ва Усходнія польскія крэсы*

Кузьма з Марыяй выбралі хутар, таму што там стаялі пустымі хаты расстраляных і дэпартаваных «польскіх шпіёнаў». А якія гэта былі «шпіёны», Кузьме, з цягам часу, стала больш чым зразумелым. Новы млынар сваёй працавітасцю і справядлівасцю вельмі хутка заслужыў аўтарытэт і павагу з боку жыхароў і начальства. Праца-

ваў самаадданна і слухаў жудасныя шэпты-расповяды мясцовых жыхароў і сялянства з памежных навакольных вёсак. Жыўшы ў Свідна, Кузьме, безумоўна, было добра вядома пра ворагаў народа і якую шкоду яны наносілі сваёй антысавецкай прапагандай маладой савецкай уладзе. Бо кожны выпадак антысаветчыны абнародваўся ў выглядзе вулічных абвестак і карыкатурных плакатаў. Так, на самой справе, ворагаў НКУС знаходзіла нямала, але не на столькі як тут, на памежжы. Тут ворагаў народа і польскіх шпіёнаў арыштоўвалі не толькі сем'ямі, але амаль цэлымі вёскамі. Як, напрыклад, хаця бы ў тых самых Жабічах дзясяткі мужыкоў былі расстраляныя як польскія шпіёны, а сем'і іхнія дэпартаваныя ў Сібір.

Даходзілі чуткі і з-за мяжы пра супрацію заходнікаў савецкай уладзе. Кузьма (і не толькі ён адзін) здзіўляліся тым заходнікам і не разумелі тых, чаму яны так няўдзячны савецкай уладзе, якая іх вызваліла ад польскага прыгнёту? Кузьме стала ўсё зразумелым пасля таго, як аднойчы напрыканцы 1940 года Калачэўская партячэйка накіравала камуніста, Клачко Кузьму як добрага спе-



цыяліста па млынах у заходнюю частку, у вёску Чарвякі (сёння Сакалоўка), рамантаваць вадзяны млын-лесапільню. Атрымаўшы адпаведныя мытныя паперы, бо яшчэ існаваў памежны кантроль, Кузьма з двума памагатымі загрузілі неабходны матэрыял і інструмент на падводу і рушылі ў колішняя далёкае замежжа на дапамогу братам-заходнікам. Праз хвілін пятнаццаць, мінуўшы апошнюю памежную савецкую вёску Мышыцы, праз паўвярсты ад яе пры дарозе яшчэ стаялі памежныя слупы і будка вартавога. Памежнік, заглянуўшы ў паперы, даў дазвол на праезд. Апынуўшыся па другі бок мяжы і ўбачыўшы дзесьці на пераездзе высокі са званіцай і вялікім крыжам наверсе размаляваны касцёл, а дзесьці злева, на ўзвышшы, каменныя пабудовы маёнтка паноў Бароўскіх, абрабаваных, але пакуль незруйнаваных (як у Вяпраце), пакідалі нетлумачальную зацікаўленнасць і прыемныя ўражанні. І чым далей ехалі, тым больш на іх шляху сустракалася дзіўнага і дагэтуль невядомага.

Першая невялічкая «польская» вёсачка Батурына са сваім велічавым касцёлам, карчмой, школай, брукаванай вуліцай, уздоўж якой стаялі рознага памеру хаты і хацёнкі, пабудаваныя не з дрэва-кругляка, а абчасаных плашчакоў, крытых, праўда, больш саломай, але з пафарбаванымі вокнамі, выклікалі столькі эмоцый белай зайздрасці, што адразу развеялі ўсю негатыўную бальшавіцкую інфармацыю аб стане і ўмовах жыцця заходнікаў.

Дзень, калі Кузьма са сваімі сябрамі праязджаў Батурына, выпаў якраз на суботу ды яшчэ ў дадатак у той час, калі пасля вячэрняй службы парафіяне ішлі ад касцёла дадому. Жанчыны былі апранутыя ў рознакаляровыя спадніцы. Мужчыны і дзеткі таксама былі ў вопратцы, якой нашы героі і ў вочы не бачылі. Абутыя былі ўсе як адзін: хто – у чаравіках, а хто – у ботах. Кузьма, схаваўшы

на возе пад сена свае ногі ў лапцях, спыніўся, каб спытаць дарогу на Чарвякі. А батурынцы, даведаўшыся, што ў іх пытаюць людзі з савецкай краіны, адразу ж засыпалі «прадстаўнікоў» СССР пытаннямі пра жыццё на ўсходзе, адначасова скардзячыся на сваё падчас польскага панавання. Кузьма са сваімі спадарожнікамі, ужо маючы, з першага погляду, параўнанне, як там і як тут, не ведалі, што і адказаць сваім братам-заходнікам. Уражаныя да безабмяжавання ўбачаным, Кузьма адным сказам даў зразумець батурынцам, што дзе і па колькі: «Не грашыце Богу, людзі! Мне хаця бы гадок пажыць у вашых умовах – гэта для мяне было бы вялічэзным жыццёва-чалавечым шчасцем!»

Пазнаёміўшыся паміж сабой і абмяняўшыся інфармацыяй, усходнікі рушылі далей праз Навасёлкі і Брыгідава на Чарвякі. Усе гэтыя вёскі мелі аднолькавы выгляд: з чысценька падмеценымі брукаванымі вуліцамі, з пафарбаванымі вокнамі ў пабудаваных з плашчакоў сціплых вясковых доміках і нярэдка з гладкім вуглом, што было вялікай загадкай для ўсходнікаў. Праехаўшы таксама па брукаванай доўгай з вярсту чарвякоўскай вуліцы, Кузьма са сваімі сябрамі дабраліся да млына-лесапільні ўжо позна вечарам. Ен стаяў на плаціне, якая ўтварала возера закошт рэчышча рэчкі Вяпраткі. Тут жа на беразе Чарвякоўскага штучнага возера знаходзіўся і колішні панскі двор пана Ігнася Бароўскага.

Панскі дом сядзібнага тыпу быў апусцелы і разрабаваны год таму назад, але не разбураны нават і не пашкоджаны. Цэлымі засталіся і іншыя збудаванні панскага двара: сырабойня, кухня, птушнік, у якім разводзілі качак, мураваная канюшня, якая функцыянавала яшчэ і ў 70-х гадах мінулага стагоддзя, млын-лесапільня належыла таксама Ігнасю Бароўскаму. Пры двары заставаліся цэлымі і збудаванні польскіх памежнікаў: стражніца і казарма



(васьмярык). Кузьму і яго памагатых старшыня мясцовага калгасана начоўку размясціў у былой панскай кухні, перабудаванай пад жытло. Папярэдзіў, каб спалі спакойна, што ў вёсцы варожых элементаў не засталося, што былога панскага агранома Радкевіча з Загаран арыштавалі. Зняволілі і былога солтыса Паўлюкевіча і з усёй сям'ёй дэпартавалі ў Сібір.

Ад пачутага і ўбачанага ўсходнікі знаходзіліся пад такім вялікім уражаннем, што да раніцы так і не здолелі заснуць, абмяркоўваючы тэму мінулагодняй вызваленчай савецкай місіі ў заходняй частцы Беларусі і што яна прынесла мясцовых жыхарам. На ранку, пакінуўшы абмеркаванні на потым, гуртам узяліся за рамонт млына-лесапільні. І ўжо бліжэй да вечара аб'ект мясцовага стратэгічнага значэння запрацаваў як мае быць. Зваротны 12-ці вёрстны шлях пры гарачай дыскусіі не заўважылі як пераадолелі. На гэтым першая замежная камандзіроўка ў Кузьмы і яго сяброў скончылася, і кожны прыступіў да ранейшых сваіх абавязкаў. Толькі думкі ўжо не пакідалі пра Заходні край, былыя Усходнія польскія крэсы, пра

афарбаваныя вокны і вуліцы брукаванкі. Думалася, чаго тамашнія людзі пагадзіліся на тое вызваленне, чаго ім там не хапала? І навошта яны спадзяваліся пры далучэнні? Але што зрабілася, тое і зрабілася.

Неўзабаве наступіў чэрень 1941 года. І ўжо колішнія саюзнікі па акупацыі Польшчы Сталін і Гітлер распачалі вайну паміж сабой. На другі дзень вайны ў Калачэўскім сельсавеце, як і паўсюль, распачалася тэрміновая мабілізацыя ў РСЧА. А Клачко Кузьма, жыўшы каля млына на Бабровым хутары сярод лесу, адчуў штосьці нядобрае толькі на трэці дзень пасля пачатку вайны. Увага завастрылася на адсутнасць заказчыкаў на размол зерня і частыя паяўленні самалётаў дзесьці збоку, у небе.

### *Ваеннае ліхалецце*

На наступны дзень, каб даведацца, што здарылася рушыў у Бабры да мясцовага каваля Ляшчынскага Пётры. Хто-хто, а каваль заўсёды валодаў усёй самай дакладнай інфармацыяй, бо да яго кузні заўжды збіралася шмат люду з усяго наваколля. Але замест Пётры Кузьму сустрэла ягоная жонка Марыя, якая са слязьмі на вачах паведаміла, што распачалася вайна з германцамі. І што Пётру яе тры дні таму мабілізавалі разам з усімі мужыкамі. А начальства, раздаўшы сялянам усё калгаснае дабро, з’ехала ў невядомым накірунку. А яшчэ Марыя паведаміла тое, што сёння зранку людзі бачылі ўжо нават нямецкіх ваенных, якія рухаліся ў бок Мінска.

Для Кузьмі такая навіна была як снег на галаву. Думкі ў галаве круціліся, як тая піла на лесапільні. Што рабіць і куды дзявацца яму з такім вялікім сямействам, жонкай-інвалідам і партбілетам у кішэні. Вярнуўшыся на хутар, Кузьма са сваёй Марыяй доўга разважалі і вы-

рашылі нікуды не рухацца, а заставацца тут на хутары, сярод лесу. «Раптам калі што, будзем хавацца ў лесе, «– прапанавала Марыя. Так і вырашылі, бо ўсё адно вайна паўсюль, і не ўгадаеш, дзе будзе лепш. Тут хоць людзі ўжо знаёмыя, ды і адносіны былі з імі не сапсаванымі, а, наадварот, да Кузьмы ставіліся ўсе з павагай.

Вайна ўнесла свае карэктыроўкі. Патрэбна было падрыхтоўваць сябе да любога жыццёвага выпадку. Дзе прыстасоўвацца, а дзе прыкідвацца. Таму што на хутар заходзілі розныя незнаёмыя людзі, а хто яны, аднаму Богу толькі было вядома. Неяк аднаго разу заблукала на хутар да Кузьмы ўжо ў добрых гадах рухавая бабулька з унучкай і папрасіла ў Кузьмы што-небудзь перакусіць згаладалай дзяўчынцы. Але толькі адразу папярэдзіла, што разлічыцца не маюць чым. Кузьма з Марыяй, меўшы сваіх чацвёра дзетак, як ніхто іншы не маглі адмовіць. Паставілі на стол тое, што мелі і для ўнучкі, і для бабулькі. Падсілкаваўшыся, госці шчыра падзякавалі гаспадарам, а на развітанне бабка дастала з вузялка кардоніну з малюнкам і працягнула яго Кузьме. З кардоніны на Кузьму глядзеў намаляваны партэт мужчыны з маленькімі вусамі. «Хто гэта?» – запытаў ён у бабкі. А тая і кажа: «Гітлер! І не выкідай яго, захавай дзе-небудзь ад вачэй дрэнных. У час ваенны ўсё можа спатрэбіцца. «Кузьме спачатку было ажно агідна трымаць у руках партрэт гэтага агрэсара, але ў нейкі момант, калі госці сышлі, вырашыў прыслухацца да парады старой і паклаў Гітлера на стол пад абрус.

Па восені Баброў хутар пачалі наведваць ужо і сапраўдныя партызаны Варанянскага, якія базірваліся ў Руднянскім лесе. А пазней непадалёку ад Баброў і Бабрынага хутара размясціўся засланы з Масквы дыверсійна-разведвальны атрад пад камандаваннем Дзмітрыя


Кеймах (Дзядзя Дзіма)

Кеймаха (Дзядзі Дзімы). Гэтымі партызанамі млын на Бабровым хутары быў узяты пад ахову як стратэгічны аб'ект. А млынар, Клачко Кузьма, акрамя галоўнай сваёй працы (малоць зерне на муку), пачаў выконваць функцыі партызанскага хлебапёка, галоўным чынам, для атрада «Дзядзі Дзімы».

Печ у хаце не астывала, таму што выпечка хлеба вялася кругласутачна, набыўшы характар бесперапыннай вытворчасці. Кузьма сам вёў увесь працэс хлебавыпечкі: ад размола зерня на муку і замеса цеста да канчатковага варыянта гатовай прадукцыі. Акрамя хлеба, Кузьма яшчэ займаўся вырабам самагонкі, якая таксама была вельмі патрэбна партызанам. Гэты напой карыстаўся пастаянным попытам сярод насельніцтва, і тых самых паліцаяў, выраб яе служыў нядрэнным прыкрыццём галоўнай Кузьмовай дзейнасці-хлебавыпечкі. Трымаць хлеб дома было смяротнай рызыкай, і таму жонка Марыя пастаянна адносіла хлеб у атрад «Дзядзі Дзімы». Нагадаю, што ў Марыі рукі былі амаль нерухомымі, і таму кожны раз яе суправаджалі старэйшыя дзеці, Валодзька з Колькам, а іншы раз бралі і шасцігадовага Вальку, якія дапамагалі ўладкоўваць рэчавы мяшок з хлебам на матуліны плечы. Ды й самі не ішлі ўлегцы, а таксама неслі пасільную ношу.

Аднойчы, калі чарговы сямейны(нават з маленькай Галяй) хлебны караван, пакінуўшы ў печы толькі адзін бохан хлеба, сыйшоў у свой звычайны шлях, на хутар знянацку наляцелі немцы. На хутары паднялася моцная страляніна і скуголенне сабак. Кузьма, які застаўся ў хаце адзін з гадавалай дачкой Шуркай, хуценька падхапіў яе

з люлькі. Калі заглянуў у акно, каб убачыць, што робіцца на падворку, у гэты момант яго моцна штосьці штурханула ў левае плячо, і ён, хапаючыся за стол, зваліўся на падлогу, сцягнуўшы за сабой абрус. Калі ў хату ўварваліся немцы з паліцаямі, то яны ўбачылі на падлозе параненага ў плячо Кузьму, які правай рукой трымаў дзіцятка, а ў левай – партрэт Гітлера.

### *Гітлер–ратавальнік*

Для немцаў такое ўбачыць было нечаканасцю, і яны ў разгубленасці апусцілі зброю. Як гэты партрэт апынуўся ў яго руках, Кузьма да канца дзён сваіх так і не здолеў успомніць. Магчыма, як валіўся на падлогу, то разам з абрусам сцягнуў захаваны пад ім партрэт Гітлера, які атрымаў калісьці ад бабкі-валацугі. Але, як бы там не было, хутчэй за ўсё партрэт Гітлера затрымаў карнікаў ад далейшай расправы над гаспадаром. У дадатак да гэтага, зрабіўшы паўсюдны вобыск, нічога падазронага, акрамя бохана хлеба і пяці бутэляк самагонкі, немцам знайсці не ўдалося. Вывеўшы параненага Кузьму з дачкой на вуліцу, нацысты абклалі пабудовы саломай і падпалілі іх, у тым ліку і млын.

Зрабіўшы сваю чорную справу, але пакінуўшы Кузьму з Шуркай жывымі, яны з’ехалі з хутара. Калі хутар ужо дагараў, прыйшла Марыя з дзецьмі. Яна ледзь не згубіла прытомнасць перад паўстаўшым відовішам. А калі ўбачыла перад сабой акрываўленага, але жывога Кузьму з Шуркай радасці не было межаў. Заставацца на хутары ўжо не было ніякага сэнсу, бо ўсё згарэла да тла. Азірнуўшыся на папялішча свайго падворка, на якім не так даўно віравала жыццё, усім сямействам падаліся на базу «Дзя-дзі Дзімы».

Кузьме тэрмінова патрэбен быў доктар агледзіць рану. А ў атрадзе быў вельмі добры медык-хірург з Мінска.

Пасля таго як сям'я дабралася да атрада, доктар, наколькі дазвалялі ўмовы, зрабіў усё магчымае і немагчымае, каб уратаваць не толькі жыццё, але і руку Кузьмы. Аперацыя прайшла паспяхова. Пасля якой Кузьме з сям'ёй камандаванне не дазволіла заставацца ў атрадзе, таму што ён меў статус павышанай сакрэтнасці і не прадугледжваў сямейных лагераў. Кузьма падаўся ў суседнюю з Калачамі вёску Казлеўшчына, у якой стаяў штаб партызанскай брыгады імя Фрунзе. Клачко Кузьму добра ведалі і ў гэтай брыгадзе, бо партызаны з яго атрада імя Варашылава часцяком прывозілі да Кузьмы на млын малоць зерне.

Начальнік штаба Ковбій Аляксей, даведаўшыся ад Кузьмы пра здарэнне, адным сваім рашэннем вырашыў адразу некалькі ўзнікшых праблем. Ён загадаў залічыць Клачко Кузьму стралком у склад брыгаднага партызанскага атрада «За Радзіму». А пакуль будуць гаіцца раны, загадаў накіраваць Кузьму разам з сям'ёй у вёску Чарвякі і размясціць іх на зімоўку ў былой панскай кухні. А так як брыгада пазбавілася магчымасці малоць зерне ў Бабрах, Кузьма падчас загойвання ран павінен будзе адрамантаваць разбураны млын у Чарвяках. Тым больш ён з ім быў знаёмы, калі ўжо аднойчы да вайны рабіў рамонт. А дапамагаць былі выдзелены байцы з дыверсійнай партызанскай групы пад камандаваннем Аляксеева. Яна адносілася да атрада «Дзядзі Дзімы» і дзейнічала па збору разведвальнай інфармацыі і па правядзенню дыверсій, галоўным чынам, за Месятой пад Маладзечнам, базіравалася на Чысцінскім балоце. Але падчас блакад на іх, яны сыходзілі на запасную базуЧарвякі.

За пару тыдняў, у пачатку снежня 1943 года чарвякоўскі млын і сумесная з ім лесапільня спраўна пачалі працаваць на карысць партызанам і насельніцтву. Камандзір атрада «За Радзіму», у які быў залічаны Клачко

Кузьма, загадаў яму заставацца пры млыне, захоўваючы ў сакрэце сваё непасрэднае дачыненне да атрада. Таму што з такім раненнем у атрадзе з яго не будзе ніякай карысці. А тут, у Чарвяках, патрэбен не толькі млынар-прафесіянал і ахоўнік млына, але і надзейны кансператыўны сувязны паміж усімі партызанскімі атрадамі.

Тое, што Чарвякі на самой справе былі адным з самых галоўных стратэгічных сувязных пунктаў, у сваіх нататках нагадвае і той самы партызан-дзімавец Ю. С. Волкаў: «*Благополучно форсировав «железку» Молодечно–Полоцк, чувствовали себя уже почти дома: дорогу до Червяков, Кременца мы считали практически безопасной. Но суровая действительность и в этот раз напомнила нам о себе. Рассчитывали мы, как всегда в наших походах под Сморгонь, заехать в небольшую деревню Борки, где уже имели хороших знакомых. Но не доезжая до неё, наши возчики сообщили печальную новость: деревню Борки вместе с жителями спалили немцы в отместку за какую-то партизанскую операцию. Тёмной осенней ночью проехали мы через мёртвую деревню, вернее, через порядки чёрных коминов (так по-белорусски называется труба и печка, оставшиеся на месте сгоревшей хаты) не так давно стоявшей тут живописной деревни.*»

Так, на вялікі жаль, суседнія Чарвякам вёскі Боркі і Любчу фашысцкія карнікі спалілі разам з жыхарамі 4 мая 1943 года за цесную сувязь з партызанамі. Гэтыя вёскі пасля вайны так і не адрадзіліся, бо не было каму, загінулі ўсе. Аляксееўская група і падрыўнікі Селівёрстава, якія кватаравалі ў Чарвяках і Ляхах, часта сыходзілі на заданні на доўгі час. Пагэтаму Кузьма тут заставаўся для забяспячэння сувязі паміж атрадамі.

Пра выпадак з партрэтам Гітлера, які адбыўся з Кузьмой у Бабрах, ведалі ўсе партызаны. І таму Кузьма з тым пар-

трэтам, як з талісманам, не разлучаўся. Мала таго, ён яшчэ для яго змайстраваў рамачку з сакрэтам. Кузьма ўсю вайну, дзе толькі не хаваў свой партбілет: і ў хаце пад падлогай, і на вуліцы пад сабачай будкай, і ў зямлі пад дрэвам, і яшчэ няведама дзе! Іншы даўно б яго спаліў і на вайну спісаў бы, а Кузьма не. Кожны раз дзеля той кардонкі не толькі сваім жыццём рызыкаваў, але і жыццямі сваіх дзетак і жонкі.

Пасля вайны шмат хто з камуністаў білеты вастанаўлівалі новыя, спасылаючыся на непрадбачаныя абставіны, пры якіх згінуў дакумент. А Кузьма ўбярог арыгінал нават падчас апошняй фашысцкай блакады вясной 1944 года. Тое, што распачалася блакада, чарвякоўцы зразумелі толькі тады, калі ўжо з боку Антунова фашысты ланцугом рухаліся па полі прама на вёску. Сысці ў лес цэлым сямействам, і быць не заўважанымі немцамі было ўжо вельмі позна. Кузьма ў чарговы раз пайшоў на рызыку, застаўшыся ў сваім жытле. Калі ў яго хату зайшлі немцы з паліцаямі і спыталі, чаму ён не ўцякаў у лес, як астатнія вяскоўцы, то Кузьма смела, не паказваючы хвалявання і страху, адказаў, што не сышоў таму, што ён звычайны млынар і ні ў чым не вінаваты перад імі і паказаў рукой на акно, на якім стаяў партрэт Гітлера. Няпрошаныя «госці»былі ўражаныя такім адказам. Адзін з немцаў, пакруціўшы ў руках партрэт Гітлера, паставіў яго на месца. Нават нічога не западозрыў, што ён толькі што трымаў у руках не толькі партрэт Гітлера, але і ўклеены з ззаду да яго партбілет на імя Клачко Кузьмы Рыгоравіча. Нацыст пасля падышоў да Кузьмы, папляскаў яму па плячы, пры гэтым прыгаворваючы: «gud-gud!» На гэтым фашысты сышлі, аб’ягораныя кемлівым шчырым радавым камуністам. Гэты выпадак Клачкам запомніўся на ўсё жыццё. Яшчэ доўгі час пасля вайны ў Кузьмы вяскоўцы пыталіся, як ён умудрыўся падчас вайны партбілет свой захаваць у Гітлера за пазухай?!

Як там было на самой справе, аднаму Богу вядома. Толькі тое што Кузьма Рыгоравіч Клачко быў ідэйным і шчырым камуністам, то гэта адназначна. Па-першае, ён на самой справе ў адрозненні ад шматлікіх камуністаў білет свой збярог, пранёсшы яго, як сцяг палка, праз усе ваенныя цяжкасці, як я ўжо раней казаў, падвяргаючыся смяротнай рызыцы. Пасля вызвалення Беларусі ад акупантаў, Кузьма не стаў варочацца назад на Баброў хутар, а застаўся ў Чарвяках працаваць млынаром на млыне. А праз год, у пераможным 45-ым, у Кузьмы з Марыяй нарадзілася шостае дзіцятка, дачушка Жэнька. І ў гэтым жа годзе Кузьму прызначылі загадчыкам мясцовага рыбгаса. Гэта былі колішнія рыбныя ставы пана Ігнася Бароўскага.

Падчас вайны даглядам ставаў займаўся былы ўпраўляючы пана Бароўскага, Цікатоўскі. Які вымушаны быў забяспячаць рыбай не толькі партызанаў, але для падстрахоўкі і немцаў. Пасля вайны Цікатоўскі з'ехаў да сябе на Радзіму ў Польшчу, а Кузьма Рыгоравіч з усёй сваёй вялікай сям'ёй перасяліўся ў яго жытло, у якім і пражыў



Кузьма,жонка Марыя,дачка Шурка

да канца дзён сваіх. Хаця як камуністу і партызану ў яго была магчымасць пабудаваць сабе асобны дабротны дом, але скарыстаць яе, тым больш ужо меўшы на той час нядрэннае жыллё, Кузьме не дазваляла сумленне камуніста.

Паціху пачалі прывыкаць да мірнага жыцця, адганяючы страхі ваеннага ліхалецця ў мінулае. Кузьма працаваў у рыбгасе не пакладаючы рук без выхадных і святочных дзён. А пасля працоўнага дня, па начах нёс варту па ахове гаспадаркі. Бо ў той пасляваенны час па начах людзей голад штурхаў не толькі на калгасныя палеткі за жытнімі каласкамі, але і на ставы па рыбу. Гледзячы на бацьку, дзеці таксама раслі трудаголікамі. Праўда, маці Марыя ім забараняла працаваць у нядзельку і іншыя царкоўныя святы. З кожнай нагоды яны маліліся перад расчыненай шыфанерай, у якой вісеў абраз «Боскай Маці». Быў там, таму што бальшавіцкая ідэялогія забараняла, каб у хаце камуніста меўся абраз, тым больш на самым бачным месцы, на куце. Кузьма строга саблюдаў устаў партыі і фанатычна верыў у бязбожніцтва і ў светлую будучыню камунізму. Але гэтае яго перакананне ў 1950 годзе амаль цалкам страціла сваю моц. А падставай гэтаму паслужыў трагічны выпадак са старэйшым сынам Кузьмы, Валодзькам.

Здарэнне адбылося на самы першы дзень Калядаў, калі Кузьма з 18 гадовым Валодзькам, не звяртаючы ўвагі на такое вялікае гадавое свята, вырашыў напілаваць дошак на лесапільні. Марыя як прадчувала бяду, бо менавіта ў гэты дзень, яна, стоячы на каленях, умаляла Кузьму не гнявіць Бога і не ўводзіць у грэх сына і сябе ў тым ліку. Але Кузьма быў настолькі ўпэўнены ў неіснаванні Бога, што не адрокся ад сваіх планаў і рушыў з Валодзькам на лесапільню.

Зімой запусціць механізм лесапілкі адразу рэдка калі атрымоўвалася. Так і на гэты раз, хоць Кузьма і адкрыў замест двух заставак ажно чатыры, каб скрануць прымерз-

лае вадзяное кола, але моцы вады ўсё адно не хапала запусціць механізм. І калі Валодзька вырашыў у ручную пры дапамозе легарка паварушыць кола, як тое раптам з вялікай хуткасцю пачало круціцца і набіраць абароты. Валодзька не паспеў адскочыць у бяспечнае месца, і яго нагу, захапіўшы за калашыну штаноў, зацягнула ў механізм. На крык збегліся па суседству жыўшыя вяскоўцы. Пакуль спынялі кола, а для гэтага патрэбна было адвесці ваду ад яго, заціснуты ў механізм Валодзька ўжо пачаў губляць прытомнасць. Але дзякучы чалавечай руплівасці, пакуль конюх Вінка запрагаў парку коней у санкі, Валодзьку вызвалілі з механізма і аказалі ўсе магчымую першую дапамогу. Перавязаўшы пакалечаную нагу, адвязлі ў Хаценчыцкую бальніцу, а адтуль у Вілейку. Дактары рабілі ўсё магчымае, але з-за сур'ёзнага калецтва нагі, вымушаны былі яе ампутаваць. Вось так склаўся Валодзькаў лёс, замест войска, у якое атрымаў быў ужо павестку, трапіў у бальніцу і з якой выйшаў інвалідам на ўсё астатняе жыццё.

Пасля гэтай трагедыі Кузьму Рыгоравіча быццам бы падмянілі. На яго твары больш не з'яўлялася ніколі ўсмешка. Дома сям'і не забараняў маліцца і ў святы больш ніколі не браўся ні за якую працу. І ўвогуле стаўленне да Бога ў яго змянілася ў корні, ён цалкам увераваў у яго моц настолькі, што гатовы быў бы адрачыся ад партбілета ў любую хвіліну. Але гэтага зрабіць было немагчыма. Таму што з партыі сыходзілі толькі ў двух выпадках. У першым, калі ўжо панясуць на гару ўперад нагамі, а ў другім, калі павязуць у Сібір з кайданкамі на руках. Хоць і змяніўся Кузьма моцна, але вось тая шчырасць камуніста(а можа і не камуніста, а прыродная шчырасць) засталася. Працягваў працаваць на ставах, дзе выгадоўвалі па 27 тон рыбы за лета, а ў вольны час будаваў хату Валодзьку, які пасля выздараўлення з'ехаў у Мінск.


Млын у Чарвяках

Кузьма ўсё сваё жыццё вельмі моцна сябе вініў у калецтве сына, таму і намагаўся яго забяспечыць усім, чым на той час было магчыма.

Я асабіста сам добра ведаў Кузьму Рыгоравіча. Часцяком, падчас адлову рыбы, нашы шляхі неаднойчы перасякаліся. У тую пару мы, вясковыя рознаўзроставыя хлапчукі, днямі не вылазілі са ставаў. Бывала сядзім на дамбе і назіраем, як рыбгасаўцы адлаўліваюць рыбу. А калі яны сваю справу завершаць, то дазвалялі нам пасля іх лавіць тое, што заталося. А заставалася рыбы нямала, галоўным чынам, карасі, іх сачкамі рыбакам вылавіць было складана. Карась звычайна зарываецца ў балоцістае дно і яго магчыма вымацаць наўгад толькі рукамі. І такім шляхам мы налаўлівалі па пяць-дзесяць кілаграмаў карасей, траплялўся і карп.

### *Ставы вабілі ўсіх сваімі рыбнымі запасамі*

Былі такія моманты, калі і кралі адлоўленую рыбу прама са спецскрыні, на якой яе перавозілі з месца адлова да хаткі (будынак-кантора і месца сарціроўкі рыбы). Аднойчы, калі мы ў чарговы раз залезлі ў скрыню, Кузьма нас заўважыў і зладзіў за намі пагоню. Мы далі такога стрыкача, ажно вецер у вушаў свісцеў. А калі азірнуліся, то Кузьма, ужо сталага ўзросту чалавек, ад нас не адставаў ні на крок. Думалася, што гэты высокі здаравенны дзядзька, абуты ў вялікія не проста рыбацкія боты, а ў казачныя скараходы, якія нясуць яго за намі. А калі ўсё ж ён нас нагнаў і загадаў нам спыніцца, то мы не маглі аддыхацца, а яму хоць бы што. Я тады яшчэ падумаў,

у якой ступені чалавек быў моцным духам і целам! Кузьма сказаў, каб мы высыпалі рыбу з торбачак у кучу, што мы паслухмяна і зрабілі. Ён падышоў да нашай здабычы, выбраў з яе некалькі штук ладных карпін, а астатнюю не зусім вялікую дазволіў забіраць сабе, папярэдзіўшы, каб больш падобнага не здаралася, інакш блізка да ставаў не дапусціць. Праўда, да канца таго сезона мы красці рыбу больш не лазілі. А карысталіся пасля адловам. Таксама налаўлівалі нядрэнныя запасы назіму.

Хочацца распавясці яшчэ адзін выпадак з працоўнай дзейнасці Кузьмы. Неяк улетку пры чарговым абходзе ставаў Кузьма з сынам Мікалаем затрымалі рыбака-злодзея, з недалёкай ад ставаў вёскі Гаравец суседняга Лагойскага раёна. Малады хлопец наадрэз адмовіўся назваць сваё прозвішча і дакладны адрас. Тады Кузьма з Мікалаем адвялі бракан’ера ў рыбгасаўскую кантору, каб перадаць яго ў міліцыю. Калі датэлефанавацца да ўчастковага не атрымалася, то яны самі вырашылі даставіць парушальніка ў аддзяленне міліцыі ў Іллю. Ад’ехаўшы ад Чарвякоў з вярсту да Навінкаўскага лесу, Кузьме прыспічыла па патрэбе. І калі бацька толькі схаваўся за кустамі, сын Мікалай шапнуў хлопцу-бракан’еру, каб той збягаў. Хло-



пец падзякваў і ў адзін момант сігануў з воза ў лес. Калі Кузьма вярнуўся да воза і даведаўся, што Мікалай «праспаў» «арыштанта», задаў сыну такога падзатыльніка, што ў Мікалая ажно іскры з вачэй пасыпаліся. Але праз некалькі хвілін супакоіўшыся, Кузьма махнуў рукой, прагаварыўшы: «Ды Бог з ім! Усё што робіцца, толькі да лепшага. Разварачвай, сын, каня і паедзем дахаты.» Мікалай быў вельмі здзіўлены такому павароту ў бацькавай прынцыповасці і, не вытрымаўшы, запытаў у яго: «Тата, я штосьці не зусім цябе зразумеў, ты што Бога прызнаваць пачаў?» А той у адказ: «Пагавары мне тут, зараз яшчэ аднаго тумака атрымаеш, паехалі!»

Шмат год адпрацаваў Кузьма Рыгоравіч у рыбгасе, ажно да самай пенсіі, на якую выйшаў, калі стукнула 75 год. Быў ўзнагароджаны шматлікіамі працоўнымі Дзяржаўнымі ўзнагародамі, Ганаровымі граматамі і медалямі, у тым ліку і ваеннымі ордэнам Вялікай Айчыннай вайны II ступені, чатырма юбілейнымі медалямі Перамогі і адной на саракагоддзе ўзброеных сіл СССР.

Памёр Кузьма Рыгоравіч 26 красавіка 1988 года. Пахавалі яго пад гукі ваеннага аркестра на Чарвякоўскіх (зараз Сакалоўка)могілках. Нявестка, Таісія Пятроўна, шматлікія ўнукі і праўнукі Кузьмы Рыгоравіча з любоўю і пяшчотай захоўваюць усе яго рэліквіі (фотаздымкі, дакументы, узнагароды), якія нагадваюць пра складаны і цяжкі лёс свайго продка, працавітага селяніна, смелага партызана і самаадданага шчырага камуніста, на якіх толькі і трымалася савецкая ўлада. Заканчваючы расповяды пра былога партызана і ідэйнага шчырага камуніста Кузьму Рыгоравіча Клачко, лічу проста неабходным на старонках гэтай кнігі ўдзяліць увагу другому цудоўнаму свайму земляку. Таксама шчыраму, але толькі ў душы камуністу і непрызнанаму партызану атрада Аляксеева з брыгады «Дзядзі Дзімы» Барысевічу Уладзіміру Канстанцінавічу.

# НЕПРЫЗНАНЫ ПАРТЫЗАН

Хочацца больш дэталёва распавясці пра вельмі складаны і трагічны лёс гэтага цудоўнага чалавека. Бо на яго доўгім жыццёвым шляху спадарожнікамі ў яго былі не толькі радасць дзяцінства, але і безбацькоўшчына як сына «ворага народа», юнацтва, апаленае вайной, падчас якой не раз глядзеў у вочы смерці, непрызнанне як удзельніка вайны. Але нягледзячы на ўсе жыццёвыя іспыты, ён заўжды застаецца Чалавекам з вялікай літары. За што карыстаецца ўсенароднай павагай і любоўю да сваёй асобы. Гэта чалавек – архіў жывой гісторыі. Яго ўспаміны і раней ужо неаднойчы друкаваліся ў СМІ. А зараз я хачу да іх дадаць новыя, дагэтуль невядомыя грамадству.

Уладзіміра Канстанцінавіча я ведаю ўсё сваё жыццё як цудоўнага і шчырага, вясёлага і жыццярадаснага чалавека, майстра на ўсе рукі і вядомага віртуёзнага гарманіста



БАРЫСЕВІЧ УЛАДЗІМІР КАНСТАНЦІНАВІЧ

і цымбаліста, сыграўшы дзясяткі, а можа і сотнівяселляў не толькі ў Чарвяках, але і далёка за іх межамі. Уладзімір Канстанцінавіч, жывучы ў сяброўскім акружэнні добразычліўцаў, заўжды быў і ёсць народным любімцам. І не распавясці пра яго вельмі складаны жыццёвы лёс было б з майго боку вельмі несправядліва. Гэты чалавек заслугоўвае не проста ўвагі, а вялікай павагі і пашаны. Бо я больш не сустракаў на сваім жыццёвым шляху кагосьці падобнага да яго. Пра яго і раней пісалі розныя выданні, у тым ліку і «Рэгіянальная газета». Гучаў яго голас і ў радыёэфірах і на тэлебачанні. Яго ўспаміны зафіксаваны і ў краязнаўчых кнігах. Шмат што з мінулага захавала яго памяць. Матэрыялаў з яе можа хапіць на цэлую добрую кнігу. Вось і зараз хачу распавясці пра раней нязгаданыя спадаром Уладзімірам яго ўспаміны з мінулага. Вось што ён мне дадаў да раней ім сказанага...

Хачу нагадаць, што нарадзіўся Уладзімір Канстанцінавіч запольскім часам 2 кастрычніка 1928 года на Банэткавым хутары ў вярсце ад Чарвякоў (зараз Сакалоўка), што на Вілейшчыне. Назва хутара Банэткаў паходзіла ад імя дзеда БЕНЯДЗІКТА. Маці яго, Кучко Анэта 1900 г. н., з суседніх Борак. А тата, Барысевіч Канстанцін Бенядзіктавіч 1898 г. н. , карэнны чарвяковец. Сястра Еўка і брат Адам былі старэйшыя за Валодзю, а самым малодшым у сям’і быў Грышка. Дзякуючы сваёй працавітасці і 7мі гектарнаму кавалку ўласнай зямлі, гаспадарка была моцнай, а сям’я мела статус заможнай. Бацька з самага маленства прывучаў сваіх дзяцей да нялёгкай сялянскай працы. Кожныз іх выконваў работу па сіле і здольнасцях. Працоўная бацькоўская навука, прывітая дзецям яшчэ з маленства, вельмі спатрэбілася ім ў раннім самастойным жыцці. Маленькаму Валодзьку не было і шасці годзікаў, калі сям’я засталася без гаспадара.

У 1934 годзе Канстанцін Бенядзіктавіч вымушаны быў пакінуць не толькі сям'ю, але Заходнюю Беларусь нагогул. А падстава для сыходу ў савецкую краіну была звычайнай для таго часу, разведка на карысць бальшавікам. Канстанцін Бенядзіктавіч, акрамя працы на сваёй зямлі, падпрацоўваў яшчэ і фурманам пры Хаценчыцкай гміне. Вазіў войта гміны і па магчымасці збіраў інфармацыю, якая цікавіла бальшавіцкіх лазутчыкаў, у замен на абяцанае «райскае» жыццё ў савецкай Расіі. А калі польскія ўлады пачалі падазраваць Канстанціна ў здрадзе, ён патаемна сышоў за мяжу ў савецкі «райскі» Крамянец.

Тады савецка-польская мяжа пралягала акурат па рэчцы Вяпратка, у 800метрах на ўсход ад Чарвякоў. Першы ліст ад Канстанціна Бенядзіктавіча сям'я атрымала праз 3 гады ў восені 1937га з Сыктыўкара (КОМІ). У якім бацька паведамляў, што мае добрую працу і жытло. І загадаў, каб сям'я распрадавала ўсю гаспадарку і чакала выкліку на пераезд у РСФСР. Пасля бацькавага пісьмовага загаду сям'я хуценька рапрадала ўсё, пакінуўшы толькі адну кароўку. Жыццё завісла ў невядомасці, дзесьці паміж хутарам і шчаслівым савецкім «раем». Час ішоў, выручаныя ад распродажы сродкі праядаліся. Каб пасеяцца дыпрыбрацца патрэбна было нанімаць каня і ўсё да



каня. Ужо наступіў 1939 год, а выклік ад бацькі з савецкай краіны так і не прыйшоў (як нядаўна стала вядомым, ён быў расстраляны бальшавікамі). На іх шпіёніў, а яны яго расстралялі. Вось такую атрымаў бальшавіцкую ўзнагароду! 17 верасня таго года, перакуліўшыся цераз памежную Вяпратку, саветы самі сюды прыйшлі са сваім хвалёным савецкім «раем». Баёў на мяжы ніякіх не было, таму што польскія памежнікі яшчэ з вечара знялі свае пасты з вышкі, якая стаяла на Чарвякоўскіх могілках і цалкам пакінулі стражніцу ля возера. Бой адбыўся толькі каля стражніцы ў суседніх Борках, у якім загінулі тры польскія памежнікі.

Да вясны 40-га было ўсё спакойна, ніхто нікога не валтузіў. Чарвякоўцы і хутарское сялянства жылі звычайнымі сваімі клопатамі. А як толькі вясной усе засеяліся, саветы распачалі калектывізацыю. Ужо засеяная ўласнікамі зямля была экспрапрыіравана на карысць калгаса. Хутар Барысевічаў таксама патрапіў пад пераўтварэнні. Зямля, якая не цалкам ужо апрацоўвалася з-за адсутнасці свайго каня і сельгасінвентара, перайшла ў калгас. А разам з зямлёй уласнік павінен быў здаваць у калгас каня, збрую да яго і ўсе прылады для апрацоўкі глебы і прыборкі ўраджая. А так як яны раней былі прададзены, то і здаць не было чаго. З-за гэтага над сям'ёй Барысевічаў навісла пагроза дэпартацыі ў Сібірскія абшары РСФСРаўскай краіны.

Але неяк паціху ўсё сціхла. Магчыма з-за таго, што ўлада пераключылася на суседні хутар Паўловічаў. Ім пагражала раскулачванне, бо мелі 8 гектараў воранай зямлі і 6 гектараў лесу-асінніку. Сам Паўловіч Мікалай быў родам з Забор'я Іллянскага. У 1919 годзе яшчэ маладым з'ехаў на заробкі ў Амерыку. Вярнуўся адтуль праз чатыры гады ўжо з добрымі грашыма і адразу ажаніўся з Малявіцкай

настаўніцай польскай мовы, Шышкай Вольгай. Маладыя вырашылі асесці ў Чарвяках. Купілі ў пана Бароўскага зямлю, лес воддаль ад вёскі і распачалі будавацца. Пабудаваліся, сям'я павялічвалася, гаспадарка разрасталася, ужо сталі моцна на ногі і раптам усё развалілася як картачны дамок. Усё, што нажывалася сваім гарбом і будавалася сваімі рукамі, у адначассе было адабрана ўсходнімі «вызваленцамі» ды яшчэ за гэта патрэбна было і адказ трымаць перад імі. Амаль цэлы год Паўловіча НКУС то арыштоўваў, то адпускаў. Невядома, як далей склаўся б лёс хутаран, каб не вайна.

### *Савецкая ўлада як прыйшла, гэтак жа і сышла*

Савецкая ўлада як прыйшла, гэтак жа хуценька і сышла ўжо на другі дзень вайны. А людзі ўслед пасля сыхода бальшавіцкага «раю» пачалі разбіраць з калгасных складоў сваю маёмасць канфіскаваную бальшавікамі, але не ўсепаспелі. Пасля сыходу бальшавіцкай улады ўжо на наступны дзень у Чарвякі на бронемашыне і матацыклах прыехала чарговая новая-нямецкая. Калі ў параўнанні з бальшавіцкай уладай, якая ў 39ым прынесла Барысевічам, і не толькі ім, калектывізацыйнае зняволенне ды пагрозу дэпартацый, то нямецкая акупацыя – руйнаванне, безуладдзе, гвалт, забойствы ды галодную смерць ні ў чым невінаватага насельніцтва. Немцы адразу пазабіралі ў жыхароў значную частку гаспадарчай жыўнасці. Цалкам ачысцілі птушнік, у якім яшчэ пры пану Бароўскім гадаваліся качкі. Коні засталіся лічаныя і былі проста нарасхват. А як за панскімі ставамі, у забалочаным лесе, з'явіўся лагер невядомых узброеных людзей, чарвякоўцам прыйшлося развітацца і з тымі конікамі, якіх немцы не забралі. Тыя ўзброеныя людзі экспрапрэіравалі апош-



нюю вясковую цягавую сілу, як яны казалі: «Для вайсковых патрэб.» Атрад той называўся «АЛЯКСЕЕЎСКІМ», у складзе якога налічвалася 32 байцы. А назва яго хутчэй за ўсё паходзіла ад прозвішча яго камандзіра Аляксеева.

Уладзіміру Канстанцінавічу тады было толькі 13 гадоў, але ён ужо ўмеў і за плугам хадзіць, і сена касіць, і касу кляпаць. Не ўсе дарослыя мужыкі мелі такія здольнасці, як гэты хлапчук. Да яго, вясёлага і кемлівага, не па гадах здольнага майстра на ўсе рукі, цягнулася ўся дзетвара. А дарослыя да яго ставіліся як да сябе роўнага. За сваю самастойнасць і працавітасць малы Валодзька быў прыняты на гаспадарчую работу ў «Аляксееўскі» атрад.

Амаль два гады Уладзімір Канстанцінавіч даглядаў у іх кароў і коней. З самай ранняй вясны да позняй восені жывёлу патрэбна было пасвіць, але толькі па ставах. На чыстае поле выганяць статак было забаронена камандзірам гэтага атрада з-за рызыкі яго страты. Па-першае, на вёску нечакана ў любую хвіліну маглі наляцець немцы альбо паліцаі, і тады, у такім выпадку, можна было страціць усіх і коней і кароў. А па-другое, жывёлы і самі маглі б паразбягацца да сваіх ранейшых гаспадароў, як да

чарвякоўскіх, так і ў суседнія вёскі, адкуль іх прыганялі. Пасвіўшы статак нават па ставах сярод вады, каровы ўсё адно імкнуліся «дызерціраваць» з атрада. На такіх «здраднікаў», акрамя пугі, у руках на дзіцячым Валодзькавым плячы вісеў карабін з пяццю патронамі ў «магазіне». А да ўсяго гэтага прыкладаўся загад камандзіра: «Калі не спраўляецца пуга, то карабін павінен прымаць канчатковае рашэнне. Таму што з атрада без дазволу камандзіра жывымі ніхто не павінен сыходзіць, нават жывёлы!» «Даводзілася іншы раз і прыбягаць да загада камандавання, «– кажа Уладзімір Канстанцінавіч. – Дысцыпліна была вельмі жорсткай.»

А ў пацвярджэнне сказанаму, Уладзімір Канстанцінавіч прыводзіць прыклад: «Неяк задумалі двое «аляксееўцаў» сысці з атрада на ўсход, за лінію фронта, у дзеючую савецкую армію. Не паспелі дайсці ў канец ставаў, як іх дагнаў старшына атрада і там жа на месцы расстраляў.» Гэты старшына быў непасрэдным Валодзькавым камандзірам і работадаўцам. І менавіта ён плаціў Валодзьку за работу, а гэта, галоўным чынам, харчаванне, адзенне, а іншы раз і сподняе нават жаночае. А дабывалі яны ўсё гэта, як казалі самі «аляксееўцы», дзесьці на баявых аперацыях, у разгромленых маёнтках. А ў якіх? Уладзімір Канстанцінавіч дакладна ведаць не мог, бо ўсе аперацыі былі засакрэчаны. Ведаў толькі адно, што «аляксееўцы» і ляхоўскія «селявёрстаўцы» хадзілі дзесьці ў рэйды на дыверсійныя баявыя аперацыі. Узрывалі паязды дзесьці пад Маладзечнам і Вілейкай. Уладзімір Канстанцінавіч не раз бачыў, як у атрадзе «аляксееўцы» самі рыхтавалі ўзрыўчатку, выплаўляючы тол са снарадаў. Аднойчы трое партызанаў, каб не цягнуць неразарваную бомбу ў атрад, вырашылі выплавіць тол на месцы, дзе яна зваліласяпрама ў двары Бычковічаў. Але штосьці ў іх

пайшло не так, як трэба, і бомба разарвалася, забраўшы жыцці тых траіх.

На зімовы час з ляснога лагера, «аляксееўцы» перабіраліся ў вёску, галоўная іх частка размяшчалася ў будынку-васьмерыку, былой польскай стражніцы, а астанія – у былой панскай сырабойні. Панскага маёнтка, у якім знаходзілася школа, не стала яшчэ ўвосені 41га. Яго і школу ў Батурыне, яшчэ да паяўлення «аляксееўцаў», спалілі іншыя невядомыя. А людзям, тыя падпальшчыкі тлумачылі, што яны гэта робяць наўмысна, каб тут немцы гарнізон не паставілі. Камандзірам недаспадобы было жыць разам з радавымі. Яны выбіралі сабе асобныя хаты ў Чарвяках ды Ляхах, у якіх жылі жанчыны без мужыкоў.

### *Садыст–Пашка*

Валодзька, без задняй думкі, узяў ды й сам запрасіў на свой хутар на зімоўку свайго камандзіра, таго самага жорсткага старшыну, Пашку Федасеева(так яго звалі). У спадзявані, што з ім будзе жыць спакайней, усё ж мужык будзе ў хаце ды яшчэ з кулямётам. Чым не абарона ад швэндаючых жулікаў ды бандытаў рознакаляровых?! Але памыліўся наш Валодзька ў выбары для сваёй сям’і абаронца ад бандытаў. Бо бандытам апынуўся сам старшына.

З самага першага днякватарант запаў на старэйшую незамужнюю Валодзькіну сястру Еўку. Пашка на кожным кроку не даваў спакою дзяўчыне. Спачатку не паказваючы сваіх намераў іншым, але праз нядоўгі час пачаў ужо па нахабнаму і нават з пагрозамі дамагацца яе. Еўка адмаўлялася да апошняга, як толькі магла. Але пасля таго, як у Чарвяках была расстраляная цэлая сям’я Сцяпана Валовіка, не без удзелу Пашкі-старшыны, Еўка нехаця вымушана была пагадзіцца на сужыцельства з катам.

Хоць Пашка і адмаўляў свой удзел у забойстве Валовікаў, але яму ніхто не верыў. Уладзімір Канстацінавіч добра памятае тую ноч забойства, і што Пашка на хутары тады не начаваў. А суседзі Валовікаў чулі страляніну з кулямёта, які быў адзіны ў атрадзе і толькі ў Пашкі.

А яшчэ Уладзіміру Канстанцінавічу запомнілася адно здарэнне, якое справацыраваў Пашка і якое магло каштаваць ім жыцця. Неяк вясной, у 43 годзе, з самага рання якраз на Радаўніцу ў чарговый раз на хутар да Пашкі завіталі сувязісты з суседніх Борак. Пагутарыўшы з Пашкам, сувязісты сабраліся сыходзіць у свой атрад «Матросаўскі», які дыслакаваўся ў лесе, каля самых Борак. А радыст месціўся са сваёй рацыяй у доме Кучко. Як толькі выйшлі з хаты, то ўбачылі немцаў, якія рухаліся з Новагуцкага лесу ў накірунку Чарвякоў, але воддаль ад хутара. У гэты час Валодзька з братам Адамам пілавалі ў двары дровы. Пашка загадаў ім хавацца, а сам з сувязістамі са зброяй заляглі, схаваўшыся за парканам (агароджа-пляцёнка з яловых сукоў). Немцы, параўняўшыся з токам, які стаяў воддаль ад хаты, раптам змянілі накірунак і рушылі ў бок васьмерыка, дзе кватаравалі «аляксееўцы». Валодзька добра разгледзеў сярод немцаў і паліцэйскіх пасаломшчыка Хаценчыцкай царквы Сцяпана Ляшкевіча.

Ляшкевіч, былы кадравы афіцэр Расейскай царскай арміі, добра валодаў нямецкай мовай, таму немцы яго і скарыстоўвалі як перакладчыка. Як пазней стала вядомым, Ляшкевіч тады наўмысна адвярнуў немцаў ад вёскі на васьмярык, каб даць магчымасць жыхарам сысці ў лес. Абышлося б спакойна і на хутарах, калі б не Пашка са сваім кулямётам і паплечнікамі. А атрымалася так, калі немцы былі ўжо дзесьці паміж хутарам і васьмерыкам, Пашка-старшына даў доўгую чаргу з кулямёта па немцах. Сувязісты падтрымалі Пашку з карабінаў. Немцы

заляглі і адкрылі бесперапынную страляніну па хутары. Перастрэлка працягвалася хвілін дзесяць. А калі аднаго з боркаўскіх сувязістаў паранілі ў руку, «абаронцы» хутара пачалі адыходзіць да лесу, прыкрываючыся забудовамі. Следам за імі далася наўцёкі не толькі ўся сям'я Барысевічаў, але з суседняга хутара Паўловіча Мікалая.

Свіст куль над галовамі прыгінаў да зямлі, але дзе на чацвярэньках, а дзе паўзком, да лесу дабраліся ўсе жывымі. Забраўшы сваю кароўку, схаваную на ўсякі выпадак у лесе, на паляне, Барысевічы разам з Паўловічамі на начоўку паціснулі ў глыбіню забалочанага лесу. На наступны дзень сем'і з асцярогай пачалі прабірацца да сваіх хутароў. На ўзлеску зрабілі прыпынак, каб агледзецца. Пачакаўшы і паназіраўшы пэўны час, нічога падазронага не заўважылі. Усё было ціха і без ніякіх рухаў. Ужо сабраліся выходзіць з лесу, як дзесьці, у баку Борак, пачулася некалькі стрэлаў, а ў паветры запахла дымам. Паразважаўшы паміж сабой, прыйшлі да высновы, што гэта боркаўцы смецце паляць, а ў некалькіх стрэлах нічога дзіўнага не было, бо гучалі яны паўсядзённа то там, то тут. Пачакалі яшчэ колькі часу і вырашылі ісці да сваіх хат, але ў нейкі момант Валодзькаву маці штосьці спыніла, падказваючы нядобрае. Яе насцярожыла незвычайная хутарская цішыня. «А чаму сабак не чутна, не нашага, не вашага?» – звярнулася з пытаннем да ўсіх. Паўловіч-старэйшы на гэта адказаў, што пасля такой учарашняй стралянiны і перапалоха не то што сабакі, мышы з хутароў паўцякалі! І ўзяў накірунак да свайго хутара з усёй сваёй сям'ёй. Барысевічы не пагадзіліся з яго меркаваннем і не рызыкнулі ісці, тым больш, без дасканалай разведкі. І не памыліліся. На хутарах была нямецкая засада. Уся сям'я Паўловічаўгэта:гаспадар Міхаіл, гаспа-



дыня Вольга, сын Аляксандр – 1926 г. н. , дачка Надзея – 1928 г. н. , сын Іван – 1932 г. н. жыўцом былі спаленыя разам з усім хутарам (там жа іх прах знаходзіцца і па сённяшні дзень сярод поля).

Быў знішчаны і хутар Барысевічаў (Банэткаў). Гэта трагедыя здарылася 5-га мая 43 года падчас распачатай фашыстамі блакады. Пасля яе Барысевічы жылі ў васьмерыку, былой польскай стражніцы, пакуль паліцаі ў 44ым яго не спалілі. Пашка-старшына больш у нашы мясціны не паявіўся. Ішла гаворка, што за здзек і жорсткасць да людзей, яго парашылі свае на Паліку.

Пасля вайны Уладзіміра Канстанцінавіча ў Чырвоную Армію не прызвалі па зроку. Не прызналі яго і партызанам, удзельнікам вайны, хаця амаль два гады працаваў у іх аддзяленні забяспячэння са зброяй ў руках. Яшчэ раней я спрабаваў навесці хоць якія-небудзь звесткі пра гэты атрад «Аляксееўскі»(як яго называлі мясцовыя жыхары), з дапамогай Вілейскага краязнаўчага музея, але ўсё дарэмна. Звесткі пра такі атрад адсутнічаюць. Атрымліваецца, што служыў Уладзімір Канстанцінавіч у нейкім «лятучым галандцы», таму і статус партызана і ўдзельніка вайны не атрымаў. «Крыўдна, – кажа Уладзімір Канстанцінавіч, – амаль два гады служыў у атрадзе,

а ўдзельніка вайны не маю! Значыць – гэта не партызанскі атрад быў. А які? -вось пытанне. «

Але ўжо сёння, можна сказаць з упэўненасцю, што гэта быў дакладна партызанскі атрад пад камандаваннем Аляксеева Станіслава Вячаслававіча, з брыгады «Дзядзі Дзімы», якая дыслакавалася ў раёне вёскі Бабры Янушкаўскага сельсавета, што на Лагойшчыне. Пра гэты атрад вельмі падрабязна распавядае ў сваёй кнізе *«Война без прикрас и героических подвигов»*, былы разведчык-падрыўнік гэтай брыгады Волкаў Юры Сяргеевіч.

У мірны час Уладзімір Канстанцінавіч спачатку працаваў некалькі год пасля вучобы брыгадзірам, а пасля да самай пенсіі трактарыстам у саўгасе «Лукавец». Пастаянна быў пераможцам у працоўнай дзейнасці. Атрымоўваў толькі ўзнагароды. А ў вольны час, па выхадных, граў вяселлі маладым, бо быў цудоўным, добра вядомым далёка за межамі сваіх мясцін, цымбалістам. Выхаваў сына і дзвюх дачок. Мае безліч унукаў і праўнукаў. Яшчэ сёння ў свае дзевяноста кожны раз прымае самы актыўны і безадказны ўдзел у грамадскім жыцці. І гэта далёка не ўсе пералікі яго чалавечых каштоўнасцей, якія павіны служыць і служаць у прыклад іншым.

# *ТРОХКРЫНІЧНАЯ ВЯПРАТКА*

Мялеюць рэчкі, а як ручаі, то ўвогуле знікаюць. І не прыходзіцца казаць, што гэта з’ява адбываецца згодна эвалюцыйным працэсам. Не хачу гаварыць за ўсю краіну, а завастру ўвагу толькі на адной невялічкай рэчачцы Вяпратцы, што на Вілейшчыне. Яна працякае якраз паўз маёй роднай вёскі Чарвякі (зараз Сакалоўка), у якой я нарадзіўся. У ёй і на рэчцы Вяпратцы прайшло маё дзяцінства і юнацтва. У мой час у Чарвяках школа была толькі пачатковая чатырохкласка. Далейшае навучанне праходзіла ў суседняй Крамянецкай васьмігодцы. Каб да яе дабрацца, нам патрэбна было кожны дзень пераадольваць тры вярсты бездарожжа.

Шлях пралягаў праз рэчку Вяпратка, якая працякае ў пяцістах метрах на ўсход ад Чарвякоў. Далей, прайшоў-



шы яшчэ з паўвярсты лясным забалочаным масівам, мы траплялі на тэрыторыюколішняга далёкага замежжа. Бо да 1939 года паміж Вяпраткай і лесам праходзіла савецка-польская мяжа. Чарвякі былі пад Польшчайа суседні Крамянец-пад савецкай Расеяй. Пасля падзей 39-га Вяпратка служыла яднаннем двух народаў, двух менталітэтаў. Бо ідэялагічнае грамадскае выхаванне савецкага і польскага бакоў моцна адрознівалася, і паміж сабой, амаль нічога, не мела агульнага. Акрамя таго, што скарыстаць воднае багацце і пакупацца, жадалі як чарвякоўцы, так і краменчукі. За час раз’яднання вырасла цэлае пакаленне, а рэчка знаёміла і збліжала людзей. У яе чысцейшай вадзе, яшчэ нават пры маёй памяці, акрамя вялізных ракаў, сярод разнастайнай рыбы вадзілася нават і СТРОНГА!

Нашы продкі з любоўю і пяшчотай ставіліся да прыроднага навакольнага асяроддзя. Яны намагаліся захаваць усё ў першапачатковым стане, каб было што перадаць у спадчыну нам, сваім нашчадкам. Рэчка Вяпратка, яе багацці і вада выкарыстоўваліся выключна толькі па прызначэнні, не прыносячы аніякай ёй шкоды. Па Вяпратцы калісьці сплаўляўся лес. За кошт яе рэчышча ўтвараліся штучныя вадасховішчы для вадзяных млыноў. Адзін з такіх быў і ў маёй вёсцы.

Рыбныя рачныя запасы для насельніцтва складалі немалую частку харчовага рацыёну. Каб захаваць рэчку чыстай, вадасховішчы не выкарыстоўвалі для прамысловага развядзення рыбы. Для гэтай мэты будаваліся спецыяльныя штучныя вадаёмы (ставы), на якія вада падавалася па спецыяльных вадаадводах з Вяпрацкіх вадасховішч. Такія ставы меліся і ў маіх Чарвяках, якія займалі плошчу прыкладна гектараў 150. У Чарвяках Вяпрацкае вадасховішча апошняе. Бо ўжо праз паўтары вярсты ніжэй

па цячэнню, далучыўшыся да ракі Іллі, Вяпратка сканчвае свой дзевятнаццацівёрстны шлях як асобная рачная адзінка.

Непрадуманая аграрная палітыка Савецкага Саюза, якая ўключыла ў сябе павальную меліярацыю беларускіх балот. У 60х–70х гадах мінулага стагоддзя нанесла вялічэзную шкоду прыродным рэсурсам па ўсёй нашай краіне. Не магла не зачапіць і нашы мясціны, нашу Вяпратку, з-за чаго яна страціла шмат рыбных запасаў. Ад той пары ў Вяпратцы назаўсёды зніклі ракі і стронга. Я добра памятаю той меліярацыйны бум. Асабліва запомнілася выпрамленне рэк. Гэта калі рэчка праходзіла па забалочаных мясцінах, то яе рэчышча штучна накіроўвалі ў загадзя пракапаныя меліярацыйныяпрамыя канавы. Ваду ў іх накіроўваць атрымоўвалася, а вось рыба і ўся водная жыўнасць не сыходзіла са сваіх спрадвечна нажытых родных мясцін. Застаўшыся ў стárарэчышчы, яна ўся загінула ад рук чалавека.

У дзень руйнавання стáрарэчышча Вяпраткі, на яе беразе сабраліся амаль усе жыхары маіх Чарвякоў. Вяскоўцы стаялі і ціхенька назіралі, як на той час магутныя С-100 Б сваімі шырачэзнымі бульдозерамі пхалі валы зямлі, засыпаючы рэчышча. Ад чаго на супрацьлеглы бераг выплёсквалася вялікая водная хваля, якая прыхапляла за сабой і рачных жыхароў. Бераг ракі быў белы ад рыбы. Трохкілаграмовыя карпіны, метровыя шчупакі, акуні, плотка, ментузы, апынуўшыся на беразе ў бязводным асяроддзі, біліся ў перадсмяротных сутаргах. А людзі са слязьмі на вачах і кожны пры сваёй думцы працягвалі, не рухаючыся, стаяць на беразе, не праяўляючы нават ніякага інтарэсу да такой вялізнай колькасці дармавой рыбы. Праз нейкі час абет маўчання парушыў адзін з вяскоўцаў Пятровіч Іван (па вясковай клічцы Ванька Вялікі). Чалавек ён быў спакойны і вельмі разважлівы. Да

яго парад людзі прыслухоўваліся. І на гэты раз таксама прынялі да ўвагі яго прапанову, пакуль разысціся па хатах, каб кожны колькі здолее сабраў сабе рыбы, бо яна ўсё адно прападзе. Гэтак і зрабілі.

З тае пары мінула шмат часу і сёння ўжо не гучаць, як раней, такія вось радкі, адносна вады з Вяпраткі: «ПАЙШЛІ ПАП'ЁМ ВАДЗІЦЫ, СА СВЯТОЙ КРЫНІЦЫ. «Вада ў ёй на самой справе была вельмі чыстай і халоднай, асабліва ў вузкім рэчышчы. Альбо:«ПАЙДУ БЯЛІЗНУ Ў ВЯПРАТКУ ПАЛАСКАЦЬ, КАБ МУЖЫК МЕЎ ЗДОЛЬНАСЦЬ ДАГАДЖАЦЬ. » Жанчыны спрадвеку насілі на рэчку паласкаць бялізну, бо лічылася ў ёй вада не толькі чыстай, але і лячэбнай. А чаму? Зараз паспрабуем разабрацца з таямніцамі гэтай невялікай (працягласцю ў 19 вёрст), але вельмі цікавай рэчачкі.

Яшчэ раз хачу нагадаць чытачам, што Вяпратка бярэ свой пачатак з трох крыніц, каля вёскі Вяпраты, што на Лагойшчыне. З ляснога ўзвышша за Вяпратамі ў некалькі сотнях метраў адна ад другой выцякаюць тры моцныя крыніцы, якія імкнуцца ў паўночным накірунку, адна 350 метраў, дзве другія па 400 метраў, сыходзяцца ў адным месцы, утварыўшы адзінае рэчышча рэчкі Вяпратка. Тут жа, ужо літаральна праз лічаныя метры, калісьці,


Вытокі Вепраткі

не адно стагоддзе таму, была пабудавана плаціна вышынёй каля пяці метраў. Яна ўтварала першае вадасховішча, якое выкарыстоўвалася для пабудаваных тут жа, на левым беразе Вяпраткі, ставаў па развядзенні рыбы і ў большасці сваёй-стронгі.

На правым беразе стаяў млын і лесапільня, рухавіком якіх было вадзяное кола, усталяванае на плаціне. Як сама лесапільня, а таксама і ўсе механізмы былі зроблены з дрэва, акрамя піл(больш метра ў дыяметры) і двух стальных валоў. Калі яна была пабудавана, сказаць цяжка. Але яна цудоўна пілавала дрэвы на дошкі яшчэ нават у 60-х гадах мінулага стагоддзя. Тут жа, на правым беразе Вяпраткі, на плошчы пяці гектараў, месціўся панскі двор, з рознымі пабудовамі і цудоўным двухпавярховым мураваным сядзібным домам.

Маёнтак Вяпраты згадваецца яшчэ ў XV сагоддзі. Напрыканцы 19 стагоддзя ў Вяпратах уладарыў Леон Бароўскі. Але ў 1918 годзе пасля падзелу Беларусі Леон Бароўскі з сям’ёй быў вымушаны пакінуць маёнтак у Вяпратах і ўсё, што да яго належыла, бо ён апынуўся на савецкай тэрыторыі. Бароўскія перабраліся на свае землі, на Вілейшчыну, засяліўшыся ў сваёй лесніччоўцы, непадалёку ад Шчокаўшчыны.

А ў Вяпратах тым часам пачалі гаспадарыць саветы. Усё дабро Бароўскіх было раздадзена сялянству. Зямля і пабудовы панскага двара адышлі пад створаную тут камуну. У самім маёнтку на першым паверсе арганізавалася школа, а на другім – сельсавет і кіраўніцтва калгаса «13 год РСЧА».

Далей, папятляўшы сярод балот ды кустоў, Вяпратка трапляе ў мае родныя Чарвякі(сённяшнюю Сакалоўку). Адпачыўшы ў апошнім сваім штучным чарвякоўскім вадасховішчы, праз паўтары вярсты Вяпратка далучае свае,



Адсюль,праз паўтары вярсты, выпрамленая Вяпратка далучаецца да Іллі.

ужо далёка не крынічныя водыда рэчкі Іллі. На гэтым скончыўшы свой доўгі дзевятнаццаціверстны шлях, захоўвае за сабой права на вечнае гістарычнае існаванне. І на паследак хочацца больш падрабязна распавясці пра блізкую для мяне вёску, якая ўжо згадвалася вышэй, Крамянец.

# *КРАМЯНЕЦ І«СВЯТЫ КАМЕНЬ» ДАЖДЖБОГА*

Крамянец Лагойскага раёна – гэта вёска-загадка. На першы погляд яна цяпер нічым не адрозніваецца ад іншых. І, як шматлікія беларускія вёсачкі, упэўнена набірае сабе балы бесперспектыўнасці. Маладзейшыя яе жыхары, хто не паспеў яшчэ моцна спіцца, пакідаюць свой родны кут ды раз'язджаюцца па ўсёй краіне ў пошуках лепшай долі. Цяпер насельніцтва Крамянца складае крыху больш за сотню жыхароў, галоўным чынам пенсіянеры. А калісьці, нават у перадваенны час, у Крамянцы жыло недзе да паўтысячы чалавек.

З архіўных звестак:«*КРАМЯНЕЦ – вёска ў Янушкавіцкім сельсавеце. У 1799 годзе вёска, 25 двароў, 177 жыхароў, уласнасць памешчыцы Шумскай. На пачатку XX стагоддзя, вёска ў Хаценчыцкай воласці Вілейскага павета*



*Віленскай губерніі. У 1905 годзе 479 жыхароў, належала 749 дзесяцін зямлі, побач размяшчаўся вадзяны млын, 8 жыхароў, якім належала з дзесяціну зямлі. З 20.08.1924 года, вёска ў Калачоўскім сельсавеце Лагойскага раёна Мінскай акругі. У вёсцы створаны калгас імя Мянжынскага, меліся кузня, кравецкая майстэрня, вадзяны млын, у 1931 годзе працавала гантарэзка.»*

Не прамінулі вёску і сталінскія рэпрэсіі 30-ых гадоў мінулага стагоддзя :

***ІВАНЕЦ Аляксей Сцяпанавіч*** *(н. у 1907 годзе, в. Крамянец Лагойскага раёна), рабочы саўгаса «Слабада». Жыў у саўгасе «Слабада». Арыштаваны 15.12.1937 года, асуджаны 15.02.1938 года да ВМП. Расстраляны 10.03.1938 года ў Мінску. Рэабілітаваны 16.01.1959 года.*

***Іванец Сцяпан Лукашавіч.*** *(н. у 1880 годзе, в. Крамянец Лагойскага раёна), калгаснік калгаса імя Мянжынскага, жыў у в. Крамянец. Арыштаваны 23.08.1937 года, асуджаны 05.11.1937 года да ВМП. Расстраляны 26.12.1937 года ў Віцебску. Рэабілітаваны 04.06.1959 года.*

***Мілашэўскі Адам Канстанцінавіч*** *(н. у 1889 годзе, в. Крамянец Лагойскага раёна), калгаснік калгаса «Улада Саветаў», жыў у в. Казлеўшчына Лагойскага раёна. Арыштаваны 23.08.1937 года, асуджаны 26.10.1937 года да ВМП. Расстраляны 0.11.1937 года ў Мінску. Рэабілітаваны 30.04.1989 года.*

***Мілашэўскі Андрэй Паўлавіч*** *(н. у 1883 г., у в. Крамянец Лагойскага раёна, рабочы Янушкаўскага леспрамгаса, жыў на хутары Зімкавішча Лагойскага раёна. Арыштаваны 23.06.1937 года, асуджаны 30.10.1937 года на 10 год зняволення. Рэабілітаваны 29.06.1989 года.*

***Мордас Сямён Іванавіч*** *(н. у 1871 годзе, в. Крамянец Лагойскага раёна), калгаснік калгаса імя Мянжынскага, жыў у в. Крамянец. Арыштаваны 24.08.1937 года, асуджа-*

*ны 01.11.1937 года да ВМП. Расстраляны 29.11.1937 года ў Віцебску. Рэабілітаваны 21.11.1958 года.*

***Мордас Хрысціна Людвігаўна*** *(н. у 1872 годзе в. Ляхі Вілейскага павета), калгасніца калгаса імя Мянжынскага, жыла ў в. Крамянец Лагойскага раёна. Арыштавана 24.08.1937 года, асуджана 01.11.1937 года да ВМП. Расстраляна 29.11.1937 года ў Віцебску. Рэабілітавана 21.11.1958 года.*

***Паўлюкевіч Павел Іванавіч*** *(н. у 1882годзе, в. Крамянец Лагойскага раёна), калгаснік, жыў у в. Крамянец. Арыштаваны 21.02.1938 года, асуджаны 20.09.1938 года да ВМП. Расстраляны 01.10.1938 года ў Мінску. Рэабілітаваны 28.04.1989 года.*

***Пятровіч Павел Іосіфавіч*** *(н. у 1891 годзе, в. Крамянец Лагойскага раёна), калгаснік калгаса імя Мянжынскага, жыў у в. Крамянец. Арыштаваны 14.12.1937 годзе, 21.01.1938 года да ВМП. Расстраляны 20.02.1938 года ў Мінску. Рэабілітаваны 30.04.1989 года*

***Рогач Ігнат Іосіфавіч*** *(н. у 1899 годзе, у в. Крамянец Лагойскага раёна), калгаснік калгаса імя Мянжынскага, жыў у в. Крамянец. Арыштаваны 13.10.1937 года, асу-*


Крамянец, від з гары

*джаны 05.11.1937 года да ВМП. Расстраляны 26.12.1937 года ў Віцебску. Рэабілітаваны 30.04.1989 года.*

***Рогач Павел Іосіфавіч*** *(н. у 1899годзе ў в. Крамянец Лагойскага раёна), брыгадзір калгаса імя Мянжынскага, жыў у в. Крамянец. Арыштаваны 23.08.1937 года, асуджаны 05.11.1937 года да ВМП. Расстраляны 26.12.1937 года ў Віцебску. Рэабілітаваны 16. 06. 1989года.*

*У 1941 годзе 120 двароў, 420 жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну гітлераўцы спалілі вёску (120 двароў), загубілі 9 жыхароў, 24 вяскоўцы загінулі на фронце, 6 ў партызанскай барацьбе.*

## *Загадкавы ландшафт*

Зараз, на вялікі жаль, вёска адмірае разам са сваімі жыхарамі, якія зносяць з сабой у свет іншы звесткі пра няпісаную, вельмі цікавую і загадкавую гісторыю вёскі. Адно толькі само размяшчэнне вёскі загадкавае і выклікае зацікаўленасць. Вёска з трох галоўных вуліц утварае трохкутнік. З усіх яе бакоў, да самых падворкаў, прылягаюць шнуры вяскоўцаў, а за імі раскінуліся калгасныя палеткі. Паселішча знаходзіцца на гарыстым ландшафце, на ўзвышшы 209 метраў над узроўнем мора. І што цікава: калі глядзець з вышыні, то Крамянец стаіць быццам бы на няправільным чатырохкутнім востраве памерам прыкладна 4×2, 5 кіламетра. І, хутчэй за ўсё, калісьці, шмат стагоддзяў таму, яно так і было на самой справе. Бо межамі яго з «вялікай» Зямлёй з'яўляюцца чатыры рэчкі, якія абгінаюць Крамянец з усіх бакоў, пакінуўшы толькі адзіны вузенькі, у некалькісоцень метраў, праход на паўднёвым усходзе, паміж рэчкамі Выпратай і Мышкаўкай. На паўночным усходзе мяжой, будзем казаць, вострава, з'яўляецца рэчка Ілля. Паўднёвы Усход размяжоўваюць

рэчкі Мышкаўка і Сліжанка. Паўднёва-заходняя і заходняя мяжа пралягае акурат па рэчцы Выпрата. Тры апошнія рэчкі з'яўляюцца прытокамі Іллі. Рэчышчы гэтых чатырох рэчак калісьці блыталіся па непралазных балотах і паплавах. У 60–70 гадах мінулага стагоддзя, пасля меліярацыі балот, на паўночных, усходніх і паўднёвых межах Крамянецкага ўзвышша праводзілася торфанарыхтоўка. Меліярацыя не закранула толькі заходнюю мяжу, таму што была менш забалочанай, але ўсё адно цяжкапраходнай. Бо прылеглае да берагоў рэчак разналессе было таксама забалочанае. Таму мясцовасць гэта, на самой справе, падобна больш да вострава. Палеткі вакол Крамянца давалі не толькі добрыя ўраджаі збожжа, бульбы, лёну, але яшчэ ўраджайнымі былі на крэмень, які краменчукам прыносіў нядрэнныя прыбыткі да сямейнай казны.

Але толькі гэтым зямля крамянецкая не абмяжоўвалася. Яна ў сваіх нетрах захоўвала немалыя залежы мелу. Яго тут дабывалі з незапамятных часоў. А дабываўся мел паўадкрытым спосабам. Распрацоўкі былі цалкам ручныя і невялікімі шахтамі, якія былі вельмі небяспечныя, бо нічым не ўмацоўваліся. Такія шахты часцяком абрушваліся, забіраючы жыцці здабытчыкаў пад свае завалы. Здабыты з шахты мел-сырэц мясілі як гліну, раскладалі гэта месіва ў формы, высушвалі, і ў выніку атрымоўваўся кілаграмовы паўкруглы мелавы праснак. Гандлявалі ім на кірмашах у Даўгінаве, Іллі, нават Маладзечне і Ракаве.

А самая загадкавая гістарычная таямніца Крамянца, якая надала вёсцы знакамітасць, – гэта «Святы камень» Бога Сонца – Дажджбог. Як, калі, адкуль, з якой мэтай гэты камень тут з'явіўся і якую ролю адыгрываў у жыцці краменчукоў, ніхто па сённяшні дзень адназначнага

адказу не мае. Існуюць розныя меркаванні і паданні, але ў дадатак да ўжо сказаных, я хачу расказаць пра яшчэ адно, думаецца, што яму знойдзецца месца на гістарычнай старонцы Крамянца. Нашы далёкія і нават не зусім далёкія продкі жылі са шчырай верай у душы і сэрцы. І вера гэта пераходзіла з пакалення ў пакаленне, як спадчына. З глыбіні стагоддзяў да нашых дзён дайшлі прыклады і культавыя сімвалы язычніцкай веры, якая была вельмі моцнай. Вера ў Бога і ў свайго бліжняга аб'ядноўвала людзей, прыбаўляла ім аптымізму на заўтрашні дзень і на будучыню. І мае землякі, краменчукі, гэтаму не выключэнне. Іх продкі свята верылі Богу, а для яго пакланення і ахвяравання выбралі валун на ўскрайку лесу за вёскай. «Святы камень» – гэтак яго называюць з незапамятных часоў. Язычніцкая вера ў нас, у параўнанні з Еўропай, існавала вельмі доўгі час. Але, як кажуць, усе шляхі вядуць у Рым, а культавыя ў першую чаргу.

У Еўропе першыя старажытнарымскія культавыя пабудовы (базілікі) з'явіліся ўжо ў другім стагоддзі данашай эры. Да краменчукоў таксама дайшла альтэрнатыва іхняму «Святому каменю», але толькі аж у XVII ст. н. э. Тады ў суседнім Батурыне была пабудаваная ўніяцкая капліца, якая ўваходзіла ў лукавецкі маёнтак Шумскай Брыгіды. У той час Батурына належала да Вялікага Княства Літоўскага. Краменчукі пачалі наведваць гэту святыню і паступова пераходзіць з язычніцтва ва ўніяцтва. У 1793 годзе – пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай – Батурына адышло да Расейскай імперыі. Імператрыца Кацярына ІІ скасавала ўніяцкую царкву, адным росчыркам пяра пераўтварыўшы ўніятаў у праваслаўных. Пад гэта пераўтварэнне патрапіла і батурынская капліца, а разам з ёй і яе прыхаджане, у тым ліку і з Крамянца. Але

ўжо ў канцы 1796 года расейскім імператарам стаў сын Кацярыны Павел. Ён аднавіў уніяцкую царкву і вярнуў ёй ранейшыя парафіі. Тады ж было ўтворанае Мінскае каталіцкае біскупства, у склад якога ўвайшлі каталіцкія парафіі Лагойшчыны. Батурынская капліца таксама апынулася ў ягоным складзе. У тым самым годзе храм быў «асвечаны абрадам рымскім пад тытулам св. Мікола» і стаў філіяльным касцёлам парафіі ў Гайне (Лагойскі раён), а пасля – парафіі ў Радашкавічах. З усімі гэтымі пераўтварэннямі вымушаны былі пагаджацца і парафіяне з Крамянца. У Батурынскім касцёле яны вянчаліся, хрысцілі дзетак, але свой «Святы камень» не забывалі.

Вось што пісаў больш стагоддзе таму ў «Нашай ніве» пра Крамянец, яго жыхароўі «Святы камень» наш знакаміты зямляк Змітрок Бядуля: *«26 мая, 1911 г. в. КрэменецВіленск. губ. Вілейск. пав. Хаценчыцкай вол. Вёска наша вялікая, каля ста хат, толькі вучылішча асобнага няма, але затое бадай у кожнай хаце ёсць маленькі шынок. Завецца наша вёска Крэменец затое, што тутака па палох шмат ёсць крэмнін. Гадоў пяць таму назад адзін чалавек купіў тут гэтых крэмнёў 2 тысячы пудоў, але болей гандлю на іх няма, бо далёка ад гораду. Яшчэ тут капаюць белую глінку на продаж.*

*Найбольш цікавы ў нас «святы камень», каторы ляжыць недалёка ад вёскі. Камень як камень, толькі ёсць на ім дзве ямкі, а пры ім крыніца, дык людзі тутэйшыя кажуць, быццам калісь-то на гэты камень ступіў нейкі святы, вось і асталіся сляды, і крыніца адчынілася... Вада з гэтай крыніцы таксама лічыцца святой і быццам памагае ад усялякіх хвароб;людзі з далёку прыходзяць па гэту ваду і кладуць ахвяры – палатно, грошы – у капліčку зладжаную каля каменя. Так крэпка людзі тут вераць у свя-*

*ты камень, што два разы ў год бывае кірмаш пры ім (на Ілью і на Спаса). З'язджаецца многа народу з усялякімі таварамі і, выпіваючы, цярэбяць бакі адзін аднаму. Над час кірмашу прыезджае і свяшчэнннік (з в. Батурына, Хаценчыцк. вол. ) ды адпраўляюць набажэнства. Цяпер разышлася чутка, што начальство не пазволіць больш на набажэнства пры камені. Змітрок Бядуля.»*

Хочацца дадаць на конт «*церабення*» бакоў, то гэтая традыцыя сярод краменчукоў захавалася і да нашых дзён. Але, як распавядалі мне старажылы, падчас Другой сусветнай вайны гэтая традыцыя не мела месца, бо агульная бяда людзей вельмі яднала. І толькі гэтая згуртаванасцьды яшчэ ў дадатак «Сьвяты камень» выратавала вяскоўцаў ад смерці.

### «Дажджбог»–выратавальнік

Яшчэ ў юнацтве часта прыходзілася чуць ад старажылаў розныя казанні як пра само паселішча, так і пра яго святыню – «Сьвяты камень» дажджбог. І як ён падчас Другой сусветнай вайны выратаваў жыхароў Крамянца ад немінучай смерці. У нямецкай паліцыі ніхто з краменчукоў не служыў, гэта была цалкам партызанская вёска, акружаная амаль з усіх бакоў балотамі. Фашысты сюды не заязджалі, толькі некалькі разоў бамбілі яе зсамалётаў. На Вялікдзень 1943 года адбылося чарговае бамбаванне вёскі. Краменчукі адзначылісвята на балоце ў Белях. Пасля гэтага наступіла зацішша. Людзі вярнуліся да свайго звыклага на той час жыцця. Узяліся за сяўбу і да Радаўніцы амаль што ўправіліся. Вёска вырашыла перанесці страчанае Велікоднае сьвяткаваннена Радаўніцу. Як толькі ўсе жыхары сабраліся каля «Сьвятога каменя», над Крамянцом узняліся чорныя клубы дыму. Вясковая разведка

прынесла звесткі, што фашысты знянацку, з боку Чарвякоў (Сакалоўкі), распачалі блакаду супраць насельніцтва. Не застаўшы вяскоўцаў у вёсцы, карнікі вырашылі яе спаліць. Вёска была знішчаная датла. Абышлося без чалавечых ахвярдзякуючы толькі «Святому каменю», які «паклікаў» сваіх вернікаў да сябе на свята. У краменчукоў па сённяшні дзень збераглася вера ў моц «Святога каменя», Бога Сонца. Святое месца наведваюць і сёння, але ўжо нешматлюдна. Вёска вымірае, памяць застаецца, але як надоўга? Гэта залежыць толькі ад нас, ад жывых!

## *БОЛЬ СЭРЦА І КРЫК ДУШЫ*



### *Из белорусской поэзии, Тодар Лебяда*

Тодар Лебяда
(наст. Петр Федорович Широков
1917–1970).

### ЛІСТ СЯБРУ

Ізноў пішу,
Бо сум ізноў без меры;
Пішу табе
З сібірскае глушы.
Часамі горач
Выльеш на паперы,
І ўсё лягчэй
Здаецца на душы.

... Шырокі бэз
Цвіце над родным домам,
Цвітуць сады над рэчкаю...
А тут!..
Табе, мой дружа,
Многа невядома
Пра гэты край
Няшчасця і пакут.

Тут кожны дзень
Нам новы сум прыносіць,
Тут кожны дзень
Прыносіць новы жах.
Мы так жывем,
Што кожны пазайздросціць
Жыццю ранейшаму
Ранейшых катаржан.

Ты чуў не раз
Чыгунку за Байкалам
Ды мо, не чуў
Пра здзекі і прымус:
Бо тут цяпер,
Амаль, пад кожнай шпалай
Ляжыць замучаны
У выгнанні беларус.

Ліхія злодзеі!..
Яны ілгуць нямала
Пра Беламор,
Сібір і пра Байкал.
Павер жа мне,
Што ні адзінай шпалы
Не дакраналася
Падлючая рука!

Іх колькі тут
Забітых, безгалосых,
Касцьмі не раз
Угнойвалі раллю!. .
Іх колькі тут,
Часамі нават босых,
Капаць зганялі
Мёрзлую зямлю!

...Шырокі бэз
Цвіце над родным домам..
Цвітуць сады над рэчкаю...
А тут!..
Табе, мой дружа,
Многа невядома
Пра гэты край
Няшчасця і пакут.

Ой, пралягла
Чыгунка за Байкалам
Паміж узгор'яў
Роўна, бы абрус!
Цяпер на ёй

Амаль пад кожнай шпалай
Ляжыць замучаны
У выгнанні беларус.

***ГУЛАГ, 30-я гады,***
***ТОДАР ЛЕБЯДА.***

# ЗМЕСТ

